Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**
...........................................................................................



Ілюстрацыі на вокладцы Яніны Зельскай:
на 1-й стар.: «Кот», 1979;
на 4-й стар.: «Папялушка з дочкамі мачыхі», 1983 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 24.06.2020 г. Падпісана да друку 23.07.2020 г.
Фармат 70х108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 500 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў.



№4 (107)
/ліпень-жнівень/ 2020

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Законнікаў



...Зноў да свабоды трэба торыць шлях,
Дапытліва глядзіць на нас Айчына...

# Піке

***Паэма***

***Пралог***

Аглядаючы лёс, не магу маўчаць...
Толькі падумаў – з чаго пачаць,
Як душу наструненую адразу
Зачапіла з аднаго слова фраза:
"Ляцім..."

***Ляцім...***

Праз сцюдзёную тоўшчу касмічных глыбінь
У вянку жыццядайных усмешлівых промняў
Мы ляцім на планеце. Ды як ні прыкінь,
Надта мала зямлян пра палёт вечны помніць.

Мы ляцім, каб шукаць, адкрываць і любіць,
Хоць, бывае, пакажацца неба з аўчынку...

Шар зямны хоча час і прастору прабіць
Навылёт, і не будзе ніколі супынку.

Мы ў нязведанасць кінуты і – назусім,
Адпадаюць вякі, як ступені ракеты.
Мы ляцім без прыпынкаў, ляцім і ляцім...
Толькі некаму згадваць і думаць пра гэта.

Небыццё замятае за намі сляды,
Вецер часу без стомы пасвіствае ў цернях.
Невядома – навошта, хто скажа – куды?
Мы ляцім кропляй існасці ў жудаснай цемры...

### *Поле 1946 года*

Зямлю пажарамі вылізала вайна,
А людзей закінула ў вір знямогі.
Але бяда ніколі не ходзіць адна.
Пасля бойні і святой Перамогі
Замерла пад сонцам пякельным прырода...
Поле 1946 года.

На доле патрэсканым ляжаць каласы
З зернем пакурчаным і неналітым.
Яны, нібы пасівелыя валасы
Удоў, якіх зноў абыходзіць літасць.
Мне выпала нарадзіцца ў час няўроду...
Поле 1946 года.

### *Сонечныя зайкі*

Першы крок я зрабіў у халоднай зямлянцы,
Бо ў вайну хаты дымам узнесліся ў неба...
Давялося пасля яшчэ доўга куляцца
Пад прымусам абставін і так – без патрэбы.

Ды маленства далёкае раптам прысніцца,
Той хвілінай, што з вечнасцю можа звязацца:
Басанож шкандыбаю па золкіх масніцах,
Даганяю даверлівых сонечных зайкаў.

А яны разумеюць, патрэба якая
Прымушае мяне тупаць спешна, зацята,
Прыпыняюцца, лашчацца і не ўцякаюць,
Саграваюць халодныя пальцы і пяты.

Палавік саматканы ляжыць перашкодай,
Пакрысе і яго непрыступнасць агораў...
Так, надзелены ўстойлівым спадчынным кодам,
Я стараўся асвойваць і час, і прастору.

## *Купанне ў варонках*

*У жніўні – кастрычніку 1943 года нямецкія самалёты з Віцебска і Улы бамбілі Бешанковіцкі, Ушацкі і Сіроцінскі раёны.*

**З даведніка**

Змрочны факт мною вычытаны не з кніг...
Мама-партызанка расказвала сама,
Як пікіраваў "юнкерс" фашысцкі на іх...
У паэму ўрываецца ён нездарма.

Быў на зону мсціўцаў чарговы налёт...
Самалёт завяршаў смертаносны свой круг,
У прыцэле збіўся пыхлівы пілот,
Бомбы леглі далёка за вёскай – на луг.

Той выпадак, канечне, да скону дзён
Не прыпомніў ніколі старэючы ас,
Ды блакаднай парой каля Галяў ён
"Змайстраваў" адным махам купальню для нас.

У варонках коўзкіх стаяла вада...
Хоць з яе выпаўзалі чарней чарцей,
Нам дарунак паднесла няўцям бяда,
Каб забавай усцешыць гаротных дзяцей...

Змрочны факт мною вычытаны не з кніг,
Мама-партызанка расказвала сама:
Як пікіруе "юнкерс" – у страшны міг
Больш паскуднейшых гукаў на свеце няма.

## *Лендліз*

*Сям'і ўсміхнулася шчасце: па "лендлізе" з-за акіяна прыбыла дабрачынная мука. Але транспарту не было, са станцыі сваю долю людзі забіралі самі. З цяжкай паклажаю тэпалі бацькі, націраючы да крыві плечы і ногі.*

*Мама, калі дабрыдала дадому, клала на пісягі мокрыя анучы, а збітыя ступні ставіла ў ночвы з калодзежнай сцюдзёнай вадою. Яна сядзела моўчкі на ўслончыку, сумна ўсміхаючыся дзецям, бо не мела сілы нават размаўляць...*

**Мае ўспаміны**

Лозунг: калі я ем, то глух і нем,
Нікога не вырве з нядолі праклятай...
У тым, што здаўна ў дзікунстве жывем,
Ніякая Амерыка не вінавата.

Нітку памяці нельга разарваць,
Яна берагі спачування злучае.

Паўсюль няправеднай злосці жарства
У душах скрыгоча заўсёды з адчаю.

Можна няпраўдай сябе ашукаць,
Можна ўсё добрае нянавісцю сцерці...
Сведчыць Бог, лендлізаўская мука
Ратавала мяне ад галоднай смерці.

### *Сталінскі час*

Яшчэ ў маленстве на роднай зямлі
Адчуў, што людзей пільнуе бяда...
Жабрачку-вар'ятку ў шпіёнкі ўзвялі,
А мне было гэтак яе шкада.

Хоць сам неразлучаны з даўнінай,
Ды я праклінаю ночы і дні,
Калі хтось жахаўся: "Едуць за мной!",
А іншыя цешыліся хлусні.

Нялюдскі час у нябыт не сышоў,
Дасюль ва ўсіх незалежных краях
У кожнага з нас стаіць над душой
Ці моцны, ці дробненькі подлы страх.

### *Сцежка*

Вялізны валун ля дарогі на ўзмежку,
Як знак паваротны, даўно за спіной.
Спяшаецца ціхая вузкая сцежка
Праз поле, дзе жыта паўстала сцяной.

Ляцяць да мяне стрымгалоў ва ўспаміны,
Але кожны раз на асобны капыл,
Або халадок утаптанае гліны,
Або, нібы прысак, апёклівы пыл.

Наперадзе брат мой галёкае звонка,
Сцюдзёнай расой студзяць твар каласы.
Бягу, сэрца поўніцца радасцю гонкай
Ад раніцы новай, ад вечнай красы...

Мільгаюць у згадках жыццёвыя вешкі,
Але засталіся найлепшай з уцех:
Праз жыта высокае – родная сцежка,
І стан незямны – разняволены бег.

## *Неба*

Калі зацвітала бульба, то наш агарод
Здаваўся мне радасным зорным небам.
А ўвечары позірк кідаў я смела ў палёт,
Стаіўшыся ў лешках “другога хлеба”.

Свяцілі, шапталіся зоры паміж сабой,
Але нешта ўчуць было немагчыма.
Ад велічы космасу сэрца давала збой,
Прыходзілі рытмы гэтакім чынам.

У хаце мой ложак заўжды стаяў ля сцяны,
Таму запісваў радкі на шпалерах...
У небе паэзіі берагі не відны,
Махаю вяслом, як раб на галерах.

## *Яднанне*

*Сонца садзіцца – пастух весяліцца.*

**Прымаўка**

Яшчэ не ведаючы слова “прырода” і яго сэнс,
Я зліваўся кожнай крывінкай і клеткай з белым светам.
Былі ў мяне, калі вырываўся з драўляных цесных сцен,
Ля вёскі свае туманнасці, сузор’і і планеты.

Затым леглі на плечы, без канца тлумілі галаву
Турботы сялянскай спрадвечнай і манатоннай працы:
Свінням ахрап’е збіраць, а трусам касіць смачную траву,
Курэй, гусей і качак не забыць... Трэба завіхацца.

Але, безумоўна, у гаспадарцы царыцай была
Сінявокая, чорненькая, спрытненькая кароўка.
Яна давала тое, што сям’я змятала са стала...
А таму важнай справай лічылася ў хаце – радоўка.

Радоўка мае яшчэ сінонімы: калейка, чарга,
Ды ад гэтага сэнс ніяк не падвяргаецца зменам.
За статкам ногі і пугу ад цямна да цямна цягаць –
Занятак не самы лёгкі і вясёлы несумненна.

І ўсё ж істота з мянушкай “Ночка” мяне якраз вяла
Да розных няўлоўных адкрыццяў, да радасці натхнення.
У свеце, дзе шмат таямніц, падману і цёмнага зла,
Святым пачуццём застаецца пакуль адно здзіўленнне.

Цяпер праз прысмерк часу, хвалюючыся, туды гляджу,
Дзе неба спрытна святочнай вясёлкі дугу згінае,

Дзе зайчаняты па лужынах носяцца пасля дажджу,
Дзе ў цёмным гушчары стары глушэц пад елкай канае.

### *Усмешка Гагарына*

*Мой мілы таварыш, мой лётчык,*
*Вазьмі ты з сабою мяне!*
*Я – ведай – вялікі ўжо хлопчык*
*І ўмею ўжо лётаць у сне.*

**Янка Купала**

Калі на арбіту выйшаў Гагарын,
Я ў школе вучыўся ў восьмым класе.
Як кожны хлапчук, пра космас марыў...
А тут эйфарыя такая ўсчалася!

Уразіла вестка сэнсам высокім,
Пад грузам рыфмаў пачаў згінацца.
У сшытку па алгебры на ўроку
Імкліва накрэмзаў ажно строф шаснаццаць.

З “паэмы” той дэкларатыўна-гонкай,
Якую спешна занёс на пошту,
Нешта надрукавала “раёнка”...
Радкі ўсе забыліся, апроч апошніх:

“Такога не было ў зямным жыцці,
Каб з космасам маглі мы прывітацца.
Як вольна над планетай ён ляціць
І як умее хараша ўсміхацца!”

### *Веды*

Прыносяць волю людзям толькі веды,
Я па жыцці за імі крочыў следам.
З юнацтва прад святлом разумных кніг
Душой зачараванаю прыціх.

З тых дзён жаданай воляй нецвярозы,
Насычаны паэзіяй і прозай,
Да невядомай, казачнай зямлі
Плыву на папяровым караблі.

### *Катастрофы*

*У 1970 годзе, працуючы ў школе завучам, я ехаў*
*у г. Барысаў па бланкі атэстатаў для выпускнікоў*
*і трапіў у цяжкую аўтамабільную аварыю.*

**Факт біяграфіі**

Пасля катастрофы, калі поўны “ПАЗ”
Зляцеў у кювет, як у прорву,

З плячом, гіпсам сціснутым, я доўгі час
Народу здаваўся аторвай.

А мне, хоць балела, ды болей тады
Шкада было іншых ахвяраў,
Бо глянуў у вочы нязнанай бяды,
Што лёгка над намі ўладарыць.

Пад глейкім адхонам, дзе сплюшчыўся міг
У месіва плоці, металу,
Мой лёс малады перад смерцю заціх,
Тут многае новым паўстала.

Я доўга ў аўтобусе ездзіць не мог,
Хапаўся за штангу адразу,
Калі ён у ямінах гразкіх дарог
Хіліўся на бок да адказу.

Але асабліва даймалі мяне
Бязладныя, хісткія ночы,
Калі нейчы голас металам звінеў,
Наперад дарогу прарочыў.

Той нехта з кашмарнага, страшнага сну
Агучыў затоены выклік:
“Дам тры катастрофы ў жыцці праміну́ць,
З чацвёртай жывым ты не выйдзеш”...

Шукаем мы ў існасці цвёрдага дна,
Ды твань зноўку падсцерагае.
Бяда не прыходзіць ніколі адна,
За ёй валачэцца другая.

Усё так і сталася...
Голас чужы
Разгортваў мне долечкі высціл...
Я тры катастрофы якраз перажыў,
З чацвёртай – жывому не выйсці.

### *Ты*

Як кахаць на ўсё неба,
любіць аж да сонца,
можна ўсюды адчуць...
І ў заштатным жыцці.
У савецкай правінцыі,
сумам бясконцай,
мне сустрэлася шчасце,
што побач ляціць.

Ты разбудзіш мой сон
вечна радасным промнем,
бо не ведаеш нават,
якая сама.
Але я кожны позірк
святочна запомню...
Для цябе
небыцця ў Божым свеце
няма.

## *Аварыйны выхад*

*Заход на пасадку – гэта складанейшы элемент палёту.*

**Заўвага вопытнага пілота**

Часта згадка кружыць галаву,
Хоць у гэтым не хачу прызнацца,
Як на з'езд пісьменніцкі ў Маскву
З Сімферопаля ляцеў знянацку.

Тэлеграма сведчыла – прыбыць
Мне патрэбна на высокі форум,
Вырвала з бясклопатнай гульбы
З дзецьмі, сонцам і ласкавым морам.

Мой начальнік Аляксандр Кузьмін
Быў, канечне, добрым чалавекам,
Ды сядзелі ўсе мы як адзін
У савецкім куфары пад векам.

Што твой адпачынак і сям'я?!
Першае – службовы абавязак...
У начным аэрапорце я
Крыўды вузел у душы развязваў.

Бліскалі маланкі за вакном,
Грозна грукатала навальніца...
"Ту" садзіўся спешна, напралом,
Ды не змог удала прызямліцца.

Бачыў я, як "хвост" яго прасеў,
Адламіўся ад сляпога ўдару.
"Пузам" чыркнула па паласе,
Задымілася сама "сігара".

А з разлому проста на бетон
Раз за разам выпадалі людзі...
Жудасць сэрца сціснула.

Вось кон.
Толькі быў...
Цяпер яго не будзе...

“Хуткія”, “пажарныя” гулі
У напрузе ад нялёгкай працы...
Я згадаў, што ранкам ад зямлі
Мне таксама трэба адрывацца...

Наш палёт адкладвалі паўдня,
Рэйс аб’яўяць – зноў няма пасадкі.
Страх, які не мог ніяк суняць,
Раіў бегчы ўпрочкі без аглядкі...

Самалёт абстуквалі ўвесь час,
Вывучалі да апошняй клёпкі...
З накапляльніка ў чарговы раз
Пераходзілі ў салон таропка.

А калі ўзляталі, галаву
Раптам тузанула ад кашмару:
Справа, сцягнутая на траву,
Стыла абгарэлая “сігара”.

З лётчыкамі кіеўскага “Ту”,
Што ў Маскву спяшалі на разборку,
Побач месца меў, і на ляту
Я не мог адпрэчыць думы горкай.

Ветрана было... Аж да Арла
Душы выварочвала гайданка.
А затым расслабленасць прыйшла,
Ціш звалілася неспадзяванкай.

Вось Масква... Мы сталі завісаць,
Крэнімся, зніжаемся памалу.
Дамадзедаўская паласа
Дотыку шасі цяпер чакала.

Толькі рухнуў бесклапотны штыль,
Штосьці адбылося з самалётам.
“Чёрт, не выпускается костыль!” –
Ціха прашаптаў адзін з пілотаў.

А другі, які дасюль драмаў,
Насцярожыўся таксама вухам:
“Блин! И правда тут сойдешь с ума.
Лажи две подряд! Вот невезуха!”

Свечкай самалёт пайшоў уверх,
А затым – падалей ад сталіцы.
Шчоўкнула балюча ў галаве,
Бо пілот старэйшы стаў маліцца.

Спалатнеў ушчэнт прыгожы твар
У анёла, што прыплыў да люка,
Ды ўсміхаецца – фірмовы дар,
Тут у сцюардэс свая навука.

Аварыйны люк – як адкрыццё,
Што калі ты з шанцавання выпаў –
Гэта крок у новае жыццё...
Толькі дзе ён – ратавальны выхад?

Аварыйны выхад – родны дом,
У якім ад бед схавацца можна.
Чорны дзень перачакаць цішком,
Зноў пайсці да долі пераможнай.

Аварыйны выхад – гэта плач.
Шчасцем або горам нецвярозы,
Лішак радасці, цяжар няўдач
Выціскае чалавек праз слёзы.

Аварыйны выхад – гэта секс,
Той, калі спляліся рукі, ногі,
Ты ў ім абміраеш пакрысе...
Секс аж да касмічнае знямогі.

Аварыйны выхад – гэта смех,
Смех – і над сабою, і над нечым.
На зямлі грахоўных дум і ўцех
Ён людзей ад глупства добра лечыць...

Сціснуўся да кроплі даўкі час...
Вусцішна, але яшчэ жартую,
З мілай сцюардэсаю фліртую,
Хоць, магчыма, нават гумар нас,
Як апошні выхад, не ўратуе.

### ***Пашанцавала***

Над валагодскімі лясамі
Магутны лайнер закружыў.
Ён быў бясспрэчна ў згодзе з намі,
Бо сам хацеў, напэўна, жыць.

Яго пілоты так затрэслі,
Так захісталі з боку ў бок,
Што, каб не рамяні, то з крэслаў
Да столі б здзейсніўся падскок.

Ён манатонна, нібы робат,
Зноў вёў у вышыні "кадрыль".
І толькі недзе з шостай спробы
Нарэшце выбіўся кастыль.

"Ту" тэрміновую пасадку
Адразу ў службаў папрасіў.
Наперад нёсся без аглядкі,
Не прыбіраючы шасі.

"А што, калі б усё без змены?" –
Я ў спадарожнікаў спытаў.
"Садзіліся б у жолаб з пенай.
А там – Бог-бацька: НЕ і ТАК".

Хоць ветрам бакавым хістала,
Ды лайнер завяршаў палёт...
"На гэты раз пашанцавала!" –
Усмешку выціснуў пілот.

### *Смерць савецкай імперыі*

"Вадкі сцюдзень у краме ліюць у пакет!" –
Безнадзейнасць і голад народ абшчаперылі...
На падмурку балету і ржавых ракет
Неяк надта бясслаўна сканала імперыя.

### *Апладысменты*

Ад савецкіх працяглых апладысментаў,
Якія звычайна пераходзілі ў авацыі,
Дагэтуль у сучасных апартаментах
Люстры не перастаюць ківацца.

### *Хлусня*

Першым злачынствам стала хлусня,
Зло на Зямлі адсюль павялося.
Дзе след пакіне яе ступня,
Там людская доля галосіць.

Як жа змрочную пошасць суняць?
З ёю свет жыве нецвяроза...
Толькі вылезе недзе хлусня,
Следам тут жа – і кроў, і слёзы.

### *Курапаты. “Дарога смерці”*

Ёсць на ўскраіне Мінска “Дарога смерці”,
Гістарычным туманам спавітая шчыльна...
Месца смутку задумалі з памяці сцерці...
Я ж іду гаварыць з цішынёю магільнай.

Тут між соснаў блукаюць нянавісць і праўда,
Тут раса гулка капае з хвоі на лісце.
Гэты гук на лясной тэрыторыі правіць,
Нібы пошчак расстрэльных наганаў калісьці.

Мерны стук па вушах б’е...
Шторaз выклікае
Тых ахвяраў, што ў ямах знайшлі свой прытулак.
Цішыня ў Курапатах стаіць не такая,
Як у лесе звычайным, а поўніцца гулам.

Страх і стогны...
А побач грукоча дарога...
Зноў вярэдзіцца ў памяці даўняя рана.
Люд са Сталіна вылепіў сам антыбога,
Каб пытацца: “За што?” без супынку ў тырана.

Я стаю...
Я жывы, хоць забіты таксама,
Не ўцячы, не схавацца ад долі заклятай,
Бо і ўсход, і заход сонца бачацца ў плямах,
Як фартух скураны акрываўлены ў ката.

Страх і ціша...
А што ў нас сягоння наўкола?
Беларусаў якая бяда напаткала?
З роду крэўнага,
З веры,
З ліцвінскага долу
Нас усіх, як крыжы, вырываюць вандалы.

Колькі ж трэба за волю людзей перацерці,
Закапаць у падзоле ці кінуць на плаху?
Перш чым моўчкі пакрочыць дарогаю смерці,
Па жыцці мы брылі і брыдзем шляхам страху.

### *Сігнальныя агні*

У Караткевіча часам прыдумкі былі аўральнымі,
Але яго рамантыка стала стваральнаю:
“Займаюся, Сярожа, патрэбнай працай я,
Запальваю сігнальныя агні для нацыі”.

## *Развітанне*

*Вы – добрыя паэты,*
*але ў параўнанні са мной – пралятаеце...*

**Улюбёная фраза Анатоля Сыса**

Я нікому не стаўлю нічога ў віну,
Ды прыходзіць раптам існіны момант.
Можа так ён душу раптам перавярнуць,
Што манкурт нават стане найсвядомым.

Праўду выказаў Анатоль... Як ні круці,
Яшчэ больш яна гаркатой крутая:
Мы не ў паэзіі, але ў звыклым жыцці
Як народ, на жаль, усе пралятаем.

“Што ты ні гавары, а ён – брык дагары!” –
Б’е ў цемя выслоўе здаўна, паверце...
Кепска, калі і ты, і блізкія сябры
З юнацтва заражаны страхам смерці.

Я нікому не стаўлю нічога ў віну,
Ды ў душу холад роспачы закраўся,
Бо як спатрэбілася панесці труну,
Падналі дзяды –
Законнікаў і Бураўкін.

## *Піке*

*Рэжым звальвання пасажырскага самалёта ў піке заключаецца ў тым, што ён крута паднімае нос, пачынаецца дрыжанне ўсяго фюзеляжа, пасля гэтага машына звальваецца на крыло і ляціць да самай зямлі. Яе ўжо нічым не выведзеш. Гэта не знішчальнік, у якога можна рулі паставіць нейтральна і паспрабаваць вывесці. Пасажырскі самалёт не рэагуе, ён цяжкі. У яго палётная вага недзе прыблізна 80 тон. У грузавых самалётаў – да 200 тон.*

**З тлумачэння пілотаў**

Я памятаю непаўторны міг,
Калі прадзёрся самалёт праз хмары.
Салон нямы захоплена прыціх,
Настрой святочны ў душах заўладарыў.

Ад эйфарыі люд ушчэнт аслеп
І зразумець канфлікт быццям не здолеў:
Хтосьці на стале шукае толькі хлеб,
А нехта прагне, нібы лусты, волі.

“Наш лайнер будзе весці не пілот!” –
Натоўп імгненна вестка абляцела.

Адным – начхаць, ды мне – наадварот...
Душа на волю вырвалася з цела.

Усім цяжэй ратунак адшукаць,
Імперыя прастор зацерушыла.
Сарвалася ў піке пасля рыўка
Цяжкая беларуская машына.

Але нікому не прыкрыць свой страх
Аршанскай Бітваю ці Слуцкім Чынам.
Зноў да свабоды трэба торыць шлях,
Дапытліва глядзіць на нас Айчына.

Цішэй вады або ніжэй травы
Не жыў ніколі і далей не буду.
Тым больш я не схіляю галавы,
Калі наверх прарваліся прыблуды.

Душа мая зацята прагне змен,
А час частуе грукатам і гулам.
Ну хоць бы ў лепшае маленькі крэн...
Пікіруем пакуль – у дзень мінулы.

### *Пікет*

З плакатам на плошчы даўно стаю,
Стаіць і народ мой на ростані...
Зноў ля пікета за мову сваю
Міліцыі болей, чым люду простага.

Каб выйсці з зацягнутага піке,
Нельга прад злом згінацца нам.
Родная мова – апошні пікет,
Які ахоўвае існасць нацыі.

### *Дыктатура скончыла дактарантуру*

*За праўду станавіся смела!*

**Кастусь Каліноўскі**

Дыктатура скончыла дактарантуру!
Ды няўжо?
На табе, навіна якая!
Хто ж нарэшце яе адважна пратурыць?
Люд тутэйшы да рабства лёгка звыкае...

Хто ад страху, а нехта і проста здуру
Зноў “жалезны кулак” зубамі праверыў...

Дыктатура скончыла дактарантуру,
А студэнтаў няўгодных гоняць за дзверы.

Дыктатура скончыла дактарантуру,
Хоць вучылася кепска нават у школе.
Што яна нашу нацыю ўрэшце разбурыць,
Бачна добра ў чарговым уладным прыколе.

Як не ліжаш начальства – маеш правіну,
А людзей меркаванне ніхто не спытае.
Дыктатура ў піке загнала краіну,
І смяротная хуткасць штодня – нарастае.

Мы ад гвалту страты яшчэ не злічылі,
Бо чвэрць веку праспалі ў зманлівых мроях.
Зноў выпіхваюць тупа моладзь з Айчыны...
Хто ж паўстане на змену былым героям?

### *Інтэграцыя*

Калі да сям'і даплывае каханне,
То ў думках дом уласны трымаецца,
Бо ў гамузе сваркі не заціхаюць,
Там брат на брата з нажом кідаецца.

А што ўжо казаць пра быццё народаў?
Трагедый столькі прайшла гісторыя!
Ды зноў пракламацыі пра выгоды
Штурхаюць на шлях, вайною пратораны...

Даволі гульні ў камунальнай кватэры,
Боўтання ў хлусні або ў прастрацыі!
Хто колькасць зла і дабра ў ёй змерыць?
Хопіць...
Спасибо!
Дзякуй!
Merci!
Thank You!
Danke!
Gracias!
Grazie!
Навошта такая інтэграцыя?

### *Чаму?*

Я кожную кроплю трывог спакойна прыму,
Толькі не жаласны енк сляпых, безгалосых.
Задумацца лепей і ўсім разгадаць "Чаму?",
Каб "За што?" выдыхаць з грудзей не давялося.

Чаму раз за разам здараецца новы збой,
Чаму не знікаюць рэкі крыві і болю?
Пакуль чалавек захапляецца перш сабой,
У свеце “ізмаў”, “ызмаў” становіцца болей.

Жыццё монстры душаць радыкалізмам сваім...
Нават футбольныя, хакейныя фанаты
Наклікаць могуць на планету агонь і дым,
Калі ім даць не фанфары, а аўтаматы.

### *Суд любові*

Столькі добрага Богам закладзена
У прыроду, людзей і ў мяне.
Трапячыся, нянавісці гадзіна,
Суд любові цябе не міне.

### *Пішу, нібы лячу*

На плаху класці галаву
Даводзіцца ў чаканні цуду.
Спакойна многія жывуць,
Я ж – паланёны словам буду.

І ўдзень цямнеецца ўваччу,
Ды што яшчэ рабіць паэту?
І я пішу, нібы лячу,
Лячу да недасяжнай мэты.

Мне кажуць: “Стоп!”
Не рві душу,
Не тузайся ў касмічнай скрусе.
А я праз боль, але пішу,
Пішу, таму што спадзяюся...

### *Надзея*

Цяпер, калі мне часу не стае,
Калі парог да небыцця ўсё бліжай,
На вас надзея, мілые мае, –
Бялявыя, чарнявыя і рыжыя.

Я вырастаў з маленства, як і вы,
Шукаючы свой шлях у белым свеце
Сярод людзей, лясоў, палёў, травы...
Наперад вёў крывіцкі вольны вецер.

Зямля мне стала роднай пры жыцці
І застанецца назаўжды такою.

У вечным сне, што, як і мы, ляціць,
Яна, нібы падушка пад шчакою.

Дарога чалавецтва ўсё круцей,
Хістаецца планета ад знямогі...
З мінулага ўглядаюся ў дзяцей,
Нібы ад іх чакаю дапамогі.

***Эпілог***

У думках лячу, бачу лес і палі,
Высокія гмахі і з дрэва хаціны,
А сэрца забойчым пытаннем баліць:
Ці знойдзецца выйсце ў Айчыны?

Мільгаюць пражытага кадры ў вачах...
Якая крутая дарога!
А працы яшчэ – толькі ўзяць і пачаць,
Для волатаў нават – замнога.

Ды марна свой лёс і сябе дакараць,
Што склалася ўсё хісткім чынам...
Малюся душой і разбегам пяра,
Каб выйшла з піке Айчына.

Малюся, каб родная мова жыла
Паўсюль на зямельцы гаротнай,
Каб выйшаў з цянётаў глухіх да святла
Смяротна любімы народ мой.

Канчаецца хутка зямная пара,
Яе надтачыць немагчыма...
Я з вечнасці буду душой назіраць:
Ці выйшла з піке Айчына?

*Студзень 2020 года*

Аляксандар Лукашук



...крыўдзяць перш за ўсё тых,
хто бліжэй...

# Маскарад

***Апавяданне***

– Але ён жа прыляцеў да цябе на прэм'еру, праз паўсвета, на адзін дзень, – сказала жонка.

Хоць электрацягнікі рухаліся бясшумна, тлум у гэтым мадэрнісцкім шматпавярховым вакзале стаяў, як да эпохі мадэрну, і ён рабіў намаганні, каб пачуць голас у тэлефоне.

Прэм'ера яго апошняга фільма адбывалася ў Венецыі, ён любіў гэты горад і ўзрадаваўся, што можа раздзяліць сваё свята з тымі, каго любіў сам. Бацька Венецыю так і не пабачыў, а маці тады прывезла яго малодшая сястра, і ён хадзіў сустракаць іх на прыстань. Вецер ледзь не перакуліў высокую валізку, ірвануў крысо футры і ён падхапіў і пацалаваў маці, агаломшаную падарожжам, гайданкай, каляровым іншамоўем, не па-лютаўску яркім сонцам.

Праз два месяцы яна сустрэне яго ў бальнічнай палаце такой самай шчаслівай усмешкай, як на канале Грандэ, толькі нічога не зможа сказаць: мова ўжо не вернецца пасля інсульту, маці проста падарыць ім з сястрой яшчэ месяц на развітанне.

Дактары ўхіляліся ад прагнозаў, ліхаманкавыя пошукі лепшых лекаў, умоваў, дагляду аказаліся проста спробай запоўніць разрыў, які рос кожны дзень, аж пакуль маці не адпусціла іх усіх.

Гэта было пяць гадоў таму, а цяпер ён сам апынуўся ў бальнічным ложку, адзін у чужым горадзе, у іншай краіне. Аперацыя лічылася нескладанай, такія там рабілі руцінна, праз пару дзён выпісвалі, і ён паехаў адзін, без жонкі, але нешта не заладзілася, і давялося застацца ў шпіталі даўжэй.

Палата была на аднаго, пасля наркозу і лекаў было млосна, але ноч ён неяк ператрываў, а раніцай нават не адмовіўся ад сняданка. Доўга спрабаваў адной рукой разгарнуць фольгу і намазаць масла на хлеб, што, на яго шчырае здзіўленне, аказалася невыканальнай задачай – вось жа, што прасцей, а не даць рады. Адкусіў проста з тонкага брусочка, але смаку не адчуў.

Толькі аднарукія ведаюць, што такое адзінота, паспрабаваў ён выціснуць жарт, але той быў як масла і не надта выціскаўся. Нельга сказаць, каб ён быў адзін – жонка тэлефанавала, сябры пісалі, ды і горад быў не зусім чужы – тут цяпер жыў і працаваў яго сын.

– Ён табе будзе званіць, хоча прыйсці на вакзал правесці, – сказала жонка.

– Не трэба, – сказаў ён.

– Чаму? – спытала яна.

Ён любіў сына і ганарыўся ягонымі поспехамі, яму падабаўся ягоны лад жыцця, сяброўкі, якія мяняліся, але заставаліся ў сябрах, сябры, якіх было не шмат, але яны не мяняліся. Яны гаварылі часам паўсловамі, спасылаючыся на агульных знаёмых, досвед, фільмы, лёгка кпілі адно з аднаго. У кожнай сям'і ёсць свая мова.

Ён не прасіў адмыслова, каб сын сустрэў на вакзале ці прыйшоў у шпіталь – пра такое не просяць. Першы дзень ён час ад часу выглядваў у вакно, спадзеючыся пабачыць знаёмую фігуру ў бальнічным двары, але сын не прыйшоў і на другі дзень. Пасля аперацыі напісаў, спытаўся, як справы, але зноў не прыйшоў. Патрэбы вялікай быццам не было, догляд быў дастатковы.

Лепшы, чым у шпіталі, дзе некалі даўно паміраў ягоны бацька. Я ўжо старэйшы за свайго бацьку, падумаў ён. Тады бацька прыехаў у яго горад на аперацыю, і ён не памятаў цяпер – адзін? Сустракаў на вакзале? Спыняўся той у іх дома, як звычайна, каб пацешыцца з адзіным унукам?

Верагодна, так, ён не памятаў. Памятаў, як штодня хадзіў у адведкі, прыносіў булён, гарачую ежу, часам з дому, часам, калі спяшаўся, браў у рэстаране.

Памятаў размовы пра дэфіцытныя лекі, пра заходнюю медыцыну, потым пра ўсходнюю, пра плаўнікі акулаў, якія раптам абвесцілі панацэяй, пра нейкіх надзвычайных народных лекараў.

Рак тады ўспрымаўся як латарэя – і як канчатковы прысуд адначасна. Так і было, пасля аперацыі метастазы не спыніліся, але трохі палепшала. Ці праводзіў ён тады бацьку дадому, ці саджаў у цягнік, ці дапамагаў – не памятаў. Відаць, так, бо як іначай. Таму і не памятаеш, што само сабой.

Цяпер аказвалася, што само сабой бывае розным.

– Чаму не можаш, – спытала жонка і нагадала пра Венецыю, пра той сынаў прылёт з Сан-Францыска на адзін дзень, назаўтра ён мусіў вяртацца, 30 гадзінаў у небе за два дні. Кароткае і яркае, як знічка, з’яўленне ўнука тады надта ўсцешыла маці, узрадавала яго і ўразіла сяброў.

Але і сябры прыляцелі, падумаў ён, таксама з розных краінаў, ад сваіх клопатаў, з перасадкамі, і маці спачатку адмаўлялася, спасылася на гады, на здароўе, але потым паддалася ўгаворам і ўсё ж прыляцела разам з сястрой. Фільм ёй спадабаўся, ёй увогуле падабалася ўсё, што ён рабіў, але яго больш узрадавала, як маці цешылася з Венецыі, з карнавалу, з выкшталцоных касцюмаў камедыі дэль артэ, і сама надзела маску. Ён паспрабаваў прыгадаць яе ў жаночай масцы “Няга”, з пазалочанымі абрысамі і залатым пяром, але не змог – у памяці паўставала толькі шчымлівая ўсмешка на бальнічным ложку.

У апошні венецыянскі дзень яны з ёй доўга стаялі на пляцы Сан-Марка, чакалі, пакуль са стометровай званарні не праляціць па небе анёл у барочным строі і карнавал не выбухне музыкай, апладысментамі, воклічамі, шампанскім, смехам, бясконцымі сэлфі – народу было не прабіцца.

– Не хачу, – сказаў ён жонцы ў тэлефон, адчуваючы, як пераціскае горла і вочы наліваюцца вільгаццю. – Не магу.

Вакзал нагадвае карнавал, падумаў ён, толькі без масак. Дакладней, іх усяго дзве – маска сустрэчы і маска развітання, пачатку падарожжа і канца. Разавыя і ўзаемазамяняльныя. Медсястра дала на развітанне таблетак ад болю, магчыма, яны так дзейнічалі. Ці, наадварот, не дзейнічалі. Магчыма, гэта была трэцяя маска – чакання. У Венецыі ёй адпавядала маска нямка – “Марэта”, яе трымаюць сціснуўшы зубамі, моўчкі.

Бацька паміраў цяжка – звычайныя таблеткі ўжо не бралі, а морфій не калолі, бо будзе прывыканне. Ён пачаў думаць пра гэтую бязглуздзіцу – якое, далібог, прывыканне, дайце чалавеку годна адыйсці, навошта было катаваць. Гэта гучала цяпер як папрок маці, якая апошнія месяцы даглядала яго дома, – а дзе ён быў тады сам?

Вядома, ён памятаў, дзе быў сам – у іншым горадзе, за пяць гадзін цягніком. Званіў, прыязджаў, але жыў перш за ўсё сваёй працай, сваімі поспехамі і цяжкасцямі. Твар у бацькі святлеў, калі ён заходзіў у пакой. Бацька ўжо не ўставаў і ўсміхаўся шчасліва і безабаронна, і ён зараз падумаў – я ж мог бы прыязджаць кожныя выхадныя. Мог узяць адпачынак. Даць палёгку маці. Сядзець ля ложка, расказваць, слухаць, задаваць пытанні, якія ніколі не задаваў.

Але, верагодна, ён тады блытаў пытанні з адказамі, бо не ведаў, што відавочныя рэчы якраз і ёсць самыя няясныя, што блізкасць і празрыстасць – заўсёды маска, класічная “Баўта”, якая дазваляе гаварыць, піць, смяяцца, рабіць амаль усё, быццам яе няма. Але хто насамрэч хаваецца за выбеленым забралам, не ўгадаць.

Ён баяўся цяпер, што заплача, а сын ніколі не бачыў ягоных слёз, што ж пачынаць. Што ж пачынаць, калі можна пераседзець апошнюю гадзіну да цягніка аднаму на лаўцы пад велізарным шкляным купалам, слухаючы абвесткі, сочачы за галубамі, што ж пачынаць.

Ён рэзка падняўся, і пара мінакоў паскорыла хаду, пабачыўшы яго перакошаны твар. Павярнуў у супрацьлеглы бок і пайшоў уздоўж анфілады буцікаў, кавярняў, газетных стэндаў, якія расплываліся ў вільготным тумане.

Аперацыя была неабавязковай. Можна было і не рабіць. Колькі належыць, столькі і пражывеш – апошнюю фразу ён часта чуў, і яе напышлівая банальнасць заўсёды раздражняла, была ў ёй нейкая штучная пакора. Ён не верыў у перадвызначанасць, лёс і іншыя апраўданні, бо не меў у іх патрэбы. Што можаш – рабі, проста не ўсё можаш. А калі б мог усё? Аднак у бога гуляць нават у думках было нецікава. Але й праўда, можна было і не рабіць, не ехаць, не чакаць, не сядзець цяпер тут на вакзале. Ён адчуў, што заблытаўся.

– Што значыць, “не магу”, – голас жонкі ў трубцы гучаў роспачна. – Адкажы, ён хоча прыехаць.

– Не магу гаварыць, – сказаў ён. – Пазваню з дарогі.

У японскім рэстаранчыку замовіў сашымі і сакэ. Ну, дапусцім, пражыве ён на пяць год больш – і што? Здыме яшчэ адзін фільм? Атрымае яшчэ адну прэмію, паплавае яшчэ ў адным моры?..

Атэісты прымаюць адсутнасць адказу за адказ, ім лёгка на гэтым свеце. Ці сам ён вернік, ці не – у яго не было яснасці, не было, відаць, патрэбы. І сёння яна не з’явіцца. Ён паціху сёрбаў гарачае сакэ і глядзеў перад сабой. “І што?” – галоўнае пытанне. Галоўнае, як дзірка ад абаранка, абаранак з’ясі, а дзірка застанецца, як казаў адзін паэт. Не застанецца, дарэчы.

Апошнюю фразу ён, відаць, сказаў уголас, бо падыйшла афіцыянтка і спытала, што яшчэ – ён папрасіў рахунак.

Ён падняўся, забыўшыся пра павязку, і левы бок зноў працяло як токам. Само сабой – гэта заўсёды толькі для аднаго. Людзі часта проста не ведаюць мовы, на якой размаўляюць, нават у сям’і. Для мужа мовай кахання можа быць букет, а для жонкі – дапамога ў доме, маці чакае адказу, бацька пытання, некаму трэба, каб усё казалі, некага важней патрымаць за руку: *I wanna hold your hand*, як спявалі “Бітлз”. Калі сын быў малы, зімовымі раніцамі жонка нацягвала яму калготкі пад коўдрай, робячы пераход з утульнай цеплыні сну ў алавяны свет дзённага холаду амаль незаўважным. *All you need is love, love is all you need.* Ён злавіў сябе на думцы, што не ведае, ці любіць сын “Бітлз”.

Калі пачалося ахалоджанне? Ён пачаў узгадваць спрэчкі, няспраўджаныя абяцанні, неабавязковасць, нежаданне сына выканаць самыя, здавалася б, слушныя просьбы, што спачатку раздражняла, потым злавала і крыўдзіла. А пакрыўджаны чалавек не ведае нічога, апроч сваёй крыўды. І не заўважае, як крыўдзіць іншых.

А крыўдзяць перш за ўсё тых, хто бліжэй. І сам ён не выключэнне, зусім не. Ён паспрабаваў прымусіць сябе згадаць несамавітыя, вартыя папроку ўчынкі, засяроджанасць на сваіх жаданнях і страхах, няўвагу да блізкіх – але згадкі гэтыя не надта дапамагалі, баланс не аднаўляўся. У любові не бывае балансу. У любові ўвогуле не бывае прычынаў, толькі наступствы.

Ён зайшоў у невялікую краму і стаў перабіраць бурштынавыя пацеркі, гладкія, поўныя цёплага мядовага святла – але пацеркі аказаліся пластыкавыя. Імітацыя была прыгажэйшай за арыгінал. Хоць, магчыма, для дызайнера, які іх стварыў, яны і ёсць арыгіналам, як любое рамяство становіцца арыгінальным, калі дасягае ўзроўню мастацтва.

Тэлефон торкнуўся ў кішэні – ён адключыў гук, але забыўся пра вібрацыю, і ніякавата чакаў, пакуль скончыцца нечы званок. Ні з кім не хацелася гаварыць.

Крыўда – вось класічная маска, падумаў ён і сам сабе ўсміхнуўся: гэта, бадай, горш нават за *Medico della Peste*, самае страхавітае з венецыянскіх абліччаў, маску чумнага лекара з доўгай крывой дзюбай, набітай сушанымі зёлкамі, якія ратуюць ад заразы. Хоць, калі падумаць, гэта ж самая адкрытая і жыццесцвярджальная маска. Ён узгадаў свайго хірурга ў аперацыйным пакоі – стомленыя вочы над бледна-блакітным пялёсткам, кароткія каманды, зладжаныя рухі, свой перасохлы раптам рот і млоснае чаканне, калі ж нарэшце ўсё скончыцца.

Усё мінецца, крыўда застанецца. Але не ўсякая крыўда, а нябачная, якая запаўняе і разубурае ўсю істоту знутры, крыўда няспраўджанага чакання. Чакаюць павагу, прызнанне як нешта належнае, паводле нараджэння ці паводле даробку, паводле справаў ці паводле намераў. Хісткі грунт – але іншага няма, калі ты не манах ці не маньяк. І ёсць толькі адзін спосаб чужую маску зняць – зняць сваю. Але і гэта не гарантуе ўзаемнасці, узаемнасць не бяруць, яна даецца.

Абвесцілі пасадку. Гэта быў апошні ў гэты дзень цягнік, і ён з палёгкай пабачыў, што яго месца з супрацьлеглага ад перона акна, значыць, яго не відаць, і ён нікога не будзе бачыць. Адной рукой закінуў дарожную сумку на багажную паліцу над галавой, стаў шукаць таблеткі, якія далі ў шпіталі, узгадаў, што яны ў сумцы, але даставаць не палез, і сеў.

Адлегласць з дзецьмі расце не толькі праз крыўды. Дарасламу трэба свая прастора, свае стасункі са свабодай, з іншымі людзьмі, з жыццём і смерцю.

Калі цягнік мякка крануўся, ён не вытрымаў і паглядзеў праз праход у вакно. На пероне нікога не было. Пустата – вось самая загадкавая маска, думаў ён, пакуль цягнік набіраў хуткасць праз цемру тунэля, і памыляўся і не памыляўся адначасна.

Да пошасці, якая замкне межы, адменіць усе сустрэчы і закрые ўсе тлумачэнні адной маскай, заставалася ўсяго нічога. Яна ўжо была тут. Ён яшчэ не ведаў, што яна была тут заўсёды, але здагадваўся.

Васіль Жуковіч



...Мне б гэты шлях зямны прайсці,
Імя каб не запляміць,
Любоў не страціць у жыцці
І дар высокі – памяць...

# Над кнігаю лёсаў

### ЗНАХОДЗЬМА ПАЗІТЫЎ ПРЫ НЕГАТЫВЕ

Жыццё падносіць шмат праблем:
І тут – не так, і там – не тое...
Але
ёсць
слоўка залатое:
*затое*...
Давайма разам – я і ты
Падумаем пра пазітыў!

### БРАВА – БРАМСУ!

Быў я стомлены цяжкаю працаю
І здарожаны доўгай дарогаю,
Я вяртаўся з нялёгкімі ношамі
На плячох і ў руках у маіх;

Быў худым кашалёчкам зажураны,
Там ляжаў адзінокі рубель.

Вось выходжу з метро на Нямізе я –
Раптам бачу скрыпачак квартэт.

Чую, граюць дзяўчатачкі гожа так,
Кожны гук выцінаюць так хораша,
Хоць спяшаюцца побач прахожыя.
Брамса танец венгерскі гучыць.

І, узрушаны, я супыняюся,
Ношы стаўлю свае палягчэлыя,
І рубель з кашалёчка схуднелага
Цвёрдай нотай ахвярна звініць.

### *ПАЭЗІЯ З МУЗЫКАЙ ПОРУЧ*

Неяк ціхай парою вясноваю,
Захмялелы ад класікі,
Паглядзеў я ў вакно –

І прыкмеціў жывую паэзію:
Маладзіца-суседка рухавая
Мыла вокны якраз.

На яе тою вольнай часінаю,
Быццам на незнаёмую,
Я натхнёна глядзеў.

Падаваліся мне бліскавіцаю
Рукі голыя гожыя,
Іх ажыўлены рух.

А яшчэ позірк мой заварожвалі
Валасы акуратныя,
Профіль правільны,
Бюст.

Я на постаць глядзеў грацыёзную
І на рукі на музыкальныя,
Думаў я пра суседкі імя –

Воля. Штосьці тут меладычнае,
Нездарма ў блізкім імені
Я знайшоў ноту ля.

### АПТЫМІСТЫЧНЫ НАСТРОЙ

Звычайна так проста верыцца,
Што новая прыйдзе раніца
І што да мяне зноў звернецца
Ласкава мая абранніца;
Што лепшае ўсё абудзіцца
Для дзеі высакароднае
І што Беларусь адбудзецца
Свабоднай краінай годнаю!

### АДНОСНА ЛЮБОВІ

Поўніцца сэрца любоўю гарачай,
Бліжняга я разумею, люблю.
Згладжу любоўю чыюсьці няўдачу,
Нечую зайздрасць любоўю спалю.

Духам нязломных, свабодай натхнёных
Я не стамлюся да сэрца туліць,
У беларускае слова ўлюбёных
Я не магу не любіць, разлюбіць.

Ды й з нелюбоўю сваёю зміруся,
Божа святы, да дзяржаўных хлусоў,
Да гандляроў маладой Беларуссю
І рулявых, на руках чыіх – кроў.

### ГАНЬБА

Няўжо вам не баліць, панове,
Вярхі, дзяржаўныя мужы,
Што нашай, бы дзяржаўнай, мове
Няма як вольна дыхаць, жыць?!
Няўжо ніколечкі не сорам
Вам, хто вакол руля стаіць,
Мірыцца з найцяжэйшым горам,
Яго старацца затаіць?!
Так, гора нацыі цяжкое,
Бо дзе сустрэнецца яшчэ
Дзікунства страшнае такое,
Каб мова зводзілася ўшчэнт!
Ніколі тое вас не мучыла,
Што Беларусь даўно здалі
І што яе да стану чучала
Палітыканствам давялі.
Ад цемрашальства ваша “мода”:

Каб мове дагадзіць чужой,
Глушыць сваю, не даць ёй ходу,
Што значыць – зашкурэць душой!
Усім, хто, будучы ва ўладзе,
Для мовы роднай стаў чужы
І так свайму народу здрадзіў,
Праклён нядоўга заслужыць!

### *ЗНАЁМАМУ ЭМІГРАНТУ*

У замежжа сваё з’ехаў ты з краю роднага
(Як было небяспеку тады не адчуць!),
Ды ад бедаў айчынных, ад болю народнага
Не хацеў і не мог адлучыцца нічуць!
А цябе дэмагогі аблайваюць строгія
(Ёсць такія цяпер і сярод дэмакратаў),
Знаць не хочуць яны, што шакалы двухногія
Кроў тваю пралілі б недзе ля Курапатаў,
Адкапаных табой для ўсяго свету белага,
Іх найперш паказаў ты забранаму краю.
Ноччу цёмнай цябе, апантанага, смелага,
За сумленную дзёрзказць яны пакаралі б.
Не забыць, як народ быў на плошчу на людную
Словам праўды тваёй сілкавацца ішоў,
Выкрываў ты імперскія ўчынкі паскудныя,
Незалежнасці быў ты самою душой.
Што ж, цярпі ўжо, табе доля выпала трудная,
Ты не можаш змірыцца са здрадай, хлуснёй.
Пэўна ж, ведаў: палітыка, ой, справа брудная,
Ды ў яе акунаўся сваёй чысцінёй.

### *КАЛІ МЫ РАЗАМ…*

Хай зразумеў я не адразу:
Мы зрушыць можам бедаў горы
І вычарпаць праблемаў мора,
Калі ў жыцці шчыруем разам.

Здалося: не было паразаў,
Ні слоты, ні цяжкой дарогі,
Адны ёсць толькі перамогі,
Бо па жыцці мы крочым разам.

Невыпадкова мне здаецца:
Пачуць магу я твае мары...
Калі жывецца добра ў пары,
Багата радасці даецца.

### НА ХВАЛЯХ ЧАСУ

Хмялела ад кахання галава,
Была ты толькі мрояю маёй,
Я тваё фота часта цалаваў,
Каханая, на ростанях з табой.
Нібыта ўчора даўняе было:
Каханне наша стала на крыло;
Не ў Лету канула, з вадою не сплыло –
Нам штосьці невымоўнае дало!..
Ты зморшчынкі на твары не лічы
І не фарбуй сівыя валасы:
Не разлюбіў ні ўдзень і ні ўначы,
Палонны двухадзінае красы –
Той, ад якой хмялела галава,
І гэтай, што губляе супакой...
Мне не забыць, як фота цалаваў
І як пайшлі мы ў вір жыцця з табой.

### НАД КНІГАЮ ЛЁСУ

Ці ў небе смутак жураўлёў,
Ці звонкі спеў жаўронкаў,
Гартаю на зямлі дзядоў
Свайго жыцця старонкі.

То сэрца радасць ахіне,
А то журба агорне;
Бывае гэтак цяжка мне:
Гару ў сумлення горне...

Яшчэ з людзьмі і да людзей
Ідзе мая дарога.
Ад маладосці чым далей
Мой шлях – бліжэй да Бога.

Я чую ў снах і наяву,
Што на зямлі нялішні,
І разумею, што жыву
Я ласкаю найвышняй.

Мне б гэты шлях зямны прайсці,
Імя каб не запляміць,
Любоў не страціць у жыцці
І дар высокі – памяць.

## ЦУД - ПОБАЧ

### 1

Святар цудоўны – Елісей,
Сяброўствам з ім я ганаруся:
Ў ім бачу ў росквіце, красе
Усю прыроду беларуса.

Душу узрушвае сваёй
Любоўю да людзей крынічнай,
Чаруе шчырасцю гранічнай
Ды беларускай гаманой.

О, мовы роднай гамана,
Жывая, гожая такая!
Не забываецца яна,
Бо ў сэрца з вуснаў пранікае.

Святар камусь настрой падняў,
Надзеяй адарыў кагосьці...
Невыпадкова, як радня,
Ў яго штодня бываюць госці.

Яму вы – сёстры і браты,
Каго сюды вядуць дарогі
І хто не супраць дабраты
І узаемадапамогі.

Сумленны прыклад можа даць:
Дзеля царквы трымае соткі,
А іх жа трэба даглядаць,
Не так і мала іх – паўсотні.

Расце няблага бульба там,
Калі абробіш дбайна соткі.
Глядзіш, дабавяцца на храм
Хоць небагатыя ды сродкі.

Манах, дарэчы, і пчаляр,
Пчальнік ёсць у яго выдатны.
Хіба звычайны то святар,
Калі да спраў ён гэткі здатны?

Адведаў на сваім вяку
Мядоў усякіх я нямала,
Такога ж боскага мядку
Раней набыць не шанцавала.

Манах у клопатах жыве,
За ўсіх душой перажывае.

Нястомна роднай ён царкве
І мёдам грошы здабывае.

Хай самавіты чалавек
Свабодны і немітуслівы,
Ды ён увесь зямны свой век
Падобны да пчалы руплівай.

Быць гаспадарлівым такім
Бацькі яго ў сяле вучылі.
Бальшавікі
У кулакі
Такога б хутка залічылі.

Далі б як ворагу яму
Сістэмы сталінскай пілаты
У лепшым разе – Калыму,
У горшым – Курапаты...

Яму пашэнціла пазней
На божы белы свет з'явіцца,
Жыць не прывольна, ды вальней,
Даць найжаданай мроі збыцца.

А мроя чыстая была
Ухвалена сям'ёй дабрэйшай –
І шляхам БОСКАГА СВЯТЛА
Пайшоў ён з Кнігай наймудрэйшай.

***2***

Туркі – вядомае сяло,
Жыве звычайна: жне ды сее...
Ну а вядомасць набыло
Ад дабрадзея Елісея.

Святар з малітваю прыйшоў,
Любві, надзеі, веры поўны,
Схіліўся чуйнаю душой
Над папялішчам над царкоўным.

Ён Богу й вернікам служыў,
У хаце сельскай у прыветнай
І неадступнай справай жыў,
Высокай мэтай запаветнай.

Нібыта голасам жывым,
Сваім нямым каменным крыкам
Падмурак спаленай царквы
І ў снах яго штоночы клікаў.

Не архітэктар ён, ды храм
Узняў да сонца адмысловы,
Праект не пазычаў, бо сам
Прыдумаў геніяльна – новы.

Не апісаць, як набываў
Кубоў за трыста лесу,
Як будаваў, перажываў
Сем год і поспехі і стрэсы.

Ды з вераю – не бедаваць,
Яна душу заўжды сілкуе.
Бог дапамог пабудаваць
Царкву, прасветлую такую.

*3*

Яго спаткаў быў першы раз,
А ўражанне было – як быццам
Мы добра знаемся ўвесь час.
Той стрэчы трэ' было адбыцца.

У сціплай хатачцы сваёй
Мяне ён стрэў усмешкай добрай –
І я адчуў: перада мной
Праўдзівы беларуса вобраз.

Адразу ўбачылася мне:
Надзейны ён, такі людзімы.
Я зразумеў крыху пазней,
Што ён – па сутнасці – ранімы.

Малітвай жывучы, манах
Глядзіць суровай праўдзе ў вочы:
Свет захлынаецца ў грахах
І каяцца ні ў чым не хоча.

Люд прагне ў большасці сабе
Пустых відовішчаў і хлеба,
Матэрыяльны стог скубе,
Не падымае вочы к небу.

За грошы можа ўсё прадаць
І родзічам сваім нагадзіць,
І бліжняга абрабаваць,
І другу ўчарашняму здрадзіць.

Ды смелай думцы не сатлець:
Заўсёды гэтак быць не можа,
Бо варта людзям захацець –
Бог д'ябла ў людзях пераможа.

Алена Брава



...якія б ні былі ў жанчыны выбітныя здольнасці,
яны нішто перад яе зручнасцю для іншых...

# Міра і Міранда

***Апавяданне***

Вядро было цяжэннае, даверху напёртае сыраватымі клубнямі, і калі яна, з дзюймоўчыным сваім ростам, падымала яго, каб перадаць на борт грузавіка, у яе перад вачыма плылі аранжавыя плямы і шалёна калацілася сэрца, не надта здаровае ад нараджэння, але дзяўчына пра гэта не здагадвалася. Не давялося ёй пазнаёміцца ні са старэнькім кардыёграфам, ані з падобным да Мыйдадыра з кніжкі Чукоўскага рэнтген-апаратам – дасягненнямі аховы здароўя яе роднага райцэнтра, бо непрыемнае адчуванне ў грудзях – нібы сэрца, у задусе аўтобуса ці ў гарачай ванне, раптам замірала, некалькі доўгіх секунд трымцела матыльком – яна стаічна цярпела, каб не дадаваць маці клопатаў. Сямнаццаць гадоў таму тая зацяжарыла ад заезджага камсамольскага дзеяча і гэтак жа моўчкі, самотна перажывала сваю ганьбу, прападаючы на заводзе звышурочна, каб звесці канцы з канцамі. Дачцэ яна хлусіла

пра афіцэра-падводніка, які гераічна загінуў падчас аварыі на падлодцы, што аберагала спакой савецкіх грамадзян – паблізу ад амерыканскага берага, натуральна.

Няўжо ад героя-бацькі ў яе такое няўпэўненае ва ўласным стуку сэрца, раздумвала Міра – так звалі нашую дзяўчыну. А час быў такі, што сэрца патрабавалася – палымяны матор. Так, прынамсі, спявалі па радыё. Насамрэч усе «палымяныя маторы» даўно пакрыліся іржой у каламутным балоце афіцыёзу, але Міра была па-правінцыйнаму наіўная і верыла ўсяму, што чула ад старэйшых. Сёлета яна паступіла ў педагагічны інстытут і патрабаванне з'явіцца першага верасня на сельгасработы выканала, а як жа, ёй і ў галаву не прыйшло адмовіцца з-за аранжавых салютаў у вачах.

Яна шчыра абуралася, калі ў Вашынгтоне падпісалі пагадненне аб размяшчэнні ядзерных ракет у Еўропе. Была ўпэўнена, што ўсе краіны свету абавязкова дойдуць да камунізму, дзеля гэтага яна, Міра, ужо дакладна парупіцца. Любіла «Машыну часу», і пастарнакаўская свечка (пра якую яна не чула), што дэпрэсіўным агнём загарэлася ў песні Макарэвіча, узгарэлася ў яе галаве, і гэтай свечкай была «вера ў людзей». У русай галоўцы Міры, зрэшты, была каша, прыгатаваная школай па адмысловым рэцэпце, падобнага не прыдумала яшчэ ніводная грамадская фармацыя – страва з рускай дваранскай літаратуры з яе спачуваннем народу падавалася пад соусам перадавіц «Праўды», дзе інтэлігенцыя абзывалася «праслойкай» паміж рабочым класам і сялянамі (працаўнікам ніваў таксама не асабліва давяралі). На дэсерт можна было замовіць узбітых вяршкоў – тэлеперадачу «Для вас, жанчыны», у якой без усялякага сораму сцвярджалася, што добрая жонка «прамаўчыць і сцерпіць». І паколькі з дзіцячага садка ў мазгі Міры рыдлёўкамі закідвалася субстанцыя, якой угнойвалі палі яе вялізнай радзімы, гэтая дзяўчына адчувала віну за тое, што ў атэстаце ў яе – кроўна зароблены чацвёркі ды пяцёркі, бо замест сумленнага вырабу шкіпінару альбо ўкладкі асфальту яна праз пяць гадоў зойме месца ў «праслойцы». У якасці кампенсацыі Міра адмаўлялася быць шчаслівай, пакуль «сотні людзей у нашай краіне застаюцца створанымі нібыта на здзек» – так напісала яна ў лісце блізкай сяброўцы Але, усведамляючы, аднак, усю бездань свайго падзення, бо якая ж, таварышы, можа быць насмешка над будаўнікамі камунізму, нават калі яны вельмі моцна п'юць? Як дзяўчына ўсё ж даволі разумная, дапытлівая, яна выдатна адчувала ў сабе гэтую недапушчальную насмешку, і нейкі, яўна варожы голас часам нашэптваў ёй, змешчанай, бы экспанат у спірт, у штучнае асяроддзе крывадушнасці, што «няшчасныя», якія сцуць і харкаюць у пад'ездах, наўрад ці могуць быць лепшымі за яе, Міру. Якая і спіць не больш за пяць гадзін у суткі, каб зарабіць прыстойны атэстат. А набірацца, як свіння гразі, і пэцкаць мацюкамі плот іх прымушае зусім не адсутнасць роўных з ёю, дачкой маці-адзіночкі, правоў і магчымасцяў – тады за што ж іх шкадаваць? За што спачуваць гультаям-аднакласнікам, якія смяюцца з яе, Міры, называючы «шасцёркай» і «зубрылкай»? Але гэтая дзіўная дзяўчына ўтаймоўвала сябе, бо «ганарыцца сваімі дасягненнямі – ганебна» (казалі настаўнікі), а дапамагаць адстаючым трэба нават тады, калі яны цябе пра гэта не просяць.

Менавіта імкненне дапамагаць і прывяло яе ў педагагічны інстытут. Досвед быў: у школе яе рэгулярна «прымацоўвалі» да двоечнікаў, і пасля ўрокаў Міра замест таго, каб адпачыць або пайсці на карысны факультатыў, адпраўлялася да «цяжкага» Андрэя, у набіты крышталём індычнік ягоных

бацькоў-мастакоў, спяцоў па «прасцінах» – велічэзных партрэтах членаў Палітбюро, што па святах выстаўляліся на плошчы. Бегала і да смаркатага абібока Іллі, і да Паўліка, ад якога ікалася мясцовай міліцыі – гэты нягоднік заліваў атрамантам яе сшыткі, задзіраў на ёй спадніцу, імкнучыся залезці ў майткі. Міра душыла ў сабе агіду да зялёных сопляў, душыла гнеў і жаданне ўмазаць па нахабных пысах – бо яна дзяўчынка, і да таго ж гэтых хлопчыкаў, хутчэй за ўсё, чакае ПТВ і гордае імя рабочага, а яна рыхтавалася заняць месца ў чымсьці неабавязковым, ад пачатку службовым: у «праслойцы». Гэтая падвойная непаўнавартаснасць – будучай жанчыны (якая «церпіць») і інтэлігенткі – прымушала яе гарачым жалезам выпальваць у сабе агіду і прысвячаць вольны час тым, хто не толькі не цаніў яе высілкаў, але ўсяляк з яе здзекаваўся. Пэўна, гэтак жа ўціхамірвала сябе яе прабабка, бястужаўка, якая пасля 17-га года адправілася ў глыбінку вучыць дзяцей і вывучыла да таго, што тыя сваю дарагую настаўніцу праз дваццаць год згнаілі на Калыме. Аб прабабцы Міра, зрэшты, нічога не ведала: яе маці здолела на ўсялякі выпадак трывала забыць імёны і род заняткаў сваіх бабуль і дзядуляў з абодвух бакоў – сям'ю ёй замяніў родны завод. Дачку яна назвала Мірай у гонар палітыкі міру – знешняй палітыкі СССР, пра што не забывалася згадваць, выступаючы на сходах.

Пасялілі першакурсніц у старым будынку, дзе калісьці размяшчаўся сельсавет. Жалезныя ложкі стаялі адзін да аднаго так шчыльна, што дзяўчаты – звычайныя, не анарэксічныя феі, з цяжкасцю праціскаліся паміж імі. Сарцір-«шпакоўня», пара бляшаных рукамыйнікаў, у якія дзяжурная налівала ваду з калодзежа, – усё гэта гараджанку Міру здзіўляла. Быў яшчэ драўляны хляўчук без электрычнасці, з акенцам і нацягнутымі пад столлю вяроўкамі, з ночвамі й вёдрамі, такая сабе «пральня»; там можна было памыць і пасушыць бялізну і самой падмыцца сцюдзёнай вадой – альбо з брудным целам чакаць суботы, каб напрасіцца да мясцовых у лазню. Хлопцаў было ўсяго тры, яны размясціліся па хатах вяскоўцаў, як і выкладчык, якога студэнты бачылі зрэдчас: ён суткамі піў.

Суседка Міры па ложку Жанна называла дзявочы інтэрнат «малпоўняй». У лісце да Алы Міра характарызавала Жанну як «сумесь французскай парфумы і цыгарэт "Гродна"». Дыміла гэтая сталічная дзяўчына сапраўды як труба хімкамбіната, а імпартная парфума тлумачылася проста: бацька Жанны працаваў у Знешгандлі. Жанна бывала на закрытых праглядах у Доме кіно, разважала пра заходнія фільмы, аб якіх Міра не чула, а яшчэ шпарка гаварыла і чытала па-англійску – скончыла англійскую спецшколу. Яна абвясціла Міры, што «продак» збіраўся «ўторкнуць» яе ў інстытут міжнародных адносін, але ў яе іншыя мэты. «Вучыць дзяцей?» – жыва пацікавілася Міра. Жанна зарагатала. «Тады навошта ты тут?» – «Жыццё вывучаю», – цьмяна адказала тая.

Удзень Міра збірала на полі бульбу, цягала, задыхаючыся, поўныя вёдры да грузавіка. Па вечарах сядзела ў інтэрнаце, чытала кніжку Рэмарка, якую ўзяла з сабой, альбо пісала ліст Але. Сяброўка паступіла на журналістыку і знаходзілася на такой жа адпрацоўцы ў калгасе. У лісце да Міры яна назвала былых аднакласнікаў, якія плююць на вучобу, затое паскоранымі тэмпамі ператвараюцца ў алкаголікаў, тупой шэрай масай. «Такім, як яны, я збіраюся тлумачыць, што быць некультурнымі – дрэнна, – павучала Міра ў адказ. – Людзі, якія не чытаюць кніг, – абдзеленыя, вартыя

жалю, і я іх шкадую. Ведаеш, як я прывучалася любіць аднакласнікаў? Прымушала сябе слухаць іх выхвалянні пра жахлівыя п'янкі, плёткі пра тое, хто з кім "ходзіць". Старалася зразумець іх і апраўдаць. Так, казала я сабе, ты дапаможаш ім стаць іншымі, змяніцца!» Міра вельмі здзівілася б, даведаўшыся, што падобная рыторыка запаўняла старонкі дзённіка яе прабабкі, таленавітай, дарэчы, паэткі. Так што прабабуля, згасаючы ў тыфозным бараку Даліны смерці пад народную паэзію, якую артыкуляваў канвой: «Інцелігенцкая вош, куды паўзеш? На гумно, дзяўбаць г...но!» – прабабуля, напэўна, ацаніла б і стыль, і змест эпістал сваёй праўнучкі.

А вартыя жалю і абдзеленыя тым часам збіваліся ў зграі і, прыняўшы на грудзі для адвагі, падкочваліся да студэнтак. Паклоннік з'явіўся і ў Міры. Гэты мужчынскі экзэмпляр называўся Генікам і быў каржакаваты, з вялізнымі, як рыдлёўкі, рукамі, тоўстым пляскатым носам і маленькімі каламутнымі вочкамі. Пярэднія зубы ў яго былі спрэс жалезныя. Геніку споўнілася ўжо дваццаць шэсць, ён даўно адслужыў і працаваў на бульбаўборачным камбайне. На полі й нагледзеў Міру, чамусьці прычапіўся менавіта да яе, маўклівай, маленькай, што імкнулася стаць яшчэ непрыкметнейшай. На дыскатэцы ў клубе толькі яе запрашаў на танец, праводзіў да інтэрната. Міра яго баялася, але яшчэ больш яна баялася Геніка пакрыўдзіць, праявіць непавагу да яго пачуццяў простага чалавека, якую ён мог бы аднесці на кошт фанабэрыстасці гарадской ганарлiўкі, бо ў яе наперадзе – перспектывы жыцця ў сталіцы, чыстай службы, і наогул яна яго відавочна пераўзыходзіць культурай і ведамі, а думку пра тое, што яна можа быць за кагосьці «лепшай», з Міры вытраўлялі шмат гадоў. А яшчэ яе навучылі адчуваць віну перад мужчынам, якога не можаш задаволіць. Зрэшты, Міры было прыемна, што нехта звярнуў на яе ўвагу, а хоць бы і такая страхалюдзіна, як Генік. Прыгажуняй у старэйшых класах яна не лічылася, хадзіла ў чырвоных прышчах і на грошы, якія атрымлівала на абеды, употай наведвала касметычны кабінет.

Вечарам у пятніцу мясцовыя ўжо звыкла запрасілі студэнтак на танцы. Міра прыхарашылася, наколькі гэта было магчыма для жаночай істоты, пазбаўленай элементарных умоў гігіены. У клубе адразу ўбачыла Геніка: ён млява пагойдваўся ў цыгарэтным дыме, як водарасць, што калышацца плынню. Запрасіў Міру на танец, аблапіў, наваліўся, і яе ледзь не званітавала ад паху перагару. Але ж крыўдзіць людзей нядобра – і яна трывала. Смярдзючыя абдымкі зрабіліся мацнейшымі, да іх дадалося дзіўнае сапенне. Міра ніколі не «хадзіла» з хлопцам, і яе веды пра мужчынскую фізіялогію абмяжоўваліся балбатнёй дзяўчатак у піянерлагеры ды кніжкай пра «гэта», якую перад экзаменамі прынесла ў школу стараста класа Анжэлка, і яны чыталі яе пад партамі. Высветлілася, што палова дзяўчатак выпускнога класа была свята ўпэўненая: «гэтым» мужу і жонцы даводзіцца займацца столькі разоў за жыццё, колькі яны хочуць займець дзяцей, прычым такую брыду, як «гэта», савецкія людзі трываюць, сцяўшы зубы.

Пасля танцаў Генік праводзіў яе ў інтэрнат. Распавядаў пра сваю былую дзяўчыну, якая абяцала чакаць яго з войска, але пабралася з іншым. Прапанаваў:

– Ідзём пагуляем.

Міра ветліва адмовілася. Праз гадзіну – яна ўжо лягла спаць, задаволеная, што адчапілася ад кавалера, не абразіўшы яго, – яе выклікалі на вуліцу. Пад ліхтаром стаяў Генік. Ён відавочна яшчэ «падзаправіўся».

– Прашвырнёмся?

– Ідзі спаць, ты выпіў, – сказала яна, як бы просячы прабачэння.

– Ага, выпіў, – адмаўляць дадзены факт было б проста бессэнсоўна. – Быўшую ўспомніў... – камбайнёр журботна апусціў галаву на грудзі. – Калі ты шчас са мной па дзярэўні прайдзёшся, я большэ нікагда не буду піць. Клянуся!

Міра страпянулася. Вось яно, доўгачаканае, да чаго яе рыхтавалі столькі гадоў – яна ўратуе чалавека! Пазбавіць ад жудаснай звычкі! Верне яму веру ў людзей. Вядома, ёй зусім не хацелася цягнуцца з п'яным мужыком у цямрэчу, але справа таго каштавала.

Яны прагуляліся па бязлюднай вёсцы, выйшлі за ваколіцу. Далей раслі нейкія непралазныя кусты, і Міра мяўкнула было, што пара вяртацца, але тут яе сціснулі жалезныя рукі, а над сабой у святле месяца яна з жахам убачыла жалезныя зубы, якія пераможна шчэрыліся.

– Папалась, пцічка! Хош – крычы, ніхто не услышыт.

І тут маўклівая Міра загаварыла. Ніколі – ні да таго, ні пасля – з ёй не здаралася такога прыступу лагарэі. Нібыта нейкі вірус вярбальнага шаленства паразіў яе. Задыхаючыся, яна трындзела, што ён, высакародны чалавек, сапраўдны мужчына, гэткі каўбой бульбяных прэрый, ніколі не даруе сабе такога подлага і нізкага ўчынку. Што «гэта» ў дзяўчыны можа адбыцца толькі з будучым мужам, а інакш і жыць не варта! І яна, Міра, якраз для шчасця будучага свайго мужчыны, не, не так – Свайго Мужчыны! – сябе беражэ. Вось ты ж не хацеў бы ажаніцца з дзяўчынай, якая не захавала сябе, сакатала Міра, ты ж асуджаеш тую, якая не дачакалася цябе з войска, і цалкам маеш рацыю, я падзяляю твой гнеў, я не здольная ні зразумець тую дзяўчыну, ані так подла паступіць, таму што я – іншая, і ты – іншы, ты сумленны, прыстойны, мужны, ты герой працы, я табой неверагодна ганаруся, хачу захапляцца табой і далей, і да т.п.

У гэтым істэрычным рэчытатыве было мала сэнсу, але гарачы яго напор мог прабіць сцяну. І ў праспіртаваным розуме кавалера нешта адгукнулася. Так ці інакш, але хватка рук, што сціскалі Міру, аслабла.

– А за мяня замуж пайдзёш? – спытаў Генік.

– Вядома! – з запалам, які не пакідаў і ценю сумневу, што акурат пра гэта яна марыла ўсё жыццё, выдыхнула Міра.

«Жаніх» пацалаваў Міру па-гаспадарску, у шчочку. Садраў з сябе куртку, накінуў на плечы «нявесце» – яе калаціла так, што ляскалі зубы.

– Хату строю. Жонка трэба. Пад Новы год пераедзем. Хадзем, пакажу. Я цябя адразу палюбіл. Маленькая такая, варобушэк прам. Не то, што нашы каровы. Праўда за мяня выйдзеш?

– Ты што, яшчэ сумняваешся, – лепятала Міра. На экзамене ў інстытут яна выцягнула білет пра непазбежнасць «змычкі горада з вёскай» пры камунізме і адказвала вельмі ўпэўнена! Яны ўжо ішлі паміж крываватымі штыкетнікамі. Як ні хацелася Міры пусціцца бягом па вуліцы, яна разумела – гэта толькі пагоршыць яе становішча. А таму вытрывала і гуллівыя пацалуначкі, і дэманстрацыю зруба будучай хаты.

– Во тута хляўчук будзет. Кабанчыка завядзём, – марыў Генік. – Свадзьбу на акцябрскіе зробім, чаго адкладываць.

З дэбільнай усмешачкай Міра ківала. Генік давёў яе да «малпоўні», Міра шмыгнула ў дзверы, забілася пад коўдру.

Яна не заснула да рання. Пасля таго, як жах трохі адпусціў, з тварамі закатаваных маладагвардзейцаў сталі прыходзіць думкі – правільныя думкі дзяўчынкі, якая ведае, што хлусіць – нядобра, а ўжо цаной хлусні купіць жыццё – дык наогул злачынства. Так, гаворка ішла менавіта пра жыццё – бо жыць *абняслаўленай* у карціне свету нашай Міры не мела сэнсу: што ж яна прынясе ў дар Свайму Мужчыну, з якім народзіць не менш за двух дзяцей? Але ж і хлусіць, каб выратаваць сваю шкуру, было подла! Сама яе істота, без удзелу волі й розуму, парушыла ўбітыя ў яе з дзяцінства правілы, выявіла спрыт, які немаведама адкуль узяўся, і выжыла – гэта было жахліва! А калі б яе катавалі фашысты, як Ульяну Громаву?!

«І што далей? – сурова хмурачы бровы ў цемры, як быццам бы самую сябе разбіраючы на камсамольскім сходзе, пыталася Міра. – Што ты заўтра скажаш гэтаму чалавеку, які паверыў табе?» Было цалкам зразумела: «гэтаму чалавеку» трэба сказаць няхай горкую, але праўду. Да ад'езду выкручвацца, усміхацца шматабяцальна, а потым зваліць, як зрабіла б, без аніякіх сумневаў, сяброўка Ала, якая фліртавала з настаўнікам англійскай мовы дзеля адзнакі, – Міры гэта было агідна. Думка заявіць пра спробу згвалтавання і папрасіць абароны, ды хаця б у выкладчыка, дзеля чагосьці да іх прыстаўленага, Міры ў галаву не прыйшла. І абсалютна правільна, што не прыйшла: любы са знаёмых ёй дарослых сказаў бы, што ў здарэнні вінаватая толькі яна. Ды Міра і сама так лічыла.

Назаўтра яна падышла да Геніка – ён сядзеў, пакурваючы і паплёўваючы, у сваім камбайне – і папрасіла ў яго прабачэння. Яна схлусіла – яна не кахае яго. А без кахання выйсці замуж не можа. Але затое яны могуць застацца сябрамі на ўсё жыццё. Міра думала, што гэты цудоўны шанец яго пацешыць, а яе праўдзівасць будзе ацэненая. Але выйшла інакш.

– Зра я цябя, гадзіну, пажалел. Ну падаждзі, бл...дзь, я цябе сягоння ўстрою ночку, – прыгразіў Генік.

Адчуваючы, як ад дзікага страху паколвае ў сэрцы і нямеюць ногі, Міра пацягнулася да дзяўчат, што корпаліся ў баразне. Ёй тэрмінова трэба было з кімсьці падзяліцца, аднак пісаць ліст Але не выпадала – адказу можна было не дачакацца. Міра распавяла пра здарэнне Жанне.

– Ты дурніца? За што ты ў яго прасіла прабачэння? Таксама яшчэ Міранда.

– Якая Міранда? – без цікавасці спытала Міра.

– Ідэалістка з комплексам ратавальніцы, – Жанна ўселася верхам на вядро і выцягнула пачак «Гродна». – Баця кніжку з Англіі прыпёр. Псіх скраў дзеўку са свецкага кола, трымаў у сутарэнні, а яна апраўдвала яго тым, што ён тупы і неадукаваны. Пісала ў дзённіку ўсякую пафасную хрэнь.

– І не спрабавала ўцячы?

– Спрабавала. Аднойчы дала яму чымсьці па мазгаўні, але тут жа засаромелася і пашкадавала яго. Ён жа не вінаваты, што невук і нягоднік! Сваёй велікадушнасцю яна ператворыць яго ў добрага чалавека!

– А што ў гэтым няправільнага? – асцярожна спытала Міра.

Жанна змерала яе іранічным поглядам.

– Ну, хаця б усеагульная ўпэўненасць: якія б ні былі ў жанчыны выбітныя здольнасці, яны нішто перад яе зручнасцю для іншых. Казку «Пунсовая кветачка» чытала?

– Ну, чытала.

– Дык вось: купецкая дачка павінна не шукаць свайго выратавання, а выратаваць беднага страшыдлу ад самога сябе.

– Чаму?

– Таму што калі баба клапоціцца пра сябе, яна сука апошняя.

Міра маўчала, абдумваючы гэтыя дзіўныя словы. Яна адчувала ў іх нейкую новую, нязвыклую для сябе праўду, але праўда тая не магла прабіцца ў яе розум.

– І што здарылася з Мірандай?

– Памерла, – жорстка сказала Жанна і патушыла недакурак аб вядро. – Затое засталася харошая. А абхітрыла б яго, наспявала, што кахае, што замуж выйдзе, а то і забіла б – хто б ёй тады спачуваў? Ты ж вось перажываеш, што падманула гэтага мудзілу.

Міра шморгнула носам.

– Я таксама не змагла б забіць чалавека. Нават дрэннага.

– Затое ён цалкам мог бы цябе згвалціць, забіць, закапаць за вёскай. Пачакай, яшчэ паспее.

І сапраўды: вечарам кампанія мясцовых з'явілася ля «малпоўні». З дзясятак п'яных галасоў цюгакалі, патрабуючы Міру. Сярод дзікага лямату яна з жахам пазнала голас свайго абражанага ў найлепшых пачуццях «сябра».

– Выхадзі, бл...дзіна, пагаварыць нада! – гарлаў Генік. – А то шчас сам зайду, я ня гордый! Бардэль устрою!

Зграя адказвала ўхвальным свістам.

– Ну што? – спытала Жанна. – Будзеш яшчэ вырадкаў ратаваць?

Яна кінула Міры куртку, засунула ў кішэню пачак цыгарэт. Дзяўчаты выбраліся праз вакно, якое выходзіла на задні двор, і, хаваючыся за кустамі, пабеглі да «пральні». Хтосьці тут грунтоўна папрацаваў – памытыя дзявочыя кашулі і халаты боўталіся на вяроўках. Уцякачкі забіліся ў кут і праз пыльнае акенца назіралі, як кандыдаты ў пагромшчыкі вядуць перамовы з «маладымі памочнікамі сельскай гаспадарцы краіны». Прадстаўнік абарыгенаў быў прапушчаны ў інтэрнат і пераканаўся, што Міры там няма, пасля чаго хлопцы пачалі расчаравана разыходзіцца.

Але радавацца было рана. Ад групы, якая ўсё яшчэ стаяла ля ганка, аддзяліліся дзве постаці, сталі набліжацца. У слабым святле ліхтара Міра, сэрца якой даўно калацілася дзесьці ля горла, пазнала Геніка і яго малодшага брата Міколу.

Дзверы расчынілі ўдарам нагі.

– Ігдзе яна, сцерва, схавалася? Знайду – кішкі выпушчу. Мяня – мяня! – развяла, як какога-нібудзь салагу!

– Да ў сваіх, на хаце гдзета, – выказаў меркаванне Мікола.

– А можа, тут? Ёсць фанарык?

– Не-а. Збегаць, прынясці?

– Да я так...

Чыркнула запалка. Цені пабеглі па ночвах і тазах. Дзяўчаты сядзелі не дыхаючы. Генік зрабіў некалькі няўпэўненых крокаў наперад, але заблытаўся ў мокрых жаночых апранахах, ледзь не ўпаў і брудна вылаяўся.

– Няма тут нікаго. Х... з ёй, пайшлі, – паклікаў Мікола.

– Падаждзі.

Успыхнула другая запалка, адляцела ўбок. Міра раптам адчула, як яе сэрца ператвараецца ў матылька. Матылёк трапятаў, заміраў, зноў біўся хаатычна і бессэнсоўна, губляючы сілы. Перад вачыма ўзвіўся «красны

акцябр» аранжавых салютаў. Да Міры данеслася: «Усё раўно найду паскуду, хана ёй!» Потым яна страціла прытомнасць – і прачнулася ад таго, што Жанна біла яе па шчоках.

– Чаго ты?! Згарым! Давай хутчэй!

Шлях да дзвярэй быў адрэзаны агнём. Моцна пахла гарам. Жанна схапіла вядро, разбіла ім шкло ў акенцы, выпхнула напаўжывую Міру – тая звалілася ў крапіву, як мех, – потым выскачыла сама. Адцягнуўшы сяброўку за кусты і пасадзіўшы на зямлю, Жанна пабегла шукаць тэлефон, каб выклікаць пажарных. Міра тупа глядзела, як займаецца агнём «пральня». Твар і далоні ў яе былі парэзаныя, з іх сачылася кроў. Міра не спрабавала яе спыніць.

Раніцай, сяк-так пакідаўшы рэчы ў сумку, яна з'ехала на першым жа аўтобусе ў райцэнтр, адтуль – у Мінск. Жанна паабяцала ўладзіць усё з выкладчыкам – зрэшты, Міры было ўсё роўна. Яна прыехала ў пусты інтэрнат і суткі проста валялася на сваім ложку, не звяртаючы ўвагі на пякельны смурод – труцілі тараканаў.

Жыць не мела сэнсу. І сіл на гэта не было.

Нарэшце паднялася, выпаўзла ў горад. На слабых нагах дапляласяда патрэбнай вуліцы, дома. Мама Жанны, кабета з бліскучымі валасамі, пафарбаванымі ў ярка-руды колер, напаіла яе гарбатай з таўстасценных англійскіх кубкаў і вынесла кнігу. У сваіх сілах Міра была ўпэўненая – яе пяцёрка па англійскай была сумленна заслужаная, як і астатнія адзнакі.

Міранда замаўляе і прымае ад Калібана падарункі. З задавальненнем глядзіцца ў люстэрка сваіх перавагаў. Яна наіўна мяркуе, што выйдзе з гэтага страшнага склепа – лепшай, чым была. Як матылёк з кокана. Выкрывае адсутнасць у Калібана густу, нібыта здае экзамен па мастацтвазнаўстве. Нібыта за ёй назірае прывабны мужчына, барадаты інтэлектуал Джон Фаўлз, які піша раман пра яе, Міранду Грэй. Яна то высмейвае свайго турэмшчыка, то папракае сябе за пыху.

«*Я... зрабіла яму балюча*, – перакладала Міра, амаль не заглядваючы ў слоўнік. – *Вядома, ён цалкам гэтага заслугоўвае, але мне раптам стала шкада яго... Ён абурыўся. Да глыбіні душы. І я падумала: ён жа дазволіў мне пагуляць у садзе. І адчула сябе жудасна подлай...*». «*Мая зброя – вялікадушнасць... і дараванне, бо ён нічога з сабой зрабіць не можа...*». «*Я адчуваю ў адносінах да яго нейкае незразумелае мне самой пачуццё адказнасці...*» – запісвае ў дзённіку Міранда, і Міра адкладае кнігу. Яна не можа чытаць, бо плача. Упершыню пасля ўрока, які атрымала «на прасторах жыцця» – на шчасце, без практыкі, але нават у такой няпоўнай версіі ён каштаваў тысяч абсалютна непатрэбных школьных урокаў – яна здолела заплакаць: пра лёс Міранды Грэй.

«*Перамагае шкадаванне, і я на самой справе хацела б яму дапамагчы*». У Міры перамагае шкадаванне да Міранды і нараджаецца цалкам новае, вельмі здаровае пачуццё – нянавісць да гвалту, у любой яго форме. Зараз Міра не памятае, што перад ёй усяго толькі кніжка. Міранда для яе жывая дзяўчына, разумная, добрая, таленавітая. Занадта фанабэрыстая і самаўпэўненая – вось гэтага ў Міры, якой мэтанакіравана не давалі расці вышэй за сярэднюю лінію, зусім няма. І ўсё ж у іх шмат агульнага. Яны маглі б стаць сяброўкамі. З многага яны выраслі б, пасталеўшы. Міра плача, скруціўшыся на ложку, таму што не можа змірыцца з

несправядлівасцю, якая яшчэ ўчора здавалася ёй натуральным ходам жыцця і гісторыі.

Не, усё ж такі я горшая за Міранду, думае Міра. Ці проста больш натуральная? Інстынкт жыцця ўключыўся без маёй волі, і я ўратавалася. Чаму ж потым адчула сорам і віну за тое, што не ахвяравала сабой?

І ахвяраваць сабой, і адчуваць віну, калі не зробіць гэтага, яна будзе яшчэ шмат разоў. Ажно пакуль тое, што яна зразумела сёння, не стане досведам, які ўвойдзе ў яе плоць і кроў.

Бо нікога яшчэ пакуты кніжных герояў не прымусілі змяніцца.

Праз месяц вахцёрка працягне Міры запэцканы чымсьці падобным на партвейн канверт.

*«Я люблю тибя Мирка эта на самам деле я ни уру и хачу жынитца. Пращаю тибя што ты абманичыца. Если ты низахочиш са мной жынитца я пакончу сабой и ты будиш винаватая усю тваю жызнь».*

Замацаванне пройдзенага.

Генадзь Тумаш



...Мецьмеш Бога і Айчыну ў сэрцы –
І народзішся на свет духова...

# Мы – Пагонічы

### *МАЛІТВА*

Божа,
вызвалі вернікаў
з рабства люцыпара,
нашу родную мову святую
ў святыні вярні,
каб душою раб Божы
не быў чужаніцаю,
каб у храмы нас клікалі
вольныя нашы званы.

*16.12.2002*

### *Два трыялеты*

* * *

Набрыдзь, навалач, прыблуды, зброд –
Гэта бітва, бітва роднай мовы.

Ворагам адпор здзяйсняюць словы:
Набрыдзь, навалач, прыблуды, зброд.
Без такой аслоны і аховы
І краіна знікне, і народ.
Набрыдзь, навалач, прыблуды, зброд –
Гэта бітва, бітва роднай мовы.

*11.08.2002*

* * *

Жывая мова хоча жыць,
Абараняе край наш любы,
Дзяржаву, волю – ад загубы,
Жывая мова хоча жыць.
Ёй дол капаюць душагубы,
Каб у магілу палажыць.
Жывая мова хоча жыць,
Абараняе край наш любы.

*01.12.2016*

* * *

Мы – Пагонічы, нашчадкі ваяроў-ліцвінаў,
Што палеглі, засланяючы Літву сабой,
Што на папялішчах ускрасалі, на руінах
Перад крыжакамі і маскоўскаю ардой.

Мы – Пагонічы, нашчадкі слаўнае Пагоні,
Мы – вялікай незалежнае Літвы працяг,
Думкі нашыя, як вoі-вершнікі на конях,
Рвуцца, мчацца ў неабсяжны векавы прасцяг.

*30.11.2008*

* * *

Мецьмеш Бога і Айчыну ў сэрцы –
І народзішся на свет духова,
Годнасць адчувацьмеш у мінулым –
У вялікім вольным гаспадарстве.

Здабылі ліцвіны ў бітвах-сечах
Незалежнасць, непадлегласць Краю –
З вершнікам, з Пагонічам крылатым!
Бог пусціў яго на свет нам з воляй!

*22.05.2010*

* * *

Мкне Пагоня, мчыцца, рвецца дух Ліцвінаў,
Дух, што ў бітвах-сечах волю здабываў.
З мужнасці і мудрасці ўзрасла Краіна –
Наша слаўная Вялікая Літва.
Нас Пагонічы гартуюць – нашы ваяры,
З намі моц святая – нашы мысляры.

*03.09.2019*

## РУШМА НА ГРУНВАЛЬД

*Бітва, якая ўвайшла ў гісторыю*
*як адна з найбуйнейшых у сярэднявечнай*
*Еўропе, скончылася поўным разгромам*
*ордэнскага войска. Вялікае значэнне*
*для перамогі меў тактычны манеўр Вітаўта –*
*запланаванае адступленне яго харугваў,*
*якое дазволіла расстроіць баявы парадак рыцараў.*

**Генадзь Сагановіч**

Рушма з нашымі харугвамі
на Грунвальд,
рушма славу нашую вяртаць.
Харугваў нашых не тапталі крыжакі.
Харобрыя ліцвіны-воі
дух баявы ў палякаў паднялі
і разам крыжакоў перамаглі.
Храніст Ян Длугаш
слаўнага звыцяства –
слаўнай перамогі не дзяліў.
Палякам – дыфірамбы,
нашым продкам – ганьбаванне:
ліцвінаў змялі крыжакі,
літва пусцілася наўцёкі
з поля бітвы.
А ваяры-ліцвіны не ўцякалі,
а ваяры-ліцвіны адступалі,
выконваючы Вітаўта наказ:
“Мы адступаем
дзеля нашай Перамогі!”
Разбітыя былі дашчэнту крыжакі.
Кайданы і вяроўкі для палонных
знайшлі ў захопленым абозе пераможцы.
У землях у сваіх
герояў урачыста сустракалі
і Перамогу ўсенародна святкавалі.

Вяртайма нашу славу,
зняславілі палеглых вояў ляхі,
але ліцвінаў слава не палегла.
Над Грунвальдам
гучэцьме вечна "Багародзіца" –
дзяржавы нашай гімн,
непераможнага народу песня.
Ліцвіны перад бітвай
праспявалі "Багародзіцу"
і рушылі ў атаку.
Узнёсся над палеглымі героямі
наш рыцар,
наш Пагоніч.
Ліцвін імчыцца пераможна!

*02.02.2019*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Генадзя ТУМАША**
з васьмідзесяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці ды новых твораў!

Франц Сіўко



...што яна горкая, гэткая праўда, –

які можа тут быць сумнеў?..

# Месяц-месячыку ясны

***Апавяданне***

**1**

Першы, каго Жэня бачыць ля дома, – бацька. Росцік Галуза сядзіць у альтанцы пры ўваходзе ў пад'езд і нервова, неяк похапкам, быццам некуды дужа спяшаецца, – манера, якой раней, да хваробы, за ім, здаецца, не заўважалася, – курыць.

Спачатку Жэня бачыць толькі няясныя абрысы бацькавае далоні, што раз-пораз мільгае ў цемры на фоне асветленага цыгарэтаю фрагмента сцяны. Затым – правую палову Росцікавага твару з рыскаю вусоў па-над ротам. А яшчэ праз хвіліну і ўся ахінутая брызентавым плашчом бацькава постаць вымыкаецца насустрач Жэню з цемры. Быццам вось гэтак прасядзеў Росцік у альтанцы паўтыдня ў той самай позе, што і напярэдадні сынавага ад'езду ў горад, ды нікуды ні на імгненне за гэты час не адышоўся.

Плашч дастаўся Росціку ў спадкі ад заўчасна памерлага брата-вайскоўца. Ён так доўга ляжаў, усімі забыты, у сырым

падвале сярод рыззя, што дазвання пабіўся буравата-зялёнымі, пад колер расліннасці ў гародзе, плямамі. Дык іншым разам, як заманецца Росціку нашчыпаць на градах пры доме гуркоў, не адразу яго ў гэтым плашчы сярод акупаванага макрыцаю гурэчніку, асабліва надвячоркам, калі так і мільгацяць у паветры ды слепяць вочы сонечныя зайчыкі-гарэзы, заўважыш.

Так яно бывае зазвычай, але – не сёння. Бо сёння праз увесь дзень – ад самага рання і да гэтага вось моманту, як Жэня ступіў, нарэшце, на сцежку, што віецца ўздоўж гародаў ад чыгункі да іхняга дома, – бацька не выходзіць у яго з галавы. І не толькі не выходзіць, а з кожнаю хвілінаю грукаецца ў свядомасць усё ўладней, усё настойлівей. Таму, здаецца, нават каб раптам цемра і цалкам запанавала над зямлёю, у тым, што гэта менавіта ён, старэйшы Галуза, сядзіць цяпер у альтанцы і зацята курыць, Жэня ні хвіліны не сумняваўся б.

Ды і каму тут яшчэ, апроч Росціка, гэткаю пароаю сядзець? Для маладзейшых суседзяў (а ў доме акурат жа амаль усе такія, маладзейшыя, і жывуць) час для адпачынку занадта позні, бо ўранні ўсім адыходзіць на працу. Ды і наогул ніхто ў наваколлі так шмат, як Жэнеў бацька, не курыць. Мала таго, што адну ад адной прыпальвае свае смярдзючыя цыгарэты, дык яшчэ ж і дасмоктвае іх ледзь не да самых пазногцяў. Не чалавек, а жывы дымаход. Праз курэнне, дарэчы, і клопат не абы-які займеў. Такі варахлівы, нялюдскі клопат апанаваў чалавека, што і найгоршаму ворагу не пажадаеш.

Месяцы з два таму вымалявалася ў Росціка на пяце правай нагі пляміна. Невялікая, памерам з капеечную манету. Даследавалі дактары ў абласным анкадыспансеры тую пляміну, сказалі – злаякасная ды і ўзяліся выдаляць. След было б перасадзіць пасля выдалення на прыгоеную рану лапік здаровай скуры з іншага месца – аж не, няможна, аказваецца. Бо капіляры на Росцікавым целе так папсаваныя праз ягонае шалёнае шматгадовае курэнне, што ніякая перасадка ўжо станоўчага выніку ўсё адно не дасць – скура папросту не прыжывецца. Кідаць жа паскуднай звычкі Росцік нават і цяпер, калі гэтак неспадзявана дзеўбануў у копчык смажаны певень, не хоча. Ды, папраўдзе, каб раптам і захацеў, карысці ўжо з таго было б, відаць, у гэткім узросце (як-ніяк на другую палову шостага дзясятка чалавеку перакуліла) няшмат. Вось і клопат.

Ведамасны цагельнезаводскі дом, у якім жывуць Галузы, стаіць пры шырокім, зарослым кустоўем альхі ды арэшніку рове, уздоўж якога цягнецца аж да павароту на цэнтр мястэчка жывапісная паласа аздобленых маладым хвойнікам дзялянак-гародчыкаў. Акурат гэтым месцам тут яшчэ не так даўно была вёска Паршэлева. Пасля яе зліцця з ускрайкам мястэчка і пабудовы чатырох пяціпавярховікаў назва мясціны не змянілася. Гароды ж у выглядзе дзялянак з буданамі для захоўвання рыштунку часткова засталіся ва ўласнасці ранейшых уладальнікаў, часткова дасталіся жыльцам навабудаў.

Кожная з дзялянак адгароджаная ад суседніх невысокім хісткім плотам. Местачковае начальства ўжо даўно пагражала і платы, і самі гародчыкі знесці, каб не псавалі відарысу прымітыўнасцю ўладкавання. Але далей пагрозаў ісці чамусьці так і не наважылася. Загадала прыбраць найбольш нехлямяжыя буданы і на тым супакоілася. Надоўга ці на коратка супакоілася – невядома, хутчэй за ўсё да якога-небудзь загаду “зверху”.

Ля дома Галузаў заўсёды прахалодна. З-за ветру, што не-не ды і хлабысне ў двор хваляю сцюжы. У спякотны летні дзень, калі сонца паліць неміласэрна, што апошнім часам здараецца ўсё часцей і часцей, гэта і няблага. Затое ў

халодны дзень адно пільнуйся, каб не прасвідравала з завуголля скразняком да самых вантробаў.

Ды Росціка скразняк, па ўсім відаць, не палохае. Іначай, пэўна ж, не сядзеў бы тут, на ветрадуі, а даўно пашыўся б куды-небудзь у зацішнейшае месца. Балазе, зацішнейшых, абжытых выпівохамі закуткоў пры доме хапае. Як, зрэшты, і саміх выпівох, да шэрагу якіх і Росціка Галузу ад пэўнага часу не прылічыць не выпадае. Нават калі па вяртанні з анкадыспансера колькі дзён не выходзіў ён з кватэры, суседка Ядзя, што жыве на першым паверсе, бачыла, як каторы з Росцікавых сябрукоў прывязвае на доле да шпагаціны пластыкавае вядзерца з на палову ці на чвэрць адпітаю бутэлькаю, а затым Росцік жвавенька – і адкуль толькі спрыт бярэцца ў хворага чалавека – усцягвае тое вядзерца з пітвом на свой балкон.

– Ты, Жэнік?

Бацька кідае недакурак у бляшанку з-пад кавы, спрабуе з дапамогаю мыліцы падняцца з месца. Не дае, аднак, сабе рады, прывальваецца адрузлым целам да сцяны. Альтанка жаласна рыпіць рассохлымі дошкамі, керхае, хіліцца ўбок.

– Я, – кажа Жэня і глядзіць, як бацька безвынікова змагаецца з моцаю зямнога прыцягнення. Думае, што трэба было б, мабыць, памагчы яму, але з месца не рухаецца. Стаіць, як спаралізаваны, воддаль, моўчкі назірае за Росцікавымі пакутамі. Такое з ім у стасунках з бацькам апошнім часам здараецца не ўпершыню. Розум падказвае, што след было б, можа, і адпусціцца, пасобіць нямогламу чалавеку, а воля ўпарта даводзіць адваротнае, упіраецца рожкамі.

Нарэшце бацька падымаецца, абапіраючыся на мыліцу, сунецца да дзвярэй пад'езда.

– Ну, парабіў свае справы ў горадзе? – Росцікавы словы гулка разносяцца ў сцішэлым двары, рэхам аддаюцца пад шатамі старых таполяў з шэрымі плямамі мінулагодняе вапны на камлях.

– Парабіў, а як жа, – адказвае Жэня і адчыняе дзверы. Прапускае бацьку наперад і, як толькі той параўноўваецца з ім, раптам спатыкаецца.

Росцік падхоплівае яго пад руку, і далей яны ўжо, стараючыся як мага вышэй падымаць ногі ды раз-пораз наступаючы адзін аднаму абуткам на ступні, крочаць, спраўны малады і немалады нездаровы, да сходаў поруч.

Так ісці нязручна, але ні адзін, ні другі ўбок не адсоўваецца. І, на дзіва, здаецца Жэню, што гэткая вось, плячо да пляча, хадзьба для іх з бацькам – цяпер якраз тое, што трэба. Але ці толькі яму так здаецца, ці і насамрэч яно так ёсць – невядома. Пытацца ж у Росціка, ці не тое самае і ён адчувае ў адносінах да сына, зразумела, не выпадае.

## 2

Жэня – калека. Праўда, не ад нараджэння, у чым да нядаўняга яшчэ часу быў упэўнены, а з ласкі Росціка.

Пра тое, што менавіта праз бацьку стаў ён, позняе дзіця Алены і Росціка Галузаў, калекам, хлопец даведаўся два гады таму ад сваёй хроснай маці цёткі Весі. Жанчына прыехала здалёку пагасцяваць, пра завядзёнкі і сакрэты іхнія тутэйшыя нічога не ведала, вось і прагаварылася няўрокам у Жэневай прысутнасці. Агучыла, так бы мовіць, жорсткі факт. І хоць наўпрост калекам хрэсніка не назвала, а ўжыла слова больш эмацыйна нейтральнае – інвалід, усе дагэтулешнія намаганні крэўных прыхаваць ад хлопца горкую праўду пра

прычыну калецтва ды не даць ёй стаць упоперак адносінаў бацькі і сына ўмомант абрынуліся. А што яна горкая, гэткая праўда, – які можа тут быць сумнеў?

Зрэшты, сумнеў сумневу таксама розніца. Бо адна справа – пацярпець ад некага, хто наўмысна, знарок табе паскудзіць прыкрым учынкам. І зусім іншая, калі здзеелася прыкрасць несвядома, у выніку, напрыклад, звычайнага недагляду. А то і наогул нават – насуперак найлепшым (і такое ж нярэдка ў жыцці здараецца) намерам чалавека.

Акурат вось так, як тады ў нецвярозага Росціка атрымалася. Падкінуў нападпітку немаўля ўгору, каб пацешыць ды самому пацешыцца, а злавіць потым і не даў рады. Выслізнула дзіця з расслабленых спірытусам бацькавых далоняў ды і гахнула спінаю на дол. Добра яшчэ, маці на тую жудасную хвіліну побач аказалася, дык хоць крыху змякчыла ўдар падстаўленымі рукамі. А то і зусім невядома чым усё скончылася б.

А горбік, дарэчы, і не адразу пачаў на Жэневай спіне расці. Пакрысе, неяк незаўважна набіраў і набіраў моцы, аж пакуль к васьмі гадам не выявіўся выразна. Пару разоў бацькі вадзілі малога да доктара. Той памацаў спіну, пакруціў сяк і так ды накіраваў у вобласць да вядомага медсвяцілы. Але і там мала сталася з гледзінаў толку. Так і застаўся Жэня з горбікам. Не такім ужо вялікім, каб надта муляў вочы, а ўсё ж і не такім маленькім, каб наогул яго не заўважаць.

Хоць, што праўда, заўважалі часцей за ўсё хібу Жэневае знешнасці іншыя. То хтосьці з малечы вымкнецца ні з таго ні з сяго падчас гульні, тыцне пальцам у горб. То нехта з суседзяў няўрокам прагаворыцца ў запале гаманлівасці. Прагаворыцца і тут жа сумеецца, вінавата адвядзе пагляд убок.

І гэта вось апошняе, гэты выраз няёмкасці-вінаватасці ў вачах і на твары суразмоўцы, папраўдзе, заўсёды больш за ўсё Жэню і бянтэжыў. Бо, можа, таму, што іншым, без горбіка, ён сябе не памятаў і не ведаў, адмалку ўспрымаў уласнае калецтва спакойна, як належнае. Так, як успрымаюць, напрыклад, бародаўку на шчацэ ці які-небудзь іншы недахоп знешнасці. Маўляў, бародаўка і бародаўка, і хай сабе, такой бяды! Дык і на вінаватыя ўздыхі маці ды бацькі асабліва не зважаў. Ну, сталася так, што з'явіўся ён на свет адрозным ад іншых, гарбатым, – што тут зробіш?

Нават калі неспадзявана вылезла вонкі праўда аб прычыне ягонага калецтва з вуснаў цёткі Весі, не пераняўся ёю Жэня занадта, не памяняў стаўлення да Росціка. На імгненне кальнула голкаю ў глузды тая шорсткая праўда ды і змізарнела пад ціскам бацькавай зычлівасці і заўсёднай, як у параўнанні з суседзямі па доме, цвярозасці. І не проста цвярозасці, а, як маці нядаўна Жэню сказала, цвярозасці ў выніку свядомага, надыктаванага віною перад сынам зароку ніколі, ні пры якіх абставінах не браць у рот ні кроплі не тое што гарэлкі, але і віна ці піва. Курыць – так, канечне, хоць да страты памяці, а ўжо што датычыць выпіўкі – ні ў якім разе.

І вось з год таму, акурат гэткаю ж, як цяпер, пароючы, усё рэзка, неяк увадначас памянялася. Ці то натура прыроджанага выпівохі раптам зноў дала аб сабе знаць у Росціку ды ашчэрылася ікламі абыякавасці да ўсяго на свеце, апроч гарэлкі, ці то, можа, нешта іншае гэтак на яго паўплывала, але не вытрываў чалавек, вярнуўся да згубнае звычкі.

І так пакрысе ўцягнуўся Росцік за год, што Жэня агорваў у горадзе азы навукі ў каледжы сувязі, у п'янства, што ад ранейшага яго, цвяроза-рахманага, разважлівага чалавека, засталіся рожкі ды ножкі. Скончылася тым, што нават працу ў брыгадзе дарожнікаў-рамонтнікаў урэшце страціў

і вымушаны быў пайсці рабіць утылізатарам, то бок адвозчыкам падлы, на свінакомплекс паблізу мястэчка.

На свінакомплексе ж тым дапатопным, бадай, ад савецкіх часоў не мадэрнізаваным, – вольнаму воля. Хочаш – цвярозы з'яўляйся на працы, а хочаш – нападпітку, абы толькі не дазвання п'яны. Канечне, пабурчыць начальнік, пакасавурыцца, а як жа. Паўшчувае – ды на тым і канец выхаванню. Бо і ў самога пыса ў пуху, казённых падсвінкаў-вепрукоў гэтулькі саноўным дружбакам з ліку местачковага начальства ды сваякам па смешным кошце за гады свайго начальніцтва збаёдаў – не злічыць. Ды і, апроч таго, ведае дзядзька дакладна: які б ні з'явіўся работнік на працоўным месцы, канкурэнты за спінаю звальнення ягонага не чакаюць. Парадак жа тут, на гэтай "важнай" адвозчыцкай пасадзе, заўсёды адзін і той жа і ад ступені цвярозасці-захмялеласці чалавека не залежыць. Каня ўпрагаеш уранні ў аглоблі, папяросіну ў рот торкаеш і гайда наперад – цягаць у яму дохліну, што за ноч па загародках свінарніка назбіралася. Праца, канечне, брудная, няўдзячная, ды радуйся, што хоць гэткая ёсць.

## 3

Каледж сваіх першакурснікаў інтэрнатам не забяспечваў, і Жэня мусіў здымаць куток у прыватнай кватэры на першым паверсе шматпавярховіка. Кватэра была трохпакаёвая, але не сказаць каб надта для кватаравання зручная. Бо апроч гаспадароў і іх пяцігадовае дачці Каці жылі ў ёй яшчэ стрыечныя браты гаспадара і гаспадыні, абодва – здараецца ж такое супадзенне – Валеры. Аднаго з іх, старэйшага, хоць і выглядаў ён куды маладзей за цёзку, каб менш было блытаніны, звалі Валерыкам, другога – Валеркам.

Нежанатыя, дарма што абодвум ужо было пад трыццаць, мужчыны працавалі таксоўцамі ў прыватнай фірме і інтэлігентнасцю паводзінаў, у тым ліку ў прысутнасці малой пляменніцы, дзяўчынкі штосьці неяк наўздзіў, як для гэткага малога дзіцяці, хлуслівае, надта не пераймаліся. Прынамсі, прылюдна распавесці пры Каці пра тое, як, да прыкладу, надоечы нейкая нецвярозая кліентка ці то ад збытку ахвоты да любошчаў, ці то ў якасці прапановы аб аплаце праезду натураю ўчапілася катораму пяцярнёю ў прамежнасць, рэч была для іх звыклая і зусім не саромная.

Але галоўнаю рысаю дзецюкоў была іх нейкая зацятая пагардлівасць у стаўленні да людзей фізічнае працы. Выхадцы з простых сем'яў (бацькі аднаго і другога рабілі на невялікіх правінцыйных прадпрыемствах), абодва яны, як гэта нярэдка з людзьмі такога кшталту бывае, літаральна са скуры лушчыліся, абы толькі як-небудзь прадэманстраваць непрыманне варункаў ды ладу жыцця, лёсам дадзенага ім ад нараджэння асяродка.

Што хлопцы ўважаюць яго за істоту ніжэйшага гатунку, Жэня адчуў адразу. Дакладнае прычыны такога стаўлення да сябе ён, канечне ж, ведаць не мог. Але здагадваўся, што справа, відаць, у ягонай вучобе. Нехта з шэрагаў гэткага ж, як самі яны, так званага простага люду паманулся сягнуць вышэй за іншых – як такое перажыць? Адсюль і пакепліванні на адрас выскачкі, і розныя іншыя дробныя паскудствы. Глухая зайздрасць, якую звычайна чамусьці прыпісваюць жанчынам, але якою мужчыны грашаць не менш за жанчын і якая ў мужчын часам выяўляецца нават больш зацятай за жаночую, – яшчэ той рухавік людскіх учынкаў.

Не жадаючы лішне сябе кваліць, Жэня, як мог, стараўся на непрыязнасць Валеркі ды Валерыка не зважаць. А калі бацька пайшоў працаваць на свінакомплекс, ён, каб не даваць крыўдзіцелям глебы для новых кепікаў, нікому на кватэры пра гэта не сказаў. Не тое што так ужо саромеўся Жэня Росціка (хоць, папраўдзе, і гэтага крыху па першасці было), не, хутчэй за ўсё проста хацеў як мага надзейней адгарадзіцца ад з'едлівасці задзірлівых кватарантаў. Што аказалася вельмі няпроста, асабліва пасля таго, як раптам і яшчэ адна неспадзеўная падстава для разрастання варожасці дзецюкоў, дакладней аднаго з іх, з'явілася.

Пра тое, што паміж гаспадыняю і стрыечным братам яе мужа Валерыкам адносіны не толькі сваяцкія, Жэня даведаўся выпадкова. Як кажуць, заспеў вінаватых на гарачым. Вярнуўшыся аднаго разу неспадзеўна з аўтобуснага прыпынку па парасон у кватэру, дзе заставаліся пасля ягонага адыходу гаспадыня, Валерык і Каця, ціхенька ўвайшоў у прыхожую і ўбачыў абаіх дарослых праз калідор у прыадчыненым ванным пакоі. Гаспадыня, ці то ад нечаканасці, ці то, можа, падумаўшы, што Валерыка побач з ёю Жэня не паспеў усё-такі ўгледзець, замест таго, каб адразу выйсці ў калідор, пахапліва вызвалілася з абдоймаў мужчыны, замітусілася па пакойчыку. Затым войкнула, бязладна, як гэта робіць чалавек, калі не ведае, што далей яму рабіць, засмяялася, ірванула дзверы на сябе.

Так іх з Валерыкам тады зачыненымі ўдваіх у ванным пакоі Жэня і пакінуў. А калі надвячоркам вярнуўся з каледжа, жанчына зрабіла выгляд, што нічога асаблівага не здарылася. Седзячы з Кацяю пры экране тэлевізара, на хвіліну, як толькі ён увайшоў, наструнілася, бачна было, усім целам, але вельмі хутка зноў разняволілася.

Затое Валерык ад таго дня як звар'яцеў: то штохвіліны чапляўся да Жэні з-за рознае драбязы кшталту ступелага ножыка ў кухні, то знарок усаджваўся насупраць і пачынаў моўчкі даймаць злым, што не абяцаў нічога добрага, паглядам. Усё гэта было непрыемна, але ўжо зусім няшмат часу заставалася да экзаменаў, і Жэня вырашыў як-небудзь датрываць. Маўляў, здасць сесію, і тады ўжо можна будзе і пошукамі іншага жытла заняцца. Ды лёс распарадзіўся інакш.

Аднаго разу Жэня сядзеў на балконе, гартаў перад адыходам у каледж падручнік па фізіцы. Гаспадар з гаспадыняю толькі што адышлі на працу. У кватэры засталіся, апроч яго, Валерык (другі з таксоўцаў яшчэ ўвечары кудысьці з'ехаў) і Каця.

Была раніца. Сонечныя прамяні ляніва блукалі перад балконам у кусце шыпшынніку, што, у пару адцвіўшы ды дзе-нідзе завязаўшыся ўжо гарошынамі зеленавата-бурштынавых пладоў, высільваўся цяпер на клумбе ў адчайным памкненні скарыстацца спрыяльным надвор'ем, дабраць яшчэ хаця б крыху гонкасці і разгалістасці. Зрэдку птушкі падавалі галасы аднекуль з вышыні і тут жа, мабыць, з перасцярогі выдаць якому-небудзь драпежніку месцазнаходжанне гнязда з птушанятамі, змаўкалі, хаваліся ў спляценнях кляновых галінак наўзбоч дома.

Рыпнулі дзверы ў глыбіні кватэры, касы цень слізгануў па вакне, патануў у пыльнай прайміне паміж гардзінамі. Заняты справаю, Жэня, аднак, заўважыў праз адчыненыя дзверы, як Каця выйшла пад птушыны посвіст у калідор з пакоя мужчын, дзе ці то даглядаў апошні сон, ці то проста качаўся на ложку пасля ўчарашняе позняе гулянкі Валерык, падышла да балкона

і з парога, быццам загадзя да такое дзеі адмыслова кімсьці падрыхтаваная, гучна сказала:

– Дзядзечка Жэня, дзядзечка Жэня, а хочаш, пакажу табе нешта? Хо-о-чаш? Во, глядзі...

Сказала так і, загадкава ўсміхнуўшыся, шмарганула абедзвюма рукамі ўгору прыпол караценькай сваёй сукенкі. І тут жа, быццам у чаканні Валерыкавага адабрэння, азірнулася праз калідор на пакой кватарантаў.

Валерык, чутно было, варухнуўся на ложку, блазнавата рагатнуў. У калідор, аднак, не выйшаў, сціх гэтаксама ўвадначас, як і азваўся рогатам.

Каця пастаяла хвіліну ў дзвярах з задзёртым да пояса прыполам над худымі аголенымі сцёгнамі, затым весела падскочыла на месцы, пабегла да свайго пакоя. Прыпынілася на імгненне ля дзвярэй, апусціла зноў прыпол на калені, паказала Жэню язык і знікла з вачэй.

Жэня хацеў пайсці за малою следам, каб сказаць ёй, што гэтак, як яна толькі што зрабіла, рабіць нельга, але тут выйшаў у калідор Валерык і апярэдзіў яго. Што ён там казаў праз хвіліну Каці, Жэня не чуў, але сярдзітасць голасу дзецюка адзначыў з задавальненнем. Падумаў, што, можа, варта сказаць пра тое, што адбылося, гаспадыні, ды тут жа сябе і супакоіў: не, не трэба, яны сваякі, дык хай між сабою па-сваяцку і разбіраюцца.

Пра тое, якія наступствамі можа абярнуцца для яго гэткае неабачлівае рашэнне, ён, папраўдзе, на тую хвіліну не падумаў. І дарэмна, бо ўвечары грымнуў гром. І такі, што і цяпер яшчэ, праз два месяцы, тупым болем адзываецца ў Жэневых глуздах.

А шостай вярнулася з працы гаспадыня. Што яна абураецца менавіта яго паводзінамі, Жэня здагадаўся не адразу. І толькі калі яна, яшчэ больш узбуджаная яго маўчаннем, узвысіла голас і двойчы прамовіла гучна сярод іншага “вычварэнец гарбаты”, спахапіўся. Кінуўся да жанчыны, каб высветліць, што да чаго, але яна тлумачыць нічога не стала. Сказала толькі, што ўсё пра яго мярзотныя паводзіны з падгаворам Каці, каб яна звярталася да мужчын з прапановаю “нешта” паказаць, ведае, таму трываць яго ў кватэры больш намеру, канечне ж, не мае. А ў дадатак да ўсяго паабяцала паведаміць пра здарэнне адміністрацыі каледжа.

Непрыемнасць да такой ступені выбіла Жэню з каляіны, што ён літаральна скамянеў. Відавочная несправядлівасць абвінавачання і немагчымасць давесці сваю праўду, крыўда, злосць – усё неяк увадначас зблытася ў ягонай галаве ў трывожны, мулкі клубок, і не было нічога наперадзе, на што можна было б абаперціся ў імкненні яго пазбавіцца.

Асабліва ж зачапілі хлопца словы гаспадыні пра ягонае калецтва. Прамоўленыя так, быццам усё тое кепскае, што яна мела на ўвазе, нарадзілася ў ім разам з яго гарбом, яны так балюча разанулі ягоны слых, што на нейкі час засланілі сабою ўсё астатняе. Як ашпараны кіпенем выскачыў ён на двор, не памятаючы сябе ды не зважаючы на страхавітыя цені начнога двара, да знямогі, да поўнага знясілення блукаў па закутках мікрараёна.

На шчасце, неўзабаве пачыналася сесія, прысутнічаць у каледжы штодня не было патрэбы, і ён вырашыў пашукаць адхлання ў бацькоўскім доме. Загадзя дамовіўся са знаёмым старшакурснікам-земляком, што пажыве падчас здачы іспытаў колькі дзён “зайцам” у ягоным пакоі ў інтэрнаце, спакаваў у валізу драбнейшыя рэчы ды і вырушыў, папярэдзіўшы гаспадыню, што па рэшту майна прыедзе пазней, электрычкаю ў сваё мястэчка.

**4**

Дома ўсё было так, як і дагэтуль – не горш, але і не лепш. Маці бегла ўранні на цагельню, дзе рабіла прыёмшчыцай, увечары завіхалася ля пліты, у вольную хвіліну ці ў выхадны дзень корпалася ў гародзе. Бацька ж быццам канчаткова з ланцуга сарваўся са сваімі запоямі. Прапахлы свінымі шкурамі і крывёй, вяртаўся, пакінуўшы каня навязаным на пожні пры свінакомплексе, апоўначы на ровары дадому ледзь жывы ад выпітага, а назаўтра зноў, так і не адышоўшы як след ад учарашняга перапою, ехаў цягаць на падводзе да жывёльнага могільніка падлу.

Пра ўмовы, у якіх зарабляў Росцік сабе і сям'і на пражыццё, Жэня даведаўся, калі паехаў аднаго разу на комплекс падмяніць бацьку. У Росціка тады толькі-толькі ўзнікла праблема з нагою. Нічога яшчэ дакладна наконт хваробы не было вядома, і, каб памагчы захаваць бацьку працу, Жэня вырашыў колькі дзён, пакуль той будзе заставацца ў дыспансеры ды хадзіць па дактарах, за яго на ферме, балазе начальства комплексаўскае не супраць, парабіць.

Сказаць, што ўмовы тыя жахнулі яго, – нічога не сказаць. Пасля даволі чыстых інтэрнацкіх пакояў і вучэбных аўдыторый ды і не так ужо кепска дагледжаных вуліц роднага мястэчка тэрыторыя свінакомплекса, дзе ўсё ажно сочыцца прадуктамі штодзённае жыццядзейнасці соцень, тысяч вісклівых жывёлін, нагадвала сметнік з бруду і нечыстотаў. Асабліва ўразіў Жэню смурод – той самы, што, аднойчы ўеўшыся ў вопратку, здаецца, ніколі ўжо ад чалавека не адчэпіцца. Чым ты яго ні вышароўвай, якім дустам ні перабівай – застанецца, калі не навекі, дык, прынамсі, надоўга. Словам, дабротамі-выгодамі веку лагістыкі ды менеджарства тут, на забытым Богам і цывілізацыяй свінакомплексе, і не пахла.

Непрыемным падалося хлопцу і стаўленне тутэйшага начальства да падначаленых – нейкае паблажліва-непаважлівае, нават пагардлівае. Акурат жа такое, падумалася яму, як тое, што дэманстравалі ў адносінах да яго Валерык з Валеркам. Што да стомы, то пра яе і казаць не выпадала. За дзень працы Жэня так нацягаўся вепручыных тушаў, што ледзьве потым ад таго цягання адышоў. Ускуліць за раз каля паўсотні, а то і болей, кіло мяса, касцей і вантробаў на падводу, завезці, шторазу тармозячы на гразкай, разбітай коламі каляіне, у лес, згрузіць там, скінуць у яміну ды засыпаць зямлёю – не жартачкі...

Вярнуўшыся дахаты, ноч качаўся Жэня на ложку без сну, усё думаў пра тое, з чым сутыкнуўся на свінакомплексе. Пра тое, як шмат на свеце гідкага, нікчэмнага, паскуднага і як няпроста яго, гэтае гідкае-нікчэмнае ды паскуднае, пераадольваць так званаму простаму чалавеку, не абароненаму ў стасунках з паваротамі лёсу нічым, апроч нямодных уяўленняў аб прыстойнасці і пачуцця ўласнае годнасці. Якое пры гэткім вось жыццёвым уладкаванні і захаваць у сабе, і тым больш пераканаўча давесці іншым пра яго наяўнасць, вунь як няпроста.

А яшчэ шмат думаў Жэня ў тую ноч пра бацьку. Пра ягоную нечаканую хваробу, пра тое, як, мабыць, цяжка яму, чалавеку ад прыроды цягавітаму і майстравітаму ды да таго ж і даволі далікатнаму, цярпець здзекі і пагарду чужых, часам не так ужо нашмат больш адукаваных за яго, людзей. Думаў і ўпершыню апошнім часам Росціка не тое што шкадаваў, а спрабаваў зразумець, стаць хаця б на пядзю бліжэй да ўсяго, чым бацька жыве і дыхае.

І так паступова, заняты думкамі пра іншых людзей, не заўважыў нават, як стаў уласнае прыкрае, звязанае з Кацяю і Валерамі, забываць. І да такой ступені пераняўся нечаканымі новымі клопатамі, што, калі ў другой палове жніўня патэлефанавала з горада гаспадыня, каб тэрмінова, ну вось жа проста кроў з носу, прыязджаў па пакінутыя рэчы, адказаў згодаю без роздуму.

## 5

У кватэры горача. Маці як заўсёды завіхаецца ў кухні пры пліце, гатуе ежу на раніцу. Пра свае непрыемнасці ў горадзе Жэня ёй, каб лішне не напружваць, дагэтуль нічога не сказаў. Папраўдзе, збіраўся, але пазней, як ужо канчаткова астыне ад узруху і крыўды галава. Хаця распачынаць гаману на такую непрыемную тэму, што з маці, што з бацькам, яму і наогул не хацелася б. Цяпер жа, па здачы сесіі ды спатканні з гаспадыняй, калі, падобна, і асаблівае неабходнасці ў гэтым не засталося, – і пагатоў. Ну, скажа ён бацькам пра гэную гідкую падставу Валераў з Кацяю – і што будзе каму з таго карысці? Тым больш цяпер, калі ўсё, здаецца, пастала на свае месцы і ніякімі наступствамі справа болей не пагражае.

Гаспадыня сустрэла яго не проста без злосці, але наўздзіў неяк ветліва, з усмехам. Нават гарбаты з дарогі прапанавала. А абодвух Валераў, ледзь тыя памануліся распачаць размову пра старое, тут жа рашуча абсекла. Маўляў, вас, дзецюкі, справа не датычыць, то і не лезьце, без вас дамо рады расставіць кропкі над “і”.

Такая нечаканая гасціннасць і ветлівасць здзівілі Жэню. Ды здзіўленне трывала нядоўга – да хвіліны, як пачаў ён пад адыход на цягнік пакаваць у валізу сваё загадзя складзенае гаспадыняю ў куце канапы адзенне. Раз-пораз ловячы на сабе праніклівы пагляд жанчыны, крутнуўся сюды-туды ў пошуку новага, падоранага хроснаю маці да дня народзінаў джэмпера і не новай, але яшчэ зусім прыстойнай камізэлькі, і, не знайшоўшы ні таго, ні другога, і прычыну гаспадынінай ветлівасці, і паслухмянасці яе звычайна наравістых сваякоў-кватарантаў уваднача́с зразумеў.

Першым памкненнем ягоным было – абурыцца, узвысіць голас. Але, узгадаўшы нядаўна чытанае пра тое, як мала часам трэба, каб разбудзіць у чалавеку звера, і як, наадварот, неверагодна шмат яму часам трэба ў гэтым жыцці наогул, стрымаўся. Канечне, шкада было скрадзеных рэчаў, але што рэчы ў сітуацыі, калі гэтак во, як ён цяпер, залежыш ад людзей і калі любое пярэчанне ім, любое слова нязгоды можа толькі яшчэ больш раздзьмуць вогнішча непрыязнасці.

– Акурат у пару вярнуўся, – маці здымае з пліты рондаль з бульбаю, сцэджвае ў місу вар. – Парэчкі ў гародзе даспелі... Можна варэння зварыць, гаспадыні сваёй завязеш, участуеш.

– Гэта наўрад, – паспешліва адзываецца Жэня. – Мабыць, інтэрнат мне дадуць на пачатку новага семестра. Абяцаюць...

– Інтэрнат? Гэта добра, – кажа Алена і акідвае Росціка дакорлівым паглядам. Маўляў, бачыш, бацька, як хораша ўсё складваецца ў нас з сынам, а ты...

– Ну, я на двор, пакурыць, – кажа Росцік і падымаецца з месца. І, быццам прабачаючыся за засмечаныя друзам непаразуменняў папярэднія дні, вінавата, як малое дзіця, што неўпрыцям нашкодзіла, усміхаецца.

Выраз вінаватасці на ягоным твары так не пасуе да ўсёй знэнджанай праз хваробу Росцікавай паставы, што Жэню зноў, як і колькі хвілін таму

пры дзвярах у пад'езд, робіцца яго шкада. Ён похапліва чапляецца рукою за вушак дзвярэй, каб таксама падняцца ды памагчы бацьку пераржаргнуць праз парог, але спазняецца. Росцік борздзенька, нават і занадта хутка ды спрытна, як для хворага чалавека, перасоўвае з дапамогаю мыліцы нагу ў калідор, шкандыбае да сходаў.

– Ага, на ветрадуй, мажджэр праветрыць, – абыякава і глуха, быццам дзеля таго толькі, каб словы тут жа і патанулі ў змрочнай пашчы пад'езда, удакладняе і сунецца на дол.

– Плашч, можа, накінь на плечы, – кажа наўздагон яму маці. Здымае з вешака плашч, не пэўная, ці то аддаць яго Жэню, ці то самой бегчы следам за мужам, топчацца ля парога.

Жэня пераймае з рук маці вопратку, робіць крок да сходаў. Шурпатая тканіна плашча халодзіць яму руку, то, трапіўшы ў пук прамянёў, блісне гарэзліва парцалянам гузікаў, то, наадварот, сцьмянее да часу ў чаканні зручнага моманту зноў вымкнуцца на свет божы размаітасцю адценняў.

Раптам святло гасне. Не так гасне, як звычайна, калі перагарае лямпачка ці хібяць пробкі альбо праводка, не рэзка і ўвадначас, а неяк спакваля, памалу, гэтак, як знікае на экране тэлевізара апошні кадр кінастужкі.

Твары гаспадыні кватэры, дзяўчынкі Каці і двух Валераў вынырваюць з нетраў Жэневай памяці, ятраць душу холадам чужасці, ад згадкі пра якую, здаецца, вось толькі паддайся ёй на хвіліну, ніколі ўжо не дасі рады пазбавіцца.

Ён страсае з сябе здранцвенне, бяжыць з плашчом цераз руку па прыступках да ўвахода ў пад'езд.

На дварэ не светла, але ў параўнанні з цемраю, што пануе ў пад'ездзе, значна святлей. Акраец месяца спачатку баязліва, затым усё смялей ды смялей вызірае з-за воблака, асвятляе таполі пры доме, бацьку ў альтанцы, мыліцу, зараснікі вольхі наўзбоч рова.

Росцік сядзіць у альтанцы, курыць. Пыхкае цыгарэтаю, але не нервова, не похапліва, як гадзіну таму, а неяк зусім іначай – засяроджана, спакойна. Быццам смакуе кожную зацяжку ды знарок як найдалей адцягвае хвіліну сканчэння сумнеўнае насалоды.

Месяц яшчэ некалькі хвілін вісіць нерухома па-над Паршэлевам, над дрэвамі прысадаў, над дзялянкамі гародаў, што, ухутаныя понізу шэранню, нагадваюць зводдалеку пухнатыя, маладыя стажкі сена. Затым спахопліваецца, зухавата церануўшыся бокам аб край аблачыны, плыве далей па небе.

Жэня садзіцца на лаву пад акном насупраць альтанкі, хукае ў паветра. Пары выходзіць з рота вобмаль – значыць, не так ужо на дварэ і сцюдзёна. Прынамсі, не да такой ступені, каб адразу ж стрымгалоў падхопліваццa з месца ды кідацца ратаваць бацьку ад холаду...

– Нешта зімнавата, халера, – быццам здагадваючыся, пра што думае сын, пацепвае плячыма Росцік і тушыць цыгарэту аб край бляшанкі. – Дай, ты, Жэнік, плашч, а то ж чыста скалееш тутака... Хоць крыху, можа, сагрэе...

Жэня падымаецца з лавы, ідзе да бацькі.

Месяц куляецца ў прагалак паміж хмарамі, і яго папялістае перадсвітахавае святло чарговы раз саступае месца цемры. Не такой густой і не такой працяглай, як тая, што колькі хвілін таму запанавала, калі раптам пагасла святло, у кватэры, але Жэню, каб набрацца рашучасці дзеля доўгачаканае размовы з бацькам, і яе дастаткова.



Мікола Кандратаў



...І кожны дзень – суфлёр апошняй дзеі,
і кожны верш – нібыта стрэл апошні...

# На Божай далані

* * *

Свой цень у кожнае істоты –
ці чалавек яна, ці звер.
Як у пчалы – свой мёд і соты,
свой у паэта рытм і верш.

Якія тэмы не для верша?
Не існуе падобных тэм.
Нож творцы лішняе адрэжа,
сталь слова выплавіць мартэн.

І свет разгубіцца, магчыма,
ад немагчымага радка –
пакажа, быццам цэзар Рыма,
вялікі палец у адказ.

Але пра ўсё, што не прывыкла
душа прылюдна прамаўляць –

што непрывабна, нават прыкра –
павінен нехта ўсё ж сказаць.

* * *

Як адчуваю, так пішу –
замнога праўды не бывае, –
пераступаючы мяжу,
што нашы сэрцы падзяляе.

Гарачы сонечны прамень,
струмень халоднае крыніцы
гартуюць мой нясмелы дзень,
зачараваны таямніцай.

Не прысягаю, што зраблю.
Сумую, радую, трываю...
І ненавідзячы, – люблю.
Так і пішу, як адчуваю.

* * *

*Вадзіму Клімовічу*

Не стае для душы тваіх песен, Вадзім!
Хоць прыгожых і вартых нямала,
іх паслухаць – не трэба далёка хадзіць.
Толькі сэрца твае прыгадала.

Вельмі рэдка душа адчувае душу,
хай не месца тут словам банальным.
Ды чамусьці я ўсё ж тваю песню прашу,
не знікаць салаўём развітальным.

Можна мець светлы розум і жыць – не тужыць,
можна быць працавітым і дужым.
Ды ў заможных і бедных – агульны ранжыр:
бескарысна мы таленту служым.

Служым шчырай уласнай душою, Вадзім,
што яднае наш розум і сэрца.
І, магчыма, мы душамі ў неба глядзім...
Заспявай – хай душа адгукнецца!

* * *

У свеце магчымасцяў, мар і памкненняў
смерць – жорсткі адказ на жыццё, як пытанне.

І часам багатаму плёнам натхнення
уласны сыход ёсць умовай прызнання.

Нялёгка сябе быць удзячным прымусіць
усім, хто твой лёс выпрабоўваў экстрымам.
Дай Бог незаўважна сысці...
А камусьці,
сыходзячы, хочацца грукнуць дзвярыма.

* * *

*На развітанне спадара Міхася*

Белы колер маёй галавы
хай пяройдзе на гэтыя кветкі смела.
На Беларусі ставала крыві –
не стае адно гваздзікоў белых.

Незаўважна прыспеў развітальны час:
сумна хілім галовы, крыжуем пагляды.
Ён, напэўна, чуе і бачыць нас
і безумоўна кожнаму рады.

Сціснуць кола вакол – не вярнуць назад –
ці калі развінуцца сэрцамі ўшыркі нам...
Сонца з хмараў прабілася, як сляза
Пана Бога праз лёс Міхася Шавыркіна.

## *МАМАНТЫ*

Яшчэ нараджаюцца мамантЫ
з нябачнай духоўнай сілаю.
Ды свет, у якім яна маюцца,
становіцца ім магілаю.

Набыткі іх не вітаюцца
ні Ословамі, ні Парыжамі.
І лёс атуляе нянавісцю
іх непадабенства да бліжняга.

Мо бліжняму некалі ў вечнасці
свая слепата прабачыцца,
калі з вялікай адлегласці
сапраўдная веліч убачыцца.

А новыя пітэкантрапы
глыбокія ямы вырылі...

Свет звыкла палюе на мамантаў,
хоць лічыць, што маманты вымерлі.

### *РОДНЫ КУТ*

Калі надарыцца натхненне
і сэрца вызваліць ад пут,
як дрэва – вузкае карэнне,
яго сілкуе родны кут.

І хай паздзекуецца нехта,
што мы – з «сялянскага ярма».
Як спраўдзіць грамадзянства свету,
калі свайго кутка няма?

Ён быў, але паспеў забыцца...
Цяпер, брат, брэшаш? Ну, брашы –
бо з вышыні тваіх амбіцый
усе мы толькі мурашы.

* * *

Сніцца такое ці мроіцца,
нават не выпіў калі?
«Робаты, робаты, робаты»
ходзяць па нашай зямлі!

Гаспадарамі ці служкамі
чуюцца ў плыні жывой –
слухаюць, слухаюць, слухаюць
гукі з кішэні сваёй.

Светлай хвілінай ці сумнаю,
здольныя на крэатыў,
думаюць мо ці не думаюць
пад прымітыўны матыў.

Сэрцы іх – птушкі між рэбрамі,
не адпаведныя дню.
Колькі ж ім часу спатрэбіцца,
каб зразумець цішыню?..

* * *

Змаганне бачнае ва ўсім:
любоў і боль, агонь і дым,

гульня і гнеў, пагляд і гук,
паганскі страх і вір навук...
Радок без слоў і слоўны смерч:
двухкроп’е – шчыт,
працяжнік – меч.

## МАНАЛОГ ПАЭТА

*Мы да скону на гэтай вайне,*
*А астатнія быццам паснулі.*
*Нас разлічаць раней ці пазней,*
*Можа быць, у патыліцу – куляй.*

**Ігар Кананoвіч**

Яшчэ пакуль адстрэльваюся вершам
у свеце непрыхільным і зайздросным.
Ды кожны стрэл, на жаль, усё радзейшы –
напэўна, хутка скончацца патроны.

І ворагі, што з выгляду сябрамі
для вока неразважнага здаюцца,
калі ўпаду я, са смяртэльнай раны
крыві маёй удосталь мо нап’юцца.

Іх палюбіць ужо няма надзеі.
Таму душы тужліва і трывожна...
І кожны дзень – суфлёр апошняй дзеі,
і кожны верш – нібыта стрэл апошні.

## ПАМЯЦІ ІГАРА КАНАНОВІЧА

Гляджу ў зямлю вінавата,
брыду па цёпламу следу...
Я страціў малодшага брата,
якога зусім не ведаў.

Зазнаў ён і боль паразаў,
і радасць агню без дыму.
Хоць мы не былі з ім разам,
нас грэла імя Максіма.

Ён браў душой, а не горлам,
і быў за мяне лепшым.
Застаўся ягоны голас
і геніяльныя вершы.

Застаўся Паэтам ад Бога,
на «неразуменні» распятым...
Прабачце, шаноўныя босы,
не буду псаваць вам Каляды!

* * *

*Нясу гэты боль, як шчаслівую споведзь.*

**Наста Кудасава**

Дай мне болю свайго,
каб табе стала крышку лягчэй.
У краіну снягоў
хай вясна зазірне ненадоўга.
Перапёлчыным сумам
там поўняцца сотні вачэй
у паселішчах шумных
з часоў каралеўства Міндоўга.

Хто адкажа за нас –
ці смяемся, ці плачам часцей?
Толькі ў вершах уласных
гайдаецца лёгкае рэха.
Невыносныя дні,
калі сэрцу бывае няўсцерп.
Хіба могуць яны
выпраўляць радаслоўнае дрэва?

Мы, нібы каласы,
нахіляемся аж да зямлі.
Ну, а напрыканцы
Бог аддзеліць ад зерня мякіну.
А пакуль што, цяпер,
варта кожнае сэрца спяліць –
лепш самому сцярпець,
чым у спадчыну дзецям пакінуць.

Нехта ў шчасці пляцецца,
а нехта ідзе па нажы –
дапамогі то ў смерці папросіць,
то літасці ў Бога...
Ды калі табе ў болю
нясцерпна захочацца жыць,
гэта стане
найбольшай
тваёй перамогай.

* * *

«На памяць моўчкі завучу
зімы фальшывыя вабноты.
Я перажыць яе хачу,
каб паглядзець, што будзе потым.

Я не жадаю Каем быць
у Каралеўстве Снежных Пляцаў,
дзе быццам гурбы, як гарбы,
растуць лядовыя палацы,

дзе вецер сіверны заўжды
цішэе толькі ў час адлігі,
і зноў замерзлыя сляды
чытаюць людзі, быццам кнігі,

дзе ў навагодніх рандэву –
дзядуля, лысы і вусаты...
Ды я яго перажыву...» –
пісаў за краты хлопчык тату.

## *ДЗЕНЬ СВЯТОГА МІКОЛЫ*

*Аксане*

*...ты адна за ўсё адказная,
што гукнулася ў радкі.*

**М. Асееў**

Роўна дзевяць гадоў таму
страх нібы падарваўся на міне,
быццам трапілі мы ў вясну
ці прысніліся ў новай краіне.

Па праспекце цякла рака,
і луналі сцягі і ўсмешкі.
І няслося “Жыве!” ў адказ,
памнажаючы радасць бязмежна.

А на Плошчы – прыцемкаў сінь,
і рака ўлівалася ў морак.
Я пазнаў твае валасы
светлым німбам над людным морам.

Да цябе памкнуўся бліжэй,
і далей мы гайдаліся разам –
у чаканні важных падзей
па-над лёсам і па-за часам...

Ды аднекуль насунуўся шторм.
Пачалося жахлівае танга.
На жывых, як лавіна з гор,
македонская йшла фаланга –
хоць за спінамі іх нідзе
не было відаць Аляксандра...

Кроў, удары, уцёкі людзей –
ты магла б прадказаць, Касандра?..

У жаданні дачаснай вясны
ледзьве вязнямі мы не сталі...
Я пазнаў твае валасы,
і яны мяне ўратавалі.

### КАЛЯ РЭСТАРАНА «СВОИ»

*Як карабель назавеш – так ён і паплыве.*

«Свои» – не тое, што «свае».
Мы здаўна былі чужымі –
толькі ў хворай галаве
з імі мы заўжды дружылі.

Колькі ўжо зямлю дзядоў
прыхадні хрысцілі крыўдай!
Пакаленням тых гадоў
праўда іхняя абрыдла...

Сумны вынік, у якім
столькі гора спрасавана:
наша мова два вякі
«языком» акупавана.

Як куродым доўгіх зім
не замазвай белай сажай,
у «своих» найперш пры ўсім
ясна чуецца мне «наши».

Хто гуртуецца ў «Свои»,
робіцца чужым народам.
Дзеліць нас рака крыві,
што пакуль пакрыта лёдам.

* * *

Я – сын краіны, што баліць, як рана,
што здратавана і закратавана.

Я словам спакваля пілую краты...
Няхай мяне палічаць за вар’ята.

## *НОВЫ ЧАС*

Новы час зноў вядзе рэй,
вылучае сваіх пасланцоў.
І становіцца ўсё шырэй
абалонка зямная са слоў.

Атмасферы нябачнай рух
дорыць сонца альбо дажджы,
то туман запаўзе ў нару,
што прытулкам нечай душы.

Паглынаюць патопы зямлю,
спусташаюць пажараў агні –
і былую праўду сваю
свет губляе ў задымленым дні.

Ды аднойчы развеецца дым,
хоць да дзён тых не ўсім даплыць.
Можна «быць» у часе сваім,
але ў іншым часе «не быць».

Можна розных вітаць багоў
з паэтычных замкавых сцэн...
мроіць вершы для тых, каго
не паспеў сапсаваць постмадэрн.

* * *

Чым болей слоў, тым менш дакладны сэнс,
тым выявіць цяжэй шматграннасць свету,
бо словы абмяжоўваюць, як лес,
бясконцасць з’яў, істотаў і прадметаў,
бясспрэчнасць ісцін вечнасці і час,
якія нават думкай не ахопіць
недасканалы розум, што не раз
даводзіў ганарлівых да агоній –
няўдалай спробай класіфікаваць
смяротныя і велічныя рэчы,
не заслужыўшы прыгубіць адвар
з рук мудрасцю напоўненай Пустэчы.



Павал Касяровіч



...адзіная магчымасць супрацьстаяць знішчэнню нацыі – гэта размаўляць па-беларуску...

# Соль

***Тры апавяданні***

## Апошнія беларусы

Умовай запрашэння на канцэрт былі як мага меншыя выдаткі на дарогу. Таму спачатку яны даехалі на дызелі да Мінска, а потым у агульным вагоне да Віцебска, дзе перасаджваліся на плацкарт “Сімферопаль – Санкт-Пецярбург”. Начлег арганізатары абяцалі на нейкім “флэце” на Васільеўскім востраве, а харчавацца хлопцы ўжо мусілі самі, для чаго і набілі ролтанам поўныя заплечнікі. Кіпень налівалі ў правадніцаў бясплатна і хутка наеліся вермішэлі да млоснасці. А наперадзе чакала некалькі гадзінаў перасадкі і цэлая ноч да Піцера.

Антось успомніў, як яго сябрукі паехалі на “Басовішча” з цэлафанавым пакетам ячнай кашы, такім, што можна было цэлае вадасховішча рыбы накарміць,

і харчаваліся там усёй "тусай" тры дні. Толькі адзін мінус – выпэцкаліся ўшчэнт.

У Антосевым нататнічку меўся нумар тэлефона адной віцебскай "нефармалкі", і ён адразу з вакзала патэлефанаваў і паехаў да яе, каб прыгатаваць якога сняданку. Толькі вырашыў з кашай не марочыцца і купіў па дарозе ў вулічнай гандлярکі вядро падмерзлай бульбы.

На вакзальную плошчу Антось прымчаўся ўжо з вялізным чорным пакетам варанай бульбы, з якога па марозным сакавіцкім паветры цягнуўся доўгі шлейф духмянай белай пары.

У вагоне яны пакідалі чахлы з гітарамі на верхнія паліцы, плюхнулі пакет на столік і, апякаючы пальцы аб лушпіны, пачалі з галадухі есці.

Збоку ўсё выглядала даволі арыгінальна. Суседзі па вагоне, у асноўным украінцы-гастарбайтары, адразу зразумелі – перад імі сапраўдныя беларусы. Да ўсяго хлопцы размаўлялі на роднай мове, што на Беларусі здаралася зрэдку. Адзін з украінцаў расчуліўся ад такой карціны і спрэзентаваў хлопцам невялічкі шматок сала, які Антось з задавальненнем з'еў, бо астатнія хлопцы вызнавалі вегетарыянства.

Антось не быў заўсёдным удзельнікам гурта. Рытм-гітарыст перад самым ад'ездам патрапіў п'яным на трое "сутак", і Антось па-таварыску вызваўся яго замяніць. Сам ён ужо болей за год быў у "завязцы" і да ўсяго сыходзіўся з хлопцамі ў сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Дагэтуль у 80-х рок-гурты ў іх горадзе спявалі ў асноўным па-ангельску, і калі гарвыканкам патрабаваў тэксты песень на "цэнзуру", то прыносіліся вольныя падрадкоўнікі "пра вясну, каханне і матацыклы". У 90-х гурты паступова заспявалі па-руску, але таксама на нейтральныя тэмы. Гэты ж гурт адным з першых пачаў выконваць песні на роднай мове. Вакаліст спалучаў у сваёй асобе боль за родную старонку Францішка Багушэвіча і эпатажнасць Джэла Біяфры з "Dead Kennedys", тэксты з ідэолагамі прынцыпова не ўзгадняў, і таму гурт ніколі не выступаў на афіцыйных пляцоўках, а выключна на нелегальных канцэртах у гаражах.

У Санкт-Пецярбург іх запрасілі такія ж нонкарфамісты.

З дзяцінства і да сярэдняй школы Антось ніяк не сутыкаўся з беларускай мовай. Толькі бацька час ад часу ўжываў нейкія словы з вясковай гаворкі, што выклікала ў маленькага Антосіка прыступы смеху: "Ха-ха-ха, какие смешные слова – вавёрка, шчупак, яліна".

У Антосевым класе вучыўся хлопчык, які таксама размаўляў павясковаму. І настаўніца крычала на яго са злосцю: "Говори на русском языке, колхозник!" Таму дзеці падсвядома разумелі, што ўсе праяўленні тутэйшасці адмоўныя.

Бацька Антосіка служыў вайскоўцам, і калі з пераходам у сярэднюю школу паўстала неабходнасць панізіць школьную нагрузку для хваравітага хлопчыка, гэта дазволіла пазбегнуць вывучэння самага непатрэбнага прадмета – беларускай мовы.

Улюбёным аўтарам Антосіка быў Фенімор Купер, вядомую пенталогію пра Натаніэля Бампа і яго сябра Чынгачгука хлопчык перачытаў некалькі разоў, і ў яго склалася ўражанне, што беларусы і ёсць тыя індзейцы – чужынцы на сваёй зямлі, як потым праз дзясятак гадоў пачуе ўжо дарослы і свядомы маладзён Антось у песні гурта "Deviation".

Неўзабаве жыццё грамадства змянілася – Беларусь атрымала незалеж-

насць. Пачаўся працэс вяртання да гістарычных каранёў. У навучальных установах тэрмінова ўводзіліся спецкурсы па беларускай гісторыі. З нябыту паўставала ўся векавая мінуўшчына часоў ВКЛ. Людзі даведваліся пра імёны вялікіх князёў: Гедыміна, Альгерда, Вітаўта.

Беларуская мова стала дзяржаўнай.

Цяпер, азіраючыся назад праз некалькі дзесяцігоддзяў, можна смела сказаць, што тое была сапраўдная вясна Адраджэння.

Нават хлопцы-“старшакі” за драўляным столікам пад Антосевым пад’ездам спявалі ноччу нападпітку хіт “Мроі”: ”Глыток віна і луста хлеба – мая надзённая патрэба!”

Але наступіў сумны 94 год, і Беларушчыне хутка наступілі на горла. Пачаўся новы перыяд айчыннай гісторыі – змаганне за Волю ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці.

І Антось прыйшоў да высновы, што адзіная магчымасць супрацьстаяць знішчэнню нацыі – гэта размаўляць па-беларуску.

Дзеля гэтага ён заняўся самаадукацыяй. Чытаў мастацкую літаратуру, вывучаў слоўнікі, прапісваў падручнікі – і аднойчы перайшоў “на мову”.

Беларускамоўнасць суправаджалася канфліктамі, і не заўсёды мірнымі. За ім адразу замацавалася кляймо “бэнээфаўца”, хаця на ніводным паседжанні гэтай партыі ён не прысутнічаў. Горш за ўсё складваліся стасункі з мясцовымі гопнікамі, якія ставіліся да мовы з непрыхаванай варожасцю і агрэсіяй. Прамоўленае па-беларуску слова магло выклікаць крывавае збіццё, таму часам даводзілася сціснуць зубы і маўчаць.

Паступова Антось пазнаёміўся з такімі ж, як ён, свядомымі маладзёнамі і апынуўся сярод аднадумцаў. Большасць з іх удзельнічала ў рок-гуртах.

У Санкт-Пецярбурзе хлопцы доўга не затрымліваліся і на наступны дзень пасля канцэрта сабраліся на Беларусь.

Па шляху на вакзал наведалі біржу пратэрмінаваных тавараў. Выглядала гэта наступным чынам. На Фантанцы перад уваходам у арку, куды невялічкімі групоўкамі заходзілі людзі, стаяла машына міліцыі, толькі незразумела – у якасці служкаў закону ці “рэкету”.

Далей праз некалькі падваротняў на пляцоўцы паміж дамоў месціўся металёвы ангар, у якім на драўляных паддонах гурбамі ляжалі харчовыя прадукты і стаялі алкагольныя напоі.

Усё гэта прадавалася за даволі мізэрныя грошы, але хлопцы накупілі ўсё таго ж ролтану...

У метро адбыўся смешны выпадак. Калі хлопцы размаўлялі паміж сабой па-беларуску, Антось пачуў за спінай:

– Это кто такие?

– Болгары!

У цягніку добразычлівыя суседзі хлопцам ужо не сустрэліся. Стомленыя ад шматмесячнай працы вахтавікі і зухаватыя гандляры-“чаўночнікі” падазрона ўзіраліся ў юнакоў з гітарамі. Маршрут абслугоўваўся расійскай чыгункай, і малады недасведчаны праваднік як убачыў музыкаў з нязвыклай гаворкай – адразу выклікаў па ўнутранай сувязі міліцыянера суправаджэння. Той прыйшоў і ўважліва праверыў пашпарты, але нічога крымінальнага не знайшоў.

Хлопцы занялі цэлую плацкартную нішу – якраз на ўвесь гурт.

На бакавых месцах ля вакна паселі дзве цёткі – высокая хударлявая са светлымі валасамі і нізенькая з кароткай стрыжкай.

Цягнік залязгатаў коламі і рушыў.

Юнакі паснедалі ролтанам, і неўзабаве басіст з бубначом заснулі на верхніх паліцах, а Антось з вакалістам паціху гаманілі знізу.

Жанчыны расклалі на століку ежу, адкаркавалі пляшку гарэлкі і пачалі "абмываць" удалую паездку.

Прайшла гадзіна ці дзве, за вокнамі сцямнела. Пасажыры ў асноўным спалі. Хлопцы працягвалі перашэптвацца.

Цёткі дасталі другую бутэльку, і маленькая хутка апусціла галаў на грудзі, а высокая ўсё варожа паглядвала на Антося.

Колы вагонаў мірна грукацелі ў сваім нетаропкім рытме. Агні прыдарожных слупоў мільгалі ў парывістым снезе.

Нечакана цётка падскочыла да Антося і закрычала на ўвесь вагон:

– Да задолбал ты со своим белорусским языком!

Хлопец ажно знямеў ад нечаканасці.

– В Белоруссии давно никто не говорит на белорусском языке. Последние белорусы отыскались! Ненавижу всех вас свядомых!

На лямант прыбег праваднік.

Але жанчына не супакойвалася:

– Родную мову им подавай, "адраджэнцы" хреновые! Да чтобы вы посдыхали!

І праваднік зноў выклікаў міліцыянера суправаджэння.

– Што, жабракі тыя нешта ўчвэрылі? – незадаволена запытаўся той.

– Не, – збянтэжана адказаў праваднік, – але без іх не абышлося!

Раззлаваны супрацоўнік міліцыі прыйшоў, хістаючыся ў тамбурах, праз увесь цягнік і прыгразіў высадзіць жанчыну з цягніка, але тая, як убачыла яго – увогуле раз'юшылася і перайшла на мацюкі:

– Ах, ты, мусор поганый, и ты с ними заодно! – а потым схапіла бутэльку і шпульнула ёй проста ў лоб міліцыянеру, які ледзьве паспеў адвярнуцца.

На наступнай станцыі цягнік ужо чакала запарушаная снегам машына Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай Федэрацыі. Па слізкіх абледзянелых ходніках п'яную цётку без рэчаў сілком выцягнулі на перон і загрузілі ў спецыяльны адсек аўтамабіля. А яе непрытомную сяброўку пакінулі спаць далей.

Хутка ўсе пасажыры паснулі, адзін толькі Антось доўга змагаўся са сном. Ад недарэчнага канфлікту было прыкра, і асабліва перад украінцамі няёмка.

У заснежаны Віцебск цягнік прыбыў а чацвёртай гадзіне раніцы. Хлопцы саскочылі на перон і, хутаючы твары ў капюшоны, закурылі. Моцны сцюдзёны вецер скідваў заплечнікі і вырываў з рук гітары.

– Радзіма! – узнёсла прамовіў Антось.

У агромністай зале чакання было пуста, толькі некалькі бяздомных дрыжэлі ад холаду пад батарэямі ўздоўж сцяны. Хлопцы селі непадалёк у крэслы.

Да перасадкі заставалася некалькі гадзінаў, але само знаходжанне на роднай зямлі ўжо натхняла.

Аднак праз некаторы час стала здавацца, што ацяпленне ў зале чакання ўвогуле адключанае.

Бубнач, каб неяк сагрэцца, пачаў хадзіць па зале, выстукваючы кійкамі рытм у паветры, а потым спыніўся насупраць зачыненага гандлёвага ларка і загрукатаў "польку" па прылаўку.

Раптоўна акенца адчынілася. Адтуль высунулася заспаная гандлярка і гучна выялася на чыстай рускай мове:

– По голове себе постучи, придурок!

Бубнач спалохана адскочыў.

– Ветлівая сустрэча з Радзімай... – іранічна расчуліўся вакаліст.

– Толькі паланэза Агінскага не стае... – сумна падвынікаваў Антось.

А восьмай раніцы ў раённым аддзяленні міліцыі горада Вялікія Лукі змянілася дзяжурная змена, і ў халодным калідоры сутарэння пачуліся гулкія крокі. Жанчыны ў камеры папярэдняга затрымання схамянуліся. Заляскала засаўка, і цяжкія металічныя дзверы адчыніліся. У смуродны бетонны пакой патыхнула адносна свежым паветрам. На парозе спыніўся міліцыянер, уважліва агледзеў затрыманых. Ноччу адну з іх высадзілі з цягніка на станцыі Новасакольнікі за п'яны дэбош. Цяпер яе чакаў адміністратыўны арышт і самастойнае вяртанне дамоў без грошай на білет:

– Кто из вас белоруска?

– Я – белоруска! – адазвалася ў куце хударлявая светлавалосая кабета з пахмельным тварам і з надзеяй падскочыла да дзяжурнага, адчуваючы, што яе прыналежнасць да маладой незалежнай краіны неяк паспрыяе яе выратаванню.

– На выход! – сурова прамовіў міліцыянер і павёў яе на допыт у кабінет да начальніка.

Жанчына цяжка ўздымалася па лесвіцы, і моцны боль працінаў яе голаў ад кожнага кроку. Яна ўшчэнт не помніла мінулую ноч, але разумела, што ўчварыла нешта ганебнае, і сэрца яе калацілася:

– О, Божа, – шаптала яна, – калі Ты існуеш, хутчэй вярні мяне на маю любую Радзіму – Беларусь, і дай пачуць хоць адно слова на матчынай роднай мове!

## Рэха вайны

Яны не былі прафесійнымі кінолагамі, а проста любілі сабак. Іх так і называлі – сабачнікі. У вольны час яны збіраліся і гулялі са сваімі гадаванцамі. Толькі паміж шматпавярховікаў моцна не нагуляешся: і пляцовак для выгулу няма, і дзеці вакол, і сабакі не дэкаратыўныя – аўчаркі.

Мода на пароды сабак, як і на ўсё ў нашым жыцці, мяняецца. Гэта цяпер маладзёны заводзяць "стафаў" і "пітбуляў", хто паспакайней і людзі сталага ўзросту – лабрадораў і хаскі; а ў той час на вуліцах панавалі догі і даберманы, фокс- і эрдэльтэр'еры, баксёры і колі, сенбернары ну і, канечне, нямецкія ці ўсходнееўрапейскія аўчаркі. Уся савецкая рэчаіснаць спрыяла гэтаму – аўчаркі служылі ў войску і міліцыі, пра іх здымалі кінафільмы.

У горадзе існавалі два афіцыйныя месцы для выгулу сабак: за кальцом перад абласной бальніцай і на ўзгорку над Нёмнам воддаль ад маста побач з прыватным сектарам. Але ўсё роўна нейкія мінакі імкнуліся скараціць свой шлях праз пляцоўку, ці падлеткі праязджалі на роварах, і канфліктаў заўсёды хапала, ды і цесна ўсім разам на маленькім кавалку зямлі. Таму збіраліся сабачнікі сяброўскімі кампаніямі і з'язджалі на выхадныя кудынебудзь за горад, дзе паспакайней і людзей няма.

Гэтыя трое аблюбавалі лес непадалёку ад літоўскай мяжы за возерам, кіламетраў 35-40 ад горада – мясціны глухія, без вёсак паблізу. Яны выязджалі з вечара пятніцы, разбівалі паходны лагер і дрэсіравалі сваіх гадаванцаў.

Нямецкія аўчаркі сабакі кемлівыя, базавыя каманды кшталту "сядзець"-"ляжаць" засвойвалі хутка, таму асноўнай мэтай такіх выездаў была дрэсіроўка на абарону і нападзенне. Хлопцы бралі з сабой адмысловае адзенне: ватныя курткі з нагавіцамі, кірзавыя боты, валёнкі; падзяляліся, і нехта з іх выконваў ролю злачынцы ці ахвяры.

Дзімас служыў на памежнай заставе і два гады адхадзіў у каравуле з сабакам, Колька палову школы наведваў кружок "Юных кінолагаў" пры Палацы піянераў; як патрапіў у гэтую кампанію Санёк, увогуле было не зразумела. Калі першыя двое былі маладзёнамі больш-менш прыстойнымі, то ў гэтым адчувалася нейкая ненармальнасць – задзірысты хлопец з крымінальнымі схільнасцямі. Здавалася, што сабака быў яму патрэбны толькі дзеля таго, каб хадзіць па мікрараёне і нацкоўваць яго на слабейшых, і як хлопцы ні намагаліся паўплываць на Санька, ён заставаўся няўцямным:

– Навошта табе сабака? Зразумей, што гадаваць яго вельмі адказна. Службовы сабака – гэта як зброя, у адных руках можа прынесці карысць, а ў некаторых стаць сродкам злачынства!

– Ідзіце вы ўсе нахер, я ў вашае жыццё не лезу, – груба адказваў той.

І ў гэты раз, калі стала вядома, што Санёк збіраецца ехаць, усе напружыліся, а Дзімас дык увогуле хацеў адмовіцца, але дзеля калектыву паехаў. У першы вечар і наступны дзень усё прайшло спакойна, сабакі набегаліся, а іх гаспадары дужа стаміліся, расслабіліся і выпілі па чарачцы пад юшку.

Сонца ўжо хавалася за вяршаліны дрэваў, з боку возера надыходзіла вечаровая прахалода, машката яшчэ не лютавала. Размораныя хлопцы паўляжалі вакол вогнішча, сабакі месціліся паблізу.

– Дзімас, слухай, – запытаўся Колька, – а ў войску на заставе былі выпадкі, што парушальнікаў затрымлівалі?

– Так, было пару разоў, кантрабандыстаў на польскай мяжы са спіртам і цыгарэтамі, – Дзімас патрапіў у першы прызыў пасля распаду СССР і служыў ужо ў беларускім войску. – І я вам скажу, што аўчарка – самы выдатны сабака для гэтага, недарэмна ж немцы выгадавалі гэтую пароду і выкарыстоўвалі ў вайну.

– Я б там са сваім Баксам паслужыў у якім карным батальёне, – зарагатаў Санёк.

Дзімас з Колькам незадаволена пераглянуліся:

– Санёк, толькі давай без блюзнерства...

– А што, я як пагляджу фільмы пра вайну, так зайздрасць бярэ, сабакі на павадку брэшуць – каманда, і рвуць гэтых арыштантаў на шматкі!

– Не, ты адназначна садыст, табе сабаку гадаваць забаронена, – запэўніў Дзімас і сказаў Кольку: – Болей я з ім не паеду.

– Паедзеш, паедзеш, давай налівай, – раззлаваўся Санёк..

Раптоўна сабакі загыркалі, хлопцы падхапіліся і заўзіраліся. Па сцяжынцы ад возера, абапіраючыся на кій, кульгаў вясковы дзед у старым зашмальцаваным пінжаку, гумовых ботах і нагавіцах яшчэ франтавога крою з лампасамі. Хлопцы ўзялі сабак за ашыйнікі. Але не дарма гавораць, што сабака пераймае характар гаспадара: Бакс, які з першых месяцаў патрапіў у Санькавы рукі і вырас сабакам агрэсіўным і непрадказальным, вырваўся, падскочыў да старога і зайшоўся перад ім ад брэху.

– Бакс! Фу! Фу! – закрычалі хлопцы.

Дзед апусціў кій і зрабіў крок да сасны:

– Гэй, хлопцы, сабаку прыбярыце, каб бяды ёй не было! – і, здаецца, ніводны мускул не варухнуўся на яго твары.

Захмялелы Санёк падбег і перахапіў сабаку:

– Стары хрыч, ты мне пагражаеш?

– Хлопчык, паўтараю, сабаку прыбяры!

– Дзед, ды я яму скажу “Фас”, і ён цябе разарве!

Бакс, пачуўшы слова знаёмай каманды, увогуле азвярэў, астатнія аўчаркі таксама загыркалі яшчэ мацней і нацягнулі павадкі.

– Санёк, прыдурак, што ты робіш?! – напалохана закрычаў Дзімас.

– Заткніся! Ну, што дзед, пагуляем у карнікаў?

Па твары дзеда быццам прабег чорны цень:

– Хлопча, я бачу, што ты нападпітку і не супакоішся. Давай дамовімся, ты адыходзіш на дзесяць метраў і адпускаеш сабаку, толькі потым без прэтэнзій.

– Добра, дзед, я слова сваё трымаю, – адказаў Санёк, адцягнуў сабаку, які ажно задыхаўся ад злосці, на пару крокаў і адпусціў карабін павадка.

Здаравенная аўчарка, узрываючы лапамі зямлю, з рыкам панеслася па сцяжыне і скочыла на дзеда, а той выкінуў рукі насустрач, схапіў сабаку далонямі за вушы, зрабіў крок назад і крыху ўбок, развярнуўся і з усяго размаху ўдарыў сабаку спінай аб сасну. Раздаўся хруст пераламанага хрыбетніка, сабака адляцеў, заенчыў і забіў лапамі.

Санёк закрычаў ад нечаканасці:

– Бакс, Бакс! Дзед, ты што нарабіў? – і падбег да сабакі, які глядзеў на ўсё спалоханымі шклянымі вачамі і захлынаўся крывавай пенай.

– Ну што, хлопец, пагуляўся ў карнікаў?

Дзед атросся і падняў кій з такой упэўненасцю, што Санёк, які тузануўся да дзеда, адступіў.

– Я ў вайну патрапіў у канцлагер, – сказаў стары, запальваючы “беламорыну”, – і знаходзіўся ў аддзяленні для палонных, на якіх фашысты аўчарак дрэсіравалі, таму ведаю, як з імі абыходзіцца. Сабаку свайго дабі, бо не жылец ён, і болей ніколі не цкуй сабак на людзей.

І пакрочыў далей па зарослай сцяжынцы, кульгавы і каржакаваты, як дуб, жывы сведка тых жахлівых падзей, калі людзі забівалі адно аднаго і па зямлі цяклі рэкі крыві. Шмат гадоў прайшло з таго часу, і як ні хацеў стары забыць пра вайну, вайна не адпускала, нагадвала пра сябе. Смылелі шнары ад пакусаў нямецкіх сабак, пад непагадзь увогуле аднімалася кульгавая нага з пашкуматанай лыткай і, што самае цяжкае, не давалі спакою ўспаміны, прыходзілі змрочнымі прывідамі па начах і знясільвалі старэчую памяць. І вось сёння гэты разбэшчаны дурань са сваім гадаванцам...

Дабіць сабаку хлопцы не наважыліся, усю ноч той смяротна пакутаваў і на ранку памёр, там яго і закапалі на вачах у напужаных суродзічаў – нашчадкаў тых страшных істотаў, пад люты брэх якіх спальваліся вёскі і людзі аддаваліся на катаванне.

Дзімас з Колькам перакідваліся рэдкімі словамі і згортвалі лагер, а Санёк моўчкі сядзеў над свежавыкапаным узгорачкам, счарнелы і паніклы, бо ўцяміў сёння нешта балючае і важнае.

Машына была ўжо загружаная і рухавік заведзены, а Санёк усё не мог устаць.

– Гэй, заставацца тут будзеш? – крыкнуў у адчыненую фортку Дзімас і дадаў, адвярнуўшыся: – Гітлерюгенд недароблены!

У дарозе размова не ладзілася, таму ўключылі магнітолу і абыякава слухалі нейкія песні. Саньку было так прыкра, што хоць скрозь зямлю праваліся. Машына праязджала праз розныя вёсачкі, і яму ўспомнілася бабуля-нябожчыца, якая заўсёды казала: “Алесік, зробіш каму крыўду – схадзі ў цэркву і запалі свечачку”.

У горадзе Санёк папрасіў спыніцца на чыгуначным вакзале і, нягледзячы на тое, што брудны і з заплечнікам, пайшоў у бок сабора, дзе можа ўпершыню ў жыцці паставіў дзве свечкі – за здароўе таго дзеда і за спачын сабакі Бакса.

## Соль

Ноччу з-за прастуды маленькага сына айцец Георгій кепска спаў і на службу прыехаў цалкам разбітым. Марудна пераапрануўся і выйшаў на споведзь. Нягледзячы на ранак, у храме было шмат народу – Царква святкавала Узвіжанне.

Святар манатонна прачытаў пакаянныя малітвы і па прынцыпе Бруса Дыкенсана з “Iron Maiden” – “думай пра апошняга чалавека з натоўпу перад сцэнай” – амаль закрычаў, гледзячы за калоны:

– Дарагія браты і сёстры! Гасподзь дае нам Таемства Пакаяння, каб мы зазірнулі ў нашае сэрца і ўбачылі зло, якое кіруе намі. Грэх разбурае душу чалавека, але Боская любоў здольная ацаліць ад улады цемры і дараваць збаўленне! Няхай дапаможа Хрыстос нашаму заўсёднаму ўдасканаленню!

Амаль сотня “грэшнікаў” стаяла ў чарзе: у асноўным бабулі і жанчыны перадпенсійнага ўзросту.

Пачалася споведзь:

*...Калі паміраў мой муж-чараўнік, дачка ўзяла яго за руку, каб развітацца, і на яе перайшла магічная энергія...*

*...Суседка ставіць свой пакет са смеццем на лесвіцу, і пацыі падцякаюць пад мае дзверы. Каюся, што пакрыўдзіла яе сваёй заўвагай...*

*...Мне не прадоўжылі кантракт і звольнілі з працы. І цяпер я не ведаю, аднесці сваім былым супрацоўніцам торт на развітанне ці не...*

*...У парку на танцпляцоўцы адзін пенсіянер абазваў мяне “старой вешалкай”, каюся, што дала яму па мордзе...*

*...Я жыву жыццём праведным і пабожным, нікога не крыўджу, толькі вось у “Еўраопце” бясплатных цалафанавых пакецікаў бяру цэлы стос, і прадаўцы на касе лаюцца...*

*...Ой, бацюшка, я здзейсніла страшны грэх, баюся, што Бог мяне пакарае, у пятніцу забылася пра пост і з’ела некалькі лыжак тварагу, але адразу апомнілася і ўставіла два пальцы ў рот...*

Святарскі сан айцец Георгій прыняў перад сваімі сарака гадамі. Да гэтага ўдзельнічаў у нефармальным моладзевым руху, вучыўся ва ўніверсітэце, разгружаў вагоны, клаў дарожную плітку, а яшчэ працаваў машыністам на заводзе і проста дворнікам, дзяжурыў у катлоўні і нават абслугоўваў вылеты самалётаў на аэрадроме. Сямейнае жыццё пачынаў з пакоя ў камунальнай кватэры, нарадзіў з жонкай некалькі дзяцей – таму мог падзяліцца побытавым досведам. І ў першыя гады святарства цэлымі гадзінамі размаўляў з людзьмі ў закутках храма, але хутка знясілеў ад

цяжару цемрашальства і “выгарэў”. Цяпер на споведзі размаўляў зрэдку, толькі ў выпадку сапраўдных трагедый, а так стомлена слухаў і шкадаваў, што на прыходзе няма штатнага псіхіятра:

*...Каюся, што спыніла малітву, калі зазвінеў тэлефон, і закрычала ў слухаўку: “Каб ты здох”...*

*...Я паехаў на лецішча з дзяўчынай дзеля сексу і забыўся выпіць святой вады зранку...*

*...Каюся, што заходзіла да каталікоў у госці і снедала з імі за адным сталом...*

Калі да яго наблізілася чарговая цётка і закаціла вочы пад лоб, яму захацелася кінуць усё і збегчы.

І тут у кішэні на грудзях пачулася вібрацыя тэлефона ад SMS-паведамлення. Сярод святароў хадзіла думка, што мабільнікі на споведзь лепей не браць, быццам “камітэтчыкі” вядуць праслушку, але айцу Георгію нават смешна было ўявіць, каб дзесьці ў кабінеце нейкія супрацоўнікі КДБ “адфільтроўвалі” праз спецапаратуру ўсю гэтую бязглуздзіцу.

Ён неўпрыкмет дастаў тэлефон і прачытаў паведамленне з канцылярыі: “Вас благаслаўляюць сустрэцца са здымачнай групай тэлебачання”.

У апошні час такая форма рассылкі атрымала афіцыйны характар.

“Ды што ж гэта сёння за дзень такі”, – раззлаваўся ён і працягнуў споведзь.

“Каюся, што я самая грэшніца на зямлі!” – прамовіла жанчына з узнятымі да неба вачамі.

І гэта канчаткова пазбавіла яго цярпення. Пасля пытання, ці настолькі вялікія яе грахі, каб пераўзысці, напрыклад, злачынствы Адольфа Гітлера, цётка абурылася і паабяцала напісаць скаргу.

Ад такой перспектывы ён зусім зніякавеў, але ўбачыў паводдаль здымачную групу тэлебачання і пайшоў папярэдзіць настаяцеля, ужо сівога старца.

– Скажы ім што-небудзь ад сэрца, – дабраславіў той.

Год таму епіскапія заключыла з дзяржтэлекампаніяй дамоўленасць аб супрацоўніцтве, і цяпер кожны тыдзень на цэнтральным канале выходзіла перадача са сціплай назвай “Вечныя словы”.

Змест выступленняў нікім не кантраляваўся, але і так усе разумелі, што ніякае вальнадумства, акрамя нейтральнай рыторыкі, не дазваляецца.

Айцец Георгій стараўся ад такіх паслуханняў ухіляцца, бо перад камерай адчуваў сябе няёмка, але сёння фартуна відавочна ад яго адвярнулася.

Яны выйшлі на цвінтар і сталі ў цень высозных старых таполяў. Канец верасня выдаўся цёплым – стаяла бабіна лета. Апошнімі цёплымі промнямі развітальна свяціла сонейка. Звінелі званы – служба завяршылася.

Аператар марудна раскладваў штатывы, журналістка – маладая дзяўчына, як высветлілася потым, практыкантка, наладжвала гучнасць мікрафона. Айцец Георгій сумна ўзіраўся ў нябёсы. У галаве не было аніякіх вартых думак, акрамя звыклых штампаў.

“Сэрца маё! – ён успомніў дабраславенне настаяцеля, – што ты мне падкажаш? Госпадзе, дапамажы знайсці патрэбныя словы...”

У апошнія месяцы на “Нашай Ніве” і “Радыё Свабода” ён сустракаў артыкулы пра аднойдзенне парэшткаў паўстанцаў 1863 года і Кастуся Каліноўскага сярод іх. Гэта было сенсацыяй, бо лічылася, што цела рэвалюцыянера назаўжды схаванае зямлёй. Канечне, дзейнасць Каліноўскага

выклікала многа спрэчак, і ў семінарыі ім даводзілі, што ён – бандыт і забойца, але столькі пра яго напісана прыгожых вершаў і такі натхняльны вобраз Алеся Загорскага ў "Каласах пад сярпом тваім" Караткевіча, што, нягледзячы на ранейшае цуранне, айца Георгія стала вабіць постаць гэтага чалавека.

І, дарэчы, Георгій вырас на вуліцы імя Каліноўскага. Пасля вайны на ўскраінах іх горада сталі з'яўляцца паселішчы для перасяленцаў. Усе ўзгоркі і яры забудоўваліся баракамі ці маленькімі, абабітымі рубероідам хаткамі і агароджваліся тынам. Чаму адзін з такіх раёнаў і назвалі ў народзе "Палестынай" – поле з тыну, другі – "Шанхаем". А пакручастую вуліцу, якая, нібы палявая рачулка, праходзіла праз адно з такіх паселішчаў, – Пярэбарку, што ад слова "пярэбары" – заасфальтавалі і назвалі ў гонар героя нацыі. Жылі ў той Пярэбарцы панаехалыя ў горад вяскоўцы, арыштанты і працоўныя з суседніх заводаў – якраз тыя дзецюкі, да якіх звяртаўся Каліноўскі ў сваёй "Мужыцкай праўдзе". Ніякай справы да жыцця лідара паўстання, чыё імя насіла вуліца, ні ў кога з іх не было, і калі Георгій пацікавіўся ў аднаго "пярэбарца", а хто ж такі быў гэты Каліноўскі, то пачуў у адказ:

– Хіба ваявода нейкі...

Але цяпер, ужо сталым мужчынам, ён адчуваў удзячнасць лёсу і нават бачыў нейкую сімвалічнасць, што яго юнацтва прайшло менавіта на вуліцы, названай у гонар гэтага чалавека.

Здымачная група пачакала, пакуль не сціхлі званы.

– Ну што, бацюшка, вы гатовыя? – і дзяўчына паднесла мікрафон.

Айцец Георгій нацяўся, уздыхнуў на ўсе грудзі і з хваляваннем паглядзеў у аб'ектыў:

– Дарагія браты і сёстры! Я ўпэўнены, што кожны з нас чуў пра нядаўнюю археалагічную знаходку ў Вільні на гары Гедыміна парэшткаў удзельнікаў паўстання 1863 года... Гэта цуд гісторыі, ніхто і не верыў у магчымасць такіх падзей... Грамадства проста віруе... Неўзабаве набліжаецца дзень урачыстага перапахавання паўстанцаў, – ад раптоўнай думкі пра наступствы такіх слоў у яго засмяглі вусны, але ён прадоўжыў, – і ў параўнанні з цяперашняй сітуацыяй можна ўявіць, які рэзананс выклікала ў Візантыйскай імперыі аднойдзенне Пачэснага Крыжа Госпаднага. Сёння мы збіраемся ўшанаваць перапахаванне славутых дзеячоў беларускага народа, а тады, у 326 годзе, была адкапаная прылада забойства Самога Творцы Сусвету. І калі такія пачуцці выклікае знаходка цела ўсяго толькі аднаго нацыянальнага героя – Канстанціна Каліноўскага, то як радаваліся хрысціяне Іерусаліма, што адгалоссе той урачыстасці прайшло праз тысячагоддзі і не сціхне ніколі. Сардэчна віншуем вас са святам Узвіжання!

– Цудоўна, – ледзьве не запляскала ў ладкі дзяўчына, – як вы цікава звязалі два гістарычныя факты. Хібы вашага маўлення мы ў студыі адрэдагуем і абавязкова сёння ў эфір!

Толькі аператар, ужо немалады дасведчаны дзядзька, неяк недаверліва паглядзеў на яе.

Калі здымачная група з'ехала, айцец Георгій вярнуўся ў царкву і памаліўся за спачын паўстанцаў і раба Божага Канстанціна, бо ўсё-такі жывыя душы былі, а значыць патрабуюць малітвы. І здзівіўся нават, чаму раней да гэтага не дадумаўся.

Хутка з канцылярыі прыйшла яшчэ адна SMS-ка: "Заўтра Вас выклікаюць на прыём".

Ноччу айцец Георгій зноў не мог заснуць і толькі перад самым сігналам будзільніка праваліўся ў кароткі палахлівы сон.

Зранку ён уважліва памаліўся і сытна паснедаў – сустрэча з кіраўніцтвам патрабавала максімальнай сканцэнтраванасці. Рэферэнт канцылярыі – раз'едзены манах з абвіслым тварам і водарам дарагой парфумы – сустрэў яго з непрыхаванай пагардай:

– Ты аб чым думаў, айцец, хочаш усіх нас падставіць? Адзін ёлупень-прапаведнік выступіў, а дурніца-практыкантка пусціла ў эфір. Добра, што аператар папярэдзіў галоўнага рэдактара канала. А калі б хто з рэспубліканскай адміністрацыі ўбачыў гэты сюжэт? Нам праблемы не патрэбныя.

– Даруйце, Вашае Высокапрападобіе, – айцец Георгій забыўся, што апраўдвацца небяспечна, – калі-небудзь сітуацыя ў грамадстве зменіцца, і мы вымушаны будзем маліцца за паўстанцаў, а гэта лепей, чым праводзіць сумесныя акцыі з БРСМ, які, дарэчы, з'яўляецца афіцыйным спадкаемцам Камуністычнага Саюза Моладзі...

– Што?! – іераманах ажно пачырванеў ад гневу, – яшчэ раз так выступіш – і паедзеш на самы бедны прыход, ці забаронім у служэнні – як будзеш карміць свой вывадак? Ідзі прэч, выскачка!

І айцец Георгій, як пабіты сабака, выйшаў з кабінета.

Зноў перад ім нейкі Рубікон асабістага страху, за які ён ніколі не ступіць...

Бо колькі было выпадкаў, калі нязгодных святароў ссылалі на мёртвыя вёскі, дзе ані грошай, ні паліклінікі з дзіцячым садочкам. І жыві як хочаш, калі ты такі ганарлівы.

Дома ён, не звяртаючы ўвагі на пытанні жонкі, адразу прайшоў на кухню і высыпаў змесціва сальніцы ў сметніцу.

А потым узяў з паліцы Новы Запавет, падкрэсліў алоўкам патрэбны радок і выйшаў з пакоя.

Пераляканая жонка разгарнула кнігу:

*Вы – соль зямлі. Калі ж соль страціць сілу,*
*то чым паправіць яе?*
*Яна ўжо ні на што не прыдатная,*
*хіба што выкінуць яе прэч*
*на патаптанне людзям*

(Мф. 5:13)

Праз месяц у сталіцы Літвы адбылася ўрачыстая цырымонія перапахавання паўстанцаў, але з-за сямейных абставінаў айцец Георгій нікуды не паехаў і з ранку таго дня застаўся дома з малодшым сынам.

Апоўдні яны выбраліся на вуліцу.

Адчувалася хуткае набліжэнне зімы, дзьмуў моцны вецер. Захутаныя ў шалікі бацька з сынам дакрочылі да гарадскога парку. На замеценых лісцем прысадах не было ніводнага чалавека. Голыя дрэвы тырчэлі голлем у шэрыя аблокі і гойдаліся, нібы дзіды.

Айцец Георгій дастаў айфон і ўключыў анлайн-трансляцыю перапахавання.

...Над Вільняй гулі званы. На вайсковых лафетах у суправаджэнні ганаровай варты труны з парэшткамі паўстанцаў перавозіліся на могілкі. Услед ішлі афіцыйныя дэлегацыі на чале з прэзідэнтамі, мітрапаліты,

простае духавенства і мноства людзей з нацыянальнамі сцягамі. І першай везлі труну з Кастусём Каліноўскім...

Хлопчык змерз, і бацька ўзяў яго на рукі, але той пачаў хныкаць:

– Мульцік, мульцік! – і цягнуцца да айфона:

– Сынок, любы, паслухай, ты яшчэ маленькі і нічога не разумееш, – загаварыў бацька, – там далёка ў Вільні хаваюць славутых людзей, якія памерлі за нашую Айчыну. Калісьці іх ганебна забілі і таемна пахавалі, а цяпер сотні людзей з гонарам вітаюць іх труны. Можа я памыляюся і прашу нечага непатрэбнага, але дай Бог, каб ты вырас такім мужным, як яны, і пражыў чыстае яскравае жыццё!

Святар маліўся, і пяшчотна цалаваў замерзлыя шчочкі сына са слязінкамі ад ветру, і адчуваў, што соль не страціла сваю сілу, а засталася ў дзіцячых вачах. А значыць, не ўсё так кепска ў гэтым сусвеце, бо дзеці калісьці вырастуць, і некаторыя з іх стануць героямі.

...Над Вільняй гулі званы...



Анхела Эспіноса Руіс



...Каб зноў адчуць былую цеплыню
І неба маіх рук тваёй каметай
Заззяла. Стаць і музай і паэтам,
Паверыць у прыгожую хлусню....

# З Сатурнавай кішэні

* * *

Горад запаўняецца святлом
Радасным, дзівосным, жураўліным.
Ты трымаеш на руках наш дом,
Я трымаю кветкі з белай гліны.

А праспект заснежаны, пусты,
Сумны, ганарысты ды адзіны.
Сняцца мне на ім твае сляды,
Як і небу сніцца след птушыны.

Ты ідзеш дарогаю надзей,
Я іду па цёмным шляху мора,
Над табой спявае салавей,
Нада мною ціха, як учора.

Горад запаўняецца святлом,
Ліхтароў ці поўні – неістотна.
На праспекце шчэ стаіць наш дом,
Горасны, пакінуты, самотны.

Мы памрэм – замоўкне салавей,
А пакуль, душа, трымайся годна.
Як мы не заўважылі раней?
Божа, як у горадзе халодна!

Вуснамі старога забыцця
Мары, крозы зноў з'ядае горад,
У цябе ў кішэні паўжыццця.
А ў мяне ўсё пуста, як учора.

* * *

Наша мова трымаецца
За кожны наш радок,
Як краіна
За кожную
Вёску.
А каханне трымаецца
За кожны наш намёк,
За кожнае
Кветкі
Пялёсткі.
За кожнае мястэчка,
За кожны гарадок
Трымаецца
Шлях
Нашай веры.
А нашы сны ды мары
Ўзляцелі ўжо даўно
Праз комін
У хворую
Эру:
За чарадою хмараў,
За чарадою слоў,
За чарадою ластавак
І думак.
Наша слова трымаецца
За цемру
Ды святло,
А каханне
За кожны
Пацалунак.

Апошні верш – надзея
Трымаецца назло
За кожную
Праклятую
Хвіліну.
Наша мова,
Краіна,
Каханне,
Мы з табой...
Трымаемся
Мы ўсе
За павуцінне.

* * *

Пакуль душа занятая табой,
І кожны твар – тваё адлюстраванне,
Пакуль ляціць, як дым, маё каханне,
І шэпча пра цябе над галавой,

Пакуль тваё імя спыняе час
Навокал, і тваім святлом каметы
Фарбуюць на нябёсах іншасветы,
Пакуль чуваць пяшчотных рэха фраз,

Пакуль сляды тваіх стамлёных ног
Яшчэ відаць уздоўж маёй дарогі,
Пакуль пануеш нада мной трывогай,
Мне не сысці, няхай паможа Бог!

Не нарадзіцца ў хаце зноў вясне,
Не раззлавацца далягляду громам,
І не ажыць цяплом сямейным дому,
Не танчыць нам у яве або ў сне,

І не прыдумаць сэрцу новых мрой,
І не спяваць паэтам песняў новых...
Але ўспамінаў светлых дастаткова,
Пакуль душа занятая табой.

* * *

Ты не адзіная зорка на небе,
Але нясеш ты памерлых святло,
Слухаеш голас бясконцасці слепа,
Слепа малюеш усё, што прайшло.

Шэпчуць каметы – сузор'е заснула.
Слухаеш ты калыханку здалёк:
Толькі ты бачыш усё, што мінула,
Толькі ты чуеш зямлі крывацёк.

Той жа адчай тут, і тая ж самота,
Зноўку задзьмуў твой бязлітасны брыз,
Тое ж світанне забіта цямнотай,
Зноў твае вочы спускаюцца ўніз.

Зноўку гляджу на цябе між аблокаў,
Зноўку хавае цябе небасхіл.
Зноўку ўзлятаеш ты, зноў так высока...
Зноўку твой цень ператворыцца ў пыл.

Ты халадзееш над злым даляглядам,
Свецішся шэрым, малочным святлом.
Ты як адзіная зорка... Не падай!
Шлях пакажы паміж явай і сном.

* * *

З Сатурнавай кішэні час скраду,
Няхай адну – апошную – хвіліну,
Як нітку з далягдядаў жураўліных,
Як кропельку злавеснага дажджу,

Каб зноў адчуць былую цеплыню
І неба маіх рук тваёй каметай
Заззяла. Стаць і музай і паэтам,
Паверыць у прыгожую хлусню.

З Сатурнавай кішэні час скраду,
Бо на душы цябе яшчэ так многа...
Я з радасцю скраду хвіліну ў бога,
Каб затрымаць цябе, хоць мігам, тут.

* * *

Разбудзіла панурая раніца вэлюмам грэшнасці,
Разбудзіла сівая тканіна бясплоднай падушкі,
Разбудзілі нябёсы ды ветры твае – ці бязмежны ты?
Разбудзіла мяне цішыня мімалётнае птушкі.

На далонях – дарогі твае. Твая шэрасць туманная
Пакрывае сузорнае рэха мінулых акордаў.

Я хачу напісаць табе верш, але словы падману я
З небасхілаў тваіх лаўлю – і радок з вуснаў сцёрты.

Я губляю сябе ў тваіх ценях, між зоркамі пыльнымі,
А дагэтуль хачу з твайго попелу я вясну выткаць.
Я ўзлятаю да чорнага сонца васковымі крыламі:
Пад нагамі ляжыць безжыццёва чырвоная нітка.

* * *

Запоўні мяне таямнічым сусветам,
Бязмежнаю цемрай ды кволым святлом.
Улонне няўлоўнымі зоркамі лета
Запоўні. Накрый сваім моцным крылом.

Запоўні – хай стане брыво даляглядам,
Хай стануць каметамі рукі мае,
Хай жнівеньскім слёзы цякуць зарападам,
Няхай мне жыццё на грудзях гнёзды ўе.

Запоўні, каб зліцца мне з небам світання,
І выбухам знікнуць пяшчоты й любві,
Ці стаць назаўсёды свяцілам кахання
Для стомленых сэрцаў. Запоўні. Забі.

Паліна Качаткова



...вуліца Касманаўтаў —
пустая калыска мая...

# Орша. Вуліца Караткевіча

***Апавяданне***

## Цёплы дом

Дом №10 па вуліцы Караткевіча ў Оршы. У гэтым доме Уладзімір Караткевіч напісаў першы варыянт «Дзікага палявання караля Стаха» і шмат вершаў. Драўляны дом быў пабудаваны рукамі бацькі пісьменніка ў 1946 годзе, калі вуліца мела назву Варашылава, пазней Касманаўтаў...

Хто жыў у доме? Адразу пасля вайны ў ім жылі: маці Уладзіміра Караткевіча – Надзея Васілеўна, бацька Сямён Цімафеевіч, сястра Наталля, сам Уладзімір і пляменніца Раіса, дачка старэйшага брата Валерыя, які загінуў на фронце.

У 1959 годзе памёр бацька.

У 1967 годзе маці пераехала да сына ў Мінск.

Пляменніца Уладзіміра Караткевіча Раіса, якую ў дзяцінстве звалі Ляля, на спартовых спаборніцтвах пад Адэсай пазнаёмілася з Юрыем Барабашам, яны пабраліся. У іх нарадзілася двое дзяцей – сын і дачка. Пасля

смерці Раісы Юры Барабаш жыў у доме адзін. Ён памёр у 2015 годзе. Дом апусцеў і перайшоў у спадчыну дачцэ Барабаша – Ірыне, якая прадала яго ўладальніку сеткі крамаў "Пяты элемент" Андрэю Балабіну.

Даваенны дом быў разбураны, сям'я не мела свайго жытла, вярнуўшыся з эвакуацыі. Гэты дом стаў для іх сапраўдным выратаваннем.

## Горад у цемры

Дом падрабязна апісаны ў рамане "Нельга забыць". На гэты тэкст варта арыентавацца пры наведванні Оршы і вуліцы Караткевіча. Пачынаючы з 85-й старонкі 3-га тома збору твораў Караткевіча, фактычна апісана ўсё, што можа быць цікавага ў доме.

Раман "Нельга забыць" – кніга, дзе Орша апісаная з фатаграфічнай дакладнасцю, хаця большая частка дзеяння адбываецца ў Маскве. Прыезд у Оршу, шлях з вакзала да вуліцы Касманаўтаў (цяпер Караткевіча) апісаны падрабязна. Твор мае падназоў "Раман амаль што сентыментальны". Упершыню быў надрукаваны ў 1962 годзе пад назвай "Леаніды не вернуцца на Зямлю".

Галоўны герой прыязджае з Масквы ў родны горад, які ў рамане мае назву Востраў. Горад Востраў цалкам адпавядае Оршы. Вось фрагмент рамана, які апісвае прыбыццё героя: "Гарбаты віядук перакінуўся цераз пуці ад агнёў станцыі кудысьці ў цемру. У цемры глуха шапацелі галіны таполяў з рэдкімі жоўтымі кроплямі агнёў, што заблыталіся, на маленькай плошчы за віядукам. Толькі ў адным акне аўтобуснай станцыі ледзь свяціўся цьмяны агеньчык. Ён ішоў вулкаю прадмесця паўз сонныя дамы ў захмараных садах. Вуліца адным канцом ўпіралася ў галоўную вуліцу, другім у Дняпро. Ён ішоў вельмі павольна, здзіўляючыся, як кожны раз, якімі маленькімі сталі дамы, якімі высокімі, ў параўнанні з імі, сады. Яшчэ здалёк, за чатыры хаты, пачуў усхваляваны радасна-залівісты брэх куртатага Тобса. Калі ён штурхнуў фортку і прайшоў алейкаю да ганка, у адным акне загарэлася святло: маці пачула брэх, адразу ўсё зразумела і ўстала. Ён не паспеў нават пазваніць, як дзверы адчыніліся. Маці стаяла перад ім у пуховай хусціне, накінутай на плечы. І ён пераступіў парог. Позна ўначы, засынаючы ў сваім пакойчыку, ён доўга слухаў подыхі начнога ветру, сачыў, як святло вулічнага ліхтара цьмяна скача паміж яблынь, пахаваных у снезе. Гэта была Радзіма, роднае гняздо, тое, што нельга ўзяць ад чалавека, хіба толькі разам з жыццём. Ён прымружыў вочы, у зіхценні вогненных плям паплылі перад ім абліччы. І яны таксама былі Радзімай: усе тыя, што адышлі, усе тыя, што яшчэ ідуць поруч, усе тыя, што яшчэ будуць".

Дом, дзе герой Караткевіча бачыў прарочыя сны, захаваўся, як і панадворак, алейка, дзе сустракае яго маці. Захавалася і ліпа, шум у лісці якой слухаў Караткевіч. Вуліца захавалася. І кожны цікаўны прыхільнік творчасці можа прайсці маршрутам героя рамана "Нельга забыць".

Варта толькі прыехаць у Оршу.

## Лялька Цар Ірад

Лялька Цар Ірад – самы загадкавы прадмет у наборы рэчаў, у своесаблівым рэлікварыі, які паказвае маці галоўнаму герою рамана – Андрэю.

Па сюжэце, лялька – "цар Ірад" – адзіная рэч, якую прабабка героя,

жонка пакаранага смерцю паўстанца 1863 года, павезла ў высылку Сібір: “На коўдрачцы ляжаў нейкі пажаўцелы рукапіс, некалькі дагератыпаў і фотакартак, бронзавы медаль, батлеечная лялька – цар Ірад, жалезны пярсцёнак, яшчэ нейкія паперы, срэбны медальён. Адзін медаль быў “За ўціхаміранне”, другі інсургенцкі са зламаным крыжам і Пагоняй. Неяк дзіўна было браць іх у рукі. Пацямнелыя сведкі даўніх страсцей, якія нікога зараз ужо не абыходзілі.

– А вось гэта добра, – сказала маці, трымаючы на руцэ распяленага “цара Ірада”, – гэта была адзіная рэч, якую твая прабабка павезла ў Сібір. Адзіны напамін аб роднай зямлі.

Ірад тапырыўся на яе руцэ, зласлівы з чорнымі вусамі, што амаль вылезлі, у выцвілай царскай вопратцы. Ён варушыў рукамі і схіляў галаву.

– Яго ледзь не адабралі ў тваёй прабабкі. Нейкі дурань з чыгуннымі мазгамі палічыў, што гэта антыдзяржаўны намёк. Яна наблізіла Ірада да сябе і зараз глядзела яму проста ў шкляныя вочы. Ірад замахнуўся на яе рукой. – Бач ты, які злосны, – маці раптам зусім па-маладому засмяялася. – Трэба будзе яго, Андрэйка, пасля мяне ў музей здаць. Разам з усім”.

## Космас

Падобна на тое, што назва “вуліца Касманаўтаў” падабалася Уладзіміру Караткевічу.

Напачатку 60-х далёкія сусветы вабілі, у героя рамана “Нельга забыць” адбываецца дыялог пра космас з сябрам Янісам: “Ты паляцеў бы? – спытаў Яніс. – Хоць сёння. Гэтая самота, гэты боль, – куды хочаш ад іх. Часам мне здаецца, ад адной зямной непрытульнасці чалавек можа... туды”.

Ды і значна лепей жыць на вуліцы Касманаўтаў, чым на вуліцы Варашылава, як перад гэтым называлася вуліца, якая шмат разоў мяняла назву. Кажуць, ні адну вуліцу ў горадзе не пераназывалі так часта: Паштовая, Ігнатоўскага, Варашылава, Півавараная (у часе Другой сусветнай вайны), зноў Варашылава, Касманаўтаў (пасля першага палёту ў космас) і – Караткевіча.

30 снежня 1961 года Уладзімір Караткевіч піша верш “Вуліца Касманаўтаў”:

У горадзе без тралейбусаў,
над імклівай нямоўчнай ракой,
На вуліцы Касманаўтаў — хата маці маёй,
На вуліцы Касманаўтаў, дзе ўлетку бубняць чмялі,
На самай мне любай вуліцы з усіх,
што ёсць на зямлі...
Пасталі дамы ў пажары каралавых арабін —
Шаснаццаць аднапавярховых і двухпавярховы адзін.
А поруч з імі узносяцца над стромай садоў залатых
Велічны гмах піўзавода і дом Грамады глухіх.

* * *

Вуліца Касманаўтаў збягае ў лагчыну з гары.
Вытокі яе — у горадзе, вусце яе — ў Дняпры.
Направа — дамы і краны, і шызы з комінаў дым,
Налева — Дняпро і абрывы, і аблокі над гэтым усім.

* * *

З вуліцы Касманаўтаў на срэбны гасцінец нябёс.
Дзякуй за адпачынак. Сад зацвіў недарма,
Я іду адсюль. Я спяшаюся. Дарозе канца няма.
І недзе далёка свеціць, як забыты цёплы маяк,
Вуліца Касманаўтаў —
пустая калыска мая.

У вершы Уладзімір Караткевіч, як і ў рамане “Нельга забыць” зноў дакладна апісвае вуліцу, дзе стаіць дом яго сям’і. Нават колькасць дамоў указвае дакладна: “Шаснаццаць аднапавярховых і двухпавярховы адзін”. Пра двухпавярховы доўга думала: што ж гэта за такі? І зразумела, што гэта кантора піўзавода, дзе сядзела дырэкцыя.

Цяпер на верхняй частцы вуліцы Караткевіча ў Оршы захаваліся толькі тры старыя прыватныя дамы – №10 (дом Караткевіча), №8 і №6 (дом, у якім ніхто не жыве). На схіле да Дняпра – чатыры прыватныя дамы.

## Вуліца ў 50-я гады

Пра вуліцу Караткевіча (на той час імя Варашылава) з 1948 па 1953 год распавядае мая маці, Бязручка Ірына Пятроўна.

Аповед тычыцца часткі вуліцы ад скрыжавання з вуліцай Леніна да схілу да Дняпра. Пра частку вуліцы, якая на схіле, асобны аповед. Скрыжаванне сучасных вуліц Леніна і Караткевіча. Раней тут былі дамы і гароды.

“Паварот да першай школы. Там была калонка, да якой мы хадзілі па ваду. Потым стаяў драўляны будынак, часткова ён быў двухпавярховы, часткова аднапавярховы. У гады майго дзяцінства ў частцы будынку знаходзіўся рэстаран, у частцы – кантора ваенгандлю, пэўны час там была майстэрня па пашыве адзення – мне там пашылі дзіцячае паліто. Там таксама жылі некаторыя супрацоўнікі ваенгандлю, напрыклад, Чатыркіны. За будынкам было пустое месца. Гэтая пустка працягвалася па Леніна да таго дому, дзе мы жылі пасля вайны, пакуль не пабудавалі свой дом на беразе Дняпра. Дом, дзе мы жылі пасля вайны, – габрэйскі дом на дзве паловы, зараднымі выхадамі на вуліцу, якія на той час былі зачыненыя. І ў адну частку дома вярнулася сям’я, якая і павінна была там жыць – Аронавы, а гаспадары другой паловы, напэўна, загінулі, і гэтая палова дома была дзяржаўная. Мы там жылі пэўны час яшчэ з адной сям’ёй, там была вельмі вялікая кухня і два пакоі.

Кухня адным бокам выходзіла на вуліцу Леніна, там быў зачынены парадны ўваход, а другім бокам ў двор. Цырульня, якая стаяла паміж ваенгандлем і домам, з’явілася пазней. З’явіўся невялікі будынак, у якім рамантавалі абутак і месцілася цырульня. Але гэта было не адразу пасля вайны, а пазней. Далей быў дом, які дзвюма вокнамі выходзіў на Леніна, ён стаяў не ўздоўж, а ўпоперак – звычайны прыватны аршанскі дом. А затым быў дом, дзе было шмат людзей і дзяцей – барак. Там людзі атрымлівалі пакоі для жытла. А потым піўзавод.

Памятаю дом Лосевых. Гэта была інтэлігентная сям’я. Лосеў – настаўнік. Далей жылі Спадабаевы, таксама настаўнікі. Быў дом, дзе жыла рудая жанчына – у гады майго дзяцінства ў яе былі індыкі, яны выходзілі на вуліцу і былі вельмі страшныя. Далей жылі Бакуневічы ці Бакуновічы. Таксама дом стары стаяў – гэта ўсё – паміж сучасным радзільным домам і вуліцай Леніна.

На месцы радзільнага дома быў дзіўны г-падобны дом-барак і пустое месца яшчэ. Да рэвалюцыі гэты барак належаў нейкай супольнасці – ці то талстоўцам, ці то камусьці іншаму. А ў гады майго дзяцінства там людзі проста атрымлівалі жыллё. Там жыла мая сяброўка Валя, калі была маленькай дзяўчынкай, пакуль яны не пабудавалі свой дом за Дняпром. Яна распавядала, што там вельмі вялікія глыбокія сутарэнні. А прастора была г-падобнай і другая палова барака падыходзіла да стадыёна.

А яшчэ была там КЭЧ – гаспадарчая арганізацыя, звязаная з войскам. У КЭЧы працавалі сябры нашых бацькоў Верам’ёвы, якія пасля пераехалі ў Менск. У гады майго ранняга дзяцінства яны працавалі ў КЕЧы, але там былі не жылыя будынкі, а тэхнічныя, гаспадарчыя. Я памятаю, калі я заканчвала першую школу, можна было ісці са школы напрасткі праз стадыён дадому. Першая школа ў гады майго дзяцінства была не проста школай, а яшчэ і жытлом, там жыў дырэктар школы Чарняк, які быў сябрам майго таты. Высокі, вясёлы, кучаравы мужчына. Калі я была зусім маленькая, яны жылі ў самой школе, і там жа была нейкая невялікая крама. У цагляны будынак, дзе быў тады суд, прывозілі злачынцаў – быў дзеючы суд. А быў яшчэ дом Трусевіча – рэпрэсаванагах святара. І да дома была прыбудова, у ёй жыла жанчына, у якой была каза. Я памятаю: каля школы на слупе былі налепленыя абвесткі і каза іх аб’ядала. А яшчэ каля гэтага дому быў бэз і ў зарасніку бэзу – валун. ён падзяляў наш агарод і іх. Агарод ішоў да Дняпра некалі, калі я была маленькая, пайшла агародамі да Дняпра. Не было тады школьнага стадыёну – былі агароды без агароджы. Я як пайшла, так і дайшла да ракі. А рабіла я так неаднойчы, адзін раз праваліласяў ваду і прамачыла валёнкі. На месцы нашага будучага дома былі акопы. На схіле дом – Ральцэвічаў, старэйшы сын якіх стаў вядомым мастаком-графікам”.

## Вуліца ў 60-я гады

Пра вуліцу імя Уладзіміра Караткевіча ў Воршы, на той час Касманаўтаў, распавядае Людміла Бязручка, мая родная цётка. Аповед тычыцца часткі вуліцы ад скрыжавання з вуліцай Марата да Леніна, і ад Леніна да схілу да Дняпра.

“Напачатку 60-х на нашай вуліцы было шмат настаўнікаў. Вуліца настаўнікаў. На рагу вуліц Марата і цяперашняй Караткевіча месціўся маленькі дамок, у якім жыла сталага ўзросту жанчына – Саковіч, былая настаўніца. Памятаю, да яе яшчэ ўнучкі прыязджалі. Пасля ішоў дом Караткевіча, з гэтага дому я памятаю яго маладую пляменніцу, якую ўсе звалі Ляля.

А пасля ішоў дом, які цяпер купіў разам з домам Караткевіча прадпрымальнік з “Пятага элемента”. Там жыла сям’я Беразы, гэта быў медык – мамін калега, ён таксама ў санстанцыі працаваў. У яго была жонка і дачка, якая жыла ў Маскве, і калі Бераза памёр, жонка пераехала да дачкі. Наступны дом быў цётак Эдзіка Алейнікава – майго аднакласніка. А за іх домам быў дамок Званкоўскіх – муж і жонка. У іх быў вельмі добры кветнік. Тады мала ў каго быў добры кветнік, а ў іх былі цюльпаны, нарцысы, бэз... І найбольш яны ганарыліся жоўтымі цюльпанамі.

Гэтая сям’я мяне цікавіла, яны вылучаліся на фоне іншых, былі вельмі інтэлігентныя людзі. Ужо не працавалі і ён, і яна. І выглядалі яны нейк інакш – вельмі культурныя. А за іх домам далей ішоў піўзавод. Піўзавод і знёс іх дом. Піўзавод планаваў пашырацца, але потым так і не пашырыўся.

Планавалі спачатку ўсю верхнюю частку вуліцы зносіць, але спыніліся на дамку Званкоўскіх.

А калі перайсці на другі бок ад піўзавода, там да апошняга часу стаялі вялікія тоўстыя бярозы, якія ўжо спілавалі. І быў там куст бэзу, які таксама доўга знішчалі і вынішчылі. Гэтыя бярозы раслі каля дома Лосева. Лосеў быў настаўнік матэматыкі, карані ў яго былі з Дуброўна. Жонка ў яго памерала, засталіся дзве дачкі. Адна з іх скончыла жыццё самагубствам, яна вучылася ці то ў Маскве, ці то ў Ленінградзе, была вельмі модная і прыгожая дзяўчына. Пасля Лосевых жылі Спадабаевы. Ён быў настаўнікам біялогіі ў сёмай школе. У яго ў доме быў асобны пакой – увесь у кветках. У іх была вялікая сям'я – сямёра дзяцей. Маці ў іх таксама мела настаўніцкую адукацыю, але не працавала. Карову яны трымалі, пасвілі на беразе. Пра карову быў артыкул у газеце "Ленінскі прызыў", што "па беразе Дняпра ходзіць безнадзорная жывёліна", у нейкага мужчыны яна зжавала адзенне. За домам Спадабаевых быў дом рудой Алачкі, у яе было шмат коз.

Наступны дом згадваю, як у сне. Там жылі ці то Бакуновічы, ці то Бакуневічы. І быў яшчэ дамок у глыбіні, ад яго на тэрыторыі радзільнага дома засталіся яблыні, там жыла жанчына з сынам. Потым пустка. Далей барак. А стайні каля стадыёна былі ў выглядзе руінаў – каробка цагляная стаяла. На схіле гары – дом Ральцэвічаў".

## Вуліца ў 2020 годзе

А вось і маё адчуванне вуліцы.

Калі прыязджаеш у Оршу ў тры гадзіны ночы – на вакзале каля абменніка можна пабачыць дзевак у паўваеннай форме з нашыўкамі сепаратысцкай ДНР: куды едуць, адкуль і навошта? Вандроўны мастак каля прыгарадных касаў малюе партрэты таксістаў за невялікія грошы. Горад спіць. Выходзіш з таксі, спускаешся па вуліцы Караткевіча да Дняпра з гары. У ліпах варушацца нябачныя вялікія птушкі. Ведаю, там жывуць сойкі і дзяцел. І раптам адчуваеш рух паветра, ляціць штосьці важкае і страшнае. Сава, вялікі пугач, ляціць над Дняпром-ракой нізка-нізка, далятае да канца стадыёна, да таго месца, дзе калісьці стаяла парашутная вышка, і паварочвае на цэнтр горада, як цяжкі бамбардзіроўшчык. Парашутная вышка – яшчэ адно аршанскае месца, якое было адлюстравана ў рамане Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць": страшная жалезная гаргара, занядбалая амаль адразу пасля пабудовы. Іржавыя пляцоўкі і металёвыя тросы, усё гэта хісталася і пагрозліва рыпела, як заходзіш нават на першую пляцоўку. Вышкі больш няма. Парэзана і здадзена на металалом, як і баржы з Дняпра. А вось, як яна выглядае ў рамане Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць": "Імпэтная страла вышкі, узнесеная над затокай, над зеленаватым Дняпром, над дубамі, што шырока растрэслі на процілеглым баку свае зялёныя шапкі. На гэтай страле раптоўна з'явілася танюткая, таксама ўзнесеная ў неба, дзявочая постаць. І гурт раптоўна сціхнуў у адным дыханні ад таго, што яна збіралася рабіць. Яна адарвалася ад апоры, зрабіла паўкола ў паветры, быццам яшчэ думала, дзе лепей – у ззяючым майскім небе ці ў таемных глыбінях вады, – потым плаўна, з той лёгкасцю, якая прымушае людзей верыць у палёт, памкнулася ўніз. Рукі – ластаўчыны крылы, прыгожы выгін ног – сімвал палёту. Дзяўчына ляцела над зямлёй".

Праўда жыцця і праўда вымыслу.

*10 сакавіка 2020 года*

Мікола Гілевіч



...Вы шукалі мёртвых. Мы – жывыя.
Выплываем з нежывой вады.
Паміраем. Любім. І, нямыя,
Мы ідзем. Не ведаем – куды...

# Як сон пра сон. Як верш пра верш. Як лёс пра лёс

* * *

А можа, у псіхушцы, праўда, лепш?
Апошні верш напішацца ў псіхушцы
І адляціць у неба Сыса Птушкай.
Як лёс пра лёс. Як сон пра сон. Як верш пра верш.

А ты яго трымацьмеш пад падушкай
І адчувацьмеш, што ля сэрца ён
Віецца бел-чырвона-белай стужкай.
Як верш пра верш. Як лёс пра лёс. Як сон пра сон.

А потым раптам рэзка здрыганешся.
І схопішся за стужку, як за трос.
І не паб’ешся, не сарвешся. Змарыш нешта.
Як сон пра сон. Як верш пра верш. Як лёс пра лёс.

* * *

Я злавіў цябе пасярод пакоя.
А табой раптам стала сонца.
Я не ведаў, што тут такое.
Але сонца адкрыла донца.

Я паставіў там філіжанкі,
Сам – на кухню, зрабіць гарбаты.
А вярнуўся – знямог ад жалю.
Маё сонца ў крыві да пятаў...

“Маё роднае, што з табою?”
“Анічога. Я захварэла”.
Напаіў яе сон-травою...
Уклаў спаць ля батарэі.

* * *

Не пісталет страляе – ты страляеш.
У самую сукроў сваёй душы.
Ты некалі любіў, ты многа знаеш.
Не бойся, не вагайся, не дрыжы...

З душы сваёй, нібы з засцерагальніка,
Спусці курок, зрабі звычайны крок...
...Хай месяцам у небе, хай пытальнікам
Вісіць мой у жыцці найпершы Бог.

* * *

Сто буслоў ляцела над зямлёю,
Але хтосьці нешта прагадаў.
Хтосьці падаў, абліваўся ўвесь крывёю.
Хтосьці нёс дзіцё. Хтось пралятаў.

Да крыві ты сцёрла свае крылы.
Ды паспела мне сказаць: “Кахай...”
Адляцеў я ў свой дрымучы вырай,
А ты ў сонечны і светлы рай.

* * *

Я ў табе. А ты ўва мне. Сустрэньце.
Вы ніколі нас не знойдзеце нідзе!

Толькі ў самым мілым хэпі-эндзе.
Або ў талай леташняй вадзе.

Вы шукалі мёртвых. Мы – жывыя.
Выплываем з нежывой вады.
Паміраем. Любім. І, нямыя,
Мы ідзем. Не ведаем – куды.

* * *

Кроплі слёз тваіх вяртае камень.
І ніхто памерці ўжо не змог.
Што было ўжо – гэта ўжо не з намі.
Паміраюць камяні з дарог.

Калі абдымаеш – дык распусна.
А калі памрэш – дык пасярод.
Камяні шукаюць мовы вуснай.
Камяні намацваюць народ.

* * *

Я знайду для душы сваёй ціхае месца.
Гэта будзе ў трамваі, а, можа, у парку.
Ты ціхутка падыдзеш:
“А можна прысесці?”
І забудуцца ўсе нам не бачныя сваркі.

Набрыняюць нябёсы. І ты зацяжарыш.
Пойдзе дождж. Потым сонца прачнецца.
Усё будзе ў агні. Але пасля пажару
Сярод попелу знойдзе хтось штосьці...
Сэрца.

* * *

Калі мяне пахаваюць за могілкамі,
Значыць, я самагубца.
А ты прыбяры мае могілкі, смецце
Збяры і рознае іншае глупства.

Калі мяне пахаваюць пад падушкай,
Значыць, мяне хтось загушкаў.
А ты збяры ўсё пер’е,
Палюбі мяне над падушкай.

Калі мяне пахаваюць пад яблыняй,
Ты скажы, як кахаў я цябе пад ёй.
Пастарайся абняць яблыню.
А тады – мяне.

* * *

Сонечная – ты. А я тваё дзіця.
Ты бяжыш са мной, скалоўшы рукі.
На зямлю, на новы свой прасцяг –
Без загаду, без прычыны, без прынукі.

Прыціскаеш моцна да грудзей.
Пасяваеш цалаваць у скроні
І хаваць ад зайздрасных людзей...
Нас ніхто ніколі не дагоніць.

* * *

Я не ведаю, дзе ты жывеш.
І наогул – ці жывеш ты?
Пакладзі ў далоні гэты верш.
Выпі боль і мой і свой дарэшты.

Адпачні. Бо зморак – як турма.
Мы ж усе стамляемся аднойчы,
Калі нехта ёсць, а нас няма,
Калі не стае ні дня ні ночы.

Спі, каханая. Я пабуджу.
Зорак налаўлю на тваім ганку.
А на ранку раскажу вужу,
Што ты пакладзеш яму смятанкі...

А, быць можа, я вужа вазьму.
Ў хату прынясу, а ты пасцелеш:
"Ты ж замерз напэўна за зіму..."
Будзе цёпла і ў душы, і ў целе.

* * *

Будзеш кахаць – не будзі...
І адсунься ад небакраю.
Кубак з зеллем пад ложкам знайдзі.
Адглытні і скажы: "Кахаю!"

А затым у той кубак глядзі
І шукай там атрутныя зёлкі
На тры крокі яшчэ адыдзі,
Каб убачыць на мне злыя зоркі.

У той кубак глядзі і глядзі.
Там начуюць на дне злыя чары...
Калі знойдзеш – мяне разбудзі.
Мы з табой будзем разам – пачвары.

А не знойдзеш – таксама будзі.
І тады я скажу: “Я кахаю!”
І тады ў мае вочы глядзі.
Там не знойдзеш ты небакраю.

* * *

Калі хтосьці пракрычыць: “Кахаю”, –
Я да сэрца рэха прытулю.
З рэхам тым дайду да небакраю.
Упаду і прашапчу: “Люблю...”

Калі ты па рэху мяне знойдзеш,
Прашапчы: “Кахаю і люблю”.
Маладзік у поўню ціха зойдзе.
Усміхнецца мама немаўлю.



Сяргей Календа



...я ніколі яго не бачыў сярод жанчын,
толькі сярод накрадзенага...

# Браты Галівуд

***Апавяданне***

**1.**

Вось трое па-свойму цікавых і незвычайных мужчын, будзем зваць іх браты Галівуд.

Старэйшы ўжо больш за дзесяць год у міжнародным вышуку: забойства, гвалт, рэкет.

Сярэдні... самы яскравы, запамінальны і харызматычны, пра яго крыху пазней.

Малодшы адсядзеў дзесяць год за збіццё, якое прывяло да смерці ахвяры праз два месяцы ў бальніцы. Ён сеў у дзевятнаццаць і выйшаў, калі яму споўнілася дваццаць дзевяць. Паводле судовай пастановы яго дэпартавалі з краіны. Цяпер ён жыве ў Літве, пячэ хлеб...

Бацька братоў Галівуд раней “крышаваў” палову Менска і раён Ждановічаў, Заслаўя і Маладэчна. Сядзіць у турме з дзевяноста восьмага года. Ён трапіў на пажыццёвае паводле крымінальных спраў, якія зачытвалі на пяці старонках.

Сярэдні брат – вялікі сябра майго дзядзькі Нагана, яны разам у двары корпаліся, разам пачалі красці, піць, разам махаліся ў бойках між раёнамі, разам сядзелі на наркотыках, разам раскумарваліся і разам маталі “срокі”. Сярэдні брат – адналюб, ён закаханы толькі ў адну жанчыну, з якой пазнаёміўся яшчэ ў бальніцы, калі дзядзьку майго прывезлі па “хуткай” – з разварочанаю рукою, бо, калі яны “падымалі хату”, лом у дзвярным праёме сарваўся і праціяў дзядзькаву руку, ажно костка вялікага пальца глядзела вонкі.

У выніку: дзве аперацыі, тры стрыжні ў руцэ, два месяцы ў гіпсе.

Сярэдні Галівуд пабачыў Валю ў прыёмным пакоі. У іх завязаўся раман.

Сярэдняга брата можна апісаць так: тонкія італьянскія вусы, прыемная знешнасць, прыгожыя вочы, атлетычнае цела, спіна ў прышчыках і канцэнтраваны пах адэкалону. Калі я быў малым, дзядзька з братам і ягонай Валяй месяц жылі ў нас, хаваліся... Я падышоў да мамы, якая ў ванным пакоі запіхвала ў старую савецкую пральную машынку прасціны, спрэс у плямках, і зарагатаў, пачаў тыкаць на плямкі: “Дзядзеў сябра па начох пісаецца! Ха-ха-ха!” – але мама на мяне як крыкне, каб я правальваў адсюль...

Сярэдні брат шмат займаўся сэксам, па тры-чатыры разы з Валяю за ноч, і спускаў усё ў ложак. І гэтыя вечна запэцканыя прасціны даводзілася кожны дзень паласкаць у машынцы, бо брат такі чысцюля, раніцай абавязкова ў ванным пакоі на падлогу кідаў спачатку прасціны, а потым і бруднае споднее...

Каханне ў дзядзькавага сябра было вялікім, неабсяжным. Часам яны сварыліся, і нават моцна, даходзіла да таго, што ён неяк у машыне ўтыкнуў у калена каханай Валі паляўнічы нож, каб яна не сышла ад яго... А аднойчы збіў яе так, што яна трапіла ў рэанімацыю, ізноў жа, каб яна яго не пакінула.

Потым ён кожны дзень яе наведваў з букетам чырвоных руж. Валя акрыяла, і яны зноў пачалі жыць разам, мяняць кватэры, калоцца разам і разам лячыцца – спачатку ад наркотыкаў, потым ад гепатыту.

Сярэдні брат быў у рэспубліканскім вышуку за забойства аднаго буйнога прадпрымальніка... Шукалі яго ўжо тры гады, ён памяняў знешнасць, наўмысна патаўсцеў, адпусціў валасы і бараду, пачаў насіць акуляры, але гэта не дапамагло: аднойчы, калі ён наведаў сябра, які святкаваў дзень нараджэння, хтосьці з гасцей яго здаў.

Пра гэта пісалі газеты. Бралі яго спецатрадам, у пяціпавярховіку ў раёне вуліцы Караля ў Менску. Калі вынеслі ўваходныя дзверы, ён сядзеў на кухні і, вядома, не чакаў такога павароту падзеяў, але паспеў застрэліць двух амапаўцаў і трох моцна пакалечыць першым, што трапілася пад руку, – відэльцам: цэліў у твар.

Сярэдняга брата Галівуд асудзілі на пажыццёвае. Валя горка плакала ў судзе.

– Ён ужо адсядзеў дзесяць год і трапіў пад амністыю, яму засталося сядзець пятнаццаць. А я шэсць год таму выйшла за яго замуж, у турме. Чакаю яго... Калі ён вызваліцца, яму будзе пяцьдзясят, – распавядае мне Валя, пакуль мы ідзём па вуліцы. Я прыехаў у Менск па справах, сустрэў яе – ледзь пазнаў.

## 2.

Малодшы з братоў Галівуд быў самым адэкватным хлопцам, мы з ім аднаго веку, і калі ён упершыню з'явіўся ў нашай кватэры і назваўся Лёнькам, яму было, як і мне, адзінаццаць.

Ці варта казаць, як шчыльна мы пасябравалі?! Абодва вісусы, на якіх шэрсць гарэла, лёталі ў двары, біліся з мясцовымі, гулялі ў "футбік" і "ножыкі", і самым вялікім святам для нас было, калі мая маці дазваляла Лёньку начаваць у маім пакоі.

Уявіце: ноч, мы пад коўдрай, сядзім, сакочам і распавядаем адзін аднаму сакрэты: "я неяк з дзеўкаю цалаваўся", "а я бачыў сапраўдныя грудзі", "а я бачыў, як мае бацькі трахаліся", "а я магу харкаць саплямі, глядзі!", а я, а я... Рагаталі паўночы ды так шалелі, што бацькам даводзілася нас разводзіць па розных пакоях.

Нашае сяброўства доўжылася два гады, пакуль Лёньку да нас прывозіла ягоная маці, якая сябравала з маёю, а потым, калі старэйшага брата Галівуд абвясцілі ў міжнародны вышук і родная маці сама ўжо не ведала, куды ён падзеўся і дзе хаваецца, Лёньку адвезлі ў іншы горад, каб парваць сувязь з былымі знаёмымі і сябрамі ды паспрабаваць жыць наноў – можа, тады старэйшы сын дашле якую вестачку. Тым болей на новым месцы можна было прыдумаць новае жыццё, бо малодшы застаўся адзіным з братоў, які мог вырасці ў добрага хлопца і цудоўнага мужчыну.

Я сумаваў па ім, але, як гэта часта бывае ў трынаццаць, хутка пра яго забыўся.

Калі мне было дзевятнаццаць, я даведаўся, што малодшы брат загрымеў у турму, і было гэта так: увечары ішоў ён са сваёю дзяўчынаю дамоў, дакладней, праводзіў яе дадому, у незнаёмым раёне на іх напалі двое мужчынаў. Лёньку пачалі біць, дзяўчыну скруцілі, пагражалі згвалтаваць і забіць. Лёнька, доўга не думаючы, раскрыў свой нож-матылёк – і аднаму ў печань, другому ў нагу.

Адзін мужчына, кульгаючы, уцёк, другі памёр у бальніцы. Лёньку прывезлі ў міліцыю, справа была зразумелаю, абарона... Але калі Лёньку "прабілі" па базе дадзеных, дык выявілі, што ягоны бацька хрэн ведае колькі гадоў матае свой тэрмін, сярэдні брат сядзіць на пажыццёвым, а старэйшы ў міжнародным вышуку.

Лёньку вельмі моцна, і тут я не перабольшваю, вельмі моцна збілі – і той падпісаў прызнанне, што наўмысна забіў, што вінаваты і г.д.

Лёньку далі дзесяць год.

На зоне ён адразу трапіў пад апеку "злодзеяў у законе", і калі выйшаў на волю, яго немагчыма было пазнаць, бо гэта ўжо быў не Лёнька Галівуд, гэта быў монстр, драпежнік, д'ябал.

Лёньку не далі доўга пажыць у Беларусі, яго дэпартавалі, і я тады неяк уздыхнуў з палёгкай, бо баяўся, што ён можа ўспомніць пра сяброўства ў дзяцінстве і завітаць да мяне ў госці.

## 3.

Старэйшы з братоў Галівуд – галоўны вар'ят у сям'і. У яго ніколі не было грошай, але заўсёды лядоўня трашчала ад ежы, пакоі былі заваленыя адзеннем і апаратураю.

Старэйшы брат цягнуў дамоў усё, што ляжала кепска, і ўсё, што нават было прыбіта цвікамі... Бывала і так, што людзі ставілі ў машынах супрацьугонны апарат, сігналізацыю і блакіратар стырна, ён здымаў з машыны ўсё гэта і дадаваў да калекцыі магнітолу.

У краму ён хадзіў у сваёй куртцы-пілотцы, у рукавы лёгка змяшчалася колькі палак кілбасы і кілбасны сыр, у кішэню – гарэлка.

Хлеб і масла ён набываў!

Па начох старэйшы брат Галівуд "падымаў" шапікі ды кватэры і заўсёды працаваў адзін.

Старэйшы брат быў шчыра закаханы ў сваю калекцыю адмычак, розных ключоў, кавалкаў гітарных струн, металічных лінеек і процьму іншага, што было ў ягоным чорным дыпламаце. Я ніколі яго не бачыў сярод жанчын, толькі сярод накрадзенага.

Ён адзіны ў сям'і, хто ніводнага разу не трапляў у турму, і раптам яго быццам падмянілі: ён са звычайнага "дамушніка", "фортачніка" і кішэннага злодзея ператварыўся адразу ў маньяка. Ён пачаў насіць акуляры, вялікія, прафесарскія, з тоўстымі лінзамі, адпусціў сабе вусы з васьмідзясятых, згвалтаваў, паводле следства, пяць жанчын, забіў аднаго мужчыну, знік у РФ – і больш яго ніколі ніхто нідзе не бачыў. А я памятаў, як да знікнення старэйшы брат Галівуд казаў майму дзядзьку, што яго пераследуюць нават не мянты, але нейкая патаемная арганізацыя, ён ім патрэбны і ён ім вінны шмат чаго... Гэты іх ціхі дыялог пад траўкай позняй ноччу я добра памятаю, мне было ўсё чутна з прыбіральні, дзе я затрымаўся, каб праз вентыляцыю падыхаць дымам ад самакрутак.

Ксенія Калашнікава



...у балота

няма дна...

# Гонка

***Навела***

Перахапі торбу ў другую руку. Ты стаміўся, але ты павінен працягваць бегчы.

Сканцэнтруйся на працы. Табе трэба зарабляць грошы, каб жыць, як ты прывык.

Ігнаруй боль. Ён не павінен адцягваць цябе – заглушы яго алкаголем.

Чарада дзён, падобных адзін да аднаго, дзён, падзеі якіх ты не можаш успомніць ужо праз пару гадзін. Усё змяшалася ў адзін велізарны дзень – невыразны, каламутны, насычаны падзеямі і абсалютна пусты адначасова.

Утаропіцца ў манітор, каб ніхто не заўважыў, што ўсе твае думкі звяліся да адной: «Што я раблю са сваім жыццём?» Ты ненавідзіш сваю працу, цябе раздражняюць жарты тваіх калег, ты стаміўся ад вар’яцтва кліентаў, табе надакучыла існаванне «ад зарплаты да зарплаты».

Але ты нічога не змяняеш.

Табе падабаецца горкая кава, якую ты п’еш кожную раніцу, седзячы ў зручным крэсле перад новенькім ноўтбукам. Ты дзелішся сваімі гісторыямі з калегамі, якіх бачыш кожны дзень мінімум па восем гадзін, якія ведаюць усе твае капрызы і дзівацтвы. Для цябе твая праца – адзінае, што ты разумееш. Адзінае, што ты яшчэ можаш кантраляваць у гэтым велізарным свеце, у якім ты – ніхто.

Ты адзін з шэрага натоўпу, маўклівыя рэкі якога разліваюцца па пераходах і станцыях метро. Адна з тых патухлых асоб, якія невідушча глядзяць перад сабой і пазбягаюць сутыкнуцца позіркам з іншымі. Адзін з тых, што моцна трымаюцца за поручні і бязвольна гайдаюцца ў такт падскокам вагона.

Трымай свой заплечнік мацней, калі будзеш выходзіць. У ім твой абед з прадуктаў па акцыі і твой сшытак для запісаў, які ніколі не будзе пачаты.

Глядзі пад ногі, калі будзеш выходзіць. Твае чаравікі, якія ты не можаш выкінуць ужо некалькі гадоў, мусяць не адціснуць іншым ногі і засцерагчыся ад чужых слядоў.

Уліся ў агульную плынь людзей, калі будзеш выходзіць. Як частка адзінага арганізма, тваё цела будзе рухацца ў адным рытме з усімі вакол, а твая абыякавасць да ўсяго вакол будзе гучаць ва ўнісон з гулам метро.

Мы пражываем нашыя жыцці, будучы «аднымі з». Мы трацім нашы дні на тое, каб быць «як ўсе».

Мы адпавядаем чаканням, якія нам не падабаюцца. Мы дамагаемся мэтаў, якія нам не важныя.

Мы глядзім вакол у надзеі, што хтосьці выратуе нас. Мы пазбягаем самі ратаваць кагосьці з-за страху, што нас пакрыўдзяць.

Вакол гучаць заклікі адрозніваецца – і мы натхняемся імі. Побач з намі ёсць смельчакі-бунтары – і мы захапляемся імі. Перад намі перспектывы змяніцца – і мы ўцякаем ад іх, як ад агню.

«Ці так важна адрозніваецца, у рэшце рэшт? Я ведаю так шмат прыкладаў, у каго нічога не выйшла!»

Мы адмаўляемся нешта змяняць, бо мы баімся прайграць. Мы не хочам станавіцца іншымі, бо мы не хочам ганьбавання. Мы не падтрымліваем перамены, бо мы любім зразумелыя рэчы.

Тыя, хто адважыўся змяніцца, паказваюць нам, што мы не змаглі. І мы пачынаем жадаць, каб яны прайгралі.

Я бягу ў агульнай плыні. Я моцна сціскаю заплечнік. Я слізгаю поглядам па-над галовамі, не ўзіраючыся ў твары.

Я адна з нас.

Я стамляюся ад сваёй працы, але трымаюся за яе – яна надзейная і дае грошы. Я не прымаю патрабаванняў грамадства, але прытрымліваюся іх – яны вызначаюць для мяне зразумелае месца. Я бязмежна самотная, але я не імкнуся зближацца з людзьмі – яны могуць не зразумець і пакрыўдзіць.

Я бягу ў гэтай гонцы, як і многія іншыя. Спыняючыся часам, заміраючы, затрымліваючы дыханне – каб праверыць: я яшчэ жывая. Я яшчэ існую. Я тут.

«Што я раблю са сваім жыццём?»

Я яшчэ жывая?

Я толькі існую. Я не там, дзе хачу быць. Я не тая, кім імкнулася стаць.

Збянтэжана азіраюся. Я загнала коней, але не дасягнула мэты – бо

рухалася ў няправільным кірунку. Гэта не мой шлях – але я бегла па ім, адкінуўшы ўсякія думкі. Вакол мяне акіян магчымасцяў – а я скочыла ў балота, заплюшчыўшы вочы.

Кажуць, дасягнуўшы дна, можна адштурхнуцца і падняцца наверх – але ў балота няма дна. Я павінна спыніць падзенне – і пачаць уздымацца.

Тут і зараз. Спыніся. Паглядзі на сябе – чыім жыццём ты жывеш? І ці жывеш ты ўвогуле?

У гэты самы момант. Замры. Падумай як след – што ты робіш з сабой? І хто вызначае твае дзеянні?

Мне страшна ўсё мяняць – але яшчэ страшней заставацца той, хто я цяпер. Тая я, якой я заўсёды захаплялася, не заслужыла такога стаўлення. Я заслугоўваю жыць поўным жыццём і бачыць свет сваімі вачыма, а не скрозь заслону чужых перакананняў. Сапраўдная я цудоўная – чаму ж я хаваю яе ад усіх?

Я хачу ўсё змяніць, і гэта відавочна будзе няпроста. Але я веру ў сябе – так проста і безумоўна. Пакуль у мяне ёсць я, я не прападу.

А што будзеш рабіць ты?

*30 красавіка 2019*



дэбют

Анастасія Макоўская



...ідэя любові

перамагае ідэю ўзвышэння...

# Канцэпцыя Вялікага злодзея

## *Новае прачытанне раманаў "Злачынства і пакаранне" Фёдара Дастаеўскага і "Пошукі будучыні" Кузьмы Чорнага*

Ніводная нацыянальная культура не існуе ізалявана, ва ўсёй сваёй самабытнасці яна так ці інакш жыве і развіваецца ў рэчышчы сусветнай культуры, з'яўляецца яе неаддзельнай часткай. Менавіта таму для гэтай работы была абраная форма параўнання: яна дазволіць нам вывесці сваё, беларускае, на ўзровень сусветнага, выявіць асаблівасці паасобнага і прасачыць у ім рысы агульнага. Чаму гаворка пойдзе менавіта пра Кузьму Чорнага і Фёдара Дастаеўскага? На наш погляд, менавіта Кузьма Чорны быў адным з першых беларускіх пісьменнікаў, які зрабіў спробу зірнуць на агульначалавечае праз прызму нацыянальнага, а шукаць адпаведны яму сусветны кантэкст падаецца лагічным у творчасці найбольш блізкага яму – па светапоглядзе і творчым метадзе – пісьменніка, якім і з'яўляецца Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі.

З чаго пачаць размову пра агульначалавечае? Бясспрэчна, з пытання, на якім будуецца ўспрыманне чалавекам сусвету: што ёсць дабром і злом у нашым жыцці і адкуль яно паходзіць, як

уплывае на свет? Раманы “Злачынства і пакаранне” Ф.М. Дастаеўскага і “Пошукі будучыні” Кузьмы Чорнага і былі спробай стварэння аўтарскай канцэпцыі сусветнага зла (у Чорнага яна ўвасабляецца ў вобразе няўлоўнага Вялікага злодзея) і разгляду механізмаў яго функцыянавання.

Каб лягчэй было назіраць за працэсам стварэння вобраза Вялікага злодзея ў абодвух творах, давайце паглядзім, па якой схеме гэта будзе адбывацца.

Усё пачынаецца з таго, што кожны герой твора надзяляецца пэўнай ідэяй, якая знаходзіць падабенства ў ідэях адных герояў і адрозненне ў ідэях іншых. Так фарміруецца сістэма герояў: яна складаецца з груп герояў-двайнікоў і герояў-апанентаў, дзе, суадносна, ідэі аб’ядноўваюцца пад адной, больш агульнай, выяўляюць сваё паходжанне і сутыкаюцца, параўноўваюцца. У выніку гэтага параўнання вызначаецца, якая з ідэй найбольш чалавечная. Назавём праверку ідэі на чалавечнасць яе выпрабаваннем.

Выпрабоўваецца і сам герой. Ці здатны ён адчуць і праявіць спагаду? Ці здольны прыслухацца да голасу сумлення і адмовіцца ад бесчалавечнай ідэі? Ці хопіць у яго сілы ўтрымацца ад спакусы вярнуцца да бесчалавечнасці, застацца верным ідэі чалавечнай? Калі герой годна вытрывае ўсе этапы выпрабавання (чалавечнасцю, сумленнем, спакусай), пацвердзіць трываласць сваёй чалавечнасці, то атрымае права на будучыню.

## Сцвярджэнне і разгляд ідэі. Двайнікі

У першай групе герояў-двайнікоў рамана “Злачынства і пакаранне” аб’ядноўваюцца ідэі Радзівона Раскольнікава, Аркадзя Свідрыгайлава і Пятра Лужына. Для ўсіх трох герояў мэта апраўдвае сродкі, але для кожнага з іх гэтая мэта ўяўляецца па-рознаму.

Першапачаткова ідэя Раскольнікава прадугледжвала дапамогу іншым. Раскольнікаў, як чалавек, які надзвычай востра адчувае чужы боль, імкнецца да імгненнай дапамогі. Калі яго сястры, Дуні Раскольнікавай, пагражае шлюб з падступным Пятром Лужыным, герой прагне “абавязкова штосьці зрабіць, і зараз жа, як найхутчэй, хоць сканаць, а наважыцца хаця б на нешта”. Гэтым “нечым” для героя робіцца забойства: ён гатовы забіць і Лужына, і Свідрыгайлава – усіх, хто толькі наважыцца пагражаць яго сястры. Забойства становіцца для яго дабрачыннасцю пры ўмове, што яно ўчыняецца дзеля іншых. Так нараджаецца арыфметычная тэорыя Раскольнікава – *“адна смерць – і сто жыццяў замест”*.

Хаця Аркадзь Свідрыгайлаў і сцвярджае, што яму, “дапраўды, не адно ж толькі гвалт чыніць”, годнай мэтай для яго збольшага застаецца ўласная ўцеха. Таму і дапамога як такая часцей за ўсё накіроўваецца ім найперш на задавальненне нейкіх сваіх задум. Так, у абмен на грашовую дапамогу ён прапануе Дуні зрабіцца яго каханкай і з’ехаць з ім за мяжу. Пётр Пятровіч Лужын, у сваю чаргу, не бачыць нічога вартага ні ў чым, акрамя сябе. *“Любі перадусім аднаго сябе, бо ўсё на гэтым свеце на ўласнай карысці засноўваецца”*– вось ідэя, паводле якой жыве гэты герой. Дапамагаючы сабе, на думку Лужына, чалавек дапамагае ўсяму грамадству, бо стварае такім чынам “агульны дабрабыт”. Менавіта з гэтага “агульнага дабрабыту” і павінен атрымліваць карысць той, хто жыве ў нястачы, а не з “паасобных шчодрасцей”, як Лужын называе дабрачыннасць.

Але трэба прыгледзецца да гэтых ідэй больш пільна: тады гэтыя прыгожыя матэматычныя схемы выявяць унутры сябе нешта большае, страшнейшае.

*“Адна смерць – і сто жыццяў замест”*. Забі злога чалавека – і вызваліш свет ад таго зла, якое ён у гэты свет прыносіць. Але ж забойства – ненатуральная справа для чалавека, бо сумленне, прыродай закладзенае ў кожным з нас, альбо не дасць здзейсніць злачынства, альбо не дасць вытрываць асэнсавання здзейсненага. Таму, каб атрымаць магчымасць “імгненна дапамагаць”, трэба пазбавіцца

сумлення, ці “пераступіць”, як называе гэта сам Раскольнікаў. Тут і ўступае ў гульню другая яго тэорыя. Паводле здольнасці не падпарадкоўвацца законам сумлення Раскольнікаў падзяляе людзей на два разрады: *“істот дрыжачых” і тых, хто “права мае”*. Вось, як герой фармулюе сваю тэорыю:

“Першы разрад, то-бок матэрыял, агулам кажучы, людзі па натуры сваёй кансерватыўныя, прыстойныя, жывуць у падпарадкаванні і любяць падпарадкоўвацца. Па-мойму, яны абавязаны падпарадкоўвацца, бо гэта іх прызначэнне, і тут анічога ганебнага для іх няма. Другі разрад, усе пераступаюць закон... збольшага яны патрабуюць, у досыць разнастайных праявах, знішчэння існага на карысць лепшага. Але ж калі яму трэба, для сваёй мэты, пераступіць хаця б і праз труп, праз кроў, то ён унутры сябе, па сумленні, можа даць сабе дазвол пераступіць праз кроў, – гледзячы, аднак, па ідэі і па маштабах яе, – гэта заўважце”.

Гаворачы пра першы разрад людзей, Раскольнікаў таксама зазначае, што калі яны зробяць спробу “пераступіць”, то ніяк не вытрымаюць свайго ўчынку і “самі сябе адлупцуюць, бо надта добрае выхаванне маюць”, то-бок занадта залежаць ад абмежаванняў сумлення, каб быць здатнымі на нешта незвычайнае.

Такім чынам, забойства старой мусіла стаць першым крокам на шляху да атрымання права неабмежаваных магчымасцей рабіць “імгненнае дабро”. Менавіта таму герой і кажа сястры Дуні, што “каб дапамагаць, трэба спачатку права такое мець”. Але скрадзеныя грошы, якія Раскольнікаў меўся патраціць на гэты першы крок, ледзь не аказваюцца ў вадзе! Герой і сам гэтаму здзіўляецца, не можа цалкам сабе патлумачыць. Пазней, спавядаючыся Сонечцы і спрабуючы абгрунтаваць матывы свайго злачынства, Раскольнікаў нарэшце спасцігне прычыну такіх паводзінаў:

“– А сапраўды, – сказаў ён, нібы *здагадаўшыся*, – гэта ж так і было! Вось як: я хацеў Напалеонам зрабіцца, таму і забіў... Мне трэба было высветліць і хутчэй высветліць, ці вош я, як усе, ці чалавек? Здолею я пераступіць ці не здолею? *Істота я дрыжачая або права маю*”.

Ідэя героя незаўважна для яго самога муціруе, і на момант здзяйснення забойства ўнутры Раскольнікава ўжо адбываецца падмена паняццяў: тое, што мелася здзяйсняцца як подзвіг, як дабрачыннасць, робіцца дзеля атрымання ўлады, дзеля *ўзвышэння сябе над іншымі* пры дапамозе забойства.

Ідэі двайнікоў героя таксама ўрэшце зводзяцца да ўзвышэння. Свідрыгайлаў спаталяе свае жаданні, карыстаючыся ўзроставай перавагай над маладымі дзяўчынамі, – *узвышаецца над іншымі за кошт сілы*. Але мацней за ўсіх прагне ўзвышэння Лужын. Вось што ён кажа пра жаніцьбу з Дуняй:

“Ён атрымліваў нават болей, чым яму марылася: трапілася дзяўчына гордая, натурыстая, цнатлівая, выхаваннем і развіццём *вышэйшая* за яго (ён гэта адчуваў), і такое стварэнне будзе *па-рабску ўдзячным* яму ўсё жыццё за яго подзвіг і *пабожна знішчыцца перад* ім, а ён ужо будзе *бязмежна і суцэльна ўладарыць*”.

“Па-рабску”, “знішчыцца”, “уладарыць” – які трапны выбар слоў! Усё робіцца зразумела і без тлумачэння.

У рамане “Пошукі будучыні” носьбітамі ідэі ўзвышэння з’яўляюцца Густаў Шрэдэр, граф Паліводскі і Люцыян Акаловіч.

Кожны герой звязвае сваю будучыню з пошукам дому. Нямецкі салдат Густаў Шрэдэр у лісце да сваіх родных узгадвае іх сямейную мару – *“з арандатараў чужой зямлі зрабіцца ўласнікамі”*. Граф Паліводскі, які страціў бацькоўскі дом і ўсе свае маёнткі пасля рэвалюцыі 1917, марыць вярнуцца ва Усходнюю Беларусь і “*зноў зрабіцца графам і ўласнікам маёнткаў”*. Люцыян Акаловіч, якому бацька “прышчапіў” ідэю пра пашырэнне Польшчы на ўсход, прагне вярнуць сям’і страчаную некалі зямлю пад Бабруйскам. Але што значыць для герояў гэты дом і якімі сродкамі яны яго шукаюць? Густаў Шрэдэр хоча стаць УЛАСнікам – атрымаць УЛАДу над зямлёй і, магчыма, людзьмі, якія на ёй жывуць, а адзіным прыдатным для гэтага

сродкам ён бачыць рабаванне чужога краю. “Можа, я здолею зноў *здабыць тут табе тваё*, любы мой Густаў”, – піша немец сыну ў лісце. Граф Палівodскі, які ніколі сваіх зямель і не бачыў, а толькі “браў з іх чысты прыбытак”, смуткуе не столькі па страце дому як месца, на якім ён быў шчаслівы, як па колькасці дамоў, колькасці МАЁнткаў, якія пацвярджалі яго тытул і ўзвышалі над ненавіснымі мужыкамі. Люцыян Акаловіч старанна не заўважае шчасця, якое мае на роднай зямлі. Ён жадае большага, таго, што, зусім як граф Палівodскі, ніколі ў жыцці не бачыў. Разам з бацькам ён смяецца са слова Беларусь і ненавідзіць усё, што не польскае. Яго мара – узвышэнне польскай нацыі над усімі іншымі ці хаця б над той, якая жыве замест яго пад Бабруйскам. Урэшце ідэі ўсіх трох герояў-двайнікоў зводзяцца да ўзвышэння, таму зусім не выпадкова яны знойдуць пасля “адлюстраванне сваіх асабістых думак” у вучэнні фюрара. Вучэнне гэтае агучвае ў рамане галоўны двайнік Густава Шрэдэра – яго сын Густаў Шрэдэр-малодшы:

“На гэтай зямлі жывуць не людзі, а *казюлі з нявольніцкай* псіхалогіяй. Яны *створаны, каб быць слугамі. Павесь над іхнімі галавамі меч*, дык яны адразу ўверуюць, што гэта не меч над імі, які кожны момант можа зарубіць іх, а што гэта вісіць *найвялікшая справядлівасць* усёй светабудовы, і пачнуць з удзячнасцю лізаць боты ў таго, хто павесіў над імі гэты меч. Вось хто насяляе гэтую зямлю. Так што ты, бацька, сапраўды тады дарэмна быў перад імі паддаўся парыву радасці... Ты да таго быў страціў сваю нямецкасць, што *аддаў* ім здабытае на вайне. Чаму? А толькі з-за таго, што заварушылася душа. *Германію зробіш вялікай не душой, а жалезам*”.

Шрэдэры прыйшлі ўладарыць над “казюлямі з нявольніцкай псіхалогіяй” – Раскольнікаў “толькі вош забіў, бескарысную, брыдкую, шкодную”; “казюлі” Шрэдэра створаны, каб быць слугамі, каб падпарадкоўвацца – “істоты” Раскольнікава “любяць падпарадкоўвацца, бо гэта іх прызначэнне”; казюлі будуць лізаць боты таму, хто павесіў над імі меч – “істоты” “самі сябе адлупцуюць” за непадпарадкаванне закону і, больш за тое, ставяць сваіх катаў “на п’едэстал і ім пакланяюцца”. Падабенства ідэй двух раманаў відавочнае. Тэарэтычныя меркаванні Раскольнікава прыводзяцца ў дзеянне менш як праз стагоддзе пасля іх стварэння. *Мэта жыцця – узвышэнне за кошт сваёй сілы, а бескарыслівa аддаваць і адчуваць “добрыя пачуцці” – злачынства.*

Зусім іншы светапогляд маюць Соня Мармеладава і Дуня Раскольнікава. Абедзве жанчыны згаджаюцца прыняць на сябе пакуты дзеля выратавання сваіх блізкіх: Соня, абцяжараная ганьбай, не раз думае пра самагубства, але адмаўляецца ад гэтага ўчынку, каб не пакінуць без падтрымкі сям’ю; Дуня гатовая пайсці замуж за агіднага ёй чалавека, Пятра Лужына, дзеля таго, каб забяспечыць добрую будучыню свайму ўлюбёнаму брату. “Яна цябе больш за сябе саму любіць”, – піша маці Радзівону пра Дуню. “Мы адно, заАДНО жывём!” – кажа Соня пра сваю сям’ю. У адрозненне ад першай ідэі рамана, тут няма месца ўласнай карысці, уласнаму ўзвышэнню, бо вышэйшая каштоўнасць для гэтых жанчын не яны самі – іх “мілыя, любімыя людзі”. Для іх аддаваць – не злачынства, а любоў.

Падобныя ідэі мы назіраем у другой групе герояў “Пошукаў будучыні”. Кастусь Лукашэвіч, стары Нявада і Сымон Ракуцька, як і іх ідэйныя апаненты, звязваюць будучыню з домам. Усе яны выгнаннікі: сям’ю Лукашэвіча і Сымона Ракуцькі “выгнала ў свет” Першая сусветная вайна, стары Нявада быў вымушаны пакінуць родныя Сумлічы, каб далучыцца да салдат расійскай арміі. Як носьбіты беларускага нацыянальнага характару, героі маюць паталагічны страх дарогі і выгнанніцтва, ім абавязкова трэба за нешта зачапіцца, да чагосьці прымацавацца. Кастусь ратуецца ад беспрытульнасці, дапамагаючы Волечцы, Нявада дзівіцца з Палівodскага, бо “*як жа гэта так жыць, каб чалавеку на свеце не было за што душой зачапіцца*”. Але калі героі першай групы атаясамліваюць дом з маёмасцю, з узбагачэннем, з узвышэннем над іншымі, то дом і гаспадарка не маюць сэнсу для герояў другой групы без людзей, дзеля якіх яны апрацоўваюць зямлю і “даводзяць да дасканаласці

сваю дамоўку”. Вяртанне дадому, пад Вілейку, губляе для Кастуся сэнс, бо родныя мясціны звязваліся ў яго ўяўленнях з нябожчыкам-бацькам. А якое трапяткое яго стаўленне да Волечкі! Чаму хлопчык так баіцца за маленькую гаспадыню, калі яна хварэе? Бо страшна страціць яе: у ёй увесь сэнс Кастусёвага існавання. Дзеля яе ён “і клён пасадзіў, і поле ад дзікай травы ратаваў”. Для Нявады “*без Волечкі і без шыпшыны няма і роднай бацькаўшчыны”*. Што ж Сымон Ракуцька? *“Сымону Ракуцьку спачатку здавалася, што варта яму толькі зноў звіць сабе гняздо, як ён скіне цяжар свой”*. Новы дом пабудаваны, а спакой у душу не вяртаецца, бо сэнс не ў тым, каб есці хлеб, а ў тым, каб есці яго разам з улюбёнымі дзецьмі, пра якіх ён думае кожную хвіліну, у клопаце пра якіх – няхай і марным, незаўважным праз адлегласць! – ён знаходзіць псіхалагічны паратунак.

Паказальны для герояў і сродак дасягнення жаданай будучыні: не забраць, не “знайсці тут табе тваё”, а адбудоўваць свой дом зноў і зноў, колькі б разоў іх не выганялі з іх родных мясцін.

Як Дастаеўскі надзяляе ідэяй любові жаночыя вобразы, так і Чорны абагульняе сваіх чалавечных герояў пад вобразам дзяўчынкі – маленькай Волечкі Нявады. У душы Волечкі “многа месца для чужой бяды”, у яе гаспадарскай клапатлівасці нібыта ўвасобілася ўся спагада гэтага свету.

Цяпер мы ведаем, на якіх дзвюх магістральных ідэях будуюцца раманы: гэта ідэі ўзвышэння і любові. Але ж якая з іх самая чалавечная? Якім бы відавочным ні здаваўся адказ, пойдзем за самімі аўтарамі, бо для абодвух пісьменнікаў надзвычай важна, каб чалавечнасць перамагла ў роўным баі.

### Выпрабаванне ідэі. Героі-апаненты

Радзівон Раскольнікаў – герой двухмерны, дзве супрацьлеглыя ідэі вядуць унутры яго барацьбу. Таму выпрабаванне яго ідэі будзе адбывацца не толькі на ўзроўні яго сутыкнення з героем-апанентам – Соняй Мармеладавай, але і на ўзроўні герояў-двайнікоў. Раскольнікаў атрымае магчымасць паглядзець на варыяцыі сваёй ідэі збоку і выявіць сваё да іх стаўленне.

Ідэя Раскольнікава – падзел чалавецтва, ўлада “над кожнай мізэрнай пачварай, над цэлым мурашнікам” – сутыкаецца з непахіснай ідэяй Соні пра суцэльнасць свету (дзяўчына “заадно” з сям’ёй – значыць, яны адзіныя, непадзельныя). Раскольнікава здзіўляе: як Соня здолела захаваць чысціню душы ў такіх бесчалавечных, брудных умовах? Ён адразу ж дае сабе адказ на сваё пытанне, але не асэнсоўвае яго да канца і таму лічыць Соню вар’яткай. “Ад канавы яе ўтрымлівала думка пра грэх і *яны, тыя”* – Соніну душу падтрымлівае любоў да блізкіх і цвёрдая сістэма каштоўнасцей, стрыжнем якой з’яўляецца Бог, які па сутнасці і ёсць сумленне, якое так перашкаджае Радзівону. Пакуты Раскольнікава вынікаюць з яго прагі вырашаць, каму жыць, а каму паміраць. Героя абцяжарвае не столькі нават сам факт забойства, колькі асэнсаванне ўсёй жорсткасці яго матываў – Раскольнікава гняце яго ўласная ідэя: “Калі б я зарэзаў адно праз тое, што галодным быў, дык я б цяпер шчаслівы быў! Ведай ты гэта!” Соня ж на прапанову Раскольнікава вырашыць, “ці Лужыну жыць ды мярзоты чыніць, ці паміраць Кацярыне Іванаўне” адказвае, што *не мае на гэта права*. Дакладнае размежаванне добрага і злога, чысціня сумлення, жыццё дзеля іншых – усё гэта хаця б часткова захоўвае жыццё Соні і яе блізкіх. Да таго ж яе бясконцая любоў да бліжняга выратоўвае Раскольнікава: у яго злачынстве Соня бачыць найперш трагедыю яго ўласнай душы (“Што гэта вы *над сабой* учынілі!” – скажа Соня, калі даведаецца, хто забойца). Раскольнікаў, які зрабіў спробу пераступіць праз кроў і сумленне дзеля ўласнага ўзвышэння, пакрысе сам вар’яцее, разбурае сябе несупыннай барацьбой супрацьлегласцей, забірае жыццё ў іншых людзей, прымушае пакутаваць сястру і маці. Выпрабаванне чалавечнасцю вытрымлівае ідэя Соні.

Часткова апанентамі Раскольнікава з'яўляюцца і Лужын са Свідрыгайлавым. На ідэю Лужына "любі перадусім аднаго сябе" Раскольнікаў рэагуе вельмі дзіўным чынам: "А давядзіце да наступстваў, што вы кагадзе прапаведавалі, і атрымаецца, што людзей можна рэзаць!" Раскольнікаў адмаўляе забойства дзеля высокай мэты і супярэчыць гэтым сам сабе. Жахлівай падаецца для Раскольнікава і перспектыва жаніцьбы старога Свідрыгайлава і маленькай шаснаццацігадовай дзяўчынкі. У Свідрыгайлаве, да якога героя так містычна цягнула нейкая сіла, Раскольнікаў пераконваецца "як у самым пустым і нікчэмным злачынцы ў свеце".

Крах ідэй Лужына і Свідрыгайлава адбываецца за кошт іх сутыкнення з Дуняй Раскольнікавай. Супрацьстанне Лужына і Дуні яскрава бачна па іх стаўленні да Соні Мармеладавай: у пагардзе Лужына, што хутка робіць высновы, нічога не ведаючы пра чалавека, і ў спагадзе і мудрасці Дуні, што, нягледзячы на плёткі, не грэбуе ёй пакланіцца. Узвышэнне над іншымі сутыкаецца з перакананасцю ў роўнасці ўсіх людзей на свеце – і прайграе. Дуня выганяе Лужына і гэтым даводзіць неспалучальнасць яго ідэі з жыццём. Крах свідрыгайлаўскай ідэі звязаны са стаўленнем героя да дапамогі. Дуня гатовая аддаць апошнія грошы брату, хаця б гэта асуджала яе на пакуты ў доме Свідрыгайлавых. Сам жа Свідрыгайлаў можа прапанаваць Дуні дапамагчы яе брату выратавацца ад Сібіры толькі пры ўмове, што яна ў адказ застанецца з ім. Ідэя бескарыслівай дапамогі перамагае ідэю ўзаемнай выгоды. Выпрабаванне чалавечнасцю вытрымлівае ідэя Дуні.

Самымі першымі ў рамане Кузьмы Чорнага выпрабоўваюцца ідэі Густава Шрэдэра і Волечкі Нявады. Шрэдэр падзяляе ўсіх людзей на сваіх і чужых, ён упэўнены, што на чужой зямлі да яго не паставяцца літасціва. "Побач са смерцю стаяць каля мяне чужыя людзі", – піша ён у хваробе свайму сыну. Волечка Нявада, збянтэжаная прысутнасцю чужых людзей у яе хаце, усё адно варыць вячэру "ўсім нам". І адбываецца цуд! Гэтыя "так непадобныя адзін на другога людзі" на кароткі момант робяцца адзіным цэлым, аб'яднаныя адной вячэрай, адным сталом, адным кароткім словам – "нам". Для Шрэдэра добрыя пачуцці – злачынства, для Волечкі спагада – натуральная і неаддзельная частка яе душы. Менавіта таму яна поіць свайго хворага ворага не проста з лыжкі – *з лыжачкі*, а з расповеду фельчара пра скрадзенае немцам золата выносіць толькі адну выснову: "*Божа, што той немец перажыў, **як ён мучыўся**!*" Ідэя Волечкі вытрымлівае выпрабаванне чалавечнасцю, і гераіня будзе ўзнагароджана за гэта жыццём: пазней, ужо пасталеўшы, яна атрымае сваю будучыню – народзіць дзіця.

Ідэя графа Паліводскага выпрабоўваецца ў сутыкненні з Сымонам Ракуцькам. Галоўнай сваёй перавагай граф бачыць багацце і тытул. Сымон Ракуцька ж разумее, што ўлада страчвае сваю значнасць перад тварам смерці. Граф Паліводскі ўпэўнены, што дапамога магчымая толькі пры ўмове атрымання за яе ўзнагароды, таму і абяцае Ракуцьку золата за выратаванне. Але ж Сымон Ракуцька робіць дабро проста таму, што для яго натуральна дапамагаць іншым. Як і Волечка Нявада, ён не думаў пра тое, што ў яго доме жыў вораг: ён проста "*аддаваў* усё, што меў", чалавеку, які застаўся без здароўя і прытулку.

Сымон Ракуцька праяўляе спагаду і ратуе чужое жыццё, таму лёс узнагароджвае яго будучыняй: у яго нараджаюцца дзеці. Прыходзіць савецка-польская вайна, і такія ж паліводскія выганяюць Ракуцьку з яго хаты, пазбаўляюць яго гармоніі і нанова здабытай будучыні – трэцяе дзіця Сымона Ракуцькі нараджаецца мёртвым. Як бачна, ідэя Паліводскага, у адрозненне ад ідэі Ракуцькі, не праходзіць выпрабавання на чалавечнасць.

Але ж сапраўдны крах ідэі Паліводскага адбудзецца напрыканцы рамана ў сутыкненні з ідэяй старога Нявады. У спробе вызваліць унучку з канцлагера Нявада прыносіць графу яго фамільнае золата, страчанае яшчэ на першай вайне. І Паліводскі, які ўсё жыццё "пражыў адзін, без сям'і і без дзяцей", усведамляе

бессэнсоўнасць шматгадовых пошукаў будучыні. У той час як Нявада радаваўся жыццю на сваім кавалачку зямлі і гадаваў сваю будучыню, унучку, Паліводскі ў сваім імкненні вярнуць дзедаўскія маёнткі жыў у выгнанніцтве на нямецкай зямлі. А фамільнае золата? Герой прагнуў вярнуць не памяць пра продкаў, а пацверджанне свайго тытула – свайго ўзвышэння над іншымі. Які сэнс цяпер ад гэтага золата, калі жыццё мінула і тытул няма каму перадаць? Жыццё Паліводскага "пражыта чорт ведае як... І нічога не ўдалося".

Люцыян Акаловіч спадзяецца знайсці сваю будучыню, "трымаючыся за абцас нямецкага бота". Смерць і слёзы, якія абвяшчаюць пачатак вайны з немцамі, узнімаюць Акаловічаў настрой, бо ён шчыра верыць у магчымасць адраджэння Польшчы з дапамогай германскай жорсткасці. Але ж, як сказаў Акаловічаў ідэйны апанент Сымон Ракуцька,"як свет стаіць, то яшчэ не было вядома, каб на нянавісці вырасла шчасце, а радасць на чужой бядзе". Ідэя Акаловіча не праходзіць выпрабавання і атрымлівае адпаведную "ўзнагароду", адпаведную будучыню, падрыхтаваную для героя: забітых бацькоў, выгнанніцтва і знішчаную Радзіму.

Такім чынам, ідэя любові перамагае ідэю ўзвышэння. Ці значыць гэта, што носьбіты бесчалавечных ідэй асуджаны на немінучы крах, на смерць? Было б несправядліва чакаць бязлітаснасці ад такіх вялікіх чалавекалюбцаў, як Чорны і Дастаеўскі. Наперадзе ў герояў самая адказная частка – магчымасць зразумець сваю памылку, адмовіцца ад бесчалавечнасці і атрымаць новае жыццё, перарадзіцца.

## Выпрабаванне героя

У выпрабаванні Раскольнікава важнае месца займае адна адметная мастацкая дэталь – кашмарныя сны. Сумленне і сон Дастаеўскі ўзгадвае ў сваіх чарнавіках у адным кантэксце:

"Ці ёсць закон прыроды, якога мы не ведаем і які крычыць у нас. Сон".

Як крычыць чалавек чалавеку, перасцерагаючы пра небяспеку, так і сумленне крычыць нам, папярэджваючы пра небяспечнасць нашых дзеянняў, і сон, як люстэрка чалавечай падсвядомасці, робіцца каналам для перадачы гэтага самага крыку... Прыгожая, а галоўнае трапная канцэпцыя! Нездарма Дастаеўскі пераносіць яе ў раман: у першым кашмары, які сніць пасля забойства Раскольнікаў, герой нібы прачынаецца менавіта ад крыку.

Адным з найбольш знакавых сноў Раскольнікава з'яўляецца сон пра забітую кабылку. Герой сніць жахлівае забойства жывёліны раз'юшанымі мужыкамі напярэдадні свайго ўласнага злачынства і – перараджаецца! Нарэшце герой усведамляе неспалучальнасць сваёй натуры з тэорыяй, пад якую ён так старанна сябе ламае і, самае галоўнае, адмаўляецца ад сваёй ідэі: "Божа, – маліў ён, – пакажы мне шлях мой, а я зракаюся гэтай праклятай... мары маёй!" Але выпрабаванне не скончылася: па дарозе дадому ён выпадкова даведваецца пра дакладны час, калі старая будзе дома адна. Адмовіцца ад такой зручнай магчымасці не стае сілы – герой вяртаецца да бесчалавечнай ідэі і ідзе на забойства. Выпрабавання спакусай ён не вытрымлівае, таму праверка працягваецца. Герой увесь час сутыкаецца з чужымі пакутамі – жыццё дае яму магчымасць праявіць спагаду, бескарысліва дапамагчы. І душа героя, што насамрэч востра адчувае чужы боль, увесь час спрацоўвае раней за розум: на працягу рамана Раскольнікаў *аддае* іншым апошнія грошы (пры першай сустрэчы з Мармеладавым, ратуючы п'яную дзяўчынку на вуліцы). Уплывае і адчуванне спагады з боку Соні: яе бязмежная, невытлумачальная нават любоў размякчае душу героя, і гэта ўрэшце прыносіць плён. Раскольнікаў не проста расказвае Соні пра тое, хто забіў Лізавету – *ён просіць прабачэння*. Раскольнікаў – няхай пакуль і падсвядома, на ўзроўні пачуцця – пакаяўся, адмовіўся ад сваёй ідэі, а значыць – прайшоў выпрабаванне.

Вельмі падобную схему мае выпрабаванне Свідрыгайлава. Ён гэтаксама праха-

дзіць праз выпрабаванне сумленнем – пакутуе ад “крыку закона прыроды”: чаго вартыя адны прывіды яго нябожчыцы-жонкі, Марфы Пятроўны, нябожчыка-слугі, якога ён быццам бы загубіў сваёю жорсткасцю. Герой здатны на спагаду, інакш бы ён не дапамагаў дзецям Кацярыны Іванаўны. Але ж ён не вытрымлівае самага галоўнага этапу выпрабавання чалавечнасцю: ён хоча дабіцца любові сілай. На апошняй сустрэчы з Дуняй Раскольнікавай Свідрыгайлаў зноў карыстаецца сілавой перавагай, сілавым узвышэннем: гвалтоўна затрымлівае Дуню ў сваёй кватэры з намерам не выпускаць дзяўчыну да таго моманту, пакуль яна не згодзіцца. На жаль, выпрабавання герой не праходзіць. Адмаўленне ад ідэі адбудзецца занадта позна, ужо пасля краху героя, у адным з кашмарных сноў, якія герой будзе сніць напярэдадні самагубства. Гэта сон пра баламутную пяцігадовую дзяўчынку.

Пётр Пятровіч Лужын аказваецца самым безнадзейным з усіх герояў. Жыццё дае яму магчымасць здзейсніць сапраўднае дабро – бескарысліва дапамагчы Соні пасля таго, як яго выгнала Дуня. Аднак тое, што спачатку выглядае як дапамога, аказваецца падступствам. Што ж да сумлення, то Лужын яго проста не мае. Герой нават не задумваецца, што робіць нешта няправільна, таму і не пакутуе ад гэтага. Прыгадаем думкі Раскольнікава пра тых, хто “права мае”:

“Я, нарэшце, даўмеўся, што не толькі яго [Напалеона] не абурыла б, але нават і да галавы б яму не прыйшло, што гэта не манументальна... І нават не зразумеў бы ён зусім: а што тут абурацца? І калі б ужо не было яму іншага выйсця, дык задушыў бы [старую] так, што не даў бы і пікнуць, без усялякіх сумневаў”.

Сапраўдны Напалеон, сапраўдны тыран не пакутуе ад сумлення не таму, што ён яго пераступіў, а таму, што ён яго не мае ў прынцыпе. І Лужын падыходзіць пад гэта азначэнне як найлепш.

Вернемся да герояў рамана “Пошукі будучыні”.

Густаў Шрэдэр-старэйшы ў самым пачатку рамана сутыкаецца з чалавечай спагадай. Клопат маленькай, але чужой дзяўчынкі так моцна ўражвае героя, што ён перараджаецца, здзяйсняе ўчынак, які цалкам супярэчыць яго ідэі – *аддае* нарабаваны для маёнтка скарб, золата Паліводскага. Герой *адмаўляецца* ад ідэі ўзвышэння, бо разумее: “Ён уладар свету, бо ўжо зноў ходзіць па зямлі і трохдзёнае яго змрочнае ўтрапенне мінулася навек. А ўсё золата, якое ёсць на свеце, – нікчэмная драбяза і непатрэбшчына перад самім жыццём”.

Але наступны этап, выпрабаванне спакусай, пацвярджае, што гэты досвед не ўкараніўся ў душы героя. Шмат у чым пад уплывам жонкі і сына Густаў Шрэдэр адмаўляецца ад знойдзенай у душы здольнасці да спагады, праклінае колішні свой душэўны парыў – і далучаецца да ідэі Гітлера. Але ж і гэты выбар не праходзіць для героя бясследна. Мы даведваемся, што нават праз два дзясяткі гадоў Шрэдэр працягвае бачыць вялікую таполю каля Сумліч у кашмарных снах. Дрэва, што змагаецца з навакольным светам за сваё ПАТОМства, сваю будучыню, нібы сімвалізуе сабой той край, насенне якога Шрэдэр стаптаў, прыйшоўшы аднойчы на яго з вайной. Відаць, закон прыроды ўсё ж такі крычыць і ў Шрэдэры, але ён сам не прыслухоўваецца да гэтага “крыку”, не робіць з яго высноў, таму і не праходзіць выпрабаваня сумленнем.

Сустракае чалавечнасць і граф Паліводскі: усе мы памятаем, як Сымон Ракуцька даў яму прытулак у сваім доме падчас першай вайны. Але ж, у адрозненне ад папярэдняга героя, цудоўнае збавенне нічога не зрушвае ў душы графа. Замест радасці жыцця, яго точыць “страшная думка”: ён больш не мае золата з каменнямі. Герой не толькі не рэагуе на спагаду, якую праявілі да яго, ён не праяўляе яе і сам. Замест таго, каб падзякаваць свайму збавіцелю хаця б шчырым словам, ён абражае яго і крадзе яго адзіную дапамогу ў гаспадарцы – худзенькую кабылку. Выпрабаванне не пройдзенае. Нездарма Сымон Ракуцька кажа графу, што ён горнецца да таго, каб мець “толькі маёнткі, а не душу”.

Сімвалічны характар у выпрабаванні Люцыяна Акаловіча носіць яго з’яўленне ў творы. Суддзёй герою выступае Нявада. Стары падсвядома звязвае тых, хто крадзе будучыню ў тапалі, з Вялікім злодзеем, які ўкраў у яго маленства дачкі. З чым перадусім прыходзіць Акаловіч у твор? Са “здаравенным абцасам”, які стаптаў маленькае дрэўца. Прадчуванне не падводзіць Няваду: Акаловіч напраўду аказваецца Вялікім злодзеем, а значыць і не праходзіць выпрабавання. Люцыяна Акаловіча таксама не абмінае магчымасць паспытаць чалавечай спагады. Шчырая размова з Ракуцькамі ў лесе, іх чалавечнасць і добрыя словы выклікаюць у героя пачуццё ўдзячнасці. І вось ужо герой зусім блізка падышоў да свайго перараджэння:

“Мне сёння лягчэй. І на душы лягчэй, калі я скінуў з яе камень гаворкаю з вамі”, – скажа Акаловіч Ракуцькам.

Але за гэтую палёгку герой адкажа ўкрадзеным у збавіцеляў хлебам і ўцёкамі без якога-кольвек слова ўдзячнасці. Да таго ж Люцыян Акаловіч не здатны ўсвядоміць сваю памылку. Уласную віну за выгнанніцтва ён перакладае на Паліводскага, што прыводзіць яго да чарговага злачынства – забойства чалавека. Выпрабаванняў ён не праходзіць і права на далейшае існаванне не атрымлівае.

Выпрабаванне чакае і герояў-носьбітаў чалавечных ідэй. Жыццё ставіць іх у такое становішча, дзе выбар учынку, які супярэчыць іх перакананням, можа быць апраўданым. Раскольнікаў правакуе Соню жорсткімі песімістычнымі пытаннямі – “Кацярына Іванаўна вас ледзь не біла?”, “А што як вас у шпіталь звязуць?”, “Дык можа і Бога зусім няма?”, – імкнецца паўздзейнічаць на яе крыўду, распаліць і ў ёй гэты індывідуалісцкі бунт. Але Сонечка застаецца непахіснай, яна хутчэй саму сябе абвінаваціць у жорсткасці, чым Кацярыну Іванаўну. Выпрабаваннем Дунечкі становіцца яе спроба забіць Свідрыгалава. Гераіня стаіць перад чалавекам, які прынёс ёй безліч абраз, пакут, прыніжэння, страхаў, і ведае, што можа зараз лёгка і дакладна яго забіць. Чаму б не? Яна мае на гэта права: так яна пазбавіла б свет не проста ад свайго крыўдзіцеля – ад страшнага гвалтаўніка! Але Дуня не страляе апошні раз. І гэтым яна праходзіць выпрабаванне адразу і спакусай, і сумленнем. Бо што ж яшчэ, як не сумленне, як не яго цвёрды стрыжань, утрымала яе ад здзяйснення недазвольнага?

Падобным чынам правяраецца і Сымон Ракуцька. Гэтаксама, як і Дуня, ён глядзіць у вочы свайму крыўдзіцелю, таму самаму Вялікаму злодзею, які ўкраў у яго маленства яго дзяцей. Гэта ж ён, гэты самы Ракуцька, які прагнуў знайсці і “абезгаловіць” Вялікага злодзея, трымае цяпер у руках рэвальвер! Але, замест кулі, Ракуцька частуе Люцыяна Акаловіча хлебам. Зноў, як і дваццаць гадоў таму ў адной хаце з Паліводскім, ён бачыць у чалавеку найперш чалавека, разгубленага і мізэрнага, які прагне спагады.

Сям’я Нявады – Волечка, Кастусь, яе сябра і муж, і сам стары Нявада – выпрабоўваюцца золатам графа Паліводскага, якое пакінуў ім калісьці як падзяку за чалавечнасць Густаў Шрэдэр. Зноў жа, яны не ўкралі гэтае золата, а атрымалі ў падарунак, чаму б не скарыстацца, не купіць на яго хаця б новага каня? Вольчын конь зрабіўся ўжо зусім стары, нямоглы, а ў гаспадарцы як без каня? Але золата працягвае ляжаць у куфры, усімі забытае і нікому непатрэбнае. Бо ў пуні спявае певень, і “колер і пах свежага абчэсанага хваёвага бервеньчука казаў душы больш, чым тое золата ў куфарным прыскрынку, страчанае невядомым і таемным графам Паліводскім і набытае і таксама страчанае Густавам Шрэдэрам”.

Што ж мы бачым? Героі-носьбіты чалавечных ідэй годна вытрымалі выпрабаванні, давялі сваё права на існаванне. Аднак носьбіты ідэй бесчалавечных (канешне, за выключэннем Радзівона Раскольнікава) не скарысталіся магчымасцю выправіць сваю памылку і асудзілі сябе на знішчэнне. Ці можна атаясамліваць гэтае знішчэнне адно са смерцю героя? На нашу думку, страшнейшым пакараннем для герояў будзе страціць гармонію і магчымасць быць любімымі. Паглядзім, як гэта паказана ў творах.

## Крах героя

Самай першай крах героя абвяшчае страта гармоніі. У абодвух творах яна звязваецца з матывам цеснаты. Раскольнікаў жыве ў цесным, падобным да труны пакоі, у горадзе, на вуліцах якога "як у пакоях без фортак", і да таго ж пакутуе ад прадчування "вечнасці на аршыне прасторы". Свідрыгайлаў, які ўяўляе сабе вечнасць як пакой з павукамі, ноч перад смерцю праводзіць у цесным задушлівым пакоі з нізкай столлю і пацукамі. Шрэдэр і Гертруда, выгнаныя з прыдбанага на чужой зямлі маёнтка, з горыччу адчуваюць, што "шырокі свет, з сонцам, з ветрам, з пахам дажджоў і зіхаценнем дзён стаў для іх цесным склепам". Люцыян Акаловіч скардзіцца, што яму "ўвесь свет цесны", а пасля з крыўдай пытаецца ў Паліводскага: "Хто мяне адарваў ад таго месца, дзе мне прасторна было?" Сваёй бесчалавечнасцю героі асудзілі сябе на адвечнае выгнанне, на адзіноту сярод людзей, на цеснату ў шырокім свеце. Відаць, менавіта гэта – страх вечнай адзіноты – і штурхае герояў да людзей. Расчараваўшыся ў ідэі ці пераканаўшыся ў яе непрадуктыўнасці, героі страчваюць сувязь з жыццём, і адзіным, што яшчэ можа затрымаць іх на зямлі, застаецца любоў. Права на спагаду, магчымасць атрымання яе і вызначаюць, ці ёсць у герояў будучыня. Таму спагада раптам набывае для іх такое сакральнае значэнне. Калі Шрэдэр другі раз вяртаецца ў Сумлічы, яму хочацца цалаваць гэтых дзяўчынак, якіх ён бачыць на вуліцах вёскі. Люцыян Акаловіч, нягледзячы на страх, радуецца размове з незнаёмым салдатам у лесе ("Божа! – думае ён. – Чалавечае слова! Упершыню за ўвесь гэты страшны час!") і марыць дацягнуцца дадому, да Клецка, у спадзяванні знайсці там каго-небудзь знаёмага, блізкага. Нават граф Паліводскі, і той "прасвятлеў тварам", калі да яго прыйшоў Люцыян Акаловіч. Упершыню за ўвесь раман ён звязвае добрыя пачуцці не з золатам, а з чалавекам. "*Ваш бацька быў самым блізкім мне чалавекам з усіх*", – кажа ён Люцыяну Акаловічу. Па незвычайнасці, нехарактэрнасці сваёй для героя гэтыя словы можна было б паставіць на адзін узровень з перараджэннем Шрэдэра – калі б Паліводскі вымавіў іх раней, калі яму быў дадзены шанец праявіць спагаду і ўдзячнасць. Героям так важна атрымаць права на спачуванне, што ў некаторых з іх узнікае нават момант пэўнага самаапраўдання. Люцыян Акаловіч сутарагава паўтарае "Я забіў Паліводскага", калі салдат рыхтуецца стрэліць у яго, у доме Кастуся Лукашэвіча Шрэдэр, замест таго каб прыкінуцца чэхам і захаваць сабе жыццё, узгадвае колішні свой душэўны парыў, калі ён пакінуў у гэтым самым доме золата:

"Я некалі падараваў быў вам золата. Гадзіннікі, пярсцёнкі, крыж. У тую вайну я быў хворы і палонны... Яно пайшло гэтаму дому на карысць?"

Гэтым пытаннем немец быццам бы вымаўляе тое, што раней так строга забараняў сабе казаць: "Хоць ты і не немец, я не буду цябе ненавідзець. *Пашкадуй* мяне". Але ж і ён, і Акаловіч, і Паліводскі даўно страцілі сваю магчымасць давесці сваю чалавечнасць. Яны не маюць больш права на спагаду – яны не маюць будучыні. Таму Паліводскі памірае ад нажа Акаловіча, якога ў сваю чаргу забівае ў лесе незнаёмы салдат. Шрэдэр, вярнуўшыся ў хату, дзе калісьці яму далі прытулак, больш не можа патрабаваць ад яе жыхароў спагады: ён не мае на яе права, бо прыйшоў сюды *зноў*, з сілаю і ўзвышэннем. Кастусь Лукашэвіч забівае Густава Шрэдэра.

У падобным становішчы знаходзіцца і Аркадзь Свідрыгайлаў. Ён нездарма прыязджае за Дуняй у Пецярбург: сустрэча з ёю павінна вырашыць, ці адбудзецца той "некаторы вояж", пад якім герой мае на ўвазе самагубства. Падчас гэтай сустрэчы ён павінен даведацца: ці захаваў ён яшчэ права на чалавечую любоў? Але тут недакладнасць: хутчэй не даведацца, а ўзяць сілай. Свідрыгайлаў упэўнены, што інакш як сілай ён свой паратунак не здабудзе, і гэта яго і губіць: пасля ўсяго таго страху і прыніжэння, якое Дуня выносіць ад Свідрыгайлава, яна не можа палюбіць яго. Свідрыгайлаў губляе сваю будучыню і забівае сябе.

Адзіным героем, вартым права быць любімым, застаецца Радзівон Раскольнікаў. Не толькі з той прычыны, што ён праходзіць усе выпрабаванні. У той час як Свідрыгайлаў ледзь не патрабуе спагады з боку Дуні, Раскольнікаў проста просіць пра яе. Просіць, як разгубленае, кінутае ўсімі дзіця: “То не пакінеш мяне, Соня? У астрог да мяне хадзіць будзеш?” І атрымлівае на гэта не толькі станоўчы адказ – Соня сапраўды не зракаецца Раскольнікава ні на волі, ні ў Сібіры. Герой невыпадкова адчувае, што Соня – “уся надзея яго, увесь зыход”. Апошняе яго пакаянне, самае поўнае, самае праўдзівае і лагічна завершанае адбудзецца ледзь не на фізічным узроўні – праз дотык да Сонінай далоні.

## Канцэпцыя Вялікага злодзея

Такім чынам, вытокам крыніц усіх вялікіх зладзеяў абодва пісьменнікі бачаць ва ўзвышэнні чалавека над чалавекам. Гэтая ідэя не сцвярджае жыццё, не стварае будучыні – яна толькі парушае гарманічнасць свету. Праз Вялікага злодзея беларус асуджаны на вечнае выгнанніцтва, праз яго заўчасна сталеюць дзеці, праз яго, нарэшце, нараджаецца арыфметычная тэорыя, а Кастусь Лукашэвіч, які нават лаяцца не ўмее, вымушаны ўзяць зброю і сам зрабіцца ліхадзеем – забіваць людзей, якія забіваюць яго дзіця. Сімвалічным з'яўляецца яблык у канцы твора: ён быццам нагадвае пра даўняе выгнанне першых людзей з райскага саду, пра першае ў свеце пазбаўленне гармоніі.

Вялікі злодзей не толькі крадзе гармонію ў іншых – ён пазбаўляе гэтай гармоніі і самога сябе. Успомнім пра Раскольнікава: колькі прыкрасці да ўсяго наўкольнага! “Яму брыдкімі былі сустрэчныя”, яго не радавала гарадская зяляніна, ён не мог нават адчуваць любові да маці і сястры. Свідрыгайлава ціснe смутак, да Паліводскага “прысохла чаканне”, Акаловіч не можа напоўніцу адчуць любоў да сваіх родных мясцін, бо лічыць іх несапраўднымі... А ў гэты час:

“Снег, галасны певень, пах сена з пуні, крык зімовай птушкі, счарнелы ад прымаразкаў лісток з саду на ветры, ясны захад сонца, пах свежага хлеба ў хаце, вымалачаны колас, узняты ветрам бязлісты куст бэзу, зорнасць марознай ночы, бесперапынная плынь часу – дзень за днём, дзень за днём, – і пайшло яно, з вялікай радасцю аб тым малым, што толькі і патрэбна чалавеку”.

Пісьменнікі не аддаюць перавагі нейкай адной ідэі. Як ідэя чалавечная, так і ідэя бесчалавечная атрымліваюць права заявіць пра сябе і паспрабаваць ажыццявіцца. У роўных ступенях ідэі і выпрабоўваюцца: выпрабаванне спакусай не абмінае носьбітаў чалавечнай ідэі. Чалавечнасць перамагае ў роўным баі: Дастаеўскі паказвае нам, што хтосьці да канца трымаецца бесчалавечнасці і скончвае “ад'ездам у Амерыку”, а хтосьці, няхай і шляхам доўгіх пакут і выпрабаванняў, з цеснай каморкі пад дахам вырываецца на паветра, на шырокую прастору некранутай прыроды, бо яго “ўваскрасіла любоў, адно сэрца змяшчала бясконцыя крыніцы жыцця для сэрца другога”. Чорны ж даводзіць нам, што чалавеку вельмі мала патрэбна для шчасця. Што чалавек сапраўды не вытрымае быць зверам і ў рэшце рэшт звернецца да бліжняга па спагаду і любоў.

“Не туманныя прывіды, а выразная ява: гром і маланка, навальніца разрывае зямлю і, здаецца, крышыць на ёй усё. І ўсё ахоплена страшным сваім утрапеннем. Пад громам і агнём, пасярод дарогі, постаць худзенькага хлопчыка”.

Увасобленая ў цела, хіба не так выглядала б душа Люцыяна Акаловіча? Радзівона Раскольнікава?

У якую будучыню павесці гэтага хлопчыка, належыць вырашаць кожнаму з нас.



# Дзіцячыя татуіроўкі

***Сучасная руская паэзія***

## Наталля САННІКАВА

* * *

Можна ці не так кахаць, расстацца і выжыць,
жыць, нібы шчасце бывае (*яно бывае!*),
зранку ўставаць, піць каву, ісці на службу,
быццам бы боль суціхне (*а ён суціхне*),
зноў вучыцца ўзірацца ў твары прахожых
і жартаваць з прыгожанькай сакратаркай,
думаць “нашто я тут? якім такім правам?”,
памятаць, што было, і не абуджацца,
вечарам звыкла ў сшытку рабіць нататкі,
публікаваць у нейкім там інтэрнэце,
думаць “мо’ прачытае” (*мо’ прачытае*)
і ненавідзець штоночы дурное цела
за тое, што ўсё яно помніць (*яно ўсё забудзе*),
але купляць яму зноўку ежу, адзежу,
можа быць, нават вазіць да цёплага мора,
дзе вы ўдваіх калісьці (*мора ўсё тое ж,
неба, зямля і зоры ўсё тыя ж, тыя ж –
як яны могуць? навошта яны гэта смеюць?*),
а па вяртанні сустрэнеш яшчэ кагосьці
і дазволіш сабе ўрэшце жыць, закахацца,
быццам бы адпусціла (*так, адпусціла*).
Возьмем мяне, якой не было балюча
па-сапраўднаму (*зрэшты, было аднойчы*),
перад табою ні ў чым не была вінаватай,
перад іншымі – можа, дый тое не вельмі, –
што я магу табе напісаць на паштоўцы? –
толькі “люблю і помню”. *Люблю і помню.*

*Пераклад
з рускай
Андрэя
ХАДАНОВІЧА.*

## *ШЭСЦЬ АНАТАЦЫЯЎ З “ПЕРМСКАЙ СІНЕМАТЭКІ” (3)*

за гэтым драўляным домам
не бачна сцежкі ані
прахожы, нібы знаёмым
ты нам наўздагон зірні

валошкі й кветкі цыкорыя
цвітуць, як сто год таму
мы псіхі, але не хворыя
а нам рыхтуюць турму

прахожы, мы сёння рэха
мінулым, колішнім тым
не чуеш ні крыку, ні смеху
не бачыш праз часу дым

з айфонам ідзеш няхілым
вар’яцкі мадэрн здымі
бо мы, што за гэтым схілам
таксама былі людзьмі

памрой пра каву з карыцай
аб цёплым сваім жыллі
закінутай псіхбальніцы
нядоўга быць на зямлі

і дождж, што шастае ў травах
і лісце, і скавышы
цялесная іх аправа
не трэба хворай душы

а ты, што крочыш паныла
да сэрца змрок не бяры
вар’ятня, але не магіла
мы ўсё яшчэ там, унутры

* * *

І вось узыходзіць зорка й спявае ў змрок.
– Каму ты пяеш? – пытаю. “Нікому. Я незнарок.
Гэта маё, неад’емнае, музыка сфер.
Ты – нарадзілася й вырасла ў СССР,
мама твая – камсамолія, тата – свярдлоўскі рок,
і ўсе твае вокны на ўсход, бо захад – ён для дарог,
а ў вокнах бачыш мяне, размаўляеш са мной,
то адкажы: ці добра табе адной?”
Што адказаць, калі марнае ўсё, што ёсць:
сумленне, каханне, ісціна, прыгажосць.

Калі тры чвэрці жыцця змрок і холад наўме,
калі дзяцей расціш, каб аддаць зіме,
калі ўдыхаеш паветра, а ў ім зала,
болей няма краіны, якая б тваёй была,
праўды няма на зямлі й спакою няма.
Ці мне кепска адной? Не пытай дарма.
Тут да мяне не было і свету майго,
мыслю яго, а значыць сама і заб'ю яго.
"Не, – кажа зорка. – Не ведаеш – не мані.
Ты тут спала, а я заўжды ў вышыні.
Я спяваю нікому й для ўсіх гару,
толькі адгэтуль адно з табой гавару.
Чуеш мяне?" – гаворыць, гаворыць, пяе.
– Сонца ўстае, – адказваю, – дзень настае.

* * *

У дзяцінстве я думала, што бацька мяне ненавідзіць.
Ён злаваўся, калі я ўначы прачыналася і клікала маму.
Ён не дазваляў мне прыходзіць да мамы ў ложак
і не дазваляў маме прыходзіць да мяне.
А мяне мучылі начныя кашмары,
я баялася спаць і баялася прачнуцца –
бо цемры ў пакоі таксама баялася.
Адно пасталеўшы, я зразумела,
што тата проста хацеў пабыць з маёй мамай.
Ну і выспацца перад працай.
Таты даўно няма,
а мне дагэтуль сняцца кашмары,
і я баюся спаць і баюся прачнуцца,
бо ўсё жыццё баюся цемры.
Мае дзеці раслі інакш.
Я мала дбала аб тым, каб яны былі сытыя,
нават аб тым, каб былі здаровыя, – не так шмат,
як пра тое, каб яны не баяліся цемры,
каб не снілі кашмараў.
Дачка, калі была маленькая,
часта ўначы прыбягала да нас у ложак,
забіралася бацьку падпаху,
яна і цяпер яго любіць больш за ўсіх на свеце,
а я не раўную,
бо менавіта гэтага і хацела,
калі ўгаворвала мужа нарадзіць дачку.
Цяпер мае дзеці выраслі, і я дакладна ведаю,
што яны ніколі цемры не баяліся.
Але страшныя сны яны сняць,
гэта, выяўляецца, непазбежна,
страх чалавеку чамусь патрэбны.

Аднак, калі ён кампенсуецца любоўю,
жыццё нават у сне перамагае –
і страх, і цемру, і смерць – усё.
Праўда, апроч любові, яшчэ ёсць мастацтва,
яно таксама мацнейшае за смерць,
але калі б не тата,
я ніколі пра гэта не здагадалася б.

## *КАЛІ СКОНЧЫЦЦА ДЗЯЦІНСТВА*

Ці магу я нешта ведаць пра дзяцінства,
калі нават у маіх дзяцей
яно скончылася?
Ці памятаю я сваё дзяцінства?
Малодшая сястра кажа:
мы заўжды сварыліся,
каму займацца музыкай
у вялікім пакоі,
і ты сыходзіла ў лазенку
са сваёй скрыпкай,
бо маё піяніна
кудысь перанесці было складана.
Што я тады адчувала?
Ці помню я, што грала на скрыпцы?
Ці помню, чаго баялася,
чаго хацела,
якія чытала кніжкі,
якой уяўляла будучыню?
"*Жили-были старик со старухой*", –
гэта я чытала на памяць маме
ці сыну на ноч?
У адным я абсалютна ўпэўненая:
я баялася пражыць
сваё адзінае жыццё
моўчкі.

Пытанне можна паставіць інакш:
ці скончылася маё дзяцінства,
калі ў мяне нарадзіліся дзеці?
Дачка баялася ўколаў
і ў медкабінеце прасіла:
– Мама, можна я спачатку
паразмаўляю з цётачкай,
а потым яна мяне ўколе?
Гэта ёй пяць, напэўна.
Або чатыры, не помню.
Я таксама заўжды размаўляю ад страху,

раз-пораз пра сябе, у цемры,
то бок пры абсалютным разуменні
адсутнасці суразмоўцы.
Краіна мая, адзіная, родная,
я хачу размаўляць з табой
перад тым,
як ты зробіш мне балюча.
Не пакідай мяне, мова.
Не замаўкай, дачка.
Няважна, хто гэта чуе.
Важна не ўмерці моўчкі.

## Фёдар СВАРОЎСКІ

### *БАЧЫЦЬ АЎЧАРКУ*

Сярожа
сын вар'ята
у клініцы вырас

нікога не ведае
нічога не бачыў

бачыў адзін раз аўчарку
залез на плот
і ўбачыў

сніцца пасля
па яго прыходзіць аўчарка
прыносіць усе дакументы

усё як належыць
і яго забірае
і выпісваюць яго
і аўчарка яго забірае

санітары
медсёстры
развітваюцца
усміхаюцца

а ён з аўчаркай
сядае ў таксоўку
і едзе

чуў быццам нешта такое ёсць
ну па тыпу Бог

думае: ну гэта ж трэба
Бог

бачыць аўчарку

### САФАРЫ

прыязджалі турысты
фатаграфавалі раку
кракадзілаў і зебу
і яшчэ
бегемотаў

а здымкі даслаць
не прапанавалі
ніводнага фота бегемоту
не пакінулі

а ён абразіўся
і сышоў

ішоў напалову ў вадзе
прэч ад вадапою ўдалячынь
разам з ракой
што таксама ўцякала

дакладна
як тыя двое на карціне “Рай”
напісанай Еранімам Босхам
аголеныя
абняўшыся
сыходзілі
за плыняй

так і
бегемот
зусім аголены
у душы абняўшы самога сябе
знік за паваротам ракі

### СЛІМАКАЛЮБСТВА

**1**

гэткім чынам
любім слімакоў
за лагоднасць
і пяшчотныя рогі

*2*

на руцэ таго хто глядзіць
пакідае мяккі вясёлкавы след
засяроджаны маўклівы
не крычыць

*3*

паядаючы пругкі ліст
выпаўзаючы на дарогу пасля залевы
спаўзаючы па свежавымытым шкле
хрумстаючы пад падэшвай позняга бегуна
трапляючы на рашотку француза з алеем і
часныком
заўжды
застаецца з бязмежнай прасторай і часам сам-
насам

*4*

не жадаючы дрэннага
не плануючы кепстваў
з чыстымі думкамі

*5*

паўзе

## УСЕ КНІГІ Ў СВЕЦЕ

усе кнігі ў свеце
напісаны пра мяне
усе акрамя нарвежскіх

нарвежац
маючы спецыфічнае
пачуццё гумару

удае з сябе
невялікага
дурня

мая жонка тлумачыць гэта
тым што нарвежац
ён жа нешматлікі
і таму
пачуваецца безабаронным

тады як мы
паказваючы сябе ідыётамі
будуем наўкола сябе
асаблівую ўтульнасць і паразуменне

бо ж мы
аравійцы
шматлікія
й велікадушныя

і ўсякі
ведае нашую мову

словы якой гучаць
быццам шолах і звон
далёкае песні і яснага мармытання крылаў
жукоў і мятлікаў
што лунае над
ракой ці морам
у сне ці наяве
у неразгорнутых і яшчэ непрачытаных усіх
кнігах свету
або ў звычайным дзённым уяўленні
усякага чалавека

## ***ЯПОНСКІЯ БЛАТНЫЯ ПЕСНІ***

абсалютна неймаверная новая для мяне музыка –
японскія турэмныя песні
перадаюць па нейкім інтэрнэт-радыё

трохі зместу адной у перакладзе Л.С.:

гэтай зімой з чароўнага лесу прыскача да мяне
белы заяц
засмяецца і загрызе ахову

і павядзе мяне ў ямагуці да мамы
мама прыгатуе просты тамага

пальцы не адрастуць
не знікнуць са спіны наколкі

але ўнутры зацягнуцца раны
рассмокчуцца шнары

малец
не сумуй
чакай зімовага зайца

## ДЗІЦЯЧЫЯ ТАТУІРОЎКІ

дзіцячыя татуіроўкі
цудоўныя наіўныя:

на тонкай назе Марусі
над каленам – маленькі робат з вушамі
на сцягне – дамок з комінам
з коміна ідзе дым

у Сашы на жываце – бегемоты з рыдлёўкамі
усяго
33 бегемоты

у Міры на лапатцы – чалавек-лось катаецца
на электрычным матацыкле
на грудзях – шакаладны батончык
у разарванай упакоўцы
са слядамі зубоў

цяпер гэта зрабілася модным такім
папулярным
нават злачынцы ў турмах
ходзяць пакрытыя нейкімі хрушамі феямі
цукеркамі індзейцамі дыназаўрамі
як комплексныя дзіцячыя калядныя падарункі
ў супермаркетах
або ёлкі з цацкамі

усе яны нагадваюць пра свята
пра добрага дзеда ў чырвоным футры
які выяўляецца
сядзіць з табой

## КАЛІ ХТОСЬЦІ ПАТРЭБНЫ

калі хтосьці патрэбны
усе хварэюць

пазаўчора
рыхтавалі дзяржаўны пераварот
стараліся
ўсё спланавалі
і тут захварэлі

кожны кажа:
калі што толькі
пазвані

чалавек набірае – а ўсе ў дэпрэсіі
з тэмпературай

увосень ваўкі не палююць
хварэюць
акунь прастуджаны спіць
дробная рыба худзее ды чхае
у мятлікаў усеагульная млявасць
у жукоў абыякавасць да жыцця

уночы заходзіў Пушкін:
ведаеш мы тут
параіліся з дактарамі і
вырашылі не пісаць
Яўгена Анегіна

## БОЖАЯ ЛАСКА

у пошуках апошняй з груповак
мы апынуліся на поўначы Індыі

з індыйскага боку з намі працавала
Лілаваці – хадзіла без зброі і ў сіняй сукенцы

ідэальная работніца без дзяцей без асабістага шчасця
затое можа вышукаць любую інфармацыю

праз месяц мы выйшлі на лідараў
і прыціснулі іх у джунглях ля ракі ў прыгожым празрыстым доме

яны ў адказ стралялі з кулямёта
мы мусілі гадзінамі адседжвацца ў пустых дамах праз дарогу

і тыя гадзіны Лілаваці шмат расказвала пра сваіх родных
бо ўсе яны былі рэдкія ёлупні

дзядзька гатаваў яйкі ў электрычным імбрыку
а потым у гэтай вадзе запарваў гарбату
тата не меў нагі але пайшоў вывучаць танцы народаў свету

мама ўвесь час спявала песні гідкім голасам і жудасна фальшыва
браты аднойчы пайшлі на паляванне і кожны з пяцёх
трапіў у капкан

ёй выявілася шмат гадоў – мая аднагодка
але выглядала не як я
а як лотас сфатаграфаваны мной на адным возеры

смуглявая й невялікая рэзкая з вішнёвымі вачыма – як
нейкая птушка
птушка што пралятае над маім плячом
птушка ў мяне на руцэ

рука ўсё мацней сціскае цалкам аўтаматычную “Берэту”
усё што мне бачыцца – сон

птушка сядае на ключыцу мужчыны які спіць
птушка сядае на руку мужчыны які падазрона нерухомы

о Божа мой я не магу жыць без цябе
Госпадзе выратуй нас

## Андрэй СЭН-СЭНЬКОЎ

### *EINE KLEINE NACHTMUSIK*

усярэдзіне цішыні
завязанае ў вузельчык
салодкае сухажылле крыку

вузельчык
маленькі

як горад
у якім на вяселлях і пахаваннях
грае
той самы аркестр

### *ЭКАЛАГІЧНЫЯ ПАДЛЕТКІ*

дзяўчынка дождж і хлопчык снег
гуляюць у карты на распрананне
адчайна паддаюцца адно аднаму
скідваюць швэдры з аксіду азоту
дызайнерскія цішоткі з аміяку й сярністага газу
нагавічкі з соляў цяжкіх металаў
сподняе з фотааксідантаў

упершыню голыя
разгубленыя
дыхаюць так часта
быццам атрымалі ўсё чыстае паветра адным файлам

## *ВЕРМЕЕР, ЗГОРНУТЫ КОЛЬКІ РАЗОЎ*

у старым дэлфцкім храме
на магілу вермеера
з акна
падае святло
дакладна такое ж
як на палотнах майстра

людзі падклалі магілу
як аркуш шэрай паперы
пад ножку старога стала
старога крэсла
старога свету
каб яны
не хісталіся

## *ШПАЦЫР З АЛОЎКАМ*

*Антанасу, Пальміры, Руце*

віленскія цэрквы
гэта запясці
на якіх малююць крыжыкі
каб назаўтра зранку згадаць
штосьці важнае

калі б побач з крыжыкамі
дождж маляваў нулікі
з ім можна было б паспрачацца
хто першы
накрэсліць маланку
на вырваным з воблачнага нататніка
небе

## *ДРУГОЕ ПРЫШЭСЦЕ*

чалавек з малатком
трымае ў роце цвічкі
адзін выпадкова глытае

маленькі разумны гастраскоп з плешкай на галаве
цяпер усё пабачыць
здзівіцца
і ўсё металічна дакладна запомніць

калі стануць вымаць са страўніка
згадае забытыя легенды пра тое

што некалі свет належаў цвікам
і людзі нават прынеслі ім аднойчы ў ахвяру свайго бога

калі вернецца да сваіх
і раскажа што насамрэч у чалавека ўсярэдзіне
яму не дадуць веры

абліюць цвіковай святой вадой

і мы заржавеем

### ***ПЕРАСЯЧЭННЕ МЯЖЫ ДАЎЖЫНЁЙ З ХВАРОБУ АЛЬЦГЕЙМЕРА***

спачатку забываюцца займеннікі
потым назоўнікі
потым дзеясловы
ад *я цябе кахаю*
застанецца *кахаю*
потым і яно знікне
не
напаследак слова раптам пачне шукаць
найбліжэйшыя адтуліны
і ўпаўзе ў забыццё
як памежнік у белым маскхалаце
упаўзае ў снег які яму не належыць

усё супакоіцца
калі ў маім замёрзлым салдаціку
хрусне апошняя
цёплая літара

але яна паспее цябе згадаць

### ***ПРАЛІЎНАЯ ЗАСУХА***

*Ігару Жукаву*

жанчыны з горада
збудаванага ля ракі
выкідваюць дробныя прэзенты былых каханкаў
у ваду

жанчыны з горада
дзе няма ракі
дробныя прэзенты былых каханкаў
кідаюць сабе пад ногі

калі ідзе дождж
бог п’е іх праз саломінку

## ЦІХІ АКІЯН – АДНА ВЯЛІКАЯ СЛЯЗА

матрос махае сігнальнымі сцяжкамі
атачаючы сябе шматкаляровымі літарамі слова каханне

ён не ведае пра сваю віч-інфекцыю

падаючы на палубу
літары шыхтуюцца ў шарэнгу

матрос накідвае на іх вяровачкі й вядзе ў трум
каб паказаць фатаграфіям сваіх каханкаў

яны ідуць не гледзячы адно на аднаго
як жывёла ў засуху на вадапой

ціхі акіян коціцца па ўласнай шчацэ

## БЫЦЦЁ. КАЛЯ ВОСЬМАГА РАЗДЗЕЛА

ной размяшчае на каўчэгу стэгазаўраў тыраназаўраў
плезіязаўраў
брантазаўраў археаптэрыксаў ігуанадонаў дыпладокаў
трыцэратапсаў
яны маленькія ўсмешлівыя
усе змесцяцца
усе разам мірна паплывуць

плысці доўга

беласнежны птэрадактыль
вылеціць з каўчэгу
і вернецца трымаючы ў роце зялёную галінку
значыць галівудскі бераг блізка
значыць усе чамусьці ўратаваныя

бог ледзь-ледзь зачапіўшыся за галінку
пішчыць нібы цацка ў зубах у шчаняці

## ДЗЯРЖАЎНАЯ ДЫЕТАЛОГІЯ

усходненямецкае штазі
мела такі спосаб зводзіць з розуму

калі людзі сыходзілі з дома
агенты пранікалі ўсярэдзіну
нічога не ламалі
нічога не псавалі
проста перастаўлялі з месца на месца
маленькія вельмі асабістыя рэчы
статуэткі фатаграфіі кнігі
гэта доўжылася месяцамі

часам калі шэрыя жывёліны б’юцца за ежу
яны заглытваюць так хутка як толькі магчыма
а потым зрыгваюць
каб спакойна з’есці пазней
чыесьці маленькія вельмі асабістыя рэчы
статуэткі
фатаграфіі
кнігі

## *СНЯДАНАК ПЕРАД КУПАННЕМ ЧЫРВОНАГА КАНЯ*

у пятра I ў дзяцінстве была цацка –
конік, выразаны з ліпы
і пакрыты сапраўднай жарабячай
скурай.

рускі цар памёр толькі дзеля таго,
каб сустрэць
гэту маленькую чырвоную жывёлу,
з якой садралі скуру.

а яна радасна выскачыла з воблака,
як ранішні крывавы хлебушак
з тостэра, што б’ецца токам.

## *БЕЗ НАЗВЫ І ПОДПІСУ*

на столі нью-ёрскага цэнтральнага вакзала
сузор’е рыб і сузор’е рака
выяўленыя ў люстраным адбітку.
так скрозь іх на нас глядзеў бы
бог.

але ён не глядзіць.
ён мастак-аматар.
прадае ў турыстычных месцах
пейзажыкі з чыстым дашчэнту небам.

свае творы
ён не падпісвае.

### *РУЖОВАЯ НЕСМЯРОТНАСЦЬ*

старэйшы сябра пяцігадовы паўлік
вучыў мяне таптаць дажджавых чарвякоў
за тое што яны не маюць твараў

зрэдчас здавалася што ўсё-ткі маюць –
немаўлячыя

такіх было мала і мы іх адпускалі

ім моцна пашчасціла
мне здаецца яны дагэтуль жывыя
тыя ружовыя крышачку людзі

### *МАЦЯРЫНСТВА, ШТО НЕ БАЧЫЦЬ СНОЎ*

птушыная галава
тая што жыве
у доміку гадзінніка на сцяне
зламалася бесперастанку хрыпіць
*хачу дзетак хачу птушанятак я іх нікому не аддам*
*я добрая я несапраўдная зязюля*

### *З НІЗКІ "АЛБАНСКІЯ ДОМІКІ"*

калі з мінарэта заспяваў муэдзін
занадта голасна ўключылі гук
спрацавала сігналізацыя ў адным з аўтамабіляў

менавіта так страшна крычаць
усе маленькія рэчы якія не маюць душы
калі палохаюцца бога

* * *

клічнік – след, пакінуты кропкай,
што падскочыла ад шчасця



Вячаслаў Казакевіч



...Не хвалюйцеся!
Вы яшчэ заробіце грошай,
каб купіць сабе месца на могілках...

# Цені на пагорку

## *Два апавяданні*

### Сабакі

Не белакаменная аграмадзіна замка з пазалочанымі рыбінымі хвастамі на даху, не натоўпы кітайскіх турыстаў і фантаны, што шумяць гучней за кітайцаў, вабілі нас сюды. Клікаў таямнічы зялёны паўзмрок, у якім мроіліся самыя нечаканыя рэчы. Напрыклад, лук са стрэламі, забыты ў дзяцінстве ў кустах каля дома. Ці адарваная ад лялькі пластмасавая рука, што вытыркалася некалі з пяску, нібыта рука тапельца. Даўно страчаныя скарбы луналі ў гэтым паўзмроку і ўсе да адзінага належалі нам з Томам.

Томас Самааварэн, як і я, прыляцеў у Японію зусім нядаўна. Быў ён з Канады, а ягоныя продкі з Фінляндыі.

– Можна цябе называць Томам? – прыязна спытаўся я, вызначыўшы, што ён нашмат маладзейшы за мяне.

– Не, – з годнасцю адказаў ён. – Мне не падабаецца быць Томам.

*Пераклад з рускай Веры ЛОЙКА.*

– А Самаварам? – з прыкрасцю адгукнуўся я.

– Самаварам можна, – ахвотна пагадзіўся ён, велікадушна спісаўшы недакладнае гучанне свайго прозвішча на асаблівасці рускага вымаўлення.

Канаду ён не любіў: “Наўкол адны даносчыкі! Паспрабуй выпіць на вуліцы, адразу ў паліцыю патэлефануюць”. Амерыку таксама не мілаваў: “Там усе, хто на чым, звар’яцелі!” Затое на Расію ўскладаў вялікія спадзевы. Ён марыў, што расейскі прэзідэнт аднойчы правучыць і Канаду, дзе не дазвалялася піць на вуліцах, і Амерыку, дзе Тому не знайшлося працы.

Калі Том прыехаў у Японію і стаў асістэнтам выкладчыка англійскай мовы, ён неспадзявана для сябе пачаў пісаць вершы. Я са сваімі двума худасочнымі паэтычнымі зборнікамі здаваўся яму сапраўдным мэтрам.

– У Канадзе, каб цябе выдавалі, – скардзіўся ён, – трэба быць чарнаскурай аднаногай лесбіянкай, хворай на СНІД!

– У Расіі і гэта не дапаможа, – з міжвольным гонарам адказваў я.

Цікава было параўноўваць Тома з рускімі паэтамі. Рэгулярна ён набываў латарэйныя білеты, спадзеючыся разбагацець. Акуратна плаціў унёскі ў экзатычны ганконгскі фонд, бо разлічваў атрымліваць на старасці вялікую пенсію. Запрасіўшы мяне ў госці, прыгатаваў вермішэль з кетчупам і выцягнуў халодную звараную курыцу. Нажом і відэльцам ён доўга і старанна адкалупваў ад курыных костак мяса, пакуль ад курыцы не застаўся толькі голы касцяк, такі неверагодна чысты і гладкі, што падаваўся тэатральна-бутафорскім, прызначаным для ўздыхаў “бедны Ёрык” або “бедная Раба”.

– Хочаш, вазьмі дадому, – працягнуў ён мне шкілет.

– Навошта? – здзівіўся я.

– Суп можна зварыць, – разважліва адказаў Том і, паколькі я не спакусіўся курыным анатамічным дапаможнікам, прыбраў яго ў лядоўню.

Ён ахвотна пагадзіўся сустрэцца наступным разам на маёй станцыі каля знакамітага замка. У вызначаны час я стаяў каля метро, уяўляючы, як зараз у людской плыні пакажацца мой новы знаёмец. “Ад паэтаў-пачаткоўцаў нідзе не схаваешся, – з задавальненнем думаў я, – ні ў Маскве, ні ў Японіі!” Не толькі дурная пыха напаўняла мяне. Нечаканая знаходка ў іншай краіне не проста таварыша, але сабрата, хай сабе пачаткоўца, грэла сэрца.

Том вылучаўся здалёк. Глобусападобнае разняволенае пуза не прывыкла ўцягвацца пад папругу. Шкельцы таўсценных акуляраў выклікалі думкі пра батыскаф. Галава нагадвала гару: зверху была голай, у сярэдняй частцы са шчэцю, унізе зарасла барадой.

З пакетам, які шматабяцальна булькаў, мы ўвайшлі ў вялізны парк, што атачаў замак. Абыякава прамінулі лаўкі ў нізкарослым садзе *умэ*, напоўненым фатографамі, без аніякага жалю прапусцілі лаўкі з пенсіянерамі ля абарончага рова з даведзенай да бляску вадой, пакінулі без увагі столікі з разнамаснай публікай пад палатняным намётам.

Ускараскаўшыся на шырокую крапасную сцяну, парослую дрэвамі і кустамі, мы прайшлі на самы далёкі бастыён, куды не ступала нага турыста, і, урачыста ўздыхнуўшы, апусціліся на зямлю. Далёка ўнізе за парапетам хутка забываліся гарадскія кварталы.

Хвастаты замак, нібы русалка, плыў у сінечы.

– Тут Кіплінг быў, – сказаў я.

– Хто гэта – Кіплінг? – з трэскам адкрыў Том бляшанку піва.

– Можа, ты і Маўглі не ведаеш? – кпліва пацікавіўся я.

– Маўглі таксама тут быў? – дзелавіта ўдакладніў Том, скруціўшы бляшаную галоўку пляшцы віскі.

– Магчыма, – агледзеўся я навокал.

Дзельквы, сосны, дубы, жалезныя і камфарныя дрэвы акапаліся на бастыёне, як яго апошнія абаронцы. Адны стаялі малойцамі, грудзі навыкат. Іншыя – трымаліся хіба што рыпеннем.

Том скончыў факультэт тэалогіі. Самымі любімымі яго прадметамі ў каледжы былі самакруткі з марыхуанай, зялёны газон і сходкі анархістаў.

– Чытай класіку, – прыгадаў я звычайную прыказку літкансультантаў і рэдактараў.

– Парай што-небудзь.

З шолахам старонак любімыя кнігі рынуліся на мяне з усіх бакоў. Я адчуў сябе ўсемагутным джынам, гатовым засыпаць незлічонымі багаццямі майго суразмоўцу.

– Вазьмі “Востраў скарбаў”, – прапанаваў я, гледзячы на старую хвою з пірацкай мыліцай пад пахай і з варонай на плячы. – А пасля “Тры мушкецёры”.

– На здаравье! – амаль па-руску сказаў Том, узняўшы ў неба пластыкавую пасудзіну з жаўтлявым напоем.

Ён выцягнуў з сумкі тэчку з вершамі і прыняў самы абыякавы выгляд, пакуль я, варушачы вуснамі, стаў спасцігаць ягоныя творы, захрасаючы на незнаёмых словах і перапытваючы іх значэнне. З кожным глытком віскі гаманіць па-ангельску было ўсё лягчэй і прыемней. Я слухаў сябе нібыта збоку, з асалодай адчуваючы літаўры і тулумбасы, якія, здавалася, усё мацней гучалі ў маім голасе. Што такое тулумбасы, я забыўся. Але чамусьці ад літаўраў яны ніяк аддзяляцца не хацелі.

Чорны мураш поўз па верлібрах Тома, іх лашчылі цені галін і воблакаў, вецер спрабаваў забраць з сабой.

– Вось так і трэба! – натхняўся я.

І ўсцешаны Том пытаўся, пра што яму пісаць.

– Пра назаўжды страчанае! – безапеляцыйна вяшчаў я.

Мой падапечны згодна хітаў галавой. Паслухмяна і лагодна ён нават выказваў гатоўнасць не разбураць з дапамогай рускіх сваю дзяржаву.

Іншых месцаў для нашых спатканняў мы не шукалі. З метро мой вучань выходзіў з ужо адкрытай бляшанкай піва. Піў ён так, нібыта быў грамадзянінам не Канады, а Расіі. Хаця канадцам ён стаў толькі ў Японіі.

– У Канадзе, – з крыўдай казаў Том, – калі даведваліся, што туды ўсяго толькі мой дзед перасяліўся, мяне фінам называлі.

Утульна было разам з ім схавацца на высокім пакатым бастыёне, складзеным з велізарных камлыгаў, які стаў для нас такім жа родным, як той бастыён, на якім з вінам, мушкетамі і цудоўнымі таямніцамі заселі калісьці тры мушкецёры на чале з д’Артаньянам. Разаслаўшы крамную торбу, як белы абрус, мы выкладалі бутэлькі і закусь. Пруткая трава прыўзнімала нашу самабранку, ладзіла на ёй горныя вяршыні і лагчыны, з усіх бакоў цягнулася да хлеба і зазірала ў шклянкі.

Трава складалася з абсалютна розных фізіяномій. Простыя былкі суседнічалі з лістамі і каласамі, гладкія сцяблiны – з зубчастымі і парасоністымі. Трапляліся франты са смарагдавым жуком у пятлічцы. Узвышаліся гіганты ў выглядзе званіц, ветракоў, пытальнікаў. “Трава жыве заўжды ўроскід”, – далятала ці то з дрэваў, ці то з воблака-мінака.

Паводле чутак, ва ўнутраным двары замка ўначы можна было сустрэць здань жонкі сёгуна, якая наклала на сябе рукі. Мяне гэта зусім не здзіўляла.

Варта было траве і дрэвам абступіць нас, перада мной у святле дня ўзнікала мая маці, і ў эмаліраваным тазіку на пліце па-дзіцячы пускала пухіры варэнне. І калі Том даставаў вершы пра дом з чырвонымі сценамі і пра аладкі з кляновым сіропам, я не сумняваўся, перад ім таксама мігцяць цені тых, хто жыве або ляжыць у іншай зямлі.

Як гарэла ад сонца і надзей галава майго вучня! Побач з ім і мне здавалася, што ўсё наперадзе. Вароны закрывалі вочы чорнымі крыламі. Весела я думаў, што аднаўляю імперыю, у якую ізноў уваходзіць Фінляндыя. Двое падданых было ў гэтай неабдымнай імперыі. І два імператары ў зубчастых каронах расселіся на зялёных тронах.

Хутка ў Тома з’явілася нявеста. Ён знайшоў яе ў кавярні для замежнікаў, куды японкі прыходзілі практыкавацца ў ангельскай, а замежнікі – знаёміцца з японкамі. Гэта было юнае стварэнне анёльскай знешнасці з такім пяшчотным галаском, што ім маглі размаўляць херувімы або камарыкі-немаўляты. На ангельскай яна ледзь гаварыла, і я спытаў у Тома, як яны знаходзяць паразуменне.

– Калі яна мяне не разумее, – бадзёра выказаўся ён, – я кажу: “Окэй, вернемся да гэтай размовы гадоў праз дзесяць!”

З’явіўшыся на бастыёне, японка сарамліва і ледзь чутна прызналася, што таксама піша вершы. Яна пераклала некалькі сваіх хайку на ангельскую, і я ўражана выгукнуў: “Ты абавязкова павінна пісаць!” Вершы ў яе былі нашмат цікавейшыя, чым у майго сябра.

Том быў нават крыху збіты з панталыку талентамі сваёй абранніцы. Але хутка ўзяў шклянку ў рукі і расказаў, што маці нявесты, пачуўшы пра замежнага жаніха-паэта, спалохалася: “Ён часам не наркаман?” А ўведаўшы, што сведкам у яго на вяселлі будзе рускі сябар, таксама паэт, роспачна заўважыла: “Вось убачыш, яны – гомасексуалісты!”

На вяселле прыляцеў брат Тома. Я думаў, што Том павязе яго ў славутыя храмы, да снежных малпаў, у вялікі акеанарыум. Але мой аддany вучань прывёз яго да мяне, і я расчулена падараваў госцю драўляную ляльку дарума. Асушыўшы ўсё, што можна было асушыць, мы абняліся, і я пачуццёва прачытаў Ейтса: “Come away, o human child!”, “Сыходзь, о чалавечае дзіця!” І Том з братам зарыдалі, як сорак тысяч дзяцей. І я заплакаў разам з імі.

Нараніцу Том змрочна распавёў па тэлефоне, што яны з братам пабіліся. Брат агрэў яго па галаве японскай лялькай, і на лобе няшчаснага Тома, як маячок на паліцэйскай машыне, запалаў сіне-чырвоны гузак.

– Дарма ты яму дарума падарыў, – маркотна прамармытаў Том.

“Я яму чыгунную статуэтку Буды хацеў даць!” – круцілася ў мяне на языку.

На вяселлі Том быў у крыклівым, дакладней, вісклівым ружовым гальштуку з ярка-блакітнымі свінячымі лычамі на ім. Ніхто ў рэстаране не звяртаў увагу на снежна-белую нявесту, на стол, што ззяў шклом і мельхіёрам. Усе не маглі адарваць вачэй ад незвычайнага гальштука. Том упіваўся шчасцем.

З сумам я рыхтаваўся да таго, што цяпер ён будзе спяшацца з працы да жонкі, разам з ёй ласавацца не абгрызеным курыным панцырам, а вытанчанымі і карыснымі японскімі стравамі, а пасля яны па чарзе будуць чытаць адно аднаму новыя творы.

Але першае, што трагічна-ўражана паведаміў мне Том пасля жаніцьбы, было:

– She is witch!

– Вядзьмарка? – здзівіўся я, уявіўшы, як анёльскага выгляду японка асядлаўшы барадатага Тома, вылятае ў комін ды імчыцца над Ціхім акіянам.

На жаль, усё было празаічней. Яго нявеста, як толькі выйшла замуж, не толькі забылася на свае хайку, але выказала поўную пагарду да вершаў, над якімі гарбеў муж. Яна патрабавала аддаваць ёй усю зарплату і жахалася, калі ён сядаў вячэраць, не прыняўшы ванну.

Каменны бастыён надзейна захоўваў нас ад яе і іншых японцаў, і канюшына ў ружовых каракулевых шапках выструньвалася, як ганаровая варта. Міжвольна я ўспамінаў краіну дрымучых траваў, куды ўцякалі, зменшыўшыся ў памерах да мураша, асобныя савецкія пісьменнікі. Але і там іх падпільноўвала небяспека. Драпежнікі накшталт хуткаснай страказы ці багамола маглі ў любы момант абарваць іх жыццё.

Нам не трэба было перакідвацца ў мурашоў. Пад змрочнымі дрэвамі ў зеленавата-сініх прыцемках, у якія мы траплялі, нас чакалі толькі любімыя здані і даўно страчаныя рэчы. Замкнёнае ў нашай памяці тут радасна вырывалася на волю. І жонка сёгуна працягвала яму свой кінжал.

Том пазнаёміўся з адным незвычайным ангельцам, які спяваў, граў на розных інструментах, у тым ліку на японскай флейце, сачыняў раман і да таго ж вандраваў па Усходзе на ровары.

– Хто ён такі? – самым нявінным тонам пацікавіўся я.

– Геній! – упэўнена адказаў Том.

Сустракацца мы сталі радзей. Вершы ён цяпер дасылаў мне мэйламі. У іх ужо не рыпела на верандзе дзедава крэсла-качалка і зношаны капялюш не гупаўся з вешалкі на падлогу. Том стаў пісаць складана і блытана.

– Занадта цьмяна, – сказаў я яму.

– А Джэры падабаецца! – запярэчыў ён. – У суботу ў нас будзе *poetry reading*. Прыходзь!

Цесны, з іржавымі металічнымі крэсламі бар відочна не з добрага жыцця вырашыў завабіць да сябе паэтаў і іх прыхільнікаў. Пануры бармэн утыкаўся ў кожнага наведніка такім знішчальным позіркам, што, баючыся за сваё жыццё, ўсе спешна прасілі ў яго хаця б соку.

Саступаючы ўмольванням Томаса, які баяўся, што ніхто на паэтычныя чытанні не збярэцца, я прывёў з сабой некалькі нясмелых першакурсніц. Нас накіравалі на другі паверх, дзе чарнеў дапатопны, велізарны, нібы камода, тэлевізар. Падлога пад нагамі пагрозліва прагіналася. У любое імгненне мы маглі праваліцца на галаву гаспадару бара.

Бледны Томас узяў мікрафон. Ён страшыўся правалу яшчэ больш за нас. Магутны ангелец у красоўках такога памеру, што шнуркі ў іх, напэўна, складалі метраў пяць, запіхнуў у магнітафон касету і прыклаў да вуснаў бамбукавую флейту сякухаці. Старажытны тэлевізар ажыў. На экране з'явіўся голы негр зверападобнага выгляду і аголеная бландзінка, якая раскінулася нібыта Белае мора. Негр падняў неверагодна доўгую чорную мачту, і бландзінка завохкала, як гарышча з галубамі.

Томас адкрыў рот, а ангелец падзьмуў у флейту. У-у! Разам з тэлевізарам у іх атрымалася прыкладна так:

Рэальнае цяпер,
Ох, ох, а-а-а!

У-у!
Нашмат больш невытлумачальна,
Ох-ох, а-а-а!
У-у!
Таму што мы маем метад.
Ох, ох, а-а-а!
У-у!
Але нашы гены эгаістычныя,
Ох-ох...

– Ну, Том! – не ведаючы, ці то плакаць, ці то смяяцца, азірнуўся я на сваіх студэнтак.

Доўга мы з ім не тэлефанаваліся. А калі я, нарэшце, яго пачуў, ён засмучана і цвёрда выдыхнуў: "Прабач! Я вельмі хачу вярнуцца да нашых сустрэч!"

– А дзе Джэры? – пацікавіўся я.

– У Кітай паехаў на ровары.

Велізарныя красоўкі больш не палохалі тутэйшыя тратуары.

– Мне не пішацца, – паскардзіўся Том. – Ёсць толькі адзін спосаб.

– Які?

– Стаўлю перад сабой віскі...

З дзіўным пачуццём ішоў я з блудным вучнем да знаёмага бастыёна, дапускаючы ў вочы толькі тое, што згушчала запаветныя прыцемкі. Куст шыпшыны з кветкамі і лісцем ледзь не да пояса абрынуўся ў ваду рова. Ці то ўтапіцца вырашыў, ці то проста пакупацца. Незнаёмая птушка папісквала ў зарасніках, як марзянка. Прыемна было мець агульныя таямніцы з лопухамі і птушкамі.

Дружна мы выклалі на траву пластмасавыя відэльцы і чаркі, важкую пляшку, бляшанкі з содавай. Акуратна расклалі па кардонных талерках слязлівы сыр і аліўкі, трапятлівыя скрылікі вяндліны і хрусткія крэкеры. Слюнькі пацяклі ў навакольных чарвякоў. І павук у паветры, заглядзеўшыся на наш пачастунак, перастаў выцягваць з сябе залатыя жылы.

– За вершы! – пранікнёна сказаў Том.

– За сорак чалавек на куфар мерцвяка! – падтрымаў я.

І тут з'явіўся лядашчы японец з цэлым вывадкам разнамасных сабак. Былі ў яго даўгалыгія, з пысамі зубілам рускія барзыя, ангельскія масціфы, нямецкія пінчары, пекінэсы з Пекіна. На нас натыкнуўся адзін з тых бедакоў, што зарабляюць на жыццё, выгульваючы чужых псінаў.

Гарэзліва і гулліва радасны сабачы статак рынуўся да нас. Бобікі і барбосы разнеслі па траве белыя лісты паперы з вершамі, пранесліся па расстаўленых талерках, перакулілі адкрытую бутэльку, раскідалі ў розныя бакі відэльцы і шклянкі, увобмірг знішчылі сыр, вяндліну, хлеб, нават аліўкі зжэрлі разам з костачкамі, нібыта гэта для іх мы накрылі стол.

– Вымятайцеся! – абурыўся Том і адважна адпіхнуў даланёй кудлатую псіну, што патрапіла пад руку.

Шчанюк віскнуў і пакаціўся ўбок.

– Don't touch my dogs! – з нечаканай злосцю выкрыкнуў раптам сабачы павадыр.

Нешта гнеўна пралапатаўшы па-японску, ён сабраў сваіх гадаванцаў у кулак і, нібыта прадавец непаслухмяных і віскслівых паветраных шароў, пацягнуў іх прэч, прыклаўшы да вуха тэлефон і злосна на нас азіраючыся.

– Куды гэта ён тэлефануе? – з трывогай прамармытаў мой таварыш.

І раптам з-за дрэваў, нібы тытунёвая люлька, з'явіўся верталёт і, павялічваючы памеры і рыканне, завіс над крэпасцю.

– Уцякайма! – спалохана ўскочыў Том.

Стракатае смецце галубоў разляталася з-пад нашых ног. Вароны апускалі сінія вейкі. Хацелася зменшыцца, праваліцца скрозь зямлю. Трава крычала нешта нам наўздагон. Але хіба яе пачуеш за ракатаннем матора?

Лятучым вентылятарам уздыбіла і разварушыла зялёныя прыцемкі. Ніякіх зданяў у іх не было. Чужая краіна ляжала навокал, і трэба было пачынаць у ёй жыць, не падманваючы сябе тым, што ўсіх, каго мы любілі, мы забралі з сабой.

Бывай, сябар мой Том! Сустрэнемся на бастыёне.

## Цені на пагорку

За авальным пагоркам, упрыгожаным двума маляўніча скрыўленымі хвоямі – іх, відаць, выкручвала не проста магутная пралля, а пралля-пейзажыст, – адкрыўся раскрэслены рознакаляровымі рысамі корт у зялёнай драцяной агароджы. На наступны дзень я прапанаваў японскім студэнтам пагуляць там у тэніс.

– Дамовімся, на корце размаўляць толькі па-руску. Будзе дадатковая практыка для вас!

Студэнты параіліся, схадзілі да загадчыка рускага аддзялення прафесара Такухіра, і з таго часу ў нядзелі, зранку, калі вераб'і лямантуюць, як амерыканскія горкі, мы збіраліся ў кампусе для выезду на тэніс.

Прыўзняты настрой ахопліваў мяне, калі я бачыў юнакоў і дзяўчат у спартыўных шортах з голымі наіўнымі каленкамі, без аніякіх сумных слоўнікаў, падручнікаў і сшыткаў. Загадчык аддзялення, які пэўна з'явіўся на свет у цвёрдым гарнітуры, гальштуку і пахавальных запінках з оніксу, паўставаў цяпер у выцягнутых штанах з лампасамі і выглядаў так па-хатняму, што яму не хапала толькі ката пры нагах.

Кошыкі з яркімі, як сігнальныя ракеты, жоўтымі мячамі, бутэлькі з вадой і зялёнай гарбатай лезлі ў багажнікі, і машыны навыперадкі ляскалі дзверкамі. Я садзіўся наперадзе побач з прафесарам і весела чакаў звычайнай размовы.

– Добры дзень, – асцярожна пачынаў Такухіра.

– Вельмі, –ківаў я. – Паводле прагноза будзе дваццаць сем.

– Не спякотна.

– Зусім не спякотна. Прыемна будзе гуляць.

– Ветру няма.

– Поўная цішыня.

– І на небе ні хмурынкі, – інспектаваў ён неба.

– Ніводнай.

Бяспечная і ўтульная, нібыта гара сяннікоў, размова разбуралася праз любую недарэчную заўвагу. У першай паездцы мне кінуўся ў вочы акуратны будынак крэмавага колеру зусім без вокнаў.

– Няма ні вокнаў, ні дзвярэй, святліца поўная людзей, – жартаўліва прадэкламаваў я. – Што гэта?

– Турма, – ашалела адказаў прафесар. – Хочаце сюды?

Другім разам я паказаў на круглы пагорак з хвоямі, на якім сядзелі і трымаліся за рукі закаханыя:

– Прыгожа тут!

– Самазабойцам таксама падабаецца, – падумаўшы, выказаўся Такухіра. – Яны тут часта засільваюцца.

Не адразу да мяне дайшло, што зашпілены на ўсе гузікі і запінкі прафесар аддае перавагу размовам выключна пра надвор'е не з-за сваёй ледзяной надзьмутасці, а таму, што праз нячастыя зносіны з рускімі баіцца не зразумець мяне і схібіць.

– Чаго вам не хапае ў Японіі? – сарамліва спытаўся ён неяк.

– Родных магіл, – у шчырым парыванні прызнаўся я.

– Не хвалюйцеся! – клапатліва сказаў ён. – Вы яшчэ заробіце грошай, каб купіць сабе месца на могілках.

У сезон дажджоў вакол корта, як ёлачныя цацкі, вісяць шарыкі з намаляванымі на іх усмешлівымі тварыкамі. Гэта амулеты супраць дажджу. Мяне дождж не палохае. Аднойчы падчас навальніцы я гуляў з раскрытым парасонам у руцэ і студэнтам таксама не даў разбегчыся па машынах. Але гаспадар корта ведае: не ўсе такія адчайныя тэнісісты, як мы.

Сёння ён вясёлы і ўзбуджаны. Абвязвае спацелую лысіну скручаным ручніком і з задаволеным выглядам паказвае на палаючае блакітам, як газавая фаерка, неба. Шарыкі з рожыцамі пераканалі дождж пашкадаваць іхнія пустыя гумовыя галовы.

Да мяне падыходзіць дацэнт Івана з бародкай, якую вынайшлі ў Севільі. Ён малады, самалюбны і непадступны. Але на тэнісе ўсе робяцца прасцейшымі і даверлівымі.

– Як з'ездзілі ў Маскву? – вітаю яго.

Радасна ўсміхаецца:

– Вельмі добра! У шпіталь трапіў. У Боткінскі!

Строю спачувальную міну:

– Што здарылася?

Усміхаецца яшчэ шырэй:

– Піражок з'еў! Дыягназ – сальманэлёз.

Дацэнт Іваноў – так я яго называю – ганарыцца сваім талентам трапляць у розныя пераплёты і шчасліва выбірацца з іх. Недарма сярод ягоных продкаў былі, як ён кажа, мяцежны даймё, хітры купец-партугалец, што прыйшоў у Нагасакі на трохмачтавай караке, і іншыя знакамітасці і незвычайнасці.

– А я жыла каля высокага будынка, – уступае ў размову прыгажуня Ямада, што таксама прыляцела днямі з Масквы. – Спыталася ў мінакоў: "Што такое?" Мне сказалі : "МЗС Расіі". "Вось добра", – падумала я. І кожны дзень, праходзячы паўз будынак, шаптала: "Вярніце нам нашыя выспы!"

З сумкі з напоямі разбіраем аднаразовыя кубачкі і пішам на іх імёны. Прафесар Такухіра малюе сімпатычную сабачую пысу. Гэта ягоны сабака *Silky*. Толькі на тэнісе мы даведаліся, што фотаздымкамі сабакі ў яго запоўнены тэлефон.

На корце заўсёды бачыш нешта новае. Акрамя душаў і сэрцаў на ім можна знайсці медную манетку з квадратным акенцам, з якога – гэта лёгка ўявіць! – выглядвае маленечкі палявы бажок у зялёным каўпаку. Але часцей тут валяюцца белыя буйныя пялёсткі кветак, залаты фанцік, маціцовы гузік – валюта зусім іншай, нетутэйшай краіны.

Чуюцца звонкія бомы і мільгаюць жоўтыя ламаныя маланкі. Дзяўчаты

рухаюцца так зграбна, што, здаецца, не гуляюць, а танчаць. Кусты за агароджай прагна сочаць, ці не патрапіць да іх мяч. Пад пахай у іх шмат згубленых мячоў.

– Я знайшла асы труп! – дзеліцца са мной сарамлівая другакурсніца Марыкава, разам з якой мы чакаем чаргу гуляць.

На занятках яна гаворыць так ціха, што зразумець, правільна яна адказвае ці няправільна, зусім немагчыма. Я яе ахрысціў Ціхім Голасам. Але на тэнісе цудоўным чынам дар зразумелай размовы да яе вяртаецца.

– Асы труп, – паўтараю я пра сябе, надзіва зачараваны гэтымі словамі.

Над сеткай, што перагароджвае пляцоўку, віюцца матылькі, хістаецца рыжая, бы англічанка, страказа. Мы ўцягнуты ў цудоўную гульню, дзе ролю мячоў выконваюць стракозы і матылькі. А над нашымі макаўкамі, як шматтонная бура з выпушчанымі коламі, праносяцца “Боінгі”, што ідуць на пасадку ў найбліжэйшы аэрапорт. Шкада, агню з ноздраў не пускаюць!

Па расфарбоўцы алюмініевай шкуры і па часе заходу на пасадку мы вызначаем, што гэта за птушка і адкуль. Не смурод газы, а пах экзатычных краін распаўсюджваюць самалёты.

– Вы любіце лятаць? – пытаюся я ў другакурсніцы.

– Мой дзядуля не любіў, – намёкам адказвае Ціхі Голас нармальным голасам. – Але нядаўна ён памёр.

Я збіраюся выказаць спачуванне, але Марыкава працягвае:

– Усе былі так рады! Дзядуля ніколі не хварэў. Сеў на канапу і памёр. Пасля крэмацыі мы палачкамі разбіралі яго косці і весела гаварылі: “Якія чысценькія! Ніводная хвароба да іх не прыстала!”

– Брр-р... – думаю я.

Дацэнт Іваноў, пачуўшы гутарку пра дзядулю, тут жа ўспамінае пра сваіх продкаў. Чуцён ягоны гучны, як на лекцыі, голас:

– Мой прапрадзед быў страшэнны распуснік! Найраспусны тып, – паўтарае ён з задавальненнем. – Ведаеце, кім ён быў? Кухарам у публічным доме...

Страказа пікіруе на металічнае гняздо суддзі, аранжавы самалёт з Шанхая напаўзае, як горны абвал, няўмела адбіты мяч дзіравіць воблака. Нават ежа на корце патыхае палётамі. Даўгалыгі ўсмешлівы Мураі адкрывае пластыкавую скрынку.

– Ягады? – жартоўна цікаўлюся я.

Падчас вучобы ў Расіі Мураі паехаў з рускімі сябрамі ў лес па брусніцы і заблукаў. Праз гадзіну да яго данесліся слабыя аддаленыя крыкі: “Мураі! Дзе ты?” “Я ў лесе!” – радасна закрычаў ён.

У скрынцы ў яго нешта ссохлае і членістаногае.

– У нас у горнай вёсцы ядуць насякомых, – тлумачыць ён. – Саранчу, пчаліных дзяцей, шаўкоўнічных чарвякоў. Хочаце пакаштаваць?

– Брр-р... – працягваю я адбрыквацца.

Мураі, як многія студэнты, раней ніколі не трымаў ракеткі ў руках. Але я ўпэўнены, гэта не мае значэння. На корце ўсіх ахоплівае асаблівая лёгкасць. Мноства разнастайнага лятучага дабра пераконвае нас ва ўласных паветраплавальных здольнасцях. Мы ўзлятаем над пляцоўкай, узнімаемся над сеткай. Нават паважны прафесар Такухіра лунае ў аблоках з тэлефонам і сабакам *Silky*.

Над зямлёй мы робімся адной сям’ёй. Галоўныя і дзівосныя падзеі заўсёды адбываюцца на вышыні.

Аднойчы да разнастайных насельнікаў нябёсаў дадалася нябачаная азызлая асоба. Гэта быў паветраны шар памаранчавага колеру са стропамі і плеценым кошыкам. Ён трымаўся на прывязі і нагадваў дварняка, які кідаўся пры павевах ветру то на адну, то на другую хмару.

Ніводная чалавечая галава не выглядвала з пасажырскага кошыка. Затое пад ім прасціралася і выгіналася доўгае палотнішча з велізарнымі іерогліфамі. Толькі адна фраза магла лунаць у небе: "Запрашаюцца ўсе ахвотныя для палёта на таямнічы востраў!"

– Што там напісана? – спытаўся я ў шчуплага аспіранта Мацудзакі.

– У новым доме прадаюцца кватэры...

Уяўляеце? Гіганцкі пералётны калабок, паветранага вандроўніка прымусілі служыць рэкламай нерухомасці, прыцягваць увагу дамаседаў!

Да нашага адзінага аспіранта я стаўлюся пяшчотна. Мацудзакі расказваў, што ў школе яго ўсе лічылі дзіўным, і ён вельмі перажываў праз гэта. "Але калі я пазнаёміўся са студэнтамі і выкладчыкамі рускага аддзялення, я супакоіўся", – прызнаўся ён.

Узнімаецца вецер, мячы робяцца больш самастойнымі ў рухах, дрэвы спрабуюць уцячы ад саміх сябе. Толькі закаханыя сядзяць пад мудрагелістымі хвоямі як ні ў чым не бывала. Магчыма, на світанку на тоўстай хваёвай галіне пагойдвалася чыё-небудзь цела. А зараз толькі ягоны цень застаўся на пагорку. Цені заўсёды застаюцца там, дзе іх пакідаюць.

Я не адрываю позірку ад пухіра, што гойдаецца ў сінечы, і ўяўляю, як забіраюся ў лядачы бамбукавы кошык, і мы нясемся ў бок акіяна.

Толькі аспірант Мацудзакі застаўся б на зямлі. Калі на занятках я спытаўся ў яго пра мэту жыцця, ён, гледзячы ў стол, ціха, але цвёрда сказаў:

– Абараняць імператара!

Апроч імператара, у яго, як ва ўсіх студэнтаў, поўна звычайных клопатаў.

– Што будзеце рабіць пасля тэніса?

– Трэба рэферат пісаць, – панура адказвае ён.

– А пасля?

– Падпрацоўваць. Я афіцыянт у рэстаране...

"Няшчасны", – паблажліва думаю я, з задавальненнем прыгадваючы, што мяне чакае толькі гарачая ванна і бутэлька бургундскага.

Другім памятным ранкам у перапынку паміж гульнёй высокая гнуткая Кавамура, зграбна выгнуўшыся, налівала мне гарбату. Мне падабаецца гэты японскі звычай.

– У мяне ёсць сястра, – шчабятала Кавамура. – Калі яна даведалася, што я паеду ў Расію, яна заплакала і адчувала агіду да Расіі. Днямі яна пазнаёмілася з мужчынам. Я сказала: "Віншую!" і падумала: "Ці не наняць снайпера?"

Праз выраз яе футболкі відаць узгоркі маленькіх грудзей. Нешта няўлоўна-заганнае бачыцца мне ва ўсіх японках. Успамінаецца мясцовае паданне пра святога, што сядзеў на воблаку і ўбачыў дзяўчыну, якая, падтыкнуўшы юката, прала бялізну ў рацэ. Ён так на яе заглядзеўся, што зваліўся з воблака!

На мінулым тыдні за намі на корт увязаўся жвавы кітайскі стажор. Кучаравы, з залатым ланцужком на руцэ, ён стаў заляцацца да Кавамура. Падносіў ёй мячы, пытаўся, ці не хоча яна заняцца кітайскай: "Упэўнены, у вас атрымаецца!" І ўвесь час, як капітан Нэма, складаў рукі на грудзях, каб усе бачылі яго багацце на запясці. Кавамура задаволена смяялася.

На занятках у панядзелак я загаманіў пра неразумных дзяўчатак, што трапляюць у кіпцюры вопытных спакуснікаў. "Бойцеся замежнікаў!" – грымела ў аўдыторыі. Уражаны, я зразумеў, што раўную ўсіх студэнтак.

Цяпер кітайца няма, і на маіх вытанчаных тэнісістак ніхто не квапіцца. Наліўшы мне гарбату, Кавамура хацела паставіць бутэльку і раптам замерла, спалохана скіраваўшы позірк у вышыню.

І ўсё навокал сціхла і здранцвела. Ракеткі перасталі біць па мячах. Мячы, пазбавіўшыся пабояў, раскаціліся хто куды. Хвоі перасталі падкідваць пад сцёгны закаханых голкі. І стракозы кінулі рыпець крыламі.

Два велізарныя дыяментавыя колцы ззялі і пераліваліся ў нябёсах. Гэтыя жахлівыя спараныя абаранкі выглядалі настолькі пуката-прыкметнымі, што, здавалася, натыкніся на іх самалёт, ён бы не абыйшоўся гузам.

Ніколі я не бачыў нічога падобнага. Нават не чытаў пра такое. Гіганцкія, таўшчэзныя, неверагодна матэрыяльныя колцы не былі падобныя ні на вясёлку, ні на гало.

Не ведаю, колькі прайшло часу, пакуль на нашых разгубленых вачах гэтыя асыпаныя дыяментавым пылком велічныя акружнасці, паціху цьмянеючы, не растварыліся бясследна ў паветры. Ніводнай зіхатлівай смеццінкі не ўпала зверху, нібыта там іх і не было.

– Я думаў, гэта ядзерная вайна! – парушыў цішыню ўражаны голас Іванова.

– А я – што канец свету! – перасмыкнула плячыма Кавамура.

Мяркуючы па тварах, і іншыя, у тым ліку спакойны ад калыскі прафесар Такухіра, таксама чакалі сканчэння свету. Такі выпадак не скарыстаць было нельга:

– Ведаеце, што гэта было? – гучна вымавіў я.

– Што? – пачулася з усіх бакоў.

– Заручыны багоў.

Усім першакурснікам я з гонарам паведамляў, што на рускім аддзяленні гуляюць у тэніс і стасуюцца пры тым па-руску. Нібыта незнарок прагаворваўся, хто прапанаваў гэтую ідэю. Горача пераконваў, што на корце ўсе па-сапраўднаму ўведваюць адно аднаго і робяцца адзіным цэлым.

Раз на год у канцы лета ў самую спёку мы, разбіўшыся на пары, гулялі да таго часу, пакуль не вызначаўся пераможца. Апісваючы гэты дзень, заўважаю, прыжмурваюцца ад сонца літары на паперы і варушацца цені ад слоў. Цені аслоў.

Часта ў страшэнную спёку я пераконваў сябе, што лепш найхутчэй прайграць, пакінуць спаборніцтва і спакойна сядзець у цяньку. Але варта было ўзяць у рукі ракетку, ад маёй разважлівасці нічога не заставалася. Пераможцам уручалася купленая ў складчыну ўсялякая драбяза тыпу празрыстага парасона або партатыўнага вентылятара. Часам я са страхам думаў, што памру дзеля вентылятара на батарэйках.

Гэтым летам пераможцу чакаў рондаль, што асляпляльна ззяў на сонцы, які студэнты купілі, пэўна спадзеючыся выкарыстоўваць яго на сваіх гулянках. Замест таго, каб з чыстага чалавекалюбства – хіба я не любіў сваіх падапечных?! – даць ім магчымасць выйграць гэты, абсалютна непатрэбны мне рондаль, я, рызыкуючы жыццём, збіраўся змагацца за першае месца.

У пару мне трапіла зусім бездапаможнае стварэнне па прозвішчы Оя, якое з'явілася на корт у ружовай кісейнай сукеначцы і з ружовым чамаданчыкам на колцах. Убачыўшы, што мая напарніца трымае ракетку, нібыта патэльню,

і шарахаецца ад мяча, як ад гвалтаўніка, я не мог стрымаць раздражнення і абураных крыкаў.

Каля агароджы корта здзіўлена спыніліся двое замежнікаў. Лёгка было здагадацца, хто яны. Усе мясцовыя ведалі загадку: “П’яны, з чырвоным тварам, на крадзеным жаночым ровары, хто гэта? Рускі марак!”

Пераглянуўшыся, маракі асцярожна праціснуліся ў прыадчыненую брамку і, як зачараваныя, нерашуча прыселі на краёк пластыкавай лаўкі. Іх баязлівасць можна было зразумець. У порце вісеў бачны здаля транспарант з кароткім надпісам па-руску: “Не красці!” Транспарант вычарпальна тлумачыў, як тут ставяцца да рускіх.

Але хіба можна было абыякава прамінуць драцяны вальер, у якім гарэзнічалі абарыгены, якія ўсе да аднаго размаўляюць на тваёй роднай мове? Больш за тое, сярод іх смела, нават пакрыкваючы на партнёрку, мітусіцца з апошніх сіл твой зямляк.

У цяжкіх чаравіках, з ускладзенымі на калені кулакамі, запазычанымі з крамы гір і гантэляў, двое шчуплых рускіх маракоў – зусім яны не былі падобныя да марскіх заваёўнікаў! – недаўменна, як на фантастычны міраж, глядзелі на бязважкіх вытанчаных прыгажуняў у спакусліва кароткіх спаднічках, на радасных юнакоў, на ўсё гэтае чужое жыццё, што лунае ў сінечы і з насмешкай ці з нейкай іншай загадкавай мэтай кідае на вецер рускія словы.

Нечакана з’явіўся гаспадар корта. Падышоўшы да маракоў, ён нешта ім сказаў, і тыя, нібы па камандзе, прысаромлена ўскочылі і нязграбна выйшлі. Цяжка было ўявіць, што японец прагнаў іх. Хутчэй, пацікавіўся, чаго яны хочуць. Але маракі, не зразумеўшы ягонага пытання, хутчэй пакінулі корт.

Іх пакорлівасць, пужлівая ўпэўненасць, што яны, як заўсёды, нешта парушылі, ледзь не пазбавілі мяне ў той дзень перамогі. Я хацеў выйсці следам за імі. Але што я мог для іх зрабіць? Я быў часткай чужога свету, даўно адрэзанай скібкай. А адрэзанай скібцы застаецца адно – чарсцвець.

Мой кантракт закончыўся, і на развітальнай вечарынцы, дзе збіраліся нашы даўнейшыя выпускнікі і новыя студэнты, я расчулена паабяцаў, што хоць і буду выкладаць цяпер у іншым універсітэце, па-ранейшаму гатовы ў нядзелі прыязджаць на запаветны корт, каб працягваць тэнісную традыцыю рускага аддзялення. Усе запляскалі.

Праз тыдзень я бадзёра надзеў звыклую белую бейсболку з выгарэлым зялёным брылём, праверыў звонкую і лёгкую, як гітарнае рэха, ракетку і, прадчуваючы вясёлую сустрэчу з былымі вучнямі і калегамі, паехаў па знаёмым маршруце паўз гарадскую турму.

У грудзях пацяплела, калі здалёк паказаўся родны пагорак з хвоямі, што вырабляюць неверагодныя піруэты, пад якімі, як заўжды, цямнелі ў абдымках няшчасныя шыбенікі і закаханыя.

Нікога на корце не было. Толькі каля ўвахода на асфальце бялела згубленае некім маленькае срэбранае сэрцайка, да якога з цяжкасцю, бы паралітык, падбіраўся дажджавы чарвяк, ці то каб сумленна здаць яго ў бюро знаходак, ці то каб сцягнуць пад зямлю, дзе і павінны захоўвацца скарбы.

Я патэлефанаваў дацэнту Івана.

– Нікога не будзе, – упэўнена адказаў ён.

– Чаму?!

– Толькі вы любілі гуляць у тэніс. Астатнія – яго ненавідзелі.

Ільма Ракуза



...ён стварыў адметны паэтычны космас,
які ў лакальным намацвае цэлы свет
і абсалютна натуральна спалучае
фантазію і вучонасць,
простасць і складанасць...

# Мастацтва складанай простасці

## *Водгукі на кнігі Алеся Разанава, што выходзілі па-нямецку*

З Алесем Разанавым мы пазнаёміліся шмат гадоў таму на літаратурным фестывалі "Віленіца" ў Славеніі. Мне адразу ж запомніўся яго прыметны твар з дапытлівым позіркам і прыхільнай усмешкай. Але яшчэ больш тое, што ён казаў.

Пазней мы часта сустракаліся – у Цюрыху і Берліне, у Гановеры і Цугу, у Мінску і Грацы, мы абмяркоўвалі мноства тэм, найчасцей прыроду і паэзію. А яшчэ мы нярэдка маўчалі разам, і гэта было красамоўнае маўчанне. Яго кнігі пастаянна суправаджалі мяне, гэтыя мудрыя, глыбокія кнігі, прасякнутыя непадуладнай часу прыгажосцю. На шэраг з іх, што выйшлі па-нямецку, я пісала рэцэнзіі для газеты "Нойе Цюрхер цайтунг". Да дзвюх – пасляслоўі. І не ў апошнюю чаргу хачу згадаць, што некаторыя з яго пункціраў я пераклала на нямецкую мову.

Наша сяброўства я лічу адным з найбольш шчаслівых выпадкаў свайго жыцця. Нягледзячы на тое, што мы ўжо шмат гадоў не бачыліся, паміж намі застаецца глыбінная лучнасць. Яна даўно абыходзіцца без слоў, аднак час ад часу мне пры-

*Пераклад з нямецкай Ірыны ГЕРАСІМОВІЧ.*

ходзіць мэйл з чароўна празорлівымі сказамі: “Ты стаіш ля дзвярэй. Уваходзім у заўтра. З намі сэнс: мы дазваляем яму быць з намі”.

Для мяне вельмі важна, што цяпер некаторыя з маіх тэкстаў пра Алеся Разанава выйдуць і па-беларуску. Бо яны ўзніклі з павагі і сяброўства.

*Цюрых, 28 сакавіка 2020 г.*

## Пасляслоўе да кнігі Алеся Разанава “Трэцяе вока. Пункціры”

*(Выдавец Урс Энгелер, Базель і Вайль-на-Рэйне, 2007 г.)*

Алесь Разанаў належыць да паэтаў ціхага кшталту. Ён не ўздымае шуму вакол сваёй асобы, адмаўляе “яканне” і прагу да арыгінальнасці ў літаратурнай творчасці, не клапоціцца ні пра сучаснасць тэм, ні пра літаратурныя трэнды. Паэтычная праца для яго – гэта калі цябе закранае нейкі матэрыял, нейкая рэч, і ты рэхам адгукаешся ў адказ. Гучыць і проста, і сціпла, але для такой працы вельмі шмат трэба.

Ціхім назіральнікам Алесь Разанаў стаўся яшчэ ў дзяцінстве: нарадзіўшыся ў 1947 годзе ў Сяльцы непадалёк ад Брэста, ён рос у вёсцы, у атачэнні прыроды і вясковай гаворкі. Рускай мове вучыўся ў школе і ад бацькі, які дзівам выжыў у канцлагерах Заксенхаўзен і Маўтхаўзен. Але пры першых жа спробах пяра ў 1961 годзе стала ясна, што ягоным выбарам будзе беларуская мова. Гэты паэтычны выбар неўзабаве набудзе палітычную значнасць: у 1968 годзе, пасля ўводу савецкіх войск у Прагу, студэнт філалагічнага факультэта Алесь Разанаў выступае супраць афіцыйнай русіфікацыі, і яго выключаюць з мінскага ўніверсітэта. Вучобу ён завяршае ў Брэсце, потым ідзе працаваць вясковым настаўнікам, у 1970-80 гг. працуе рэдактарам у перыядычных выданнях і ў выдавецтве, а таксама перакладчыкам. Паралельна ствараюцца ўласныя зборнікі вершаў (“Адраджэнне”, “Назаўжды”, “Каардынаты быцця”, “Шлях-360”, “Вастрыё стралы”), апошні з якіх у 1990 годзе прынясе яму Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы.

Алесь Разанаў лічыцца вестуном беларускага культурнага адраджэння, якое абапіраецца на ўздым пачатку дваццатага стагоддзя, задоўга да таго, як савецкая ўлада паклала канец любым праявам нацыянальнай свядомасці, а Сталін ці не цалкам вынішчыў беларускую інтэлігенцыю. Але і новае “адраджэнне” было нядоўгім: з прыходам Лукашэнкі да ўлады ў 1994 годзе яно раптоўна спыняецца. Разанаў, чыя паэзія ніколі не была яўна палітычнай, уводзіць падзеі, што адбываюцца ў краіне, у свае творы, надае ім гучанне і вобраз. З 1999 года ён часта вандруе на запрашэнне за мяжой; яго кнігі выходзяць у Польшчы і ў двухмоўным фармаце ў Германіі, з 2005 года і ў Мінску таксама. Агулам больш за тузін.

На радзіме Алесь Разанаў лічыцца кардыналам паэзіі, непадкупным ні ў слове, ні ў справе. Новае пакаленне беларускіх паэтаў захапляецца яго прыкладам, хоць самі маладыя паэты і абіраюць іншыя стылістычныя арыенціры. А на Захадзе ён па-ранейшаму застаецца “таемнай парадай для знаўцаў”; Алесь Разанаў пакуль чакае свайго часу, хоць існуе мноства перакладаў на нямецкую і дзве кнігі, якія ён падслухаў у нямецкай мовы. Да таго ж ён уганараваны прэміяй імя Гердэра.

Свайго часу чакае паэт, які вызначаецца неверагоднай шматграннасцю і паслядоўнасцю. Ужо самі жанры прымушаюць прыслухацца: празаічныя мініяцюры-прыпавесці, якія называюцца версэтамі; наратыўныя паэмы, злучаныя ў медытатыўныя цыклы вершаў (напрыклад, “Гліна. Камень. Жалеза”); “квантэмы”, што ўводзяць мову ў сваю гульню, і падобныя да хайку “пункціры”, а яшчэ “зномы”, якія можна было б назваць трапнымі думкамі або афарызмамі.

Алесь Разанаў чэрпае натхненне ў першую чаргу ў народных паданнях і эпасах, а таксама ў прыродзе, але звяртаецца ён і да індыйскай філасофіі, Геракліта,

Бібліі і апакрыфічных (акультных) тэкстаў. Нязменнай мэтай яго пошукаў застаюцца “універсаліі”, якія ён імкнецца вылучыць з прыроды, гісторыі, сноў і мар, каб падступіцца да “сутнасці”, якая робіцца зразумелай без тлумачэнняў. Рэдукцыя, а не збытак – вось дэвіз Разанава, а працэс пісьма нагадвае цярплівае неўмяшанне ў ход рэчаў (“іскрына выблісне сама”), ён не надта рупіцца аб так званым рамесным умельстве.

Да найбольш выразных, “сутнасных” тэкстаў у разанаўскай творчасці без сумневу належаць “пункціры”. Пункціры – гэта падобныя да хайку творы, якія вылучаюцца неверагоднай лаканічнасцю і выразнай прыгажосцю, у іх не сустрэнеш ні досціпаў, ні метафар (“метафара не асвятляе рэчаіснасць, а скажае яе”). На першы погляд непрэтэнцыёзныя, яны найбольш адпавядаюць таму, што Алесь Разанаў называе паэтычнай працай: калі цябе закранае нейкі матэрыял, нейкая рэч і ты адгукаешся ў адказ. Для гэтай гульні патрэбна парадаксальнае спалучэнне “выключнай выпадковасці і выключнай заканамернасці”.

Зноў і зноў усё ўпіраецца ў парадокс: як адзінкавае робіцца агульным, выпадковае заканамерным? Як атрымліваецца, што з мноства з’яў адна дэталь, адно імгненне крышталізуецца, ператвараючыся ў пазачасавае выказванне?

Алесь Разанаў піша “пункціры” здаўна, але, па яго ўласных словах, з часам ён іх “хайкуізаваў”, то бок пазбавіў асабовасці, драматычнасці. Адсюль і іх грацыёзнасць: адсутнасць пажады, мэтапамкнення робяць магчымай грацыёзную прысутнасць рэчаў, якія набываюць уласную вагу і ўласную мову.

Сабраныя ў гэтай кнізе “пункціры”, напісаныя ў асноўным падчас стыпендыяльнага побыту ў швейцарскім Цугу, бяруць за нагоду для паэтычнага рэха дробныя здарэнні штодзённасці або сцэны прыроды. Утылізацыя бутэлек, выпадковая сустрэча з манахам, від дзяўчыны з цыгарэтай або ўласных зношаных чаравікаў ператвараюцца ў “эпіфаніі” гэтаксама, як і вецер у былінках, крумкач у галлі або возера, якое ўвесь час змяняецца. Так, можна без усялякага пафасу называць гэта з’явамі, бо ў гэтай кнізе згушчаных вершаў сутнасць робіцца яўнай.

Напрыклад, як у гэтых кароткіх пунктірах:

Nebel:
Der Umwelt
ist schwindlig. *(Туман:/ у наўколля/ кружыцца галава.)*

Regen:
Der See
unter Akupunktur. *(Дождж:/ возера/ ў акупунктуры.)*

Уяўляльнасць тут паўстае праз перанос уласцівых чалавеку характарыстык і паводзін на прыроду, праз нечаканае спалучэнне сфер, звычайна адасобленых. У моцным уздзеянні гэтага нібы выпадковага жэста і палягае мастацтва складанай прастасці.

Гэтая літаратура імкнецца не ўзбуджаць, але “абуджаць”, рабіць пранікальным. Можа быць, і перайначваць таксама, своеасаблівым спосабам. Алесь Разанаў – мудрэц, якому не займаць гумару; ён ведае, што шлях да метафізікі вядзе праз фізічна бачнае, і яно заслугоўвае нашай прыязнай увагі. Ён не проста глядзіць, ён бачыць наскрозь (часам нібы падміргваючы), словы з’яўляюцца ўслед за разуменнем:

Wind:
Der Halm
lehnt sich an den Halm,
doch der – lehnt ab.

*(Вецер:/былінка/ горнецца да былінкі,/ а тая – ад.)*

Або:

Sie ist zwar verrostet,
hält aber trotzdem
fest an ihrer Überzeugung:
Die Kette.

*(І заржавеў,/а ўсё роўна/трымае ранейшае перакананне:/ланцуг.)*

Некаторыя “пункціры” ўяўляюць сабой элементарныя вобразы (“праз-вобразы”), іншыя набываюць форму звароту, кароткага дыялогу, загадкі; але кожны нязменна запамінальны і сутнасны. А часам яны ахутаныя таямнічасцю, якая падказвае, куды ў самай глыбіні цягне слоўнага вандроўніка Алеся Разанава:

Die Sonne geht unter:
Mit zwei Augen
schau ich ins dritte.

*(Сонца заходзіць:/у двое вачэй/узіраюся ў трэцяе вока.)*

Тое, што рэштаю можа быць толькі маўчанне, паказвае моўная моц гэтага і шматлікіх іншых твораў беларуса Алеся Разанава.

## Паэт Алесь Разанаў у пошуках вершасловаў

*(Пасляслоўе да кнігі Алеся Разанава “Таліна паказвае дрэву, куды расці. Вершы”, выдавецтва “Агора”, Берлін, 2006 г.)*

Нямецкая мова, бадай, як ніякая іншая праяўляе, што вершаванне (ням. dichten) ёсць працэсам згушчэння (ням. verdichten), менавіта ў нямецкай абодва працэсы суадносяцца з адным і тым жа этымонам. Знакавым бачыцца супадзенне значэнняў і стымул для паэта адпавядаць сваёй паэтычнай задачы.

Беларускі паэт Алесь Разанаў, аўтар паэм, “версэтаў”, падобных да хайку “пункціраў” і афарыстычных “зномаў” належыць да асаблівага кшталту творцаў згушчэння. Яго паэзія па сваёй прыродзе імкнецца да сутнаснага, у якой бы форме яна ні набліжалася да рэчаіснасці: у прыпавесцях, вобразах або развагах. Такая цяга да сутнаснага эстэтычна знаходзіць сваё выражэнне ў складанай простасці, этычна – у радыкальнай шчырасці. Яе падмуркам з’яўляецца разуменне быцця, якое бачыць жывыя ўзаемасувязі паміж фізікай і метафізікай, гэтым і тым светам, прыродай і звышпрыродным. Гэтае даследаванне і робіць творчы набытак Алеся Разанава ўнікальным. Праўда, яшчэ і падазроным у аргусавых вачах беларускай цэнзуры і надзвычай спрэчным для афіцыйнай крытыкі.

Падчас стыпендыяльнага побыту ў Берліне, Мюнхене, Гановеры, Грацы і іншых гарадах ён назіраў за жыццём на Захадзе, не здраджваючы свайму ўнутранаму пакліканню. Яго “Гановерскія пункціры” (2002), натхнёныя штодзённасцю і ўражаннямі ад наваколля, трансфармуюць (ніжнесаксонскія) асаблівасці ў агульнае, то бок зноў жа шукаюць слядоў сутнасці, што здавён вызначае “універсаліста” Алеся Разанава.

І ўсё ж Разанаў зрабіў у замежжы новы крок, а менавіта крок у бок нямецкай мовы. Трымаючыся свайго адметнага спосабу, ён адкрыўся гэтай мове не столькі на вуліцы, колькі чытаючы і вывучаючы слоўнікі. І вось аднойчы пасіўны разгляд перайшоў у актыўны разбор. Вясной 2003 года Алесь Разанаў здзівіў прыймовы бок у Грацы нямецкамоўным рукапісам з назвай “Wortdichte” (Вершасловы). Рукапіс утрымліваў дасціпнае і ўдумлівае паглыбленне ў словы: *Rauch* (дым) і *Teller* (талерка), *Decke* (столь, коўдра) і *Waffe* (зброя) – гэты беларус быццам выказвае пашану мове краіны, дзе гасцюе, ускрываючы нутро яе слоў.

Каб працягнуць гэты эксперымент, Разанаў скарыстаўся шматмесячным побытам у Боне (2004-2005 гг.). Некалькі тузінаў слоў, ад *Busch* (куст) да *Schaufel* (шуфель), ад *Falle* (пастка) да *Wald* (лес), ён гуляючы перакруціў на сто ладоў, каб выцягнуць з іх літар новыя спалучэнні, а адпаведна і новыя значэнні. Алесь Разанаў праяўляецца як старадаўне-наватарскі моўны кабаліст, ён ставіцца да падобных маніпуляцый са слоўным матэрыялам як да магічных дзеянняў, хоць можа падацца, што яны зробленыя лёгкім узмахам рукі. Хросныя яго эксперыментаў не Эрнст Яндль і не Курт Швітэрс, а рускі паэт Вялімір Хлебнікаў (1885-1922), моватворчы геній якога Разанаў шмат гадоў да гэтага глыбока вывучаў перакладаючы. Як і Хлебнікаў, Алесь Разанаў знаходзіцца ў пошуках пра-мовы. Усвідроўванне ў гукасэнсавыя пласты нямецкай мовы – гэта чарговае "універсальнае" даследаванне.

Але што з'яўляецца паверхняй, а што глыбінёй, што проста літарай, а што сэнсам? Які разведвальны шурф выкліча цуд яснасці? Іскра выблісквае сама, лічыць Алесь Разанаў, які сціпла называе сваю працу экзерцыцыяй. І тым не менш нельга не заўважыць, з якой пралічанай дбайнасцю ён займаецца ўжо самой графічнай формай слоў. Літары адасабляюцца, робяцца самастойнымі візуальнымі знакамі, самі пачынаюць прамаўляць. Умяшанне вельмі далікатнае і падпарадкоўваецца не капрызам (ці нейкім "ізмам"), а ўнутранай неабходнасці. Як у вершы "Паўза".

Aus
der Spannungsphase
in die Entspannungs-
phase:

Die P
aus
e.

*(З / фазы напружання / ў фазу расслаблення / п / аўз / а.)*

Са слова "паўза", разбітага на літары і склады, вылупліваецца слова "aus", выклікаючы ў чытача ўсмешку паразумення. Але галоўнае для Разанава ў яго лаканічных вершах не досціпы і не эфект здзіўлення, а калі з сур'ёзнасцю і ўсмешкай прыходзіць бачанне і разуменне. Ён выцягвае са слоў іх унутраныя магчымасці і робіць іх відавочнымі, дзякуючы чаму паўстаюць ашаламляльныя эўрыстычныя ўзаемасувязі.

Адзін з карацейшых прыкладаў – слова "Geschichte" (гісторыя), якое ў Разанава ператвараецца ў "Gesche/hen/schich/ten" (спалучэнне слоў "здарэнне" і "пласты"). Гэтак гісторыя найпрасцейшым чынам раскрывае свой палімпсеставы характар.

А вось вельмі тонкая праца са словам "Quelle" (крыніца):

In der Erde
der Keller,
in dem Keller
die Kelle,
in der Kelle
die Welle:

die Quelle.

*(У зямлі / сутарэнне / у сутарэнні / карэц / у карцы /*
*хваля: / крыніца.)*

Слова з назвы стаіць тут у канцы, апошнім звяном у шэрагу слоў, якія звязаныя асанансам ці рыфмай і візуальна ды семантычна ўтвараюць вертыкаль. Калі даходзім да самага нізу або грунту, б'е крыніца.

Рэдукцыя для Разанава – адна з неабходных перадумоў, каб дайсці да сутнасці (і яснасці). І ўсё ж сустракаюцца і вершы, якія займаюць больш месца. Як правіла, у іх вядзецца пра пару слоў, то бок пра дзве рэчы, рознасць якіх (нават супярэчнасць) вымалёўваецца праз пералічэнні, якія нагадваюць літаніі. Вось як гэта адбываецца ў вершы “See und Fluss” (Возера і рака) :

Der See ist Null, der Fluss ist Eins, der See ist
Seher, der Fluss ist Prophet, der Fluss ist das Muster
für den Geist, der See für die Seele, der
Fluss geht gern zu Fuss, der See segelt gern.

Der Fluss ist fleissig, der See ist wachsam, der
Fluss ist von Gewinn und Verlusten ergriffen,
der See hat sich ins Lesen des Buches der Segen
vertieft, der Fluss strömt zum Schluss und hat
Lust, dorthin zu strömen, der See verehrt den
Anfang und ist in Selbstbetrachtung versunken. (...)

Возера нуль, рака адзінка, возера
празорлівец, рака прарок, рака ўзор
для розуму, возера для душы, рака
любіць хадзіць пешшу, возера пад ветразем.

Рака руплівая, возера чуйнае,
рака ахоплена карысцю і стратамі,
возера паглыбілася ў кнігу блаславенняў,
рака імкнецца да завяршэння і хоча цячы туды,
возера шануе пачатак і занураецца ў саманазіранне. (...)

З ходам верша абодва словы прырастаюць усё новымі коламі значэнняў, у першую чаргу, праз словы, блізкія па гучанні. See (возера) - Seher (празорлівец) - Seele (душа) - segeln (хадзіць пад ветразем) - Segen (блаславенне) - Seligkeit (асалода), з аднаго боку, і Fluss (рака) - Fuss (нага) - fleissig (руплівы) - Schluss (завяршэнне) - Lust (жаданне) і інш., з другога. Кола і лінія, дуга і страла пад канец праяўляюць спецыфіку гэтых вадаёмаў, якія не могуць існаваць адно без аднога.

Уражвае, як Алесю Разанаву ўдаецца і ў нямецкай мове стварыць тую інтанацыю першаснага маўлення і мудрай весялосці, якой вызначаюцца яго беларускамоўныя вершы. Пераход з адной мовы ў іншую не змяніў скіраванасці яго паэзіі: у фокусе ўвагі раз і назаўжды сутнасць рэчаў і з’яў, нутро саміх слоў. І паколькі ў ідэале словы мусяць натуральна-прыродным чынам “раскрывацца” самі, Разанаў разглядае сваю працу па разведцы і ўскрыцці як мінімальнае ўмяшанне, нязмушаную спробу дапамагчы таму, што “жыве ўсярэдзіне” слоў, выразна праявіцца.

Паэт як павітуха? Не без таго. Ва ўсякім разе, позірк беларуса Алеся Разанава на нямецкую мову настолькі грунтоўны і асвяжальны, што застаецца толькі з удзячнасцю дзівавацца.

## Паэт – душа мовы. Алесь Разанаў як прыхільнік беларускай мовы

*(Neue Zürcher Zeitung, 26 лютага 2003 г., № 47, стар. 55. Прыведзеная версія злёгку скарочаная.)*

Горад Гановер на два гады запрасіў яго ў госці, уручыўшы першую стыпендыю імя Ханны Арэнт для пісьменнікаў, што зазнаюць пераслед. Так з’явілася нагода паразмаўляць з беларускім пісьменнікам Алесем Разанавым пра яго шматгранны творчы даробак і пра культурна-палітычную сітуацыю ў яго на радзіме.

Выехаўшы з краіны, ён займеў грамадскую значнасць, прызнаецца Разанаў без ценю пыхі. Па ўласных словах, ён зрабіўся пасярэднікам паміж Усходам і Захадам, а таксама культурным амбасадарам сваёй краіны. Да сваёй асветніцкай функцыі ён ставіцца сур'ёзна і расказваючы ў Германіі пра вялікіх беларускіх паэтаў Францішка Багушэвіча (1840-1900) і Янку Купалу (1882-1942), і чытаючы ў мінскім Інстытуце імя Гётэ ўласныя пераклады Сары Кірш і Эльке Эрб. Нязменна і непахісна вядзецца яму пра вольнае слова, пра тое, каб даць гэтаму слову магчымасць развіцца і раскрыцца. Прэзідэнта Лукашэнку – "шмат полымя, мала святла" – ён папракае апроч іншага тым, што той сістэматычна ўціскае беларускую мову і культуру. Па словах Алеся Разанава, людзі баяцца размаўляць па-беларуску, хоць 80% апытаных называюць беларускую мову роднай. Але што ж, як не мова, падкрэслівае Разанаў, вызначае культуру, дый нават ідэнтычнасць народа. Ён звяртае ўвагу на трагічную гісторыю сваёй краіны, што трапіла ў жорнавы паміж дзвюма вялікімі дзяржавамі – Польшчай ды Расіяй. Нягледзячы на тое, што самастойнае беларускае пісьменства бярэ свой пачатак яшчэ ў XV стагоддзі, зачаткі нацыянальнай літаратуры з'яўляюцца толькі ў XIX-м. "Беларусь адрадзілася праз слова". Алесь Разанаў бачыць сябе сярод тых, на каго ўскладзена місія адраджэння. Карані яго паэзіі ў народных паданнях і эпасах, яна імкнецца да прыроды і да простага, моцнага выразу. Ставячыся з недаверам да метафары, лірыка Разанава абірае формы наратыўных паэм, медытатыўных вершаваных цыклаў ("Гліна. Камень. Жалеза"), прытчавых празаічных мініяцюр, якія называюцца версэтамі, "квантэм", якія здабываюць з нетраў мовы іншыя зместы, а таксама падобных да хайку "пункціраў". І яшчэ адзін новы жанр стварыў Алесь Разанаў: яго "зномы" ахопліваюць развагі пра паэзію і жывапіс, пра аўгураў старажытнасці і пра прагрэс як "удасканаленне недасканаласці", пра няведанне і "параненую бязмоўнасць, якая нараджае мову". Пазнаёміцца з гэтымі мудрагеліста-простымі назіраннямі можна ў зборніку "Знакі вертыкальнага часу" (выдавецтва "Агора" Берлін, 1995 г.). Наконт назвы Алесь Разанаў тлумачыць, што вертыкаль, судакранаючыся з гарызанталлю, утварае суадносіну ў дзевяноста градусаў, і калі гэта пазіцыя, то самая прынцыповая.

Супраціў, маўляў, ніколі не азначае супрацьлегласць, то бок не сто восемдзесят градусаў, а згін у дзевяноста градусаў, "іншы вектар". Тлумачачы, ён пазірае яснымі вачыма, нібы птах, пасля ненадоўга занураецца ў маўчанне, маўчанне, што не даступна для пярэчання.

Хто ён: мудрэц, прыродны містык, моўны маг? Разанаў лічыць, што ў паэтычным слове заўжды ёсць нешта ад заклінання, а творца не мае біяграфіі. "Біяграфіі бываюць у аўтараў". Ён рашуча адмаўляе яканне, як і розныя стылістычныя маньерызмы. Паэтычная праца – калі цябе закранае нейкі матэрыял, нейкая рэч і ты рэхам адгукаешся ў адказ. Або яшчэ парадаксальнае спалучэнне "надзвычайнай выпадковасці і надзвычайнай заканамернасці".

У "Гановерскіх пункцірах" (выдавецтва "Рэвонах", Гановер, 2002 г.), якія надоечы пабачылі свет, вядзецца пра штодзённыя назіранні, лапідарнасць якіх парушаецца мінімальным разваротам. "Die Gemüsegärten werden / umgegraben: / Unkraut, lerne / umgekehrt zu wachsen." *(Перакопваюцца агароды./Вучыся, зелле,/расці наадварот.)* І: "Habt ihr euch sattgesehen an uns, / alte Plakate? / Nun werdet ihr / von der Litfasssäule geschält." *(Нагледзеліся на людзей?!. /Са слупа/здзіраюцца здаўненыя афішы.)* Або: "Glatt ist's. / Ich greife nach / Luft!" *(Слізка./Хапаюся за/паветра!)*

Разанаў тлумачыць, што творыць у гэтым жанры з часоў свайго першага зборніка, які выйшаў у 1970 годзе, але заўважае, што з часам "хайкуізаваў" "пункціры", то бок зрабіў менш асабовымі і драматычнымі. Адсюль і іх грацыёзнасць: адсутнасць "я", "пажады", "сэнсу" робяць магчымай грацыёзную прысутнасць рэчаў, якія набываюць уласную вагу і ўласную мову.

Невыпадкова Разанаў любіць слова “дыханне”: у творчым працэсе важна даць рэчам магчымасць дыхаць, а не стрымліваць іх, як і сам паэт праз дыханне звязаны з космасам. Такое пачцівае стаўленне – добрая замова ад саманадзейнасці і прагі да арыгінальнасці, за ім адчуваецца рэлігійны светапогляд. Да царкоўнай рэлігійнасці ён мае мала дачынення: Разанаў і тут абараняе сваю самастойнасць, цікавіцца індыйскай філасофіяй і акультнымі вучэннямі, аскезай і вегетарыянствам, не ўпадаючы ў дагматызм.

Ён добра ведае Біблію, Геракліта і “Супрэматызм” Казіміра Малевіча, яму блізкія эпічныя паэмы Гамера і беларуская народная творчасць. Гучыць як праграма адмаўлення мітуслівай эпохі – так яно і ёсць. Не зважаючы на моды і трэнды, Разанаў ідзе сваім шляхам, які – абмінаючы любую злабадзённасць – вядзе яго да архаікі фундаментальных чалавечых сітуацыі і вялікага спакою прыроды. Пытальнай, нярэдка прытчавай інтанацыяй ён апісвае сваё даследаванне, не хаваючы і небяспек (у тым ліку і для сябе), напрыклад, у нядаўнім зборніку вершаў пад назвай “Танец са змеямі” (выдавецтва “Агора”, Берлін, 2002 г.), дзе ён расказвае пра “цуд” і пра “маланку”, пра “ідала” і пра “чачэнскую кулю”.

У лаканічных разанаўскіх тэкстах ёсць яснасць, якой не патрэбныя ніякія тлумачэнні. Без усякіх прыкрас слова падыходзіць да справы, думка да вобраза, а з рэпертуару архетыпаў насустрач нам выходзіць уласны страх (або надзея), у чыстым выглядзе. Не, фармальныя прыёмы яго не цікавяць, прызнаецца Разанаў, не хаваючы скептычнага стаўлення да занадта выражанага рамесніцкага ўмельства. Ён аддае перавагу вольнаму, нерыфмаванаму вершу, які ў кароткіх “пункцірах” завастраецца да афарызма, а ў паэмах, наадварот, праз размашысты рытм набывае пафас касмалагічнай замовы. Тут (час ад часу гульнёвы) зварот да дэталяў, там – эпічнае развіццё першасных сюжэтаў, а “версэты” па літары цярэбяць свой шлях праз прыроду, гісторыю і свет фантазіі. Разанаў з усмешкай прызнаецца, што не праводзіць выразных межаў паміж бачным і нябачным светам. “Усё злучана з усім”. Адсюль і значэнне дыялогу, звароту ў яго вершах. Суб’ект і аб’ект, мінуўшчына, сучаснасць і прышласць утвараюць пераменлівую цэласнасць, якая не падпарадкоўваецца ніякай тэлеалогіі. Ці магчыма спалучаць такі светапогляд з актыўнай палітычнай пазіцыяй? Зноў францысканская ўсмешка, пасля поўны ўпэўненасці адказ: паэту невядомы рэгламентаваны пошук, невядомая мэтаскіраваная заангажаванасць. Застаецца адчуванне, што яснасць і таямніца ўтвараюць у Алеся Разанава рэдкаснае спалучэнне. Яно завецца моцай.

### Паэтычны цуд з Беларусі. Алесь Разанаў: “Знакі вертыкальнага часу”

*(Neue Zürcher Zeitung, 12/13 красавік 1997, стар. 70)*

Кніга, якую не хочацца выпускаць з рук. Яе аўтар – на вокладцы здымак, дзе ён, нібы святы Францыск, вядзе размову з птушкай, – завецца Алесем Разанавым, ён нарадзіўся ў 1947 годзе ў Беларусі і пачынаючы з 1970 года выдаў цэлы шэраг паэтычных зборнікаў. Зборнік “Знакі вертыкальнага часу”, які цудоўна ўклала і пераклала на нямецкую мову Эльке Эрб, уключае ў сябе паэмы, версэты, пункціры і назіранні, то бок увесь спектр разанаўскай паэтычнай і афарыстычнай творчасці. Здзіўленне, якое ахоплівае чытача, выклікаецца дзвюма рэчамі: з аднаго боку, першаснай сілай гэтых тэкстаў, з іншага, пытаннем, як гэтыя, напісаныя збольшага ў савецкія часы, вершы прайшлі бар’еры цэнзуры. Бо ў разанаўскім прыродным містыцызме – у паэмах “пра студню”, “пра сланечнік”, “пра рыбу” або “пра рэха” – настолькі ж мала практычнай наіўнасці, як і павучальнасці ў яго развагах. Паэт па той бок ідэалогіі, які давярае сваім пачуццям і мове, які ў пошуках сутнасці быцця абапіраецца на Біблію, Геракліта і “Чорны квадрат” Малевіча.

Разанаўская радыкальнасць на першы погляд выглядае простасцю, маньерызмы і эксперыменты ёй не ўласцівыя. Рэдукцыя – вось ключавое слова даследавання, якое нязмушана закранае і метафізіку, і містыку. Гэта праяўляецца ў падобных да хайку радках кшталту гэтых: “Ein Bogen Papier –/ein Bogen Leben:/die Zeit nimmt ab,/nehmen die Zeichen zu.” *(Аркуш паперы –/аркуш жыцця:/забіраецца час,/збіраюцца знакі.)*

Гэта набывае форму паэтычных “пункціраў”: “Ich komme an Orte,/wo ich schon einmal war,/und ich weiss nicht,/ wie erkläre ich/den Bäumen, den Leuten, mir selbst,/dass es mich nunmehr zweimal gibt,/und ich weiss nicht,/ womit fülle ich aus die Lücke/zwischen diesem und jenem.” *(Наведваюся ў мясціны,/дзе ўжо некалі быў,/ і не ведаю, як растлумачыць/дрэвам, людзям, сабе самому,/што ўжо мяне двое,/і не ведаю, чым запоўніць/прагал паміж мною гэтым і тым.)*

Разанаў заўжды імкнецца давесці назіранні, вобразы да той кропкі, дзе яны зробяцца празрыстымі. Бо: “У мастацтве асноўнае не сам вобраз, а яго здольнасць быць празрыстым, прапускаць праз сябе тое, чым ён сам не з’яўляецца, быць “праз-вобразам”.

Падобная па-этыка, спрадвечная, якая ніколі не зробіцца анахранізмам, надае разанаўскім вершам дыханне і лапідарную прыгажосць. На яе шляху не стаяць ні прэтэнцыёзнасць, ні прага да арыгінальнасці. Там, дзе асоба замаўкае і адчувае сваю паразу, нараджаецца паэт.

Тым выразней пачынаюць прамаўляць рэчы, вёскі і рэкі, пагоркі і платы, гліна, неба, слімак. Тым святлей ззяюць парадоксы, уяўныя таўталогіі. “Die Vergangenheit, die war Jetzt.” *(Побач з мінулым,/якое было/ц я п е р.)* “Nicht schwerer ist Schale als Schale.” *(Не пераважвае шаля/Шалі.)*

У сваіх доўгіх паэмах Разанаў апрабуе эпічныя і казачныя інтанацыі, робіць стаўку на зварот і дыялог; у цыкле вершаў “Гліна”, які складаецца з 58 частак, ён з медытатыўнай цярплівасцю разгортвае ўсе грані гэтага першаснага матэрыялу,ператварае яго ў метафару, у палімпсест. “Die Möglichkeit sucht sich. So gibt sie/Ihren Namen/Dem Lehm.” *(Магчымасць шукае сябе,/Даючы/Гліне/Свае найменні.)*

У гэтым сказе можна ўбачыць і паэталагічнае крэда: патэнцыйнасць і творчасць – саюзнікі, не іначай як і выпадак з воляй. У сваіх “філасафемах”, якія з’явіліся ў 1994/95 гг. і называюцца зномамі, Разанаў, абагульняючы, дапускае: “Жыццё – у магчымасці жыцця, чалавек – у магчымасці чалавека: ён ёсць настолькі, наколькі становіцца тым, кім можа стаць.”

Сёе-тое ў разанаўскіх разважаннях пра мастацтва і ісціну, пра сэнс і маўчанне, пра час і смерць, пра Бога і чалавека на першы позірк падаецца нібы знаёмым, але пры паўторным прачытанні аказваецца і глыбока прачутым, і самабытным. Напрыклад: “Смерць – нонсэнс, але жыццё раіцца з ёю.”

Або: “Прастата, якая не прайшла стадыі складанасці, – прымітыў.”

Асабліва шматлікія і ўрадлівыя думкі пра паэзію – экзерцыцыі ў пытаннях да самога сябе, у якіх нідзе не праслізгвае пыха: “Верш – уводзіны ў будучыню: гэтым ён вартасны, гэтым ён якасны, гэтым сэнсоўны. У адваротным выпадку, калі ён толькі в ы я ў л я е, верш становіцца колькасцю, і, каб уцалець, яму неабходна бесперастанна множыцца, тыражыравацца, дубліравацца, рэпрадуцыравацца, аб’яўляць пра тое, што ён існуе.”

Паэзія Алеся Разанава не збіраецца ні пра што паведамляць, не збіраецца перадаваць пасланні, акурат таму яна “падаецца шчаснай у самой сабе” (Мёрыке). Не адварочваючыся ад часу, падняўшыся над ім, у сугучнасці з беларускай інтанацыяй, нібыта гэта ўсямова.

Яшчэ некалькі слоў пра геаграфію і біяграфію: Разанаў вырас у вёсцы Сялец, у ста кіламетрах ад Брэста. Маці, якую ледзь не расстралялі немцы, працавала фельчаркай, бацька, прайшоўшы ў час вайны некалькі нямецкіх канцлагераў,

"марыў, піў, старызнікам ездзіў па вёсках" (Эльке Эрб). А непісьменная цётка настолькі натуральна прысутнічала побач, нібыта была прыроднай з'явай... Разанаў вучыўся на філалагічным факультэце, спярша ў Мінску, потым у Брэсце, а ў 1961 годзе дэбютаваў з першымі вершамі. Ідэалагічныя дыктаты не прымусілі яго збочыць з дарогі. Ён стварыў адметны паэтычны космас, які ў лакальным намацвае цэлы свет і абсалютна натуральна спалучае фантазію і вучонасць, простасць і складанасць. Сёння і крытыканы пасціхалі. Бо голас Разанава гучыць, гучыць далёка за межамі Беларусі.

## Глыбокая лаканічнасць. Беларус Алесь Разанаў піша вершы па-немецку

*(Neue Zürcher Zeitung, 2 лютага 2017 г., стар. 38)*

Хто ведае Алеся Разанава? Самы значны беларускамоўны паэт сучаснасці жыве ў Мінску і рэдка з'яўляецца на публіцы, не любіць шуму вакол сваёй асобы, але ўпарта працягвае працаваць над даробкам свайго жыцця, які на сёння налічвае калі двух тузінаў зборнікаў. Яго найноўшая паэтычная праца ўяўляе сабой дыялог з тэкстамі друкара Францыска Скарыны, які пяцьсот гадоў таму пераклаў на старабеларускую мову "Псалтыр".

Нарадзіўшыся ў 1947 годзе непадалёк ад Брэста, Алесь Разанаў рос у атачэнні вясковай беларускай мовы, якая стала вызначальнай ужо на этапе яго першых крокаў у літаратуры. Навучаючыся на філалагічным факультэце, ён пасля ўводу войскаў Варшаўскага пакту ў Прагу выступіў супраць афіцыйнай палітыкі русіфікацыі і быў адлічаны з універсітэта ў Мінску. Пэўны час працаваў вясковым настаўнікам, пасля рэдактарам у перыядычных выданнях і перакладчыкам, але асноўным яго заняткам заставалася паэзія: паэмы, прытчавыя празаічныя мініяцюры, афарыстычныя развагі і падобныя да хайку кароткія вершы.

Хоць ён і не закранаў палітычных тэм, пасля прыходу Лукашэнкі да ўлады ў 1994 годзе яго творчасць сваім складам і ладам пачала не ўпісвацца ў фарматы новай палітычнай сістэмы.

З 1999 годзе Алеся Разанава часта запрашалі на побыт у Германію, Аўстрыю і Швейцарыю, дзе некаторыя з яго кніг з'явіліся ў перакладзе на нямецкую мову і дзе ён паспрабаваў пісаць невялікія вершы па-нямецку. "Wortdichte" (вершасловамі) называе ён гэтыя мініяцюры, якія цяпер, папоўніўшыся новымі знаходкамі, пад назвай "Von nah und fern" (Зблізку і здалёк) выйшлі асобным томам і ў Мінску. Разанаў так упэўнена гуляе з рознымі рэгістрамі нямецкай мовы, што цяжка паверыць, што нямецкая яму не родная. Але самае важнае, што і ў чужой мове ён захоўвае вернасць сабе.

Яго асаблівы талент фіксаваць у трох-пяці радках назіранні за прыродай, выпадковыя здарэнні і дробных падзеі выразна праяўляецца і ў нямецкай мове. Лаканічнасць у спалучэнні з глыбінёй і гумарам – фірменны знак Алеся Разанава. Нельга пакінуць па-за ўвагай, з якой ахвотай ён займаецца гукавым бокам мовы. Ён гуляе з асанансамі і каранямі слоў, з рыфмамі і алюзіямі, але не дзеля самой гульні, а каб "аблушчыць" прадмет, які яго цікавіць, выцягнуць на святло яго сутнасць.

Ён ушчыльняе моўленае дзеля таго, каб дапамагчы сутнаснаму праявіцца, замест таго каб тыцкаць чытача носам. Пільна ўглядаючыся і прыслухоўваючыся, Разанаў спрабуе намацаць агульнае ў канкрэтным, заканамернае – у выпадковым, нават калі для гэтага даводзіцца скарыстацца парадаксальным выразам ці моўным кульбітам, які перакуліць значэнне.

Напрыклад, вось так:

Der Raum ist krumm:
Der Regen
kümmert sich nicht darum. *(Прастора крывая: / Дождж / не дбае пра гэта.)*

Або:

Der Sturm –
abgeflaut:
Die Stille wird laut. *(Шторм – / сціх: / Ціша гучнее.)*

Ці праз метанімію:

Ich warte auf den Bus:
Minuten
treten von einem
auf den anderen Fuss.
*(Чакаю аўтобуса: / хвіліны / пераступаюць з адной / нагі на другую.)*

Сярод асабліва запамінальных:

Der Reiher erstarrt im Weiher:
Welche
Lichtbrechung wird Fisch?
*(Чапля нерухомее ў сажалцы: / які / злом святла акажацца рыбінай?)*

Разанаў даволі шмат займаўся паэзіяй Далёкага Усходу, таму ведае, што вялікае хаваецца ў малым, а тое, што падаецца простым, можа быць глыбокім. Без прэтэнцыёзнасці ён звяртае сваю ўвагу на штодзённае:

Vom Kulm bis zur Kuhle:
Den Abstand
misst der Stein
kullernd. *(З вяршыні да ўпадзіны: / адлегласць / камень вымярае / коцячыся.)*

Або:

Ein bisschen im See,
ein bisschen am Ufer –
die Binse besinnt sich:
«Ich bin...» *(Троху ў возеры, / троху на беразе – / чарот разважае: / “Я ёсць...”)*

І:

Spriesst aus dem Innern?
Das Gras
spricht mit den Ruinen. *(Узыходзіць знутры? / Рунь / размаўляе з руінамі.)*

У 2007 годзе ў выдавецтве Урса Энгелера Разанаў апублікаваў свае ў асноўным напісаныя ў Цугу пункціры “Трэцяе вока”, па-беларуску і ў нямецкім перакладзе Эльке Эрб. Не выходзіць з памяці верш:

Regen:
Der See
unter Akupunktur. *(Дождж: / возера / ў акупунктуры.)*

Але і напісаныя ў арыгінале па-нямецку мініяцюры бадай не саступаюць беларускім. Разанаў – паэт, які далікатна даследаваў магчымасці іншай мовы і пры гэтым застаўся самім сабой, цалкам і поўнасцю.



# Са слязьмі на вачах і болем у сэрцы

*Згадваючы Пятра Васючэнку*

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

### Канец лета, пачатак вечнага жыцця…

Калі асоба сыходзіць так трагічна-раптоўна, як гэта здарылася вечарам позняга лета 2019 года з дарагім Пятром Васючэнкам, пачынаеш ліхаманкава перабіраць у памяці, што́ ж самае каштоўнае ты ні пры якіх акалічнасцях не маеш права забыць пра яго, чым ты можаш яшчэ падзяліцца з іншымі. І гэта аказваецца справай няпростай, бо раней жа ты ніколі не думаў, што гэта ты будзеш пісаць пра яго, а не ён пра цябе. Нарадзіўся ж ён, хоць і менш як праз год, але ўсё-такі пазней...

Чалавечая памяць наогул рэч спецыфічная, і нагадвае нейкую сцяжыну, якая робіць неверагодныя петлі-выкрунтасы, раз-пораз зусім губляецца ў высокай траве, а недзе – і часцяком у зусім нечаканых месцах – раптам робіцца шырокім гасцінцам. Пра гэта мне падумалася, калі днямі, збіраючыся перачытаць адзін з самых яскравых шэдэўраў Пятра Васючэнкі “Крыўскі слоўнік Яна Баршчэўскага”, я разгарнуў дваццацігадовае даўніны выпуск 54 легендарнай някляеўска-разанаўскай “Крыніцы” і раптам убачыў зроблены простым алоўкам надпіс на тытульнай старонцы часопіса. Свой уласны почырк пазнаць мне было няцяжка, а тэкст я прачытаў такі: “Пятро! Можаш браць назусім, я гэта купіў у кіёску. Лявон”. У галаве прамільгнула думка: чаму я гэта напісаў, чаму Пятру мог спатрэбіцца гэты, куплены ў кіёску, нумар, калі ён, ведаю, “Крыніцу” рэгулярна выпісваў? У 1999 годзе, калі пры канцы лета гэты нумар выйшаў, мы з Пятром, здаецца, часта бачыцца не маглі: ён ужо не выкладаў у Беларускім гуманітарным ліцэі, а надпіс алоўкам сведчыць, што яму ўсё-такі быў патрэбны яшчэ адзін асобнік часопіса з “Крыўскім слоўнікам”. І чаму гэты асобнік часопіса

цяпер знаходзіцца ў маёй хатняй бібліятэцы (сваю падпіску я аддаў у ліцэйскую бібліятэку) – ці ён яго ў мяне наогул з нейкай прычыны так і не ўзяў, ці ўсё-такі браў, а потым, зноў-такі невядома чаму, аддаў мне яго? Адказаць на гэтыя пытанні цяпер я, бадай што, не здолею, але затое памяць вяртае з забыцця гісторыю, якая і натхніла Пятра Васючэнку напісаць гэты самы “Крыўскі слоўнік”.



*Пятро ВАСЮЧЭНКА.*

...Стаялі цёплыя дні канца лета 1994 года. Рупнасцю Навума Гальпяровіча, які тады ўжо досыць працяглы час прапрацаваў на пасадзе ўласнага карэспандэнта Белдзяржтэлерадыё ў полацкім рэгіёне і меў арганізацыйныя магчымасці, якіх не хапала іншым, была зладжана супольная аўтобусная вандроўка групы актыўных тады маладзейшых літаратараў і журналістаў, што паходзілі з Полаччыны. Гэта пазней нашы творчыя шляхі з Навумам Гальпяровічам пэўным чынам разыдуцца: ён, каб захаваць працоўнае месца (пры новым рэжыме і ў Мінску), пяройдзе ў паралельны саюз пісьменьнікаў і перастане называць маё прозвішча ў сваіх публікацыях і нават ва ўспамінах. Гэта пазней прыгожая паляшучка, якую лёс закінуў у Полацк (на працу ў рэдакцыі мясцовай газеты “Полацкі веснік”), Ірына Дарафейчук, адседзеўшы падчас пратэстаў 2006 года ганебна прызначаныя ёй суткі ў каталажцы на мінскай вуліцы Акрэсціна, будзе вымушана з’ехаць у эміграцыю, каб там завяршыць сваю дысертацыю, якая ўжо была фактычна падрыхтавана да абароны ў Мінску...

Тады ж мы былі як адна сям’я. Можна сказаць пра гэта і ў наўпроставым сэнсе: Пятро Васючэнка вырушыў у нашу вандроўку са сваёй жонкай Нінай. Гэта, дарэчы, дадало нашай паездцы цікавасці, бо Ніна, археолаг паводле асноўнай адукацыі, колькі разоў прасіла кіроўцу зрабіць прыпынак каля чарговага гістарычнага кургана, і мы ўсе выходзілі й слухалі яе надзвычай інфарматыўныя расповеды пра ўнікальныя беларускія старажытнасці. Мэтай жа нашай супольнай вандроўкі былі выбраны родныя мясціны Яна Баршчэўскага – Расоншчына, возера Нешчарда і яго ваколіцы. Гэта было невыпадкова: цікавасць да творчасці паўлегендарнага земляка тады была на самым узлёце. Рэч у тым, што і ў царскай, і ў савецкай імперыі яго імя і творчасць рознага кшталту прыдворныя спецыялісты ўсяляк імкнуліся маргіналізаваць, а то і збэсціць (спробы з гэтым змагацца з боку Уладзіміра Караткевіча не мелі вялікага розгаласу), а цяпер, у Беларусі, якая стала незалежнай, хоць яго “Шляхціц Завальня” быў спехам уключаны ў школьную праграму, нават настаўнікі беларускай літаратуры – дый пісьменнікі таксама! – вельмі слаба ўсведамлялі маштаб той місіі, якую ва ўмовах страшэннай царскай цэнзуры Ян Баршчэўскі выканаў дзеля таго, каб новая беларуская літаратура ўзнікла з небыцця. Але “Шляхціца Завальню” ў незадоўга перад тым выдадзеным перакладзе Міколы Хаўстовіча чыталі ўжо, бадай, усе пасажыры таго аўтобуса.

Не скарыстацца з летняй цеплыні, вядома, было б недаравальна. Купанне ў ладна зарослым Нешчардзе было справай досыць экстрэмальнай, і мы наважыліся зайсці ў яго толькі позна ўвечары, калі (не буду хаваць, спажыўшы па колькі кропляў алкаголю) рыхтаваліся да сну ў расстаўленых тут жа на беразе намётах, прадбачліва прывезеных з Полацка. Затое назаўтра кіроўца падвозіў

нас да некалькіх суседніх азёр (не забывайма, што на Расоншчыне іх нямала), першаю забягала ў ваду Іра Дарафейчук, якая ўмела нырцаваць і плаваць, як дэльфін, за ёй ляцела яе сяброўка з рэдакцыі полацкай газеты (на жаль, імя ўжо і не прыпомню), а нам, больш сталым людзям, рабілася нясцерпна сорамна, і мы спрабавалі не адставаць, хоць гэта і было амаль немажліва... Свежыя, шчаслівыя, мы ехалі далей, кідаліся ў чарговае возера, выходзілі сушыцца ў прыбярэжныя хмызнякі. Ідылія крыху разбурылася, калі мы, заехаўшы ў адну з прыазёрных вёсак, – відаць, каб узяць з калодзежа пітной вады – раптам пачулі адборныя мацюкі, выкрыкнутыя з ідэальным рускім вымаўленнем. Потым даведаліся ў мясцовых жыхароў, што, аказваецца, шмат якія апусцелыя хаты ў прыазёрных вёсках выкуплены (за абсалютна смешныя грошы) прыезджымі людзьмі з Расіі, з самога Пецярбурга і наваколля. Вось жа, гэтыя людзі прыязджаюць на ўвесь цёплы сезон туды, і некаторыя – скажам так, не рафінаваныя інтэлігенты – пачынаюць пачувацца там гаспадарамі, раз-пораз паглядаючы на мясцовых людзей як на халопаў, сяды-тады й абражаючы іх. Пры гэтым часам адбываюцца вельмі непрыгожыя рэчы: прыезджыя нешта крадуць, займаюцца браканьерствам ну й, натуральна, паказваюць сваё "красамоўства"... Вось тут ад адной старой жанчыны з вёскі Пятро і пачуў вобразнае параўнанне: "як тыя асташы". Паступова ў размовах высветлілася этымалогія гэтага слова: яшчэ ў часы дзяцінства і юнацтва Яна Баршчэўскага такую мянушку атрымалі прыезджыя рыбакі з расійскага горада Асташкава, якія паводзілі сябе падобна да цяперашніх пецярбургскіх "дачнікаў".

Па дарозе назад у Полацк, як мне помніцца, Пятро Васючэнка занатаваў сабе сюжэт пра "асташоў" і, у перапынках паміж агульнааўтобуснымі спевамі, пачаў уголас разважаць пра свет і светапогляд Яна Баршчэўскага. Гэтыя развагі, якія мы тады пачулі з яго вуснаў, пазней ператварыліся ў тэксты, і так паўстаў той знакаміты "Крыўскі слоўнік", які акурат і пачынаецца з артыкула "Асташы". Ну, а ў артыкуле "Нешчарда" мне і іншым удзельнікам той вандроўкі канца лета 1994 года нескладана пазнаць, што называецца, жывыя згадкі пра яе: "*НЕШЧАРДА – адно з самых вялікіх азёраў у Беларусі, дзесьці як Нарач, Дрысвяты, Асвея, Снуды. І адно з самых халодных, нявеблых, адкуль мо й пахаджанне назвы – ад "няшчодра". Калі ў непагадзь яно пахмурнее, збіраецца ў маршчакі, дык выглядае рыхтык мора. Але яно спагадлівае і пяшчотнае да шчырых і чыстых людзей, такіх, як шляхціц Завальня – па сутнасці, гаспадар возера. Мне давялося некалькі разоў быць на яго берагах, бачыць апісаныя Баршчэўскім прыбярэжныя пясчаныя горы, лазняк, паплавы, белых крачак пад хвалямі. У рачулцы, што выцякае з Нешчарды, я ўлавіў двух печкуроў. Але не паказаліся мне цмокі, апісаныя Баршчэўскім, не выставіў над вадой свае рогі шатан. Але я памятаю і іншую Нешчарду – у раз'ятраны, гарачы жнівень 1994 года, калі возера нагрэлася, як саган з юшкай, і праз усю рабінавую ноч у ім нешта булькацела, плёскалася, уздыхала ды цмокала. А ўранні на хвалях пакалыхвалася пустая змяіная скура – ці то рэшткі ад здохлага цмока, ці то скінутая вопратка маладой вужачкі...*"



*Рэдакцыйная рада кніжнай серыі «Мая беларуская кніга»: Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, А. Злотнік, У. Арлоў, У. Сіўчыкаў.*

Пятро Васючэнка ўбачыў свет у той самай полацкай радзільні, каля Верхняга замку, што і я. Дзецьмі і падлеткамі мы хадзілі вуліцамі аднаго горада, і я не маю сумневу, што недзе не раз перасякаліся, бо тагачасны Полацк быў невялікі, а цэнтральных вуліц было ўсяго некалькі. Сёння я ўпэўнены, што не раз мы недзе блукалі побач адзін з адным паміж не надта тады багатых паліц галоўнай полацкай кнігарні, якая і сёння носіць назву “Светач”, і ў дзіцячай бібліятэцы ў гістарычным будынку на колішняй Ленінскай вуліцы, і пазней – у “дарослай” гарадской бібліятэцы на вуліцы, што вяла наўпрост да чыгуначнага вакзала. Чаму я ў гэтым упэўнены? Ды таму, што абодва мы былі “кніжнікамі”, абодвух нас да нясцерпу вабіла таямніца друкаванага слова, запакаванага ў грунтоўны ледэрынавы, просты кардонны або яшчэ прасцейшы папяровы пераплёт. Здавалася, што ў горадзе, адкуль пайшлі ў свет Прадслава-Ефрасіння Полацкая ды Францішак Скарына, іначай быць і не магло. Савецкія ідэолагі часу нашага з Пятром сталення, вядома, прапаноўвалі шанаваць найперш зусім іншых асоб, але, відавочна, нешта пра Ефрасінню, Скарыну, а таксама Сімяона Полацкага мы тады ведалі, бо для каго ж яшчэ з зямлякоў кніга магла быць нават большым, чым яна была для нас з Пятром!



*Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, У. Сіўчыкаў, М. Тычына. Полацк, красавік 2007.*

Усё гэта, аднак, не зрабілася нашым агульным успамінам, і ўжо, на жаль, не зробіцца. Рэч у тым, што ў Полацку той пары, нашага школьнага дзяцінства і юнацтва (а вучыліся мы з ім у розных школах) – мы так і не пазнаёміліся. Не пазнаёміліся мы, напрыклад, хоць бы праз выпадак у “знакамітым” цягніку, які ў часы нашай студэнцкай маладосці ажно дзевяць гадзін – вечар і вялікую частку начы – спыняючыся ледзьве не каля кожнага слупа, цягнуўся з Мінска ў Полацк. Гэтым цягніком мы, безумоўна, не раз дабіраліся ў свой родны Полацк да і пасля студэнцкіх вакацый або на нейкія даўжэйшыя выхадныя, і проста не можа быць, каб мы дзесьці не перастрэліся ў тамбуры або ў праходзе каторага з вагонаў....

І тым не менш, мы з Пятром Васючэнкам столькі разоў у апошнія гады, здавалася, абмяркоўвалі (звычайна ў тэлефонных размовах), што трэба ўрэшце неяк сабрацца, падзяліцца сваімі згадкамі пра Полацк ужо не такіх блізкіх ад нас шасцідзясятых і першай паловы сямідзясятых гадоў, а потым, мажліва, пра гэта і напісаць, і недзе нешта надрукаваць, але... Мой – а калісь і ягоны таксама – ліцэй, кафедра ў ягоным – а калісь і ў маім таксама – універсітэце пазбаўлялі нас таго часу, які быў абсалютна неабходны, каб сустрэцца і пагаварыць пра наш Полацк, а таксама і пра літаратуру воддаль ад мінскай мітусні, выкінуўшы хоць на пару дзён з галавы думкі пра чарговыя абавязкі, якія конча трэба выканаць, пра іншых людзей, з якімі абавязкова трэба паразмаўляць – і не некалі там пазней, а сёння або заўтра... Адна справа, аднак, здавалася, нас дысцыплінавала абсалютна. Рэч у тым, што ў 2018 годзе выдавец і наш з Пятром даўні агульны знаёмы й сябар Зміцер Колас падахвоціўся выдаваць новую беларускую кніжную серыю “Драматургі свету”, і мы адразу ж запрасілі ў рэдкалегію гэтай серыі Пятра, бо хто ж сярод сучасных беларусаў так знаўся на гісторыі і здабытках нацыянальнай і сусветнай драматургіі, як

не ён?! Планавалася, што ўся рэдкалегія серыі будзе збірацца рэгулярна, не радзей як раз на месяц. Але так не сталася. У рэдкалегію ўвайшлі, акрамя нас чатырох (трэба палічыць і Марыю Пушкіну), Валер Мазынскі і Вячаслаў Ракіцкі, а яны таксама людзі занятыя і надзвычай мабільныя – вось жа і выйшла, што сабраліся мы тры або чатыры разы, і кожнага разу няпоўным складам. Пра такую сустрэчу мы дамаўляліся і на пачатку лета, якое для Пятра так і не закончылася: два-тры разы нават папярэдне вызначалі канкрэтную дату, але, але...

Што ж тады нас, якія так і не пазнаёміліся ў родным горадзе дзецьмі або юнакамі, усё-такі звяло разам? Адказ ляжыць на паверхні: мы былі маладыя і поўныя сіл, калі пачалося новае беларускае Адраджэнне, звязанае гэтым разам з гарбачоўскай палітыкай перабудовы ў савецкай камуністычнай імперыі. Тут, што праўда, таксама не было ўсё так проста. Пятро Васючэнка, закончыўшы журфак Белдзяржуніверсітэта, адразу быў залічаны ў аспірантуру акадэмічнага інстытута літаратуры і застаўся жыць у Мінску, а я вярнуўся на малую радзіму, дзе пачаў працаваць настаўнікам у роднай полацкай дзясятай школе, а потым і выкладчыкам у Наваполацкім політэхнічным інстытуце (які пазней, у дзевяностыя, набыў статус універсітэта). Праз некалькі гадоў і я быў накіраваны сваім інстытутам у мэтавую аспірантуру ў Мінск, а Пятро неўзабаве ўжо стаў і кандыдатам навук. Тады ён ніяк не быў звязаны з мінскім “ін’язам”, а я з Акадэміяй навук, таму не дзіва, што тады ў Мінску мы таксама так і не пазнаёміліся. Пасля аспірантуры я зноў вярнуўся на Полаччыну, атрымаў часовае жытло ў Наваполацку, але, рыхтуючыся да абароны сваёй дысертацыі, раз-пораз наведваўся ў сталіцу. Узнікла першая ў паваенным часе ў Беларусі нефармальная літаратурная суполка з назвай “Тутэйшыя” (з Алесем Бяляцкім, Алесем Жлуткам і некаторымі іншымі іх калегамі мы абмяркоўвалі гэтую ідэю ў інтэрнаце на Акадэмічнай яшчэ тады, калі я сам дзяліў аспіранцкі пакой у інтэрнаце на тагачаснай вуліцы Варвашэні). Памятаю, што аднаго разу падчас кароткага побыту ў Мінску я наведаўся на адно з пасяджэнняў “Тутэйшых” ужо ў Доме літаратара, і не памылюся, што тады першы раз я ўбачыў Пятра Васючэнку ўжывую, але рэальна пазнаёміцца з ім так тады й не паспеў.

Такое знаёмства адбылося яшчэ праз гады два. Быў утвораны ліцэй пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры (БГАКЦ), які атрымаў легальны статус у структуры тагачаснага міністэрства адукацыі. Афіцыйны загад аб стварэнні стацыянарнага ліцэя міністэрства выдала толькі пасля фактычнага развалу Савецкага Саюза, 23 верасня 1991 года, калі ў нашых школах ужо ва ўсю ішлі заняткі. Мы свае заняткі павінны былі пачаць ужо з 1 кастрычніка, і трэба было тэрмінова набіраць вучняў, праводзіць уступнае сумоўе. Якраз тады ў камісію па правядзенні гэтага сумоўя Вінцук Вячорка прапанаваў уключыць Пятра Васючэнку, які перад тым ужо чытаў лекцыі ў нядзельным ліцэі для дарослых слухачоў. Вось жа, праводзячы ўступнае сумоўе ў ліцэй (дзе я працаваў ужо намеснікам дырэктара), мы з Пятром, урэшце, пазнаёміліся асабіста і абмяняліся першымі нашымі “полацкімі” ўспамінамі. Адразу ж абмеркавалі, якой павінна быць літаратурная адукацыя ў наваствораным ліцэі, і высветлілася, што мы шмат у чым аднадумцы. Акрамя беларускай літаратуры (за якую тады адказваў светлай памяці Алег Дышлевіч), было вырашана выкладаць не рускую літаратуру, як гэта мае месца ў школах Беларусі й па сёння, а замест яе – “літаратуру народаў свету”. Пятро горача падтрымаў прапанаваную мной назву дысцыпліны і адразу ж падахвоціўся весці заняткі па ёй на трэцім і чацвёртым курсах (10–11 класы), складаць адпаведную праграму, выкарыстоўваючы й пэўныя мае напрацоўкі. Свае погляды – на той час абсалютна наватарскія! – адносна асаблівасцяў падыходу да выкладання літаратуры ў посткамуністычнай школе ён выклаў у некалькіх публікацыях, у прыватнасці выступіўшы на навукова-практычнай канферэнцыі “Беларуская школа”, зладжанай з ініцыятывы БГАКЦ

у канцы сакавіка 1992 года. Пачаў ён гэты выступ з канцэптуальнага выказвання: “*Успрыманне рэалій сусветнага літаратурнага працэсу не можа адбывацца іначай, як праз прызму нацыянальнага светапогляду. Гэты дыктуецца не кан'юнктурнымі патрэбамі часу, але самім спосабам фармавання сусветнай літаратуры з сусветаў нацыянальных літаратур*”. Падрабязна і аргументавана вытлумачыўшы свае тэзы, ён зрабіў падагульненне, сутнасць якога і да гэтага часу ніяк не дойдзе да цяперашніх беларускіх адукацыйных чыноўнікаў (ці яны свядома яго ігнаруюць?): “...*Сусветная літаратура разглядаецца як кантэкст, у якім самавіта й нязмушана развіваецца і беларуская літаратура*”. Ідэі Пятра Васючэнкі, падхопленыя іншымі нашымі ўдумлівымі літаратуразнаўцамі й педагогамі, такімі, як Ева Лявонава, светлай памяці Галіна Адамовіч і Ірына Шаблоўская, у значнай ступені падтрыманыя і легендай беларускай педагагічнай навукі акадэмікам, нябожчыкам Міхасём Лазаруком, на жаль, з нядаўняга часу пачалі фактычна ігнаравацца цяперашнімі складальнікамі школьных праграм па беларускай літаратуры. І толькі ўласцівыя Пятру прыродная сціпласць і далікатнасць не дазволілі яму да канца адстойваць гэтыя ідэі, калі яго ў апошнія гады пачалі запрашаць як эксперта або рэцэнзента на абмеркаванне скалечаных і выхалашчаных версій апошніх пакаленняў гэтых праграм.

Мушу сказаць без ніякага перабольшвання: сусветная літаратура ў выкладанні Пятра Васючэнкі адразу зрабілася адной з самых улюбёных дысцыплін сярод ліцэістаў першага і пазнейшых набораў навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя. І хоць Пятро тады працаваў старшым навуковым супрацоўнікам акадэмічнага інстытута літаратуры, а праз кароткі час атрымаў і гадзіны на кафедры беларускай мовы й літаратуры лінгвістычнага ўніверсітэта, я меў трывалае ўражанне, што ён ставіўся менавіта да працы ў ліцэі як да сваёй галоўнай. Пра гэта сведчыла і тое, што ён наведваў усе ліцэйскія вечарыны – і не проста наведваў, а і весяліў выкладчыкаў і ліцэістаў, чытаючы раз-пораз са сцэны свае знакамітыя “страшкі”! Вельмі цікава было слухаць і яго па-сапраўднаму мудрыя разважанні пра жыццё і літаратуру, пра літаратуру ў жыцці беларуса.

У БГАКЦ была здзейснена прапанова Пятра Васючэнкі наконт заснавання спецыяльных (у матэрыяльным сэнсе збольшага сімвалічных) прэмій Цэнтра ў дзвюх намінацыях – па літаратуры і “За грамадскую чыннасць”. Гэта цяпер незалежныя беларускія літаратары могуць атрымаць салідныя прэміі імя Ежы Гедройца, імя Наталлі Арсенневай, імя Карласа Шэрмана, імя Цёткі, урэшце, прэмію “Дэбют” у розных намінацыях. У другой жа палове дзевяностых новыя ўлады перасталі прысуджаць дзяржаўныя прэміі па літаратуры (а прэмій за сумленнасць у грамадскім жыцці дзяржава і не прадугледжвала!), таму нашы творчыя і актыўныя ў грамадстве людзі заслугоўвалі асаблівай увагі. Вось жа, згаданыя прэміі БГАКЦ уручаліся нашым вельмі паважаным асобам (сярод якіх, між іншым, былі Валянцін Акудовіч і Алесь Разанаў) аж да афіцыйнай ліквідацыі Цэнтра ўладамі ў 1998 годзе. Пятро быў і фактычным аўтарам статута гэтых прэмій.

У 1997 годзе Пятру Васючэнку прапанавалі ўзначаліць кафедру беларускай мовы і літаратуры ў сталічным лінгвістычным універсітэце. Перш чым прыняць гэтую прапанову, ён звяртаўся і да мяне з пытаннем: ці трэба. ці варта? Вядома, я разумеў, што гэта моцна абмяжуе магчымасці Пятра надалей выкладаць у нашым ліцэі, а тое і зусім стане перашкодай для гэтага. Але ліцэй ужо знаходзіўся пад пагрозай афіцыйнага закрыцця (рыхтавалася распараджэнне аб высяленні ліцэя з будынка па вуліцы Кірава немаведама куды). З іншага боку, я добра разумеў, наколькі важнай для крыху касмапалітычнай навучальнай установы, якой здаўна быў мінскі “ін'яз”, павінна быць беларуская кафедра – і таму сам параіў Пятру прыняць прапанову рэктара Наталлі Баранавай. Натуральна, зрабіў я гэта не без шкадавання, бо адчуваў, што цяпер нам не ўдасца бачыцца рэгулярна, а ў рэальнасці сустрэчы нашы сталі й занадта рэдкімі, пра што шкадую цяпер яшчэ больш.

Пятро меў намер запрасіць мяне праводзіць практычныя заняткі па мастацкім перакладзе са студэнтамі, звяртаўся да рэктара з адпаведнай прапановай, але асцярожная Баранава адказала яму: “Можа, калі-небудзь пазней, бо чакаем розныя камісіі, праверкі...” Сітуацыя развівалася так, што гэтае “пазней” не надышло ўжо ніколі, а з часам, здаецца, і сама гэтая дысцыпліна знікла з абавязковай часткі ўніверсітэцкага навучальнага плана.

Недзе пры канцы 90-х гадоў, не памятаю ўжо, з якой нагоды, мы з Пятром былі разам у Полацку, і тады надарылася магчымасць завітаць у яго родную хату, што стаяла амаль усутыч да муроў манастырскага комплекса старадаўняй Спасаўскай царквы, на вуліцы Ефрасінні Полацкай. Там жа я пазнаёміўся з яго мілымі бацькамі (тата, спадар Васіль, быў яшчэ жывы). Разам з групай знакамітых беларускіх пісьменнікаў, у якую ўваходзілі Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, мне давялося паўдзельнічаць у творчай вечарыне, праведзенай у полацкім лясным каледжы, арганізаванай Пятровай мамай, спадарыняй Галінай, якая тады загадвала бібліятэкай каледжа. За кубкам гарбаты пасля сустрэчы яна, дарэчы, надзвычай кампетэнтна разважала пра класічную і сучасную беларускую літаратуру.

Зноў бачыцца з Пятром і з Нінай давялося часцей, калі іх дачка Марылька вучылася ў нашым ліцэі, які яна закончыла з вельмі добрымі адзнакамі ў 2002 годзе, за год да яго афіцыйнага закрыцця ўладамі. Натуральна, нашы тагачасныя размовы йшлі найперш вакол дачушкі, але Пятро не прамінаў магчымасці паразважаць пра агульную сітуацыю ў краіне, пра палітыку, якой ён таксама цікавіўся. Ён моцна перажываў у сувязі са скарачэннем беларускага кампанента ў розных установах адукацыі, хоць пра свайго рэктара, Наталлю Баранаву, гаварыў звычайна пазітыўна, і толькі часам нейтральна. Што да яго ўласных палітычных перакананняў, магу засведчыць: хоць Пятро Васючэнка, здаецца, ніколі не належаў да ніякіх партый, ён цвёрда і непахісна верыў у лепшую будучыню незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Яшчэ перад сумнавядомым рэферэндумам 1995 года, якім фактычна скасоўвалася дзяржаўнасць беларускай мовы, ён у адной з цэнтральных газет выступіў з аргументаваным артыкулам, у якім параўноўваў галасаванне за месца беларускай мовы ў грамадскім жыцці з тым, калі б чалавека змусілі галасаваць, любіць ён сваю родную маці або не.

У сярэдзіне 2000-х гадоў мне з калегамі з Беларускага ПЭН-Цэнтра ўдалося знайсці фундатараў, якія пагадзіліся падтрымаць выхад двухтомнага выдання – папулярных нарысаў “Беларуская літаратура і свет”, чарнавік якога быў падрыхтаваны намі, разам з Пятром Васючэнкам і Міхасём Тычынам, яшчэ ў дзевяностыя гады. Тады мы ўсе ўтрох не раз сустракаліся ў Мінску і абмяркоўвалі, як будзем дапрацоўваць і рыхтаваць гэтае выданне да друку. Гэта былі незабыўныя творчыя дыскусіі! Калі двухтамовік выйшаў, мы адгукнуліся на запрашэнне прафесара Полацкага ўніверсітэта Аляксандра Гугніна і прыехалі ладзіць прэзентацыю кніг падчас міжнароднай літаратуразнаўчай канферэнцыі. У часе гэтай паездкі Пятро задумаўся і сказаў, што вельмі спадзяецца пасля таго, як перастане загадваць кафедрай у Мінску, вярнуцца ў родны горад і павыкладаць у тамтэйшым універсітэце. Памятаю, што і я падзяліўся з імі падобнымі думкамі. Жыццё ж тады нам здавалася надзвычай доўгім, калі не бясконцым. На вячэру ж пасля ўдалай прэзентацыі мы тады зноў-такі выбраліся да Пятровай маці. Адно што пасля таго, як полацкая праваслаўная епархія забрала сабе ў валоданне даўнейшы дом Васючэнкаў на вуліцы Ефрасінні, спадарыні Галіне давялося пераехаць жыць у шматпавярховы дом у новай забудове, на тэрыторыі колішняга полацкага аэрадрома, і менавіта там адбывалася наша сустрэча, менавіта там мы доўга размаўлялі й нават спявалі. Там ён тады застаўся начаваць тры ночы (пакуль доўжылася полацкая канферэнцыя) і запрасіў Міхася Тычыну скласці

яму кампанію. Дарэчы, Міхась Тычына, які шмат гадоў працаваў у акадэмічным інстытуце, уваходзіў у раду па абароне доктарскіх дысертацый, а паралельна таксама выкладаў у нашым ліцэі, некалькі разоў наракаў на тое, што, маўляў, Пятро ніяк не наважыцца падаць фактычна даўно гатовую доктарскую працу пра сімвалізм у беларускай літаратуры на абарону. Ён казаў літаральна наступнае: “У нас у інстытуце ўсе добра і даўно ведаюць здольнасці і ўзровень Пятра, і пакуль мы разам з Міхасём Мушынскім, Васілём Жураўлёвым ды іншымі даўнімі дактарамі ўваходзім у раду, магу гарантаваць, што абароніцца ён як трэба”. Але, відаць, кафедральны клопат, дый, напэўна, надзвычай сур’ёзныя праблемы са зрокам так і не далі Пятру часу выканаць неабходныя фармальнасці і атрымаць доктарскую ступень.

Часцей мы з Пятром Васючэнкам пачалі сустракацца ў апошнія пяць гадоў. Найперш гэта было звязана з падрыхтоўкай чарговых кніг-дапаможнікаў для нашага, цяпер ужо грамадскага ліцэя (два дапаможнікі выйшлі ў 2014 і 2015 гг.), але былі й іншыя нагоды: абмеркаванне літаратурных і калялітаратурных спраў. Самае, аднак, важнае было тое, што Пятру нарэшце зрабілі надзвычай складаную аперацыю на вачах, і, як ён сам мне казаў, ён зноў пачаў бачыць навакольны свет такім, якім бачыў яго, “калі вучыўся ў старэйшых класах сваёй полацкай дзявятай школы”.

Недзе два гады таму ў нас пачаліся абмеркаванні праспекта згаданай вышэй серыі “Драматургі свету”. А пры канцы 2018 года Пятро Васючэнка з радасцю прыняў запрашэнне выступіць у сядзібе Таварыства беларускай мовы на прэзентацыі чарговых двух ліцэйскіх дапаможнікаў, якія я напісаў ужо самастойна. Прамаўляў Пятро, як звычайна, дасціпна і цікава. Такім, дасціпным і цікавым, я яго ведаў заўсёды, ніколі й блізка не думаючы, што давядзецца пісаць пра яго асобу ў мінулым часе...

Што б там ні было, а я веру, што трагічны для Пятровай сям’і й для ўсіх, хто яго, вочна ці завочна, ведаў, канец лета 2019 года пазначыў пачатак яго новага жыцця. Жыцця ў Вечнасці...

*Снежань 2019 г.*

## Ніна ЗДАНОВІЧ

### Са слязьмі на вачах і болем у сэрцы

Чалавек – істота шматгранная, тым больш калі ён – творца. Я паспрабую выявіць некаторыя з гэтых граняў у асобе спадарожніка майго жыцця з моманту нашай сустрэчы.

#### Беларусь

Менавіта яна нас злучыла. Гэта былі цудоўныя гады навучання ў аспірантуры. Памятаю сваё першае ўзрушэнне, да слез у вачах, калі пасля трох месяцаў працы ў вёсачцы ў Крупскім раёне, адарваная ад сяброў-аднадумцаў, снежаньскім днём упершыню пераступіла парог аспіранцкага інтэрната па вуліцы Акадэмічнай і пачула, як хлопец на цудоўнай заходнебеларускай гаворцы нешта горача распавядаў па тэлефоне. (Толькі потым даведалася, што гэта быў Язэп Янушкевіч і што належыць ён да кагорты літаратараў, сярод якіх я і вылучыла Пятра.) А Пятро не раз паўтараў, што адразу вырашыў, што я – яго палоўка, калі я першы раз з’явілася ў аўдыторыі на лекцыі па філасофіі. (Мабыць, я ўся свяцілася ад шчасця і ўсміхалася па сваёй звычцы на ўсе тады яшчэ 32 зубы ад таго, што я ізноў буду вучыцца!) Гэта было ў далёкім 1981 годзе.

Потым была першая супольная вандроўка, арганізаваная Інстытутам літаратуры, па мясцінах Дуніна-Марцінкевіча ў Люцынку. Дарогаю мы абмяркоўвалі творы тагачаснага куміра свядомай беларускай моладзі – Уладзіміра Караткевіча.

А потым, летам 82-га, Пятро прыехаў на раскопкі ў Мсціслаў, дзе разам са мной былі нашыя агульным знаёмыя. Увечары мы блукалі па мсціслаўскіх пагорках з цудоўнымі краявідамі, па Дзявочай гары, месцы апошняй гераічнай абароны горада, сядзелі на беразе імклівай Віхры і – ізноў гутарылі пра Беларусь, пра ўсё, што было дарагое нашым сэрцам. Вынікам стаў артыкул Пятра пра мсціслаўскія раскопкі.

Нягледзячы на тое, што 1982 і 83 гады былі часам напружанай працы над дысертацыямі, Пятро заўсёды сустракаў мяне па вечарох з курсаў, апоўначы з электрычкі, калі я ездзіла да бацькоў у Слонім. А яшчэ – у выпадку з Пятром я пераканалася, што мужчыны на самай справе выдатныя кулінары: ну якая дзяўчына можа пахваліцца, што падчас рамантычных адносінаў кавалер карміў яе тушанымі зайцамі ці карасямі ў смятане?

Потым я адкрыла яшчэ адно наша агульнае захапленне: гэта беларуская песня. Пятро ўвогуле меў цудоўны барытон і, мабыць, абсалютны слых. Хоць я, як ён не раз жартаваў, “не адрознівала паўтаноў”, мы разам і ў нашых агульных кампаніях самазабыўна спявалі нашыя песні. Тады душа спявала і плакала за родную Беларусь. Пятро ў той час ужо спяваў у хоры Акадэміі навук, куды прывёў і мяне. Але пасля таго, як замест нашых песень там сталі развучваць песні кшталту “Валенок”, мы сышлі адтуль. Я пасля жартавала, што Пятро мог бы ўпрыгожыць сваім голасам любы царкоўны хор.

Традыцыя прыязджаць да мяне на раскопкі засталася назаўсёды. Пасля Мсціслава былі Слонім (толькі потым я зразумела, што прычына была і ў жаданні пазнаёміцца з маімі бацькамі), Ліда, Ружаны і, канешне ж, яго родны Полацк. Але прычынай была не толькі дзяўчына, якая яму падабалася. Прычынай была Беларусь, якую ён прагнуў пазнаць усебакова. Археалогія дазваляла гэтую любоў да роднай зямлі матэрыялізаваць, паставіць, так бы мовіць, на трывалы грунт, “на мацярык”, кажучы археалагічным тэрмінам.

У нас былі крыху розныя “шляхі да Беларусі”. Я расла ў “традыцыйнай” сям’і: мае бацькі – “заходнікі”, пераехалі ў Слонім з вёскі Высацак Дзятлаўскага раёна, дзе пражылі 21 год разам, маючы дзевяць дзяцей. І хоць я нарадзілася ўжо ў горадзе, з дзяцінства ведала, што галоўныя святы – гэта Каляды і Вялікдзень з іх традыцыйнымі стравамі і звычаямі, а “на Яна” да нас заўсёды прыходзіла таткава радня, бо ён для іх быў Янак, а не Іван, як па пашпарце. Мая маці была захавальніцай і гарантам гэтых традыцый, сапраўднай крыніцай народнага фальклору, і Пятро зразумеў і ацаніў гэта ад першай сустрэчы. Я і ўся мая вялікая сям’я ўдзячна яму за тое, што маміны жарцікі, маміны прыслоўі і гісторыі ён захаваў у сваіх творах. А яшчэ мы ўдзячныя яму за тое, што пасля смерці нашага таты сем зімаў яна жыла ў Мінску ў нашай сям’і.

Пятро ж пачаў адкрываць для сябе Беларусь праз дзіцячыя ўражанні з вёскі Зялёная Паляна Рагачоўскага раёна, куды яго адвозілі на той час, калі яго маці, Галіна Аляксееўна, ездзіла на сесіі падчас вучобы ў бібліятэчным інстытуце ў Маскве. А пасля былі кнігі, з якімі ён не расставаўся з чатырох гадоў. Знаёмыя маці жартавалі, што Пятро рос у бібліятэцы Полацкага лясного тэхнікума, дзе яна працавала загадчыцай. Не сумняваюся, што тыя, хто вучыўся там ў сярэдзіне 60-х гадоў, не раз назіралі карціну, калі маленькае хударлявае хлапчанё ледзь цягнула з бібліятэчнай паліцы да стала таўшчэзныя кнігі – мастацкія ці пра розных жывёл і птушак. Гэтую любоў да кнігі ён захаваў да канца сваіх дзён. Сведчаннем таму – наша сямейная бібліятэка, што налічвае блізу трох тысяч кніг, у частцы з якіх і цяпер захаваліся яго закладкі з каментарамі. На журфак у 1976 годзе ён прыйшоў ужо свядомым беларусам.

А захапленне прыродай і грунтоўныя веды пра яе бачныя і ў яго “Каляровай затоцы”, і ў жартоўнай “Пірамідзе Ліннея”.



*Ніна ЗДАНОВІЧ і Пятро ВАСЮЧЭНКА ў Празе.*

Яшчэ адным нашым супольным захапленнем былі вандроўкі па Беларусі. Мы і машыну набылі пераважна для гэтага. Памятаю нашу першую вандроўку на “гольфіку” па Віцебшчыне: Пятро казаў, што мы “насадзілі поўную машыну дзяўчат” і паехалі на Глыбоччыну (кіравала ўсім наш экскурсавод Галя Раманенка). Пабылі на магіле Ігната Буйніцкага, у мясцінах Язэпа Драздовіча, завіталі ў Мосар да Булькі. Адзін з эпізодаў гэтай вандроўкі потым з гумарам узгадваў Пятро: пра трох авечак-самагубцаў, якія па чарзе спрабавалі перабегчы асфальт перад самай машынай.

Часам у вандроўках нараджаліся сюжэты будучых твораў. Падчас адной з экскурсій у 90-х мы ўбачылі кінуты напаўразбураны катэдж у выглядзе замка. Пятро тут жа склаў гісторыю пра збяднелага рыцара, які паехаў некуды шукаць сваю долю. Гэта быў матыў, з якога нарадзілася цудоўная п’еса “Збраяносец Андрусь”, якая лягла ў аснову спектакля ТЮГа “Рыцар ордэна Сланечніка” і вытрымала больш за 100 пастановак. Мару пра вяртанне гэтай п’есы да гледача. Яна таго вартая.

Былі і далёкія супольныя вандроўкі: па Еўропе да Парыжа і ў госці да брата ў ЗША. І пра гэтыя вандроўкі засталіся гумарыстычныя гісторыі, пра якія Пятро часам узгадваў: як у Парыжы ля Дома Інвалідаў, дзе пахаваны Напалеон Банапарт, ён сам ледзь не стаў інвалідам праз няўдалы скачок цераз тратуарны бардзюр, ці як у Атлантычным акіяне на востраве Тупсэйл вылавіў краба, у якога не ставала адной кляшні, з прычыны чаго яму была даравана свабода.

## Сям’я

Гармонія сямейных адносін, акрамя кахання, грунтуецца на ўзаемаразуменні, даверы і ўзаемнай павазе. Жаданне падтрымаць адно аднаго было натуральным для нас.

Ён быў цудоўным бацькам: ад паўтара да амаль пяці гадоў, калі не было месца ў садку для Марылькі, мы глядзелі яе па чарзе, як дазваляў графік працы. Звычайна Пятру даставаліся суботы-нядзелі і вечары. Ён не толькі паспяваў гатаваць і карміць дачку, але не стамляўся прыдумляць ёй розныя гульні. Ды і сваіх “Паноў...” ён пачаў прыдумляць найперш для дачкі. Так нарадзілася першая кніжачка пра паноў-бабздыроў.

Ён паспеў стаць двойчы дзедам: дзякуй за гэта Марыльцы і Сяргею! Так сталася, што ўнукі гадаваліся пераважна не ў Менску. Мы прыязджалі да дзяцей спачатку на сядзібу ў Верхнядзвінскім раёне, пакуль яе не разрабавалі цяперашнія “гаспадары жыцця”, а потым у Полацк. Але апошнія 2 гады абставіны скласіся так, што ездзіла туды толькі я. Не толькі таму, што ў Пятра не было часу з-за працы, але і таму, што на нашых руках была яго нямоглая маці, якую ён даглядаў у маю адсутнасць. Па маім вяртанні з чарговага наведвання з нецярплівасцю распытваў

падрабязнасці пра ўнукаў, разглядаў фотаздымкі і вельмі радаваўся расповеду пра тое, што ўнукі (Казімірка і Басенька) – заўзятыя кніжнікі, а трохгадовы Казімір-Тадэвуш ужо складае ўсялякія расповеды, кантамінуючы пачутае з розных кніжак.

Якім ён быў мужам? Ён быў маёй палоўкай, разумеў і падстаўляў плячук, калі гэта было неабходна. Адзіная яго слабіна была ў тым, што ён любіў, каб я была побач, і сумаваў, калі мяне не было. У памяці засталася выразная карціна: вяртаюся дахаты ўвечары пасля заняткаў, заходжу ў двор, звыкла пазіраю на балконныя вокны і бачу за шклом Пятра... Як мне  гэтага не хапае...

Пры ўсім пры гэтым – ён з гатоўнасцю пагаджаўся на мае вандроўкі: у Італію, у Венгрыю, ў Польшчу. А сам так і не паспеў, як марыў, пахадзіць па вуліцах Лондана, з’ездзіць да свайго Святога Пятра ў Рым...

## Праца

У Пятра было толькі два месцы сталай працы: спачатку Інстытут літаратуры ў Акадэміі навук, а пасля, 25 апошніх гадоў, – лінгвістычны ўніверсітэт. Усе праблемы, звязаныя з палітыкай паступовага згортвання сферы вывучэння і распаўсюджання беларускай мовы і літаратуры, адлюстраваліся ў вучэбных праграмах, што штогод даводзіліся кафедры. І ён усімі сіламі, праяўляючы ўсе свае дыпламатычныя здольнасці, імкнуўся захаваць наменклатуру гадзін, каб захавалася кафедра, каб не страціць супрацоўнікаў, хоць гэта не заўсёды ўдавалася, што таксама заставалася рубцамі на сэрцы.

Не без вялікіх высілкаў Пятра ва ўстанове з’явіўся Цэнтр беларускай мовы і культуры – месца, куды ён вельмі любіў заходзіць, дзе ладзіліся літаратурныя і культурніцкія сустрэчы.

Пятро з вялікай адказнасцю ставіўся да аўдыторных заняткаў: нягледзячы на каласальны багаж ведаў, рыхтаваўся да кожнага з іх. Выпадковыя сустрэчы з былымі яго студэнтамі пацвярджаюць, што высілкі не былі дарэмнымі: праз яго лекцыі для многіх пачыналася вяртанне да Беларусі. Пятро шчыра радаваўся якасным курсавым і дыпломным працам, пад яго кіраўніцтвам абараніліся дзве кандыдацкія дысертацыі.

Асобная старонка яго жыцця – родны журфак. Там засталася часцінка яго душы, там была пастаўлена апошняя кропка ў яго працы як навуковага кіраўніка, калі абаранілася яго аспірантка з Ірана – Нурыех Горбані.

Ён быў апантаным прапагандыстам роднага слова, беларускай літаратуры. Таму ніколі не адмаўляўся ад сустрэч з чытачамі, з дзецьмі: ці ў школах, ці ў бібліятэках Мінска, роднага Полацка, у беларускай глыбінцы.

З гэтай жа мэтаю ён рыхтаваў і перадачы для радыё – да апошніх дзён свайго жыцця. Дзякуючы ім у мяне застаўся яго голас – з аксамітным адценнем, якім ён распавядае пра тых, хто стаў падмуркам не толькі беларускай літаратуры, але і беларушчыны.

Незадоўга да свайго сыходу, калі я ў чарговы раз спрабавала выцягнуць яго на лецішча, каб крыху адпачыць ад працы, ён сказаў мне: “Я не ўмею адпачываць. Я ўмею толькі працаваць”.

## Захапленні

З дзяцінства – гэта рыбалка, да якой прызвычаіўся праз бацьку, заўзятага рыбака і вынаходніка (Васіль Пятровіч зрабіў не толькі самаробную машыну на аснове матацыкла, на якой праездзіла сям’я блізу дзесяцігоддзя, але таксама складную лодку-катамаран, на якой лавіў рыбу бадай на ўсіх полацкіх азёрах).

Стараўся не адставаць ад бацькі і сын. Пятро любіў разглядаць дзіцячы фотаздымак са шчупаком, даўжэйшым за яго, ці здымак з вылаўленай у Атлантычным акіяне камбалай. Марыў хоць раз пабываць на зімовай рыбалцы. Але не склалася...

Хаця Пятро не займаўся спортам, але цікавіўся лёгкай атлетыкай, футболам і біятлонам. Сачыў за чэмпіянатамі Еўропы і свету, кубкавымі гульнямі. Ён быў не проста гледачом, але пісьменнікам-аналітыкам: застаўся агульны сшытак (як канцылярская кніга), у якім дзесяцігоддзямі занатоўваліся вынікі спаборніцтваў – з каментарамі, прызначанымі толькі для сябе: з гумарам, без прыўкрас. Ён любіў глядзець чэмпіянаты па фігурным катанні – не толькі з-за самога дзейства (хаця драмы чалавечых лёсаў цікавілі яго як пісьменніка), але і з-за цудоўнай музыкі, пад якую каталіся фігурысты.

Увогуле захапленне музыкай, асабліва класічнай, пачалося ў яго яшчэ ў студэнцкія гады: за ганарары ад публікацый у газетах ён набыў стэрэапрыёмнік “Ленінград” і з задавальненнем слухаў у сваім аспіранцкім “бункеры” (так яго сябры называлі яго аднаасобны пакойчык) па вечарах трансляцыі канцэртаў. Часам ладзіў сапраўдныя “музычныя вечары” для сяброў.

Але галоўным яго захапленнем было спазнанне жыцця. Ён прагнуў новага. Не раз узгадваў пра вандроўку па Палессі ў аспіранцкае лета разам са сваім сябрам Валерам Каплічам: пакуль той збіраў мошак, Пятро “збіраў” расповеды бабулек, аглядаў палескія цэрквы і краявіды.

І, безумоўна, самае вялікае яго захапленне – гэта кнігі. Памятаю яго радасць ад “вылаўленага” у букіністычным 20-томнага збору твораў Вальтара Скота. А цяпер асіроцелыя кнігі кожную хвіліну нагадваюць пра гаспадара...

## Творчасць

Перабіраючы яго паперы, разумею, што страціла не толькі мужа, сваё надзейнае апірышча, але і цудоўнага суразмоўцу, аднадумцу. Вельмі шкада, што, як ва ўсіх у гэтым імклівым часе, гэтага самага часу для сумоўя якраз і бракавала. Кампенсавалася гэта крыху тым, што я вычытвала камп'ютарныя тэксты твораў і навуковых прац, не толькі шкадуючы яго слабы зрок, але і таму, што было вельмі цікава даведвацца нешта новае пра літаратуру: вучылася спасцігаць філасофію жыцця, зашыфраваную ў мастацкіх творах. Часам адчувала сябе вадамеркаю, якая з захапленнем назірае за прафесіяналам-дайверам.

Што рабіла нашае жыццё гарманічным? Мабыць, узаемная цікавасць, ці цікаўнасць: яго літаратура і мая археалогія – яны як два бакі аднаго цэлага, якое завецца Беларуссю. І мы не стамляліся яе вывучаць, адкрываць і дзяліцца сваімі “адкрыццямі”.

Яднала нас яшчэ і рамантычнасць. Пятро застаўся рамантыкам да канца жыцця: ён любіў чытаць казкі і глядзець фільмы-казкі (у гэтым нашыя жаданні супадалі). Ён сабраў вялікую “казачную” бібліятэку, у якой знайшлося месца і казкам “Тысячы і адной ночы”, і “Чарадзейным казкам” ці “Казкам пра жывёл” серыі “Беларуская народная творчасць”. І сам быў Пятром-казачнікам. Нават значная частка яго п’ес – гэта п’есы казкі (“Страшнік Гам”, “Збраяносец Андрусь”, “Новы Калабок”).

Ён усе праблемы насіў у сабе, таму так рана спынілася збалелае сэрца. Першы і апошні раз бачыла слёзы ў яго вачах, калі забіралі ў полацкі шпіталь нашу паўтарагадовую Марыльку з тэмпературай пад сорак градусаў.

А потым – толькі цяжка ўздыхаў бяссоннымі начамі ды прамаўляў сакраментальнае “як ёсць!” у адказ на мае спробы даведацца пра праблемы.

У адным са сваіх юбілейных інтэрв’ю на пытанне пра самае запаветнае жаданне ён адказаў: пісаць, пісаць і пісаць. Пятро казаў, што як толькі дажыве да

пенсіі – перадасць кафедру ў надзейныя рукі – і будзе пісаць. Не атрымалася... Засталіся недапісаныя рукапісы і “друкапісы”. Тут варта працытаваць словы Кузьмы Чорнага, узгаданыя Пятром у радыёп’есе паводле твора “Млечны шлях”: “Божа, дапішы мае творы”.

Хочацца спадзявацца, што жыццё Пятра Васючэнкі як *пісьменніка* будзе працягвацца...

## Сяргей КАВАЛЁЎ

### Пра тое, як паны Кубліцкі і Заблоцкі выйшлі на сцэну

Ці чуў хто з вас пра знакамітых паноў Кубліцкага ды Заблоцкага?

Сёння на гэтае пытанне многія адкажуць станоўча, з цёплай усмешкай прыгадаўшы герояў казачных аповесцяў Пятра Васючэнкі “Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага” (1997), “Жылі-былі паны Кубліцкі і Заблоцкі (2003), “Дзівоснае лета паноў Кубліцкага і Заблоцкага” (2018). А нехта ўспомніць і спектаклі пра гэтых казачных герояў, пабачаныя ў дзяцінстве ці то ў Мінску, ці то ў Маладзечна, ці то ў Магілёве, а можа – па Беларускім тэлебачанні альбо пачутыя па Беларускім радыё.

Я ўпершыню даведаўся пра існаванне Кубліцкага і Заблоцкага ў 1989 годзе, калі ў часопісе “Бярозка” былі надрукаваныя першыя казкі Пятра Васючэнкі пра паноў-шалапутаў. Здаецца, гэта былі тры казкі: “Нішчымніца”, “Каму чыгун мыць” і “Яйка ад Куры-Шчабятуры”. І я адразу ўявіў Кубліцкага і Заблоцкага на сцэне. Напрыканцы 80-х якраз пачыналася мая прыгода з драматургіяй, на Беларускім тэлебачанні адбылася прэм’ера п’есы “Драўляны Рыцар”, я пачаў пісаць наступную – “Звар’яцелы Альберт” паводле твораў Яна Баршчэўскага. А тут адкрываю часопіс і чытаю:

“Ходзіць па нашым краі пагалоска пра пана Заблоцкага, што жыў надта даўно, яшчэ за князем Дрыгайлам. Жылося тады людзям не абы-як, адно мыла не ставала, – і вось пан Заблоцкі паквапіўся на лёгкі прынажытак. Адправіўся ён за мора, наладаваў мылам повен карабель ды плыве назад паціху. Ажно нахапіўся вецер, кінуў карабель на падводныя камяні, і той карабель даў цечу. Увесь тавар, лічы, змыла, а пан Заблоцкі застаўся ні з чым. З тае пары пачалі казаць: “Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле”.

Але гэта даўнейшая гісторыя, хто пра яе не чуў! Ды мала хто ведае пра іншыя прыгоды пана Заблоцкага ды ягонага дружбака пана Кубліцкага. Ото ж былі паны! Колькі яны пазараблялі гузоў на свае галовы – усё праз фанабэрыю, прагавітасць, недарэчныя дзівацтвы! І шкода часам іх, ды смех разбірае: ну ж і шалапуты!”[1]

Уразілі каларытныя героі: Кубліцкі і Заблоцкі, яшчэ ў тэксце згадваліся селянін Ахрэм Верацённік і князь Дрыгайла, потым з’явіліся Кура-Шчабятура і ейны сыночак Страхапуд. Асалоду выклікала сакавітая беларуская мова казак, выкшталцона-іранічны стыль, плённае перапляценне фальклорных матываў і багатай аўтарскай фантазіі. З вядомай прыказкі: “Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле” Пятро Васючэнка збудаваў цэлы свет: карнавальны, фантасмагарычны, парадаксальны. Гэткі беларускі варыянт “Гарганцюа і Пантагруэля” Франсуа Рабле.

У адрозненне ад Рабле, які жыў у Францыі шмат стагоддзяў таму, аўтар казак пра Кубліцкага і Заблоцкага жыў у маім часе, у маёй краіне, і я нават быў з ім знаёмы. Мы сустракаліся на паседжаннях Таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя”, на вечарынах у Доме літаратара. Ціхмяны, удумлівы, сарамлівы, Пятро Васючэнка не надта актыўна ўдзельнічаў у бурлівых дыскусіях тутэйшаўцаў, дзе рэй вялі Анатоль Сыс і Адам Глобус, ды і на паседжаннях суполкі бываў

не часта. Мы больш ведалі яго па публікацыях у друку: па крытычных і літаратуразнаўчых артыкулах, апавяданнях. Я не памятаю, ці пісаў ён казкі да Кубліцкіх-Заблоцкіх, але калі ў 1987 годзе абіралі кіраўніцтва "Тутэйшых", Васючэнку выбралі адказным менавіта за дзіцячую літаратуру.



*У. Сіўчыкаў, П. Васючэнка, С. Кавалёў.*

Спачатку я думаў напісаць п'есу пра Кубліцкага і Заблоцкага сам, на падставе альбо па матывах казак Пятра. Так, як напісаў "Звар'яцелага Альберта" на падставе твораў Яна Баршчэўскага альбо крыху пазней дзіцячую п'есу "Заяц варыць піва..." па матывах казак і вершаў Уладзіміра Караткевіча. Але ў адрозненне ад Баршчэўскага ці Караткевіча аўтар казак пра Кубліцкага і Заблоцкага быў маім сучаснікам, ягоны твор (цыкл казак, аповесць, раман?) знаходзіўся яшчэ ў стадыі напісання (першы варыянт пад назвай "Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага" выйшаў кніжным выданнем толькі ў 1997-м). І самае галоўнае, не хацелася ў драматургічнай версіі страціць непаўторны моўны каларыт казак: у мяне быў зусім іншы стыль, ды і родную мову я, шчыра прызнаюся, ведаў горш за Пятра.

Сустрэўшы на адной з літаратурных вечарынаў Васючэнку, я выказаў сваё захапленне апублікаванымі ў "Бярозцы" казкамі, "прафесійнае" перакананне ў іх перспектыўнасці для тэатральнага ўвасаблення і прапанаваў пісаць п'есу пра Кубліцкага і Заблоцкага разам. Пятро ўзрадаваўся, бо, як аказалася, ён не толькі любіў сваіх герояў, але і тэатр. Пазней, калі я пабываў у яго дома, пабачыў багаты драматургічны кнігазбор: ад Эсхіла да Сартра.

Маё ўяўленне пра тэхналогію працы ў суаўтарстве абмяжоўвалася жартам Ільфа і Пятрова з прадмовы да "Залатога цяляці": «Як мы пішам удвох? Ды так удвох і пішам. Як браты Ганкуры. Эдмонд бегае па рэдакцыях, а Жюль сцеражэ рукапіс, каб не ўкралі знаёмыя». Паколькі ініцыятыва напісання п'есы была мая і ў мяне ўжо былі пэўныя знаёмствы ў тэатральных колах, а рукапіс належаў Васючэнку, было зразумела, што па рэдакцыях (па тэатрах) давядзецца бегаць мне, а ён будзе сядзець дома, сцерагчы п'есу ад крадзяжу ды "мёд-гарэлачку смактаць, кілбасы ды кумпякі пуцаваць", як ягоныя шляхетныя героі.

Але ў любым выпадку п'есу спачатку трэба было напісаць. Я прапанаваў свайму суаўтару простую і лагічную стратэгію: на падставе ягонай казачнай прозы я пішу драматургічны твор, а ён дапрацоўвае-габлюе мову дыялогаў, выроўнівае стыль новых фрагментаў пад агульны ўзор, зададзены ў прозе. Пятро сцяміў, што на першым этапе ад яго не патрабуецца ніякай працы, і ахвотна пагадзіўся. Ён даў мне яшчэ некалькі неапублікаваных казак пра Кубліцкага і Заблоцкага ў дадатак да публікацыі ў "Бярозцы", і я паехаў пісаць п'есу.

Паехаў у літаральным сэнсе гэтага слова, і даволі далёка. У красавіку 1990 года мяне запрасілі на ўсесаюзны семінар драматургаў у Ялту на чатыры тыдні, там я і пісаў "Дзівосныя авантуры Кубліцкага і Заблоцкага". У выніку на падставе трох-пяці казак Васючэнкі ўзнік чарнавы варыянт п'есы пад умоўнай назвай "Яйка ад Куры-Шчабятуры". Тэкст налічваў 10 старонак, акрамя Кубліцкага і Заблоцкага

ў п’есе дзейнічалі Кура-Шчабятура, яе сынок Страшыдла і дзеўка Дрыпа. Сюжэт быў наступны: ашалелыя ад голаду і пыхі паны просяць Куру-Шчабятуру знесці яйка, з якога б вывелася куранятка з сарака ножкамі, ростам з парсюка ці нават быка і з салам у даланю таўшчынёй. У выніку з яйка вылупліваецца Страшыдла, які пагражае з’есці Кубліцкага з Заблоцкім, а потым і цэлы свет. У фінале з’яўляецца дзеўка Дрыпа, якая дапамагае панам пазбыцца пачвары. У празаічным арыгінале замест дзеўкі Дрыпы фігуравала вясковая Бабулька, але мне хацелася зрабіць фінал больш жартаўлівым і прыўнесці крыху эротыкі. Дзеўка Дрыпа з яе маніякальным жаданнем выйсці замуж за першага лепшага нарадзілася з фразы Заблоцкага ў казцы Васючэнкі: “Што паненкі... Не бяды, застанецца й пану Кубліцкаму якая-кольвек дзеўка-дрыпа”.

Я вярнуўся ў Мінск і аддаў тэкст на дапрацоўку Пятру, ён хуценька адшліфаваў мову герояў, а асабліва шчыраваў над дыялогамі дзеўкі Дрыпы, якая яму надзвычай спадабалася. Здаецца, з’яўленне гэтай гераіні істотна паўплывала на характар і далейшыя лёсы Кубліцкага з Заблоцкім. Мяне ж засмучаў аб’ём нашай п’есы: усяго 10 старонак. Падчас наступнай сустрэчы я прапанаваў Пятру пісаць другую дзею, тым разам арыгінальную, а не на падставе празаічных казак. І карэнным чынам змяніць тэхналогію сумеснай працы: разам выдумляем сюжэт, новых герояў, вызначаем сцэны для напісання кожнаму з нас. Пятро пагадзіўся, пад умовай, што атрымае права перарабіць потым напісаныя ім сцэны ў празаічныя казкі.

Прыдумваць п’есу паехалі ў Дом творчасці пісьменнікаў “Іслач”. Сюжэт вызначыўся хутка: збітая з панталыку залётамі Кубліцкага і Заблоцкага і не ведаючы, каторага з іх выбраць, дзеўка Дрыпа выпраўляе паноў здзяйсняць геройскія подзвігі; паны запісваюцца ў харугву гетмана Трыбуховіча і ўдзельнічаюць у вайне караля Гарбуза Восьмага з князем Дрыгайлам, трапляюць у палон і служаць у князя на пасецы пчалярамі; Дрыпа адпраўляецца шукаць зніклых жаніхоў, а знаходзіць князя Дрыгайлу, які вельмі заімпанаваў ёй сваёй падзорнай трубой і рамантычнымі аповедамі пра зорнае неба; у выніку Дрыгайла з Дрыпай бяруць шлюб, а Кубліцкі з Заблоцкім ахвотна застаюцца на пасецы з пчолкамі ды з мёдам, каб рэалізаваць сваё (а, можа, наша агульнае?) няхітрае жыццёвае крэда: “Галоўнае – што? Галоўнае, каб кожны быў на сваім мейсцы. Там, дзе яму лепш”.

Фрагменты некалькіх празаічных казак Васючэнкі мы ўсё ж такі выкарысталі ў другой дзеі, якая атрымала назву “Падазроная труба”. З напісаных мной сцэнак найбольш забаўнай атрымалася фінальная: пра раптоўнае каханне князя Дрыгайлы да дзеўкі Дрыпы ды іхні шлюб, а Пятро напісаў шыкоўную сцэнку “Цар Максімілян” (пра лялечны спектакль, пабачаны Дрыпай на смургонскім кірмашы), якой не было ў першапачатковым сцэнары (пазней гэтая сцэнка ў перапрацаваным выглядзе ўвайшла ў аповесць “Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі”).

Пісалася п’еса весела, мы ні разу не пасварыліся і пачалі жартаўліва клікаць адзін аднаго Кубліцкім і Заблоцкім. Праўда, калі некаторыя мае прапановы Пятру не падабаліся, альбо я выказваў незадавальненне напісанымі ім фрагментамі, ён пачынаў гугнявіць сабе пад нос дзіцячы вершык: “Плохо жить на свете/ Октябренку Пете:/ Бьет его по роже/ Пионер Сережа”. Хаця ведалі мы адзін аднаго даўно, але па-сапраўднаму пазнаёміліся і пасябравалі менавіта падчас напісання п’есы. У нас з ім аказалася шмат агульнага. Мы абодва паходзілі з горада, а не з вёскі (Пятро – з Полацка, я – з Магілёва), любілі ў дзяцінстве чытаць п’есы, а ў дарослым жыцці – пісаць казкі (маім літаратурным дэбютам быў зборнік казак “Мэва”, Васючэнка акрамя твораў пра Кубліцкага і Заблоцкага выдаў кнігі для дзяцей “Каляровая затока” і “Дванаццаць подзвігаў Геракла”). Мы абодва спалучалі навуковую дзейнасць з літаратурнай творчасцю, былі сябрамі суполкі “Тутэйшыя” і прыкладна ў адзін час уступілі ў Саюз пісьменнікаў. Вось толькі мне не дадзена было пісаць такую выдатную прозу, як Пятру (ягонае апавяданне

“Аптэкаркі” – адзін з маіх улюбёных твораў), а ў яго так і не склаўся раман з тэатрам (большасць ягоных п’ес, напісаных пасля “Дзівосных авантур Кубліцкага і Заблоцкага”, так і не пабачыла сцэну)...

Восенню 1990 года наша сумесная праца над п’есай пра Кубліцкага і Заблоцкага была завершаная, прыйшоў час бегаць па рэдакцыях і тэатрах. Напачатку будучыня п’есы малявалася ў ружовым колеры: Рэпертуарная калегія Міністэрства культуры купіла ў нас правы на пастаноўку п’есы ў народных тэатрах і студыях, у 1991 годзе адбылася прэм’ера спектакля на Беларускім радыё (ролі агучвалі выбітныя акцёры Купалаўскага тэатра), а ў 1992-м – прэм’ера пастаноўкі на Беларускім тэлебачанні. Да тэлеспектакля песні-зонгі напісаў Лявон Вольскі, на той час – лідэр рок-гурта “Мроя”, а пазней – стваральнік “N.R.M” і “Крамбамбулі”, культавая постаць у беларускай музыцы.

А вось наконт запатрабаванасці п’есы тэатрамі я памыліўся: беларускія рэжысёры не спяшаліся займаць месца ў чарзе на пастаноўку нашага з Пятром шэдэўра. Шчыра прызнацца, я быў здзіўлены і адчуваў віну перад сваім суаўтарам, якому абяцаў шалёны поспех п’есы.

Першую пастаноўку “Дзівосных авантураў...” у тэатры здзейсніла ўкраінская рэжысёрка Галіна Карбаўнічая, з якой я пазнаёміўся на Расійскай лабараторыі тэатраў лялек і якую лёс закінуў у Мінскі абласны тэатр “Батлейка” ў Маладзечне. Украінка Карбаўнічая добра разумела беларускую мову, але не разумела беларускіх рэжысёраў, якія не звярталі ўвагі на такі самабытны нацыянальны матэрыял, які мог быць цікавы не толькі дзецям, але і дарослым. У верасні 1992 года Галіна з чатырма маладымі акцёрамі паставіла на сцэне “Батлейкі” маю п’есу “Хохлік”; камерны, паэтычны спектакль спадабаўся і гледачам, і крытыкам, і да гэтага часу трымаецца ў рэпертуары тэатра. Прызначаную на кастрычнік таго ж года прэм’еру “Дзівосных авантураў Кубліцкага і Заблоцкага” мы чакалі з нецярпеннем, я пазнаёміў Карбаўнічую са сваім суаўтарам, і яны адразу пасябравалі. На прэм’еру запрасілі прадстаўнікоў Міністэрства культуры, тэатральных крытыкаў і, канечне ж, аўтараў. Гэта была першая прэм’ера ў жыцці Васючэнкі-драматурга, і ён вельмі хваляваўся. Я не быў на рэпетыцыях спектакля, але пасля “Хохліка” не сумняваўся ў таленце і дасведчанасці рэжысёркі.

На прэм’еры здарылася катастрофа. Каб не было папрокаў, што яна працуе толькі з выбранымі маладымі акцёрамі, Карбаўнічая вывела на сцэну ўсю трупу нядаўна адкрытага тэатра, палова якой была яшчэ ці ўжо (па ўзросце) прафесійна непрыдатная, і прымусіла граць адкрытым прыёмам, не хаваючыся за традыцыйнай шырмай. Пакрыўджаная на дырэктарку і рэжысёрку адміністратарка запрасіла на прэм’еру дзяцей са спецшколы, якіх мала цікавіла дзейства на сцэне, цалкам для іх незразумелае. Напалоханыя ўвагай міністэрскіх чыноўнікаў і сталічных крытыкаў акцёры таксама не разумелі сэнс спектакля, які гралі. Акцёры хаатычна перамяшчаліся па сцэне з лялькамі ў руках, школьнікі насіліся па зале з ранцамі і перыядычна прасіліся ў прыбіральню, адкуль вярталіся прыкметна павесялеўшыя. Кульмінацыяй маладзечанскай прэм’еры стала знікненне партманэ з грашыма з сумачкі тэатральнага крытыка Жанны Лашкевіч (назаўтра партманэ знайшлося ў аднаго са школьнікаў, але ўжо без грошай). Нават сёння, маючы трыццацігадовы вопыт супрацоўніцтва з тэатрамі, мне цяжка прыгадаць больш сакрушальны правал, чым прэм’ера “Дзівосных авантураў Кубліцкага і Заблоцкага” ў Маладзечне.

Вечарам у Мінску мы планавалі сустрэцца ў Галіны Карбаўнічай і адзначыць прэм’еру. Я прыехаў, хоць і ў змрочным настроі. Пятро на сустрэчу не з’явіўся, чым вельмі пакрыўдзіў Галіну. Рэжысёрка яму ніколі не даравала гэтую “здраду”. Я Пятра разумеў, і мне было яго шкада: усё ж такі першая ў жыцці прэм’ера. Пэўным суцяшэннем для аўтараў стаў ганарар з Міністэрства культуры за правы пастаноўкі п’есы ў прафесійных тэатрах Беларусі...

У 1994 годзе Галіна Карбаўнічая звольнілася з "Батлейкі", і першым яе спектаклем у якасці "свабоднага мастака" стаў цудоўны монаспектакль "Дзівосныя авантуры Кубліцкага і Заблоцкага" ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зніч". Акцёр Леанід Сідаровіч віртуозна граў усіх дванаццаць персанажаў п'есы з дапамогай забаўных лялек, зробленых Веніямінам Маршаком і Таццянай Лісавенка. Спектакль можна было граць на любой пляцоўцы, ён падабаўся і дзецям, і дарослым; асабліва запомніўся паказ спектакля ў Нацыянальнай бібліятэцы (яшчэ імя Леніна і яшчэ ў старым будынку), дзе прысутнічала шмат нашых з Пятром знаёмых і пісьменнікаў-тутэйшаўцаў. За дваццаць пяць гадоў змянілася некалькі акцёраў, але спектакль Карбаўнічай да гэтага часу ў рэпертуары тэатра "Зніч" (адноўлены Галінай Дзягілевай).

Такім чынам, праз чатыры гады пасля напісання п'есы яна была нарэшце паспяхова ўвасоблена на сцэне, спектаклю выпала доўгае жыццё, і можна было б ставіць кропку ў гэтай гісторыі. Але мне хацелася яшчэ пабачыць пастаноўку п'есы на драматычнай сцэне, з выкарыстаннем песняў-зонгаў Лявона Вольскага. Некалькі разоў я прапаноўваў п'есу і ў Купалаўскі тэатр, і ў РТБД, і ў ТЮГ; у гэтых тэатрах ставіліся іншыя мае п'есы і інсцэніроўкі, у 2002 годзе Наталля Башава паставіла ў ТЮГу спектакль "Рыцар ордэна Сонца" па п'есе Пятра Васючэнкі "Маленькі збраяносец", а Кубліцкі з Заблоцкім так і не выйшлі на вялікую сцэну. Вельмі падабалася п'еса Уладзіміру Савіцкаму, ён нават падрыхтаваў рэжысёрскі сцэнар для ўвасаблення на сцэне ТЮГа, але да гэтага часу не здзейсніў сваю задуму...

П'еса "Дзівосныя авантуры Кубліцкага і Заблоцкага" друкавалася ў розных калектыўных зборніках і анталогіях, а таксама ў маім аўтарскім зборніку дзіцячых п'ес "Шлях да Бэтлеему" (2009) з пазнакай "напісана ў суаўтарстве з Пятром Васючэнкам". Калі я пазнаёміўся з галоўным рэжысёрам Магілёўскага абласнога тэатра лялек Ігарам Казаковым, я падараваў яму зборнік "Шлях да Бэтлеему". Праз нейкі час Ігар патэлефанаваў мне і сказаў, што з адзінаццаці п'ес, змешчаных у кнізе, ён выбраў для пастаноўкі п'есу пра Кубліцкага і Заблоцкага. Рэжысёр прасіў разбудаваць першую дзею (менавіта яе ён хацеў увасобіць на сцэне) і ўвесці постаці двух катрыншчыкаў-апавядальнікаў. Я звязаўся са сваім суаўтарам і прапанаваў разам рабіць сцэнічную версію праз інтэрнэт. Пятро пагадзіўся, але без энтузіязму. Магчыма, ён у гэты час працаваў над чарговай кнігай, а, можа, навучаны горкім вопытам, проста не верыў, што спектакль адбудзецца. Даслаў мне на электронную пошту старонку тэксту, я прачытаў, уздыхнуў і сам зрабіў новую сцэнічную версію п'есы. Былога ўзаемапаразумення паміж суаўтарамі ўжо не было, ды і цяжка перапрацоўваць твор, напісаны дваццаць гадоў таму.

Між тым спектакль у Ігара Казакова атрымаўся выдатны: вынаходлівы, стыльны, смешны і тужлівы адначасова. Мастацкае афармленне і лялькі зрабіла Людміла Скітовіч, у спектаклі гралі два акцёры: Мікалай Сцешыц і Юрка Дзівакоў (цяпер вядомы рэжысёр-авангардыст). Прэм'ера ў Магілёве адбылася ў чэрвені 2012 года, я не прысутнічаў на прэм'ерным спектаклі і, здаецца, Васючэнка таксама. Лыжкай дзёгцю ў бочцы мёду стала тое, што імя майго суаўтара адсутнічала на афішы; давялося тэлефанаваць у тэатр і выпраўляць памылку. Я ўпершыню пабачыў спектакль толькі праз год на тэатральным фестывалі ў Любліне, другі раз глядзеў яго ў Беластоку. Спектакль шмат гастраляваў па Беларусі і Расіі, але не ведаю, ці паказвалі яго ў Мінску і ці пабачыў яго Пятро. За дваццаць-трыццаць гадоў шмат змянілася на свеце, і мы таксама змяніліся. Напэўна, на пачатку 90-х, калі мы былі драматургамі-пачаткоўцамі, мы прыляцелі б на прэм'еру нашай п'есы ў Магілёў пры любых абставінах.

Так сталася, што пасля "Дзівосных авантураў Кубліцкага і Заблоцкага" ні Пятро Васючэнка, ні я ніколі больш не пісалі п'ес у суаўтарстве. Але мы на ўсё жыццё захавалі любоў да гэтай п'есы і да яе герояў. Пятро працягваў жыццяпіс

Кубліцкага, Заблоцкага і дзеўкі Дрыпы ў празаічных казках. Высветлілася, што ў яго былі іншыя матрыманіяльныя планы ў адносінах да дзеўкі Дрыпы, чым у п'есе: ён выдаў яе замуж за акцёра, які граў цара Максіміляна, Дрыпа таксама падалася ў вандроўныя акцёркі, а іхняга сынка Дрыпянятку давялося гадаваць Кубліцкаму з Заблоцкім (ці не алюзія да апавядання "Траляляёначка" Францішка Багушэвіча?).

Апошнія дваццаць пяць гадоў нашага знаёмства з Пятром мы жылі ў розных краінах, але сустракаліся прынамсі раз на год то ў Мінску, то ў Любліне: абменьваліся новымі кнігамі, навінамі, думкамі. Калі я бываў Мінску, я завітваў да Васючэнак у госці, часам з усёй сям'ёй; Пятрова жонка Ніна ладзіла смачны пачастунак у шляхецкім стылі (упрыгожаннем стала была качка, пханая блінамі), Пятро навучыў нас гуляць у дзіўную картачную гульню, у якой прымалі ўдзел і дзеці. Я запрашаў яго на нашыя навуковыя канферэнцыі: у Любліне, Казімежы Дольным, Вішніцах. Мы разам бывалі на драматургічных семінарах і на Фестывалі нацыянальнай драматургіі ў Бабруйску, наведвалі ягоны родны Полацк. Сустракалі ў Любліне з нашымі сем'ямі Міленіум. Водгукі гэтых сустрэч і люблінскіх уражанняў я потым знаходзіў у ягоных кнігах, але многія каларытныя эпізоды засталіся па-за кадрам...

У Пятра Васючэнкі быў адмысловы погляд на свет: адначасова і прыязны, і скептычны, арыгінальны спосаб выкладання думак, непаўторнае пачуццё гумару (свой мастацкі метад ён вызначаў як *полацкі іранізм)*.

Нядаўна ў ягонай кнізе "Адлюстраванне першатвора. Літаратура ў філалагемах і пятрогліфах" (2004) я натрапіў на наступную думку, запісаную аўтарам 31 снежня 1997 года:

"Рэжысёр бачыць так: гэта я магу паставіць, гэта я зраблю. Зрок рэжысёра вячаровы. Ён нібы кот, які ўвечары адрознівае 25 адценняў шэрага колеру. Яго не цікавяць самыя колеры – удзень каты іх не адрозніваюць. Яго не цікавяць літаратурныя вартасці твора, па вялікім рахунку не цікавяць і змест, філасофія рэчы. Яго цікавяць гледачы, акторы, сцэны, мізансцэны, воплескі, кветкі, банкеты.

Зрок драматурга – дзённы. Ён бачыць спектр, колеры. Але не бачыць вячаровых адценняў".

Пасля смерці Пятра ў гэтым свеце знік колер, які бачыў толькі ён. І мне вельмі бракуе гэтага колеру ў збяднелай палітры свету.

## <u>Уладзімір СІЎЧЫКАЎ</u>

### Пан прахвэсар

*Шпацыр пры ўручанскіх валунах*

*...і Я кажу табе: ты Пётр, і на камені гэтым...*
Паводле Мацвея Святое Дабравесце, 16:18

Полацкаму мальцу Петручку ад нараджэння ягонага проста наканавана было стацца вучоным, кніжным чалавекам, прадаўжальнікам традыцый Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны ды Сімяона Полацкага. Дом, у якім прайшлі першыя гады жыцця, стаіць на вуліцы, якая вядзе да храма, усяго за некалькі соцень метраў ад Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Бацька ягоны, Васіль Пятровіч, быў выкладчыкам, а мама, Галіна Аляксееўна – бібліятэкаркай у Полацкім тэхнікуме лясной гаспадаркі.

А я ўдзячны лёсу, што меў права і гонар звацца сябрам выдатнага пісьменніка, эрудзіраванага навукоўца і абазнанага, чуйнага педагога, інтэлектуала і надзвычай прыстойнага чалавека.

* * *

Пазнаёміцца нам собіла напрыканцы бурлівых 80-х, падчас так званай перабудовы, калі малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, але ўжо і кандыдат філалагічных навук пастукаў у дзверы літаратурнага аддзела часопіса для падлеткаў "Бярозка", дзе працаваў я пасля заканчэння філфака Белдзяржуніверсітэта. Ісці Пятру са сваімі экалагічнымі п'есамі ды казкамі ад Акадэміі да старога корпуса Дома друку было недалёка – варта было толькі перайсці галоўны сталічны праспект. Да таго ж церабіў ён знаёмую сцяжыну: яшчэ ў 1980 годзе апублікаваў у "Бярозцы" апавяданне "Вярнуўся..." І гэты паход аказаўся плённы, бо ў ліпені 1989 года адбылася першапублікацыя трох навелак з будучай кнігі казак "Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага".

А покуль тэксты тыя чыталіся, вылежваліся ў рэдакцыйным партфелі, ілюстраваліся, ставіліся ў нумар ды вярсталіся, супольна ўдзельнічалі ў акцыях ды імпрэзах літаратурна-грамадскага аб'яднання "Тутэйшыя". Варта пагадзіцца з тым, што Пятро не быў у аб'яднанні на першых арганізатарскіх ролях праз сваю сціпласць, калі не сказаць сарамлівасць, але ж ніколі не здраджваў ён патрыятычнай пазіцыі, трымаў высокую прафесійную, рознажанравую планку. Хто-ніхто з даследчыкаў не лічыць сёння Васючэнку "тутэйшаўцам", але ж на некаторыя паседжанні ён прыходзіў, удзельнічаў у абмеркаваннях творчасці сяброў і, галоўнае, апублікаваў у праграмным, легендарным ужо аднайменным зборніку сваё апавяданне "Упрочкі". І ўжо тады можна было пераканацца, што ў літаратуру прыйшоў самавіты, разважлівы і таленавіты празаік, бліскучы стыліст з бездакорным густам.

У тым самым 1989-м, насычаным і літаратурнымі падзеямі годзе, сталіся мы і суседзямі па сталічным мікрараёне Уручча, які першы пераступіў кальцавую аўтастраду. Я быў там за старажыла, паспеў пражыць з сям'ёю чатыры гады, калі Пятро засяліўся са сваімі дзяўчатамі ў пабудаваную кааператыўную трохпакаёўку. Гасцявалі адзін у аднаго найперш у працоўных кабінетах, сустракаліся, бывала, і сем'ямі на шпацырах, а ўлюбёным маршрутам сталі сцяжыны ва ўручанскай славутасці – Музеі валуноў Інстытута геафізікі, створаным з ініцыятывы акадэміка Радзіма Гарэцкага, які звалі мы найчасцей Садам камянёў.

Ад таго часу запачаткавалася і традыцыя штогод разам адзначаць сем'ямі восеньскія Дзяды. Найчасцей збіраліся ў Пятра, які адмыслова абіраў і драў бульбу на тарцы, а пазней – на кухонным камбайне, гатавалі клёцкі з "душамі", якія неадменна трэба было спажываць гарачымі. Таму Пецева жонка, археолаг і культуролаг Ніна Здановіч, не цярпела спазненняў, а мы стараліся прыйсці акурат да прызначанай вечаровай гадзіны. Пасля ўзаемных вітанняў гаспадар дапамагаў распрануцца, праводзіў у пакой, дзе, як правіла, пачынаў са свайго традыцыйнага пытання: "А што добрага чуваць?", бо заўсёды чакаў ад людзей дабрыні і паразумення. Адтуль ды, мусіць, з акадэмічна-ўніверсітэцкай звычкі быў і ягоны неадменны паважны зварот да мяне. Амаль што заўсёды "Уладзімір Мікалаевіч" ці проста "Мікалаевіч", "Уладзя" ці "Валодзя" ў асабліва давяральнай абстаноўцы. Мне ж ён быў Пецем, Пецечкам, Пятром, Пятром Васільевічам...

Пятро як гаспадар напачатку чытаў "Ойча наш", потым адкладаў у місу пакрысе ад кожнай стравы і адносіў на падваконне. пасля гукалі мы: "Святыя дзяды, хадзіце сюды!", згадвалі сваякоў, якія пайшлі ў лепшы свет.

У пэўны момант Пецева дачушка Марылька сыходзіла ад стала разам з маімі Алесяй ды Хрысцінай, прыхоплівалі з сабою трохколерную котку Багданку, якая ставілася да гасцей спачатку крыху насцярожана, а потым даверліва, бо адчувала, мабыць, роднасны пах нашай хатняй улюбёніцы Та́йгі-Тыгры. Праз нейкі час дачушкі вярталіся з суседняга пакоя, прасілі ўвагі, абвяшчалі, што пакажуць інтэрмедыю ці

сцэнку паводле “Паноў Кубліцкага і Заблоцкага”. Абвяшчалі размеркаваныя ролі паноў ды дзеўкі Дрыпы, а таксама выканаўцаў, настойліва патрабавалі цішыні, аднак мы з Пятром Васільевічам, занятыя сваёй гамонкай, бывала, млява адмахваліся: “А мы, медждy протчым, яшчэ не ў партэры, мы яшчэ ў бухвеце!”



*Уладзімір СІЎЧЫКАЎ і Пятро ВАСЮЧЭНКА.*

На Дзядах згадвалі памерлых, але заўсёды шанаваў Пятро Васільевіч усё жывое і ўсё існае на зямлі. Пра тое сведчаць і экалагічная казка “Каляровая затока”, і паэтычны зборнік “Піраміда Ліннея. Бестыярый”, падпісаны (яшчэ адзін улюбёны Пятроў выраз!) такім чынам: “Спадарам Сіўчыкавым і Шастакам на ўспамін пра “Клёцкі-2008”. Пятро Васючэнка. 01.11.08”.

Думаю, што не какетнічаў Пятро Васільевіч і з натуры, з члена сям’і – Багданкі – спісаў вершык “Котка”:

Дзеля чаго існуе котка,
Пралаза, шэльма і какотка?
Знішчаць мышыную пароду,
Чыніць паўсюль малую шкоду.

Умеў быць Пятро Васільевіч іранічным і самаіранічным, а таксама не баяўся падацца смешным. Памятаю, як драматург ператвараўся ў актора, станавіўся на кукішкі, удаваў з сябе ката́, выпускаў уяўныя кіпці і паказваў той самай Багданцы, як трэба карыстацца новай, набытай ім кіпцедрапкай. Помніцца і яшчэ адзін эпізод: Пятро Васільевіч ведаў, што стаіць дачушка Марылька, развітваецца ля пад’езда са сваім кавалерам, і, не раўнуючы што той кароль у выкананні Яўгена Лявонава з кінафільма Марка Захарава “Звычайны цуд”, усё парываўся на міжкватэрную пляцоўку калі не падгледзець, дык хоць падслухаць: “Я толькі крыху падслухаю! Я ж бацька, я хвалююся, я перажываю!”

Каб не дужа задаваліся, Пятро Васючэнка памясціў у свой паэтычны бестыярый і людзей, у тым ліку і самога сябе:

Дзеля чаго існую я?
Па гараскопе я – Свіння,
І Вадаліў, і Кіпарыс.
Такі мой зорны відарыс.
І калі я жыву пад небам,
Дык, значыць, некаму патрэбен.
Жывуць усе, жыву і я,
Са мною – ўся мая сям’я.

Прычым, як падаецца мне, сям’ю разумеў ён у шырокім сэнсе. Неад’емнай часткаю яе былі ўсе, каго я ведаў, – не толькі жонка і дачка, але, натуральна, і мама Галя, брат Саша, і сем залвіцаў з іх мужамі, і два швагры, і пляменнікі, і шматлікія альберцінскія родзічы. Хоць і можна было пачуць часам ягонае знакамітае “Цешча,

а не дурэце маёй галавы!", аднак Марыю Міхайлаўну ён дужа шанаваў, а творы свае перасыпаў запісанымі ад яе сакаўнымі прыказкамі, прымаўкамі ды выслоўямі, няраз хапаўся за асадку з нататнікам: "Чакайце, дарагая цешча, зараз піснэ!"

Хай даруе мне і найшаноўная Ніна Іванаўна, але больш за два дзесяцігоддзі быў Пятро дваяжэнцам – бездань увагі, сіл і цяпла аддаваў ён... кафедры беларускай мовы і літаратуры лінгвістычнага ўніверсітэта. Хай даруе мне мілая Марылька, але бязмерна любіў ён і сваё дзецішча – навукова-вучэбна-метадычны цэнтр пры той кафедры.

Але вярнуся да "Пірамідзы Лінея". Патрапіла пад вокладку і вершаванае чатырохрадкоўе пра студэнтаў, з якімі Пятро Васільевіч сутыкаўся і працаваў цягам дзесяцігоддзяў у лінгваўніверсітэце ды на журфаку сваёй *alma mater*, які сам калісь скончыў:

Навошта створаны студэнты?
Каб іх тыранілі дацэнты,
Каб іх скубалі дактары,
Каб засыхалі без пары.

Не думаю, што надта ўжо цярпелі ад Васючэнкі ягоныя студэнты і аспіранты, бо ведамі сваімі дзяліўся ён вельмі ахвотна, вучыў, а не павучаў, і аніколі не чуў я, каб ён на кагосьці падняў голас. Магу засведчыць і тое, што быў ён чалавекам неканфліктным, але цвёрдым, як камень, у сваіх прынцыпах і перакананнях, бо не раз бываў на ягонае запрашэнне з выступамі і на кафедры, і ў цэнтры – расказваў студэнтам, аспірантам ды выкладчыкам і пра сваю творчасць, і пра сучасны літаратурны працэс, і пра выдавецкую справу, і пра кніжныя навінкі. Там і дазнаўся, што некаторыя студыёзусы гарэзнічалі – пісалі свае опусы, мадрыгалы ды эпіграмы ў стылі "а ля Васэчэнка".

Склаўся і ў мяне экспромт, які, праўда, так і не агучыў сябру:

Навошта створаны Пятро, –
Крывіч, салдат універсальны?
Каб множыць веды і дабро.
І зніч ягоны незгасальны.

І яшчэ такі:

Навошта Васючэнка Пеця
Існуе ў беларускім свеце?
Ён стойкі рыцар Адраджэння
І прыклад Крыўі паслужэння.

Лінгвауніверсітэт месціўся і месціцца ў цэнтры горада, на вуліцы Захарава, а мой выдавецкі офіс немалы час быў на паралельнай вуліцы Фрунзе. Таму гэта было яшчэ адно наша суседства і, каб завітаць да мяне, Пятру варта было толькі прамінуць нямецкую ды польскую амбасады, а таксама колішні наш пісьменніцкі Дом літаратара.

Выдавецкая супрацоўніца Аксана са знакавым, паэтычным прозвішчам Багдановіч дзівілася і нават дакарала – маўляў, чаму, навошта вы цвеліце Пятра Васільевіча "панам прахвэсарам"?! Даводзілася тлумачыць, што ў тым не было і намёку на жаданне пакрыўдзіць кандыдата філалагічных навук, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза тэатральных дзеячаў, што гэта цалкам палягала ў рэчышчы спавяданага ім "полацкага іранізму", а сам Пятро, вялікі жартаўнік і самаіраніст, неадменна ўдакладняў сваё пачэснае званне "пан прахвэсар" дадаткам "...беларускай басоты". І гэта аніколі не замінала нашай плённай супрацы. Найчасцей я выступаў генератарам ідэй і рухавіком праектаў, выдаўцом і літаратурным агентам, а Пятро – ізноў

жа “эўрыстам”, укладальнікам, прадмоўшчыкам і аўтарам.



*На Радзе Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

Мала хто ведае, але з-пад яго пяра ў 1996 годзе выйшлі пад жаночымі псеўданімамі два раманы ў жанры *love story* – “Скитания беспутной, или Венденская ваза” і “Глинтвейн на двоих”, за якія ўпершыню ў жыцці атрымаў ён даляравы ганарар. Як пераклаў бы тыя тэксты на беларускую мову, дык яны і сёння чыталіся б хораша.

Гэтаксама ў Маскве выйшаў навукова-папулярны, але фундаментальны том “Великие писатели XX века”, дзе выступіў Пятро ўкладальнікам, рэдактарам, аўтарам прадмовы, пасляслоўя і кароткага слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў і паняццяў, а таксама аўтарам многіх артыкулаў. Пабыў ён тады крыху і містыфікатарам: напісаў пра некаторых класікаў сусветнае літаратуры пад двума псеўданімамі.

З’яўляўся ён адным з аўтараў кніг “Сучасная беларуская проза: традыцыі і наватарства” з прыпавесцю “Белы мурашнік” і “Сучасная беларуская драматургія: традыцыі і наватарства” з п’есай-казкай для тэатра лялек “Хведар Набілкін – беларускі касінер”. Апошнюю Пятро яшчэ і ўклаў, напісаў да яе ўступнае слова.

У суаўтарстве з Лявонам Баршчэўскім і Міхасём Тычынам, вядомымі ў Беларусі філолагамі-літаратуразнаўцамі і пісьменнікамі, якія мелі вялікі досвед выкладання літаратуры ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах Беларусі і замежжа, падрыхтаваў амаль 600-старонкавы том “Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён: папулярныя нарысы”.

Не адзін год доўжылася наша супольная праца і ў рэдакцыйнай радзе 51-томавай серыі “Мая беларуская кніга” поруч са згаданымі ўжо Лявонам Баршчэўскім, Міхасём Тычынам, а таксама Уладзімерам Арловым. Праводзілі паседжанні, на якіх абмяркоўвалі план-праспекты, бясконца сазвоньваліся і дзяліліся меркаваннямі, спрыялі адзін аднаму ў складанні тамоў класікі. На чацвертыя старонкі вокладак трэба было панапісваць сціслыя (да 800 друкарскіх знакаў!) тэкстоўкі, у якіх мусілі прывабна расказаць чытачам пра аўтараў і пэўныя творы. Пятро ахвотна браўся і за гэту, здавалася б, малаўдзячную працу: “Ян Баршчэўскі, Быкаў, Бядуля, Дунін-Марцінкевіч, Караткевіч, Купала, Ластоўскі, Мележ, Мрый, Шамякін – усё гэта мае аўтары! Абавязкова напішу!” Ахвотна браў ён удзел і ў прэзентацыях серыі, прапагандаваў яе найперш сярод сваіх студэнтаў.

Быў Пятро і цудоўным бацькам. Аднаго дня парэкамендаваў ён і сваю падрослую дачушку як перспектыўную аўтарку для нашай выдавецкай серыі “Беларускія ЕўраГраматыкі”. Марыля справілася са складаным заданнем: напісала “Кароткую граматыку англійскай мовы”, па якой і сёння навучаюцца ў Беларускім ліцэі імя Якуба Коласа.

Веды ў Пятра былі грунтоўныя, начытанасць фенаменальная, працаздольнасць проста неверагодная, а развагі і меркаванні не галаслоўныя, а падмацаваныя цытатамі з класікаў. Меў ён талент не толькі чытаць, але і прачытваць тэксты – мастацкія і навуковыя. Таму шчыраваць над кожнай кнігай серыі, рыхтаваць іх да друку было і карыснай працай, і немалым задавальненнем.

Пра гэта і сёння сведчаць ягоныя шматлікія дэдыкацыі на тытульных аркушах ягоных аўтарскіх кніг кшталту: “Валодзю Сіўчыкаву – генератару ідэй, закладзеных у гэты праект, без чыёй энергіі, падтрымкі і ініцыятывы аўтар не дачакаўся б гэтага выдання. Быць вялікім ва ўсім!”, “Раі і Валодзю і меншым Сіўчаняткам ад складальніка – ад аўтара-складальніка. Вось і мы ў сям’і вялікіх! Вялікага вам шчасця, удачы, дабрабыту і дужасці!”, “Кніга – не “цагліна”, а карабель, які паплыве, спадзяюся, па хвалях літаратурнага і калялітаратурнага мора. Шчаслівага плавання! Складальнік – рэдактару, Пятро Васючэнка – Уладзіміру Сіўчыкаву. 8.07.03”, “Валодзю Сіўчыкаву і ўсёй ягонай радзіме, з удзячнасцю і пажаданнем подзвігаў магчымых і немагчымых. Шчыра. Пятро Васючэнка. 02.11.2013. Дзяды” або “Валодзю Сіўчыкаву на ўспамін пра “Тутэйшых” і літаратурныя вандроўкі. Верасень, 1993 г. Магілёў”. Апошні з гэтых аўтографаў у кнізе прозы “Белы мурашнік” нагадвае пра наш сумесны ўдзел у семінары маладых драматургаў, які прайшоў на базе Магілёўскага абласнога лялечнага тэатра, галоўным рэжысёрам у якім працаваў тады Алег Жугжда.

Акрамя літаратурных, былі яшчэ і краязнаўчыя вандроўкі па Беларусі з Антонам Астаповічам. Адна з іх палягала па Браслаўскім краі, па землях любімай Пятром Крывіі. Гэта калі ў нядзелю ранюсенька падцягваліся студэнты ды інтэлектуалы-беларусафілы да аўтобуса на пляцоўцы непадалёк каланады Акадэміі навук і той выпраўляўся ажно ў Глыбокае з паўміфічнай Мюнхгаўзенавай магілай ды ацалелай калонай у гонар Канстытуцыі 3 мая, з велічным Траецкім касцёлам у стылі позняга барока ды касцёлам і кляштарам кармелітаў. Прыпыняліся ў былых мястэчках Удзела, Мосар, Слабодка, Браслаў, Опса і Відзы, аглядалі тамтэйшыя славутасці, слухалі нашага абазнанага гіда...

Былі дыскусіі ды абмеркаванні навінак на кніжных выставах, былі супольныя выступы ў тэлевізійных і ў радыёстудыях, а таксама ў бібліятэках, у школьных і студэнцкіх аўдыторыях.

Былі выезды на навукова-практычныя канферэнцыі, сярод якіх найбольш запомнілася тая, што адбылася ў Полацкім універсітэце з ініцыятывы шаноўнага прафесара Аляксандра Гугніна.

Гэтаксама садзіўся я за стырно сваёй “Аўдзі”, калі выязджалі мы ў маё роднае Жодзіна на першыя Радзівілаўскія чытанні “Значэнне і роля роду Радзівілаў у гісторыі Беларусі”. Праводзіліся яны з нагоды 390-годдзя заснавальніка Жодзіна князя Багуслава Радзівіла (1620–1669). Маё паведамленне мела назву “З вопыту выдання кнігі “Багуслаў Радзівіл. Аўтабіяграфія”, а даклад Пятра Васільевіча – “Фальклорныя вытокі літаратурнага вобразу Радзівіла Пане Каханку – беларускага Мюнхгаўзена”. Не падлягае сумненню, што думаў Пятро “пра няўрымслівага ў пахвальбе князя, калі ствараў аповесці-казкі пра паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Больш за тое, белетрызаваны і фалькларызаваны вобраз беларускага Фальстафа і Мюнхгаўзена бачыўся яму падставай для гістарычнай хронікі, рамана, бурлеска XXI стагоддзя, а жанр фэнтэзі лічыў ён адгалінаваннем літаратурнай казкі. Творча пераймаў Пятро традыцыі свайго земляка Яна Баршчэўскага як пісьменнік-практык, і нездарма менавіта ў родным Полацку быў уганараваны Гліняным Вялесам, адной з нешматлікіх ягоных узнагарод. “*...Не бывае прарока без пашаны, хіба што толькі на бацькаўшчыне сваёй, і ў доме сваім”*. Паводле Мацвея Святое Дабравесце, 13:57.

Надараліся ў нас сябрыны з гісторыямі, показкамі, байкамі ды небыліцамі і на Пецевым лецішчы пад Гарадзішчам, і на маім, што на Лысай гары, пад слаўным Заслаўем, а таксама зацікаўленыя абмены ўражаннямі ад заморскіх і заакіянскіх ваяжоў падчас памятных сямейных застолляў у Пецевым Полацку і ў Ніным Альберціне, што пад Слонімам.

Надараліся ў нас і сумесныя паходы ў тэатры, а ў іх ліку і на прэм’еру монаспектакля “Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага і Заблоцкага” рэжысёра-па-

становўшчыка Галіны Дзягілевай, што адбылася ў дольнай зале касцёла святых Сымона і Алены.

Бывала, станавіліся мы поруч як аўтары на старонках беларускіх перыядычных выданняў. Да прыкладу, у лютаўскім нумары часопіса "Маладосць" 2004 года адразу пасля ягонай п'есы (гульні з прывідам у дзвюх дзеях) "Пясочны гадзіннік" апублікавана маё слова на дарогу для маладой мастачкі і літаратаркі "Quo vadis, або Эскіз да партрэта".

* * *

Пятро пачаў выступаць у рэспубліканскім друку раней за мяне, а вось сябрамі творчай суполкі, Саюза беларускіх пісьменнікаў, сталі мы амаль што адначасна.

Пазней, у спрыяльны час, Пятро не толькі падказаў мне ўступіць і ў Беларускі ПЭН-цэнтр, які ўспрымаў я тады як закрыты элітарны клуб для выбраных і не асмельваўся прэтэндаваць на сяброўства ў ім (і які, дарэчы, днямі адзначыў сваё 30-годдзе). Не толькі даў тую слушную параду, але і напісаў, даў у шэрагу з Алесем Аркушам, Адамам Мальдзісам і Алесем Разанавым рэкамендацыю, дзе рэзюміраваў: "Лічу, што творчыя і арганізатарскія якасці, незалежныя і дэмакратычныя погляды Уладзіміра Сіўчыкава даюць яму поўнае права стаць сябрам Беларускага ПЭН-цэнтру".

Мая старэйшая дачка Алеся і жонка Раіса былі студэнткамі Беларускага калегіюма, слухалі лекцыі Пятра Васільевіча, а жонка пад ягоным кіраўніцтвам пісала і выпускную працу – эсэ "Люблю Мінск". На жаль, ужо не выкладаў ён у легендарным Беларускім ліцэі імя Якуба Коласа, калі прыйшла туды вучаніцай мая малодшая дачка Хрысціна.

Аніразу не адмовіў ён, неадменна прыходзіў на прэзентацыі маіх аўтарскіх кніг "Лісты да брата", "Бювар", "Высакосны год" і "Уладзевы гісторыі", браў слова, якое заўсёды было мудрым і густоўным. Больш за тое, да першых дзвюх напісаў Пятро пасляслоўі, а на "Уладзевы гісторыі" адгукнуўся грунтоўнымі рэцэнзіямі, за якія я яму і сёння вельмі ўдзячны. Стараўся не заставацца ў даўгу: апублікаваў разгорнуты водгук-бурлеск "Трынаццаты чын" на Пятроў раман-бурлеск "Дванаццаць подзвігаў Геракла".

Даражыў я сумоўямі з ім, вельмі цаніў час, праведзены разам. Неяк падзяліўся з Пятром сваімі сумненнямі ў адной складанай сітуацыі, а ён замест наўпроставай парады падзяліўся ці не сваім жыццёвым крэда, прызнаўся, што кіруецца народнай мудрасцю: "Не рабі благога і не бойся нічога!"

* * *

Пераглядаю фотаздымкі з Пятром, і вынікае, што большасць з іх маюць творча-вытворчыя сюжэты, бо быў ён руплівым творцам і нястомным працаўніком. Першае сумеснае фота зафіксавала нас у Пецевым дамашнім кабінеце, які быў яму і за бібліятэку.

Адны з апошніх здымкаў – з Музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе праходзіла ягоная юбілейная імпрэза. Падчас выступу прэзентаваў я яму, шчасліваму дзеду, сваю кніжку вершаў дзецям "Багоўка" для ўнучкі Басенькі, Барбары Караліны і ўнука Казіка, Казіміра Тадэвуша. А цяпер бачыцца мне выцінанка – папяровы голуб на музейнай сцяне – сімвалам святога духу, а мудры Янка Маўр на жывапісным партрэце ўспрымаецца як святы Пётра, што паглядаў на юбіляра і, мабыць, ужо прычэкваў каля райскай брамы.

А самыя апошнія супольныя фатаграфіі былі зробленыя ў студыі ў радыёжурналісткі Галіны Шаблінскай, на запісе перадачы (ізноў жа з нагоды ягонага 60-гадовага юбілею) на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё з

удзелам Ірыны Багдановіч, Ірыны Бурдзялёвай, Алега Вінярскага, Навума Гальпяровіча, Галіны Дзягілевай і Аксаны Спрынчан.

* * *

У адным са сваіх бліскучых эсэ “Як беларусы ў больніцы ляжаць” Пятро зазначыў, што “Зазвычай беларусам улетку няма калі хварэць ды паміраць”, але ж сам і абвергнуў тую тэзу: адышоў у іншасвецце ў той жнівеньскі дзень, калі пахавалі паэта і празаіка Леаніда Дайнеку. Мімаволі і з горыччу думалася: “Заручыўся з Богам у самым росквіце творчых сіл! Гэта ж як шмат ён паспеў здзейсніць і стварыць! А колькі яшчэ мог бы зрабіць, каб было яму адмерана яшчэ дваццаць гадоў!”

Не быў Пятро Васільевіч Гераклам, волатам целам, але, несумненна, быў волатам інтэлекту, таленту і духу.

Нёс ён у свой дом і хлеб надзённы. Апошнім вечарам ліфт не падняў яго на пяты паверх, затое ўзнёсся Пятро ў нябёсы. Можа, прагучыць гэта крыху парадаксальна, але нават сваім раптоўным адыходам ашчадна, з любоўю паставіўся ён да сваіх дзяўчат, да іншых родных і блізкіх.

Вернікі кажуць, што Гасподзь дорыць лёгкую, імгненную смерць праведнікам. Мабыць, варта пагадзіцца з гэтым, але, думаецца мне, што не глядзеў сябе шаноўны Пятро як след, не абследаваўся, не апекваўся сваім здароўем, бо не хацеў, каб дактары “корпаліся ў ягоных шлунках”. Нават у вечар свайго адыходу адмовіўся ён ехаць на “хуткай дапамозе” ў больніцу, маўляў, трэба глядзець хворую, ляжачую маму!

Усходнія могілкі, на якіх знайшоў Пятро вечны супакой – найбліжэйшыя да яго Уручча, дзе пражыў ён роўна палову свайго жыцця. На тым лапіку беларускай зямлі, на адным з нацыянальных пантэонаў пакоіцца ягоны прах. Пакоіцца непадалёк ад магіл іншых слаўных сыноў нашае Бацькаўшчыны, а найбліжэй – ад магілы ўраджэнца яго Віцебшчыны Генадзя Бураўкіна.

* * *

Пятро Васільевіч па-новаму прачытаў купалаўскія п’есы, быў знаным тэарэтыкам і практыкам беларускай драматургіі, аўтарам грунтоўнейшых даследванняў “Беларуская літаратура і сімвалізм”, “Янка Купала і сімвалізм”, “Максім Багдановіч і сімвалізм”. Мабыць, таму і ў лёсе ягоным было шмат сімвалічнага. Нават сарачыны па ім, на якіх давялося мне выступіць за маршалка, адбыліся ў кавярні “Аўстэрыя Уршуля”, якая месціцца ў будынку нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Сімволіку можна ўбачыць і ў тым, што саракавіны тыя прыпалі на Дзень настаўніка, а Пятро Васільевіч быў Настаўнікам з вялікае літары. Сотні ці нават тысячы навучэнцаў і студэнтаў памятаюць ягоную знакамітую мантру. “Літаратура – гэта што?” – звяртаўся ён да аўдыторыі і чуў шматгалосы адказ: “Літаратура – гэта тэксты!” На наступнае пытанне: “А з тэкстамі што трэба рабіць?” – моладзь дружна адгукалася: “Тэксты трэба чытаць!”

Казалі на той жалобнай вечарыне ў “Аўстэрыі Уршуля”, што апошнім сваім зямным часам Пятро ўпотайкі маліўся перад абразамі, казаў, што паспеў парабіць усё, што хацеў, прызнаваўся, што гатовы, каб Гасподзь прызваў яго...

* * *

Пісаў шаноўны Пятро Васільевіч, што пісьменнік папраўдзе адбыўся, калі стаў носьбітам адметных ведаў, калі стварыў свой мастацкі свет. Пятро Васючэнка, выдатны літаратар і мысляр, свой адметны мастацкі свет стварыў. Прыдумаў Пятро і сваю, аўтарскую форму празаічных мініяцюр – пятрогліфы.

Прыгадваю, як аднаго дня запрашаў яго на прэзентацыю сваёй кнігі ў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. “А што мы там будзем рабіць?” – спытаўся Пятро Васільевіч. – “Як гэта што?! Будзем уваходзіць у гісторыю беларускай літаратуры, прычым на дзяржаўным узроўні!” – пажартаваў я тады.

Але зараз мне не да жартаў. Самая строгая пані суддзя вызначае ягонае месца ў нашае літаратуры. А я сёння мушу сказаць, што Пятро Васючэнка папраўдзе і адметна, годна ўвайшоў у гісторыю беларускага прыгожага пісьменства. Прынамсі, яго казачныя гісторыі пра авантуры шалапутных паноў ужо сталіся класікай беларускай дзіцячай літаратуры. Ці не найлепшым доказам таму нядаўняя выдатная навіна: Васючэнку намінавалі на шведскую прэмію ў галіне дзіцячай літаратуры ALMA (*Astrid Lindgren Memorial Award*).

Пятро Васільевіч больш нічога не напіша. Таму сёння нават ягоныя дэдыкацыі прачытваюцца іначай, напаўняюцца глыбінным сэнсам.

Таму мусім перачытваць напісанае, створанае ім, перавыдаваць апублікаванае, ставіць на Скарынаў варштат тое, што не пабачыла свет пры Пятровым жыцці, бо выданне і перавыданне твораў – ці не пайлепшы помнік пісьменніку. Тым болей, што чакаюць зацікаўленага чытача ягоны раман-казка ў стылі ракако “Папялушка праз дзесяць гадоў”, “Крыўскі кішэнны слоўнік”, які можна параўнаць са слоўнікам Вацлава Ластоўскага і “Хазарскім слоўнікам” Міларада Павіча, слоўнікам як мастацкім творам, а таксама іншыя тэксты з ягонай творчай спадчыны.

*На Дзень усіх святых 2019 года.*

## Алесь УСЕНЯ

### Ад смешнага да вялікага

Неяк пачуў ад сябра:

– Студэнцкае жыццё – самае лепшае, самае памятнае. І каб была такая магчымасць, дык год студэнцтва аддаў бы за два гады звычайнага жыцця.

Я пагадзіўся і ад сябе дадаў:

– Асабліва тады, калі ты падчас вучобы жыў у інтэрнаце.

Хто такі, па сутнасці, студэнт? Гэта ўжо не маленькі, не бездапаможны чалавечак, якога дагэтуль апекавалі бацькі і школьныя настаўнікі, падказвалі, што добра, а што дрэнна, можна сказаць, пільнавалі ці з пугай, ці з пернікам.

І ў той жа час студэнт – гэта яшчэ не самастойны чалавек, які цалкам узяў на сябе адказнасць за сваё існаванне. Яму не трэба задужа абцяжарвацца думкамі пра адзежыну і кавалак хлеба, бо яшчэ не парвалася сувязь са спонсарамі-бацькамі, дый “скупендыя” (так мая бабуля з-за непісьменнасці называла стыпендыю) не дасць памерці з голаду. А калі ў цябе ёсць яшчэ і дах над галавой, месца ў інтэрнаце, дык гэта ўжо райскае жыццё, нірвана. Менавіта інтэрнат дае адчуванне самастойнасці і студэнцкай еднасці. Нездарма мае аднакурснікі-мінчукі, як мне здаецца, адчувалі сябе абдзеленымі і часцяком наведваліся ў нашы гаманлівыя пакоі.

Якраз з інтэрната пачалося маё знаёмства, а потым і сяброўства з Пятром Васючэнкам. Мы тады нават яшчэ не былі студэнтамі, а толькі паступалі на факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Усіх абітурыентаў з перыферыі на час уступных іспытаў засялілі ў інтэрнат на ўскраіне сталіцы – у Шчомысліцах. Мне выпала жыць у адным пакоі з Пятром Васючэнкам і Славам Булацкім. Абодва – такія ж, як і я, учарашнія школьнікі, таму, як кажуць, агульную мову ўдалося знайсці хутка. Зрэшты, агульнаю мова якраз і не была. Я, вясковы хлопец, размаўляў па-беларуску. А Слава і Пятро – гарадскія: адзін з Бабруйска,

другі – з Полацка. Яны, вядома, разумелі маю гамонку, але самі беларускія словы ўжывалі толькі як экзатычныя. (З часам усё перавернецца з ног на галаву: я пачну выдаваць папулярную рускамоўную газету, а Пятро Васючэнка, асвоіўшы мову, можна сказаць, з нуля, стане знакамітым беларускамоўным пісьменнікам.)

Пятро, Слава і я цвёрда верылі, што ўсе трое, хоць і living рознымі сцежкамі, "прарвёмся" на факультэт журналістыкі. Для гэтага ў кожнага была свая падстава.

Пятро – энцыклапедыя ведаў, для яго здаць іспыты – як вылушчыць жменю гарбузікаў. Найбольш мяне ўразіла ягонае веданне французскай мовы. Пятро нават прызнаўся, што перакладае дэтэктыўны раман нейкага французскага аўтара.

У мяне – амаль сотня апублікаваных заметак, артыкулаў і вершаў, процьма дыпломаў і грамат. Павінна ж гэта ўлічыцца.

А пра Славу Булацкага і гаварыць няма чаго. Пропускам на факультэт будзе ягонае прозвішча, лічылі мы: як-ніяк, а дэкан журфака – ягоны дзядзька...

Так што падчас уступных іспытаў на падручнікі мы не надта налягалі. Тым больш што "не наеўся – не наліжашся". А гэта значыць, вольнага часу было досыць. І мы з Пятром сталі заляцацца да дзвюх дзяўчат, таксама ўчарашніх школьніц, якія жылі ў суседнім пакоі і рыхтаваліся да іспытаў. Шчыра кажучы, гэта была мая ініцыятыва, бо наконт заляцанняў я ўжо меў такі-сякі вопыт, а Пятро, як мне здавалася, увогуле быў "нецалаваны". Але пры выпадку ён мог пасмакаваць даволі салёны анекдот, кінуць панадны позірк услед пекнай дзяўчыне, аблізаўшы свае пульхныя пачуццёвыя вусны. Дарма, што знешне Пятро выглядаў на "батаніка" – хударлявага падлетка ў акулярах. Адчувалася, што ў ягонай душы палаюць жарсці будзь-будзь! І ён з вялікай ахвотай пагадзіўся стварыць са мною "кавалерскі тандэм".

Зрэшты, нашы заляцанні далёка не зайшлі і ніякага плёну не прынеслі. Два ці тры разы мы пасядзелі ў пакоі дзяўчат, разумна паразмаўлялі, і на гэтым усё скончылася, хаця мы з Пятром толькі ўвайшлі ў смак, тым больш што дзяўчаты былі прыгажунямі.

У інтэрнат засяліліся два самавітыя маладзёны, якія ўжо адслужылі ў арміі, шыракаплечыя, гонкія – не раўня нам, смаркачам. Яны, натуральна, паклалі вока на самых пекных дзяўчат на паверсе і ўзялі іх у аблогу. На разумныя размовы маладзёны часу не трацілі, адразу ж "узялі быка за рогі", і дзяўчатам гэта спадабалася больш, чым нашая з Пятром "артпадрыхтоўка". Яно і праўда: як высветлілася пазней, дзеўкі былі спрактыкаваныя ў любошчах, дарма што зусім юныя, дык і навошта ім "малакасосы", якія ў лепшым выпадку памацаюць за калені?..

Карацей кажучы, мы з Пятром атрымалі поўны адлуп. Як толькі з'явіліся сапраўдныя самцы, прыгажуні нават не глядзелі ў наш бок.

Каб выклікаць "самцоў" на нейкае рысталішча, і думаць не было чаго: насоўгалі б нам у каркі як мае быць. Затое нас ахапіла прага помсты да "здрадніц". А як мы маглі ім адпомсціць? Толькі словам.

Я прапанаваў Пятру напісаць пра іх байку, маючы на ўвазе, што тварыць буду сам, а Пятро толькі выправіць памылкі. І вось тут мяне напаткала нечаканка. Пятро не толькі ўспрыняў маю задуму з імпэтам, але і пажадаў паўдзельнічаць у творчым працэсе самым непасрэдным чынам. Го, дык гэта ж яшчэ лепш!

Змусіўся пагадзіцца, што пісаць будзем па-руску, бо Пятро ў беларускай мове амаль ні бум-бум.

Пісалася нам лёгка, спорна, бо, як кажуць, набалела: ён радок, я радок, у яго ўдалая рыфма, у мяне нечаканая метафара...

Байка атрымалася доўгая, злая, вульгарная і, напэўна, дасціпная. Пішу "напэўна", бо ў памяці яна не захавалася, прыгадваюцца толькі першыя радкі:

Живут на пятом этаже
Две Кошечки на букву «ж».
И там же, рядышком совсем,
Есть два Кота на букву «м».
Всегда в кошачьей сей семье
Идет процесс на букву «е»...

А яшчэ не сцерся з памяці фінал:

Мораль найдете вы потом:
Она у Кошек под хвостом.

Напісаць напісалі, але як жа гэты опус увесці ў вушы “здрадніцам”? На сцяне калідора цыдулку не наклеіш – чаго добрага, распачнецца скандал, дарослыя дзядзькі пачнуць шукаць аўтараў... Прыйшлі да высновы, што твор трэба перадаць з рук у рукі, але пры гэтым мы як быццам і ні пры чым. Мне, трохі хітрэйшаму, удалося пераканаць наіўнага Пятра, што менавіта ён павінны выканаць ролю кур’ера.

– Мяне могуць западозрыць, а на цябе ніхто не падумае, – даводзіў я. – Ты інтэлігентны, прыстойны... Такія людзі на нешта кепскае не здольныя – гэта кожны скажа...

І Пятро – святая прастата! – “клюнуў”. Магчыма, яго заспакоіла легенда, якую я прыдумаў. Маўляў, ты, Пятро, ішоў па калідоры, а тут нейкі незнаёмы хлопец стаў упрошваць: занясі любоўную запіску ў ...ццаты пакой, бо там мая дзяўчына жыве, а мы з ёю ў сварах, дык турне мяне з пакоя разам з запіскай; маўляў, сказаў хлопец так, сунуў у руку цыдулку і сам хуценька знік з вачэй; а ягоны твар ты не разгледзеў, бо вельмі дрэнны зрок – гэта ўсе ведаюць...

Калі Пятро пасунуўся ў “пашчу льва”, я туляўся паблізу дзвярэй дзявочага пакоя, бо ўсё ж асцерагаўся, што раз’юшаныя “кошечки” сарвуць з ягонага твару акуляры і сваімі кіпцюрамі паспрабуюць выдраць яму вочы. Тады я і кінуся на дапамогу.

Аднак Пятро аказаўся больш абачлівым, чым я думаў. Ён зайшоў у пакой, хуценька прадэкламаваў нашу легенду, сунуў паперчыну ў рукі адной са “здрадніц” і – дай бог ногі. Так што ў нас быў час, каб зашыцца ў сваім пакоі, пакуль агаломшаныя “здрадніцы” дачытваюць байку да канца...

Дзяўчаты лямант не ўзнялі, і ў тым не было нічога дзіўнага: каму ж хочацца выстаўляць сябе ў гэткім ракурсе? Яны толькі аддалі рукапіс сваім самавітым кавалерам, і тыя ўзяліся шукаць аўтара, каб “расквэцаць яму морду”. Кур’ера Пятра “следчыя” пад увагу не бралі (ну як можна не паверыць такому прастадушнаму, культурнаму чалавеку?), аднак правільна вызначылі: незнаёмец, які перадаў паперчыну, добра ведае ўсе абставіны, а значыць, жыве побач. “Следчыя” вырашылі знайсці аўтара па почырку. Яны хадзілі па пакоях, кожнага прасілі накрэмзаць пару радкоў...

А хваробу! Мы з Пятром – не аболтусы, загадзя ўсё прадугледзелі і напісалі тэкст, так бы мовіць, друкаванымі літарамі.

Па стылі вызначыць зламысніка таксама было немагчыма, бо мы, абітурыенты, тады яшчэ адзін аднаго не ведалі, не здагадваліся, хто на што здатны...

Чаму я вырашыў прыгадаць менавіта гэтую гісторыю, хоць падчас сумеснага студэнцтва ў нас з Пятром здараліся і больш яркія эпізоды? Таму што ў сваіх нататках хачу акрэсліць асаблівасць літаратара Пятра Васючэнкі, пра якую, магчыма, ведаю лепш за ўсіх.

Сумесныя сатырычныя практыкаванні мелі працяг падчас вучобы, балазе, жылі ў адным інтэрнаце на вуліцы Кастрычніцкай. Мы, пяцёра аднакурснікаў, стварылі

сатырычна-музычны ансамбль “Абэндшнобель”. Назва была ўзятая, як кажуць, ад балды, нарадзілася спантанна і не мела ніякага сэнсу. Віця Чарнушэнка граў на гармоніку, Слава Наздрын-Платніцкі браў у рукі бразготку, Андрэй Мазанік дзьмухаў у свістульку, я арудаваў лыжкамі. А салістам стаў Пятро. Ён наведваў універсітэцкі хор, валодаў густым барытонам (а можа, нават і басам) і калі спяваў тэкст пад мелодыю “Вячэрняга звону”, яму мог бы пазайздросціць любы поп.

Ніводнай журфакаўскай вечарыны не адбывалася без удзелу нашага ансамбля. Спявалі ў асноўным частушкі, якія прыдумлялі мы з Пятром. Кажуць, няблага атрымлівалася...

...Быў 1999 год, толькі што адгрукатаў небывалы эканамічны крызіс, які нават багацеяў зрабіў амаль жабракамі. Выдаючы газету, цяжар таго крызісу я адчуў на сабе. Якраз у гэты час мне патэлефанаваў Пятро Васючэнка.

– Дапамажы выдаць маю кніжку, – папрасіў ён.

Ягоная просьба дзіўнай не здалася. На выданне кніг грошай ні ў кога не было, дзяржаўныя выдавецтвы, як кажуць, ляжалі, а я да тае пары паспеў дабрачынна выпусціць у свет некалькі кніг беларускіх аўтараў.

Хіба ж мог я адмовіць аднакашніку Пятру, хоць у самога “фінансы спявалі рамансы”? Пра адно толькі ў яго папрасіў:

– Ты мне на ўсякі выпадак перадай рукапіс: папярэдне хачу прачытаць...

Ад прачытанага я быў у захапленні!

Пра несумненны талент Пятра Васючэнкі, канечне, ведаў, аднак і ад яго не чакаў такой заліхвацкасці. Адразу ж набраў нумар ягонага рабочага тэлефона:

– Кідай усе справы, прышлю па цябе машыну, і кіруйся да мяне ў офіс: твой геніяльны рукапіс абавязкова трэба “замачыць”!

Варта сказаць, што ў маіх апартаментах быў “сталінскі” пакойчык, дзе я частаваў сваіх гасцей і дзе меўся міні-бар у выглядзе глобуса: там ніколі не пераводзіліся харошыя спіртовыя напоі. Пазней пра гэты “глобус” Васючэнка напіша ў адным са сваіх твораў.

Добра мы тады пасядзелі з Пятром, да позняга вечара. Нямала пахвальных слоў пачуў ён ад мяне за рукапіс кнігі “Прыгоды аднаго Губашлёпа”. І было за што!

Прататыпаў гумарыстычна-сатырычных апавяданняў я добра ведаў, бо яны “вынырнулі” са студэнцкага жыцця. Бянтэжыла толькі тое, што ў кнігі будзе два аўтары: Васючэнка і яшчэ адзін наш аднакурснік. Добра ведаючы творчы патэнцыял “суаўтара”, я дапытваў Васючэнку цэлы вечар:

– Прызнайся, Пеця: ён жа ні радка не напісаў, ніводнай метафары не ўставіў, як у нас некалі было. Проста распавёў табе некалькі гісторый, а ты, як чалавек высакародны, палічыў за абавязак паставіць ягонае прозвішча побач са сваім. Але ж калі так разважаць, дык і Пушкіна трэба лічыць суаўтарам “Мёртвых душ”, бо менавіта ён падказаў Гогалю сюжэт. Скажы, Пеця: я не памыляюся, наш аднакурснік да гэтай кнігі “з боку прыпёку”?

Аднак мае допыты ніякага плёну не прынеслі: Пятро трымаўся, як партызан у гестапа:

– Пісалі ўдвух...

Неўзабаве кніга была выдадзена (увесь наклад я аддаў Пятру, каб ён паправіў сваё матэрыяльнае становішча), аднак яна, мне здаецца, не была належна ацэнена.

У беларускай літаратуры шмат гумарыстычных і сатырычных здабыткаў, асабліва ў драматургіі і паэзіі. А што датычыць празаічных твораў буйных памераў (раманаў і аповесцяў), дык іх яўна бракуе. Наўскідку прыгадваюцца толькі “Запіскі Самсона Самасуя” Андрэя Мрыя ды “Бацька ў калаўроце” Рыгора Семашкевіча. Зрэшты, і ў гэтых творах гумарыстычна-сатытырычныя кавалкі тэксту мяжуюцца са звычайнай прозай. Рамана накшталт “Дванаццаці крэслаў” ці “Залатога цяляці” Ільфа і Пятрова, якія выклікаюць усмешку з першага да апошняга абзаца,

у нашай літаратуры, на жаль, нямашака.

Таму я і быў у захапленні, чытаючы рукапіс Пятра Васючэнкі: гумар пырскаў літаральна з кожнага радка, з кожнага сказа, хацелася не толькі смяяцца, але і рагатаць.

І як жа я ўзрадаваўся, калі напрыканцы нашай вячэры ў офісе Пятро прызнаўся, што задумаў напісаць вялікі сатырычна-гумарыстычны твор. Прычым ён не меў на ўвазе працяг сваёй "эпапеі" пра паноў Кубліцкага і Заблоцкага. Пра што будзе гэты твор, Пятро мне не сказаў – мусіць, каб не сурочыць. Адно запытаўся:



*60-годдзе Пятра ВАСЮЧЭНКІ. Музей гісторыі беларускай літаратуры.*

– А ты яго выдасі?

– Выдам і зноў жа аддам табе ўвесь наклад.

У мяне не было сумнення, што гумарыстычны раман Васючэнкі стане падзеяй у беларускай літаратуры. Аднак карты, як кажуць, не леглі...

Я некалькі разоў цікавіўся ў Пятра, як рухаецца праца над творам, але ён казаў, што ніяк, спасылаўся на вялікую занятасць. Яно і праўда: апрача штодзённай працы на кафедры Васючэнка часта выступаў у друку з артыкуламі, рэцэнзіямі, эсэ, пісаў п'есы...

І тут зраблю невялікую рэмарку. Пушкін напісаў выдатныя празаічныя творы "Капітанская дачка", "Дуброўскі", "Аповесці Белкіна", Лермантаў – "Герой нашага часу", але найперш мы ўспрымаем іх як паэтаў. Менавіта як паэт у нашай свядомасці існуе Янка Купала, і толькі ўжо затым мы ўзгадваем яго геніяльную драматургію ("Тутэйшыя", "Паўлінка"). А Уладзімір Караткевіч для нас – у першую чаргу аўтар захапляльнай прозы, якая абудзіла цікавасць беларусаў да роднай гісторыі, і не надта часта згадваецца, што Караткевіч пісаў не менш таленавітыя вершы.

Пятро Васючэнка быў літаратарам шматпрофільным, шматгранным: празаік, літаратуразнаўца, крытык, драматург, эсэіст... Але мы маглі б найперш успрымаць яго як выбітнага сатырыка, гумарыста, калі б ён напоўніцу разгарнуў свой талент менавіта ў гэтым жанры, тым больш што адметных сатырыкаў-гумарыстаў за ўсю гісторыю беларускай літаратуры было не надта многа – прозвішчы можна пералічыць на пальцах адной рукі. Застаецца толькі атрымліваць асалоду ад тых іскрамётных твораў, якія Пятро Васючэнка пакінуў пасля сябе...

Зрэшты, у жыцці Пятро быў сур'ёзным чалавекам, хаця досыць часта ад яго можна было пачуць дасціпны жарт і іранічную рэпліку. Ён, напрыклад, захапляўся шахматамі (а гэтая гульня патрабуе сур'ёзнасці!). Менавіта шахматы сталі для нас дадатковай падставай для таго, каб зблізіцца падчас студэнцтва. У дзяцінстве і юнацтве шахматы мяне таксама дужа цікавілі, але я больш налягаў на рашэнне і складанне задач ды эцюдаў. А Пятро быў, так бы мовіць, практыкам. І калі мы садзіліся за шахматную дошку, часцей перамагаў ён. Праўда, гэтаму быў і іншы вытлумак. Я чалавек азартны, імпульсіўны, часта рабіў неабдуманыя хады, а Пятро "перш чым адзін раз адрэзаць, сем разоў адмяраў"...

Натуральна, падчас каманднага чэмпіянату ўніверсітэта па шахматах нам з Пятром выпала гуляць на першых дзвюх дошках. А каму на якой? Мы вырашылі пайсці на хітрык. Пятро, хоць ён і мацнейшы за мяне, сядзе за другі столік, бо змагацца з майстрамі і кандыдатамі ў майстры спорту, з лідарамі іншых каманд – гібельная справа (Васючэнка, на маю думку, гуляў на ўзроўні першага разраду). Затое на другой дошцы, дзе гульцы, як мы меркавалі, трохі слабейшыя, Пятро пазмагаецца! А мне ўсё адно каму прайграваць – і слабейшаму, і мацнейшаму абавязкова "празяваю" фігуру. Гэткім чынам мы планавалі здабыць для каманды хоць некалькі ачкоў.

Хаця б! Гэтак жа разважалі і ўдзельнікі іншых каманд. У выніку на першай дошцы мне выпала гуляць са слабейшымі, і я прайграў усе партыі, вымучыўшы толькі адну нічыю, а Пятро змусіўся змагацца з карыфеямі. І якім жа было маё здзіўленне, калі ў гэтай "зграі ваўкоў" ён часцей за ўсё браў верх...

* * *

40-гадовы юбілей звычайна не адзначаюць, гэта лічыцца дрэнным знакам, але на той час грошай у мяне было багата, таму я вырашыў у харошым рэстаране зладзіць свята і для сябе, і для сяброў. Сярод іх, натуральна, быў і Пятро Васючэнка. Прамовіўшы за сталом віншаванне, ён нечакана для ўсіх і для мяне на памяць прадэкламаваў верш:

Мне здаецца чамусьці парою,
Быццам я – адзінокі прышэлец
З невядомай далёкай планеты.
Вам, зямлянам, тады немагчыма
Зразумець маё сэрца. І часта
Вы прыносіце боль невыносны
Мне. І з вамі не хочацца болей
Жыць на вашай планеце агіднай.
Мне так сумна і так адзінока...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я хачу на сваю планету...

Гэты верш быў напісаны мною яшчэ ў студэнцтве, і Пятро мог прачытаць яго толькі ў насценнай газеце журфака. Відаць, радкі адпавядалі і ягонаму светаадчуванню, калі яны запомніліся. Пятро ніколі не выстаўляў сваю душу наросхрыст. Можна толькі здагадвацца, што разам з аптымізмам у ёй суседнічалі і туга, і боль, і пакуты, якія не кожны з нас мог заўважыць і зразумець.

Але хочацца верыць, што Пятру Васючэнку ўсё-такі ўдалося трапіць на сваю планету...

*У публікацыі скарыстаныя фота Дар'і Візнер, Алесі Сіўчыкавай, з архіва Уладзіміра Сіўчыкава.*

Вера Міхно



...многа ёсць чаго сказаць,
ды няма каму слухаць...

# «Журнал»

***Памяці Уладзіміра Міхно***

Казка пачыналася так: было ў бацькі тры...

І ў маці таксама. Агульныя былі дзеці. Як кажуць, аднаго роду, але двое жаночага, адзін мужчынскага.

Бацькі былі сельскімі інтэлігентамі, у той час трое дзяцей у інтэлігентаў лічылася, як цяпер бы сказалі, дрэс-кодам, як 25 сотак прысядзібных. Калгаснікам дазвалялася значна больш – што сотак, што дзяцей. Узаемасувязь: больш рук трэба, каб апрацоўваць больш зямелькі, і больш сотак, каб накарміць больш ратоў.

Дзеці ўрадзіліся неблагімі, вучыліся старанна, трэба было працоўны шлях выбіраць. Яшчэ адзін дрэс-код для трохдзетных інтэлігентаў у СССР: вучыць на ўрача, настаўніка ды інжынера.

Здавалася, што ўсё пайшло як закадавана: старэйшая дачка паступіла ў медыцынскі, сярэдняя – на філфак, а вось малодшы "дзяціна" даў асечку...


*Уладзімір МІХНО.*

Не было ў юнака інжынерскай хваткі, хоць забіся. Ні табе ровар перабраць, ні каня запрэгчы, ні ў прыёмніку што пералітаваць. Як кажуць, не адтуль рукі раслі, але ж і дурнем не быў малодшы. З якога выраю прыляцела тая птушка-мара, каб стаць журналістам, цяжка ўцяміць. Не рос такі прыклад ні на генеалагічным дрэве, ні ў суседзяў, але пачала гэтая залётка віць гняздо ў хлапечай галаве, зрушыла набакір мазгі і знесла залатое яечка, якое маці біла-біла – не разбіла, бацька біў-біў – не разбіў... Так і вылупілася з яго дзіўнаватае птушаня, што стала пасля "Журналам".

Аказаўся Богам пацалаваным. Адразу займеў свой стыль, за трапным словам па кішэнях не шнарыў, а галоўнае, душа была ў яго радках. Сентыментальным быў змалку, ледзь што – "рассіропіцца". Старэйшая сястра неяк трапна заўважыла: пераблыталі нас бацькі, нарадзілі б цябе дзяўчынкай, а мяне хлопчыкам – атрымалася б тое, што трэба. Аднак для твораў гэта аказалася сапраўдным Кландайкам. Сантыменты надавалі ім кошт, як парэпанасць антыкварыяту.

Факультэт журналістыкі быў увогуле "ліберальна-дэмакратычным", не тое, што сястрын медыцынскі, дзе за кожную прапушчаную "пару" прызначалася адпрацоўка, не зважаючы, ці "прасачкаваў", ці прахварэў. На журфаку можна было і адлучыцца на дзянёк-другі. Хто да цешчы на бліны ездзіў, хто да каханкі на спатканні, а наш герой усё да маці пад крыльца. Пупавіна між імі так і не была перарэзанай. Дужа шкадаваў яе. Пасля заўчаснай смерці бацькі ніцела на вачах, дзеці толькі й трымалі.

Здольным быў, пайшла б вучоба як па масле, каб не знайшліся ўсё ж сучок ды задзірынка, аб якія спатыкнуўся на шпаркай хадзе. Як ва ўсіх вышэйшых навучальных, была на журфаку "ваенка", бо кожны патрыёт павінен выканаць свой ганаровы абавязак перад Радзімай, у блін расплюхайся, памры, але выканай. Твае праблемы, што нарадзіўся без інжынернай жылкі –павінен разабраць і сабраць аўтамат Калашнікава за вызначаныя хвіліны – і кропка. Інакш "Кругом!" і "Шагом марш!"

Загадчык кафедры розных хлюпікаў на нюх не пераварваў, а гэты "аплэвух" яшчэ ад лішку розуму ў перапалку ўступае. Не Мосьцы брахаць на слана. Раз на пераздачу, другі раз на пераздачу, трэці – будзеш адлічаны. Ёсць Бог – дапамог так-такі студэнту вызваліцца ад ваеннай падрыхтоўкі і атрымаць жаданы і заслужаны дыплом.

Хоць дыплом быў заслужаным, але закон, мякка кажучы, прапаноўваў яшчэ паслужыць... у войску. З агню ды ў полымя!

Толькі размеркаваўся, пачаў апантана працаваць, людзі чыталі яго артыкулы не праз радок.

Адкамандзіравалі ў мясцовы ваенкамат браць інтэрв'ю ў самога ваенкама. Пакпілі яшчэ: ідзі-ідзі, дапрызыўнік, наладжвай адносіны, спатрэбіцца. Ваенкам

сустрэў добразычліва, як-ніяк прэса – чацвёртая ўлада, павітаўся за руку, спрытненькая сакратарка прынесла каву...

Артыкул выйшаў слаўным, як усе нашы ўзброеныя сілы, а праз два тыдні прыйшла позва: "Ты служить должен, как все, как все..."

Ваенкам зрабіў выгляд, што не пазнаў. Прыкра стала "сапраўднаму палкоўніку", што піў каву са шчанюком, які блытаецца тут у адных трусах і з "дыпламацікам". Дапрызыўнік таксама дыпламатычна маўчаў. Аўтарытэтная камісія, абгледзеўшы, абслухаўшы і абмацаўшы, прызнала годным... да нестраявой. Ну зусім "не стройны": артэрыяльны ціск ідзе ў разлад з атмасферным. Мала што блізарукі, дык яшчэ з астыгматызмам, на каторы ніводныя акуляры не могуць управы знайсці. Такім толькі рыдлёўку ў рукі і "бяры больш, кідай далей, адпачывай, пакуль ляціць".

Прызначылі ў будбат, а перад адпраўкай выклікалі на апошні агляд, так трэба. Мала што здарыцца пасля гулянкі-праводзін: не панос, дык залатуха. І раптам... выдаюць другое прызначэнне, нейкая сакрэтная каманда. Сакрэт – не сакрэт, калі яго ведаюць хаця б двое, данеслі: Афган! Кагосьці з раней прызначаных у "каманду ікс" "пранесла", мо пасля гулянкі, а мо "на лапу даў". Патрабавалася тэрмінова "заткнуць дзірку", вось ваенкам і рашыў палічыцца за панібрацтва з гэтым "прадпрымальным здыхлікам", каб моцна апёкся яго кавай.

Ціск зашкаліў, дадому прыбег бледнатвары на нагах, якія падкошваліся. Маці нічога не сказаў, ведаў: абамлее, ці сэрца парвецца, яна такая. Калісьці пры пахаванні бацькі пры ёй нават заплакаць не маглі – губляла прытомнасць. Сястра старэйшая якраз была тут з малым дзіцем у дэкрэце, адразу адчула: нешта не так. Прызнаўся. Тая мела вопыт, бо раней працавала ў складзе прызыўной камісіі, адрэзала: не енчы як на хаўтурах, не развітвайся. Дойдзеш са сваёй камандай толькі да абласнога зборнага пункта!

Як у ваду глядзела...

Акуліст абласной камісіі ўзнялася ў дыбкі: якая пачвара падслепаватага нестраявога ў такую каманду запіхнула?! Кыш адсюль! У будбат!

"Пранесла" яго, некаму яшчэ "пашэнціла", зноў тэрмінова "заткнулі дзірку" ў камандзе, пайшоў, не развітаўшыся, да "духаў", мо не вярнуўся...

"Грымнуўся" ў падмаскоўны будбат без фанфар, і пачаліся азартныя гульні...

На той час годнымі да нестраявой прызнавалі альбо недалугіх, якіх хваробы яшчэ не давялі да заключэння: НГМ (нягодны ў мірны час), альбо "блатных". Не тых, за якіх валасатая рука нешта совала, а "блатату", у якіх "ходак" было яшчэ не гэтулькі, каб дзяржава не давярала ім сваю абарону і прызнавала НГМ. Прыкінуце, якое добрасуседства атрымоўвалася паміж "жыганамі" і "дахадзягамі"...

Не трапіў да "духаў", дык сам "дух", не той афганскі, з-за якіх нашых салдацікаў дадому "грузам-200" везлі, а той, які па вайсковых няпісаных законах павінен поўзаць па-пластунску перад кожным жуком і жабай і слова не мовіць. Бясплотнае, што здань, стварэнне.

Дваццацітрохгадовы інтэлігентны "Дух" паўстаў супраць дзевятнаццацігадовых прыблатнёных "дзядоў"! Вось табе і пазбег Афгану! Пайшла вайна народная...

Свяшчэнная гэтая вайна апрыкла да таго, што, размахваючы табурэткай над галавой, пайшоў супраць вострага электрода, нацэленага ў жывот. Рынуўся, што на амбразуру, каб іншыя "духі" за яго спінай асмеліліся падняць галовы, акрыяць духам. Зразумелі, што "найшла каса на камень". Запаважалі. Потым ладзілі, нават парадаксальна сябравалі.

Служыў верай і праўдай, прайшоў усю градацыю не статутных рангаў. "Дзедам" быў лаяльным, амаль апекуном. Нікога не прыніжаў і другім не раіў.

Дэмбель! "Отслужил! Господи, слава тебе, отслужил и еду я домой..."

З Чырвонай Арміі ды ў "Чырвоную Змену"! Сталіца, прастор для дзейнасці, пачаў прыжывацца, заўважылі...

Раптам званок на працу, сястра: брацік, трымайся, мамы ў нас больш няма... Размаўляе як з маленькім, чаму як з маленькім?..

Пабег... Здавалася, не ехаў, а бег дзве сотні кіламетраў ад рэдакцыі да старой хаты, дзе нябожчыца адна ляжала, чакала, і ведаў, што бяжыць у адзін бок. Няма маці, дык трэба хоць хатку зберагчы, дзе дух бацькоў застаўся, дзе так лёганька было разам з імі. Хату сваю абагаўляў, ставіўся як да адушаўлёнай істоты, адзін аднаму дапамагалі, як маглі, праз увесь век, спрачаліся: хто каго пераЖыве. Падлатаў дзіркі, а дзе і цалкам пераапрануў, захутаў, яна і пераЖыла...

Спачатку літаральна жыў на могілках. Як ні ўшчувалі сёстры: жывым – жывое, не мог дараваць сабе, што не ўбярог сваю галубку.

Пупавіна заставалася, і адчуваў, як нацягвалася з кожным аддаляльным крокам, пагражала парвацца. Як жа тады жыць, калі праз яе перастане паступаць у душу матчына цяпло, дабрыня, любоў?..

Паступова абабіўся, але на ўсё жыццё прыбрацца на могілках засталося больш пільнай справай, чым прыбрацца на сядзібе.

Працаваў карэспандэнтам раённай газеты. Стылю пісьма не змяніў, што ні артыкул – мастацкі твор. Трэба, каб і "раёнку" людзі з захапленнем чыталі. Хоць пра знакамітага каго напіша, хоць пра бабульку вясковую згорбленую – усе вартыя. У кожны радок часцінку душы ўкладваў. Чым больш душы аддаваў – тым больш заставалася. Каму б яшчэ гэтага цяпла прапанаваць?

Пачаў апякаць падлеткаў, якія пры нягеглых мацярках ды нямоглых бабулях раслі, што пустазелле ў полі. Целяпаліся. Такіх звалі "цяжкімі", нібыта падлеткі бываюць лёгкімі. Той узрост, калі эндакрынныя залозы з мазгамі барукаюцца. Баяцца і цаніць жыццё яшчэ не навучыліся – амбіцый на дзесяцярых хопіць, вось і няма з імі аніякага зладу. У яго быў і злад, і падыход, бо не прыніжаў, перавагі сваёй не паказваў, без рыдлёўкі накіроўваў у патрэбнае русла гэтыя ручаіны, што выйшлі з берагоў. Добра пашматалі яны нервы старой хацінцы вераб'іным гвалтам, але разварушылі яе, напоўнілі жывой энергіяй, як і гаспадара. Яму было лёгка з "цяжкімі". Яны ж непасрэдныя: што думаюць – тое і кажуць, калі і нападаюць, дык не спадцішка. У спіну не страляюць – ідуць у лабавую. Цаніў гэту адкрытасць, таму і жонкі не шукаў, бо якая жанчына вытрывае гармідар у хаце, вэрхал, ды яшчэ не ад сваіх крэўных дзяцей. А яны былі сваімі! Здрадзіць ім не мог...

Падлеткам таксама імпанавала, што можна не далікатнічаць, звяртацца без фанабэрыстага імя па бацьку. Вялікі дзядзька, а "свой у дошку", міравы. Нават мянушку яму зварганілі, нязлобную, міравую: "Журнал". Прыклеілася, пачалі ўсе так клікаць, нават адным з псеўданімаў стала.

Затое ад дарослых, самадастатковых колькі нацярпеўся! Не разумелі, пляткарылі, пальцамі каля скроняў круцілі. Тыя ж нягеглыя мацеркі "правы качалі": знайшоўся, маўляў, Макаранка мясцовага разліву, стварыў тут "Рэспубліку Шкід". Былі і такія, што крымінал вышуквалі.

Паступова супакоіліся. Убачылі: ад яго галодныя выходзяць падсілкаваўшыся, халодныя – абагрэўшыся, дурныя – паразумнелымі. Ніхто не споены, не згвалтаваны.

Шмат пісаў пра іх, увекавечваў у сваіх апавяданнях, ды так, што чытаючы, камяк да горла падступае.

Друкаваўся, але з цяжкасцю, бо каго ж цяпер лёгка друкуюць? Пішы сам, выдавай сам, рэалізуйся сам... Можа, і чытай сам?!

Колькі падлеткаў пракруцілася за доўгія гады – не лічыў, адны зыходзілі – другія займалі іх месца, цякло жыццё. А вось адзін з іх колькі ні з'язджаў – усё вяртаўся, як бумеранг. У войска хадзіў, на заробкі ездзіў, у горад перасяляўся... І кожны раз сэрца абрывалася, ляцела ўслед: як жа без яго і як ён там? Усынавіў

яго, не па дакументах, а так, душой. Душой важней! Цяпер вось ажаніўся ён і сваіх дзетак мае. Хлопец сціплы, здатны, палова сядзібы яго рукамі да ладу даведзена. Во, можа, будзе каму перадаць сваю гаротную хату, каб душа не екатала, гледзячы з нябёсаў, як яна без гаспадара чорнай удавой засталася. Доўга без дагляду не прастаіць...

Здароўя бракавала, і не клапаціўся аб ім як мае быць. Марна, што сястра – медык, магла ў бальніцу сасватаць без гармідару лішняга з флюраграфіямі ды аналізамі, "па знаёмству".

Куды ж класціся ад свайго двара? Летам у цяплічках усё пасохне на хрушча. Вакол такую прыгажосць навёў: елачкі, кветачкі, копанка з рыбкамі... На што ж тады вока пакласці, вярнуўшыся з лячэння, калі ўсё паніцее. Зімой бульбачка ў істопцы памерзне, хата акалее. Увесну ўвогуле дзень пасяўной прапусціш – не дагоніш на вараных.

Вось і атрымліваецца: раніцай росна, апоўдні млосна, увечары камары кусаюць.

Клаўся ўжо толькі, калі надта прыпірала, выручалі тыя ж несамастойныя падлеткі, сяк-так падтрымлівалі гаспадарку, бо каго ж з дарослых, самастойных ад сваёй адарвеш.

Паступова цяжка стала на працу дабірацца з ціскам і ўдушлівай астмай, каб яе саму халера задушыла. Рэйсавы вясковы аўтобусік-душагубка безкіслародны, моцна загазаваны, бы тая вада "Мінск-4", якую піў якраз нямерана і з асаблівым задавальненнем, плюючы на перасцярогі ўрачоў абмяжоўваць соль і вадкасць.

Не сядзеш і на стары ровар, як бывала, не пакруціш педалі насустрач свежаму паветру. Мускулы ўжо ўласную вагу не цягнуць. Кароста на яе – вагу тую. Як з ёй змагацца, бо не гэтулькі важнасці прыдае, колькі хвароб? Добра ім, худасочным, раіць: не еш, не еш! Нехта кіпарыс, а нехта баабаб давеку.

Машынай не абзавёўся, тая ж адсутнасць інжынернай хваткі: ад усяго, што з механікай звязана, адхрышчваўся, што ад д'ябальшчыны. Правоў няма, а на тое, каб асабістага кіроўцу займець, пасада не цягне. Праўда, рэдакцыйны вадзіла зрабіўся амаль асабістым. Як дыхаць зацінае, пашкадуе і да самага дома падкіне. Для машыны, якая абгойсала ўвесь раён, бы шалёны сабака, не круг нейкія лішнія сем вёрст, каб хворы чалавек не плягаў пешкі, не "галасіў" спадарожным.

Дзякуй Богу, апошнім часам на працы разумелі яго стан. Калектыў сабраўся добразычлівы, свойскі. Маладыя, а чулыя, мо яшчэ свайго болю і не зведалі ў поўнай меры, а чужы прымаюць блізка да сэрца. Лацвей з імі працаваць! У транспарце вось моладзь цяпер не саступае. Пасядуць на месцы пад малюнкам чалавека з кіёчкам, навушнікамі сябе паглушаць, вочы ў гаджэты ўтаропяць. Хістаецца над такім бабулька-дзьмухавец і думае: "Гад жа ты". А тут лавачку нават яму каля ўвахода ў рэдакцыю зварганілі з чаго было, каб мог прысесці на момант, перавесці дух перад карасканнем па прыступках, каб не пад'ёмам на Галгофу здавалася. Глядзіш, і настрой падымаўся разам з ім. Ішоў, каб тварыць для людзей дабро. За ўсіх душой хварэў, заўсёды чулыя словы знаходзіў, неабыякава ставіўся. Дзеля "адчэпнага" ніколі не пісаў. Казалі: кожны артыкул можна на цытаты разбіраць. Як не ўсе, дык праз аднаго пахваліцца маглі, што яго стараннем у газету трапілі. Як кажуць, кожная сабака ў раёне ведала.

Паступова і хатку прыбраў, як лялечку, і падвор'е акультурыў – батанічны сад адпачывае. Ціхай сапай, дзе сам курчыўся на прасцецкім зэдліку ды знішчаў пустазелле, як Сталін ворагаў народа, дзе выхаванцаў сваіх улагоджваў, клікаў у падсобнікі. Пасля ў інтэрнет іх пусціць пашвэндацца альбо торт ім зварганіць свой, фірмовы, з пячэння-варэння, смаката!

Заставалася адна, як сам казаў, мара ідыёта – велізарны тэлевізар. Во якая сугучнасць слоў! Адгаворвалі: навошта ў маленькай хатцы такая бандура, усё роўна, як у кіназале ў першым радзе сядзець – самыя танныя месцы. Не згаджаўся:

па маіх вачах самае тое. Хачу, каб людзі на экране з мяне ростам былі, будзе ўражанне іх прысутнасці.

Грошы адкладваліся марудна, заробкі ж у газетах з гулькін нос, а прарэхаў у гаспадарцы што дзірак у рэшаце. Але вось патрэбная сума ляжыць у патаемным месцы і страшэнна раздражняе. Як сверб не дае супакою – так прыспічыла яму павесіць тэлевізар на сцяну. Новы год не за гарамі, тады ўжо дакладна не будзе ў адзіноце яго сустракаць, вакол артысты скакаць будуць. Праўда, на “чорны дзень” нічога не застанецца. Ат! Пасля збярэ. Адважыўся... ды купіў, як у палонку кінуўся. Мальцы хуценька збегліся, навесілі, бо і самім карцела паглядзець. Збылася мара...

Зіма блізілася, не любіў зімы па жыцці: бухайся па глыбокім снезе. Не горад, каб грэйдары паперадзе паўзлі, што Т-34 перад пяхотай, тады можна і з крыкам “Ура!” бегчы. Палі ў печы па два разы на дні, а цяпло што карова языком злізвае, хата ж – радабозь. У кватэрах паравое ўключылі – кладзі ногі на радыятар ды “кайфуй” сабе. А тут з самога пара клубамі курыць, пакуль дроўцаў з грады з-пад снегу накалупаеш. Многа ёсць чаго сказаць, ды няма каму слухаць.

Рыхтаваўся да зімы педантычна, скрупулёзна чапляўся да кожнай дробязі, каб яна не падала знячэўку, як снег на галаву.

Вось на падвор’і ўсё да ладу даведзена: ураджай у стопцы дбайна складзены; дроўцы пад паветам сохнуць, каб весялей трашчаць у грубцы, разганяючы зімнюю нуду; грады перакапаныя тлуста блішчаць; ружы лапкамі закіданыя-захутаныя. Вось толькі лістота апалая ў садзе ды палісадніках не зграбеная. Сястра хвалілася, што яны свой двор ужо пачысцілі, не раўнуючы, як дыван пыласосам.

Ды яшчэ загадала, каб у бальніцу клаўся, бо тузанула ж яго, як на ліха, прызнацца, што пагоршала здароўе. Знайшлася загадчыца, адразу чуецца былы дырэктар школы. Куды класціся? І так амаль паўлетца бакі адлежваў праз нейкую паскудную скулку, якую дактары ўдоўж і ўпоперак перакрэмзалі ды антыбіётыкамі нашпігавалі, што фабрычнае бройлернае кураня.

А вось лістоту згрэбці трэба, непарадак!

Чоўпаўся над ёй палову дня, вечарам адчуў, што дарма. Дыхаць зацінала і тэмпература ўскочыла рэзка, як сам уранні ад будзільніка ўскокваў. Сэрца тузалася. Трэсці пачало, што паркінсоніка. Патэлефанаваў сястры-доктару. Толькі ж і тэлефануем, як з нейкай дурной нагоды, так проста пабалакаць заўжды часу бракуе. Прэ жыццё наўгалоп на ўзмыленых конях, пакуль не загоніць...

Уедлівыя яны, урачы! Адразу сто лекаў прызначыла, які страўнік вытрывае? Праўду кажуць: адно лечаць – усё астатняе калечаць, але і без дактароў як без вады: ні туды і ні сюды. І яна вынесла безапеляцыйнае рэзюмэ: тэрмінова ў бальніцу. Наконт лістоты скаламбурыла: малайчына! Згроб на падсцілку ў гроб, замест стружак! Ціпун на язык! Паабяцаў з панядзелка ўшчыльную заняцца лячэннем, бо заўтра нядзеля, барані Божа спецыяльна цягнуцца ў аптэку па антыбіётыкі. У панядзелак па дарозе на працу і зойдзе.

У нядзелю прывычна абмяркоўвалі з сябрам-аднадумцам, які даўно быў яго названым братам, сумесную літаратурную працу. Дамовіліся, што ў панядзелак прышле матэрыялы. Колькі яны, абодва апантаныя, разам зрабілі для захавання гісторыі бацькаўшчыны! Колькі яшчэ збіраюцца зрабіць...

Рэдактара ўсе ж папярэдзіў, што ў панядзелак, магчыма, возьме “бюлетэнь”.

Цяпер трэба “дажыць да панядзелка”.

Спаць клаўся заўжды позна, бліжэй да поўначы. Апошнім часам які там сон, амаль седзячы, каб дыхалася лягчэй. Як ні бярогся, а натупаўся за дзень. Сумку на заўтра склаў, павячэраў нават са смакам. Любы велізарны тэлевізар, які працаваў амаль без адпачынку ўжо пяць дзён, пакуль ахвотка не сагналася, выключыў. Няхай спачывае дружа заўтра цэлы дзень, гаспадару ж на працу. У печы напалена, засталося толькі “люшку” закласці (так на мясцовым слэнгу

звалі чыгунны кругляк, што клалі на дзірку коміна, каб не абаграваць неба). Удыхнуў глыбока, пацягнуўся за “люшкай”, ды раптам адчуў што выдыхнуць не можа, бы “люшка” перакрыла трахею, уваччу пацямнела, ногі падкасіліся. Мабільнік, як здраднік, стаіўся на стале між папер, кішэнны інгалятар лайдачыў на канапе. Праз хвіліну яны ўжо былі не патрэбнымі. Якраз хвіліну не дажыў да панядзелка...

У панядзелак яго не трывожылі, забараняў, каб не падымалі нервы ды не перапынялі рытмічны ход думак, бо не заўсёды “разумная мысля прыходзіць апасля”, другім часам знікае бясследна, што прывід. Нечага абрываць крылы словам, што, як ластаўкі, шчабечуць ды злятаюцца ў адно месца гняздзіцца, ствараючы новы артыкул. У панядзелак ён піша! Панядзелак – дзень толькі для працы. Калі хто асмельваўся турбаваць, злаваўся і, двух слоў не сказаўшы, клаў трубку. Таму хлопцы не заходзілі, ведалі: прагоніць, як шкадлівых катоў; сястра збірала аргументы да аўторка, каб зноў схіляць да шпіталізацыі, на працы рашылі, што на бальнічным. Адзін толькі сябар-брат, з якім дамаўляліся, набіраў колькі разоў. Спачатку вырашыў: прынцыпова не падымае, сказаў жа не турбаваць, а мо заняты дужа. Аднак бліжэй да ночы назойліва, як галодны камар, зазвінела ў вушах і пачала кусаць трывожная думка: не ў час ты памёр, Журнал. Адмахнуўся, каб не сурочыць...

Такім чынам, ён меў магчымасць спакойна паляжаць ля печы, асэнсаваць здарэнне і прывыкнуць да свайго новага стану. Нічога больш не балела, не перашкаджала. Цішыня. Адзначыў з гонарам: не турбуюць, слухаюцца, дамогся так-такі свайго. Можна адцягнуць той момант, калі даведаюцца, пачнуць гараваць, хто шчыра, хто напаказ; мітусіцца, як мошкі, што мак таўкуць; цягаць туды-сюды чужымі рукамі. Каб можна было адразу на кут легчы...

Чуў, як некалькі разоў зайшоўся асірацелы мабільнік доўгім галашэннем, быццам хацеў абудзіць гаспадара. Каб мог, кінуўся б тэлефон яму проста ў рукі, аддана прыціснуўся да роднага вуха, пачуў і перадаў на адлегласць прывычны голас. Колькі ён падслухаў інтымнага, колькі захоўвае таямніц! Не наварочаныя абодва. Прыйшоў тэлефон ад сябра. Падораны. Дзіўна: людзі зусім розныя, што знешне, што па характарах, сябруюць са студэнцтва не разлі вада. Далекавата жыве сябрук, і шкодных звычак не пазбаўлены, прадпрымальны, але апошнюю кашулю аддасць, калі што, у бядзе не пакіне. Нават на розных мовах размаўляюць, ды ніколі не будуць “говорить на разных языках”, бо думаюць зладжана.

Зноў пайшло рыданне мабільніка: на каго ж ты мяне пакінуў?..

Ён ведаў, хто аслухаўся, турбуе, бо дамовіліся. Даруй, братка, упершыню не трымаю слова...

Спахапіся раніцай у аўторак. Педант да мазгоў касцей, а не паведамляе прычыны адсутнасці на працы, мала таго, трубку не бярэ, паслалі суседа ў разведку...

Неяк раней ён навучыўся і захапіўся запісам жывых галасоў на камп’ютар, запісаў і сябе, а каб дарма языком не мянціць, рашыў надыктаваць сваю апошнюю волю. Колькі разоў спрабаваў пагаварыць з сёстрамі на гэтую тэму, але яны слухаць не хацелі, маўляў, не наганяй нуды. Хутчэй размову пераводзілі на жарт: мы старэйшыя, тым больш жанчыны, па ўсіх правілах этыкету павінен нас прапусціць уперад, хочаш ухіліцца ад адказнасці?

Цяпер, як знайшлі, усё па палічках раскладзенае: дзе, як, у чым, нават спіс прыдадзены, каго абвясціць, з тэлефонамі. Ну што, сястрыцы, прыйдзецца выслухаць.

Папоў не трэба. І пры жыцці ў царкву не хадзіў, нават не хрышчоны. Не хрышчоны і нехрысць – розніца, як нябожчык і бязбожнік. У яго свае адносіны з Богам, без пасярэднікаў і вера свая, але сапраўдная. Мабыць, меў рацыю, калі лічыць, што Бог ёсць Любоў.

Аркестраў не трэба, будуць бразгаць талеркамі, уся вёска скаланецца ад іх марша, не пачуе яго развітання. Няхай лепш у хаце гучыць мінорная музыка, каб мёртвая цішыня не “рэзала вушы напалам”, як спяваў Высоцкі і апрануць у яго ж стылі: без зашмаргі-гальштука і афіцыйнага пінжака – не на трыбуне стаяць.

Валун бы, ды як прыцягнуць? Не Барадулін, на верталёце не спусцяць. Абыдзецца помнікам, але каб фотаздымак шаснаццацігадовага, душа яго з гэтага ўзросту не выйшла...

Па дарозе ў рытуальную кантору раптам зноў залямантаваў яго мабільнік, які абачліва ўзялі з сабой. Нейкая жанчына, хацела падзякаваць за шчыры артыкул аб сваім сыне ў сягонняшнім нумары “раёнкі”. Добра, перададзім падзяку, душа яго яшчэ з намі, але ведайце: гэта быў яго апошні артыкул. Заплакалі ў абедзвюх трубках...

Пахавальная працэсія расцягнулася на ўсю шасейку. Спіс тых, хто прыйшоў праводзіць у апошні шлях, шматразова перакрыў той, які пакінуў для абвяшчэння. Родныя, сябры, калегі, вяскоўцы, хлопчыкі яго таксама тут, прыціхлыя, сумныя, вянкі нясуць замерзлымі рукамі, а мае ж вы птушаняты!

Выходзіць, блазнаваў, што адзінокі. Вунь колькі “радні” ідзе, што перад катафалкам, што за ім, бы рака цячэ. Уся труна-лодачка закладзеная жывымі кветкамі, так іх любіў, адзін твар адкрыты. Плыве ён у сусветны акіян, але пакідае сябе і тут, сярод жывых. Будзе жыць у творах.

На могілках сястра ўсё ж апырскала халодную яму тройчы святой вадой. “У імя Айца і Сына, і Святога Духа... Амінь”. Няхай так.

Дарую ўсім і мне даруйце.

Час. Пaціху апускайце, левым бокам шчыльней да мамы, каб сэрцам мог прытуліцца. Яна, вядома, першым чынам насварыцца, чаму так рана прыйшоў, не клікала, на каго сядзібу пакінуў, але потым абдыме-аблашчыць, а мой ты гаротны сыночак!

Кідаюць пясочак, кожны па жменьцы, вось ужо і рыдлёўкі ўступілі...

Бывайце!

На дзявяты дзень на падвор’е прыляцеў голуб. Шызы, мажны, самавіты, ён адразу пакляваў зерня, пакінутага для нешматлікіх курачак, сцвярджаючы свае правы. Гаспадарліва пачаў аглядаць двор, бы вызначаючы: дзе які непарадак. Каты – Бяляш і Жнівень, не кінуліся на яго, мірна паселі на прызбе. Бачна было, што адзінокі голуб злятаць не збіраецца.

Назвалі яго Журнал...

Адам Глобус



…ты глядзіш на твор і думаеш пра ідэальнае, эталоннае, ураўнаважанае, збалансаванае, урачыстае і важнае…

# Яня

***Словы пра мастачку Яню Зельскую***

## Назарэнка

Вядомы маскоўскі жывапісец Таццяна Назарэнка неяк злосна пакпіла з мастакоў-авангардыстаў, сказаўшы, што многія з іх у савецкія часы ішлі працаваць у кніжныя выдавецтвы, дзе маглі легальна займацца living рознымі фармальнымі пошукамі і яшчэ за гэта атрымліваць не абы-якія ганарары. Сама Назарэнка тады займалася пошукамі і адкрыццямі ў жывапісе алейнымі фарбамі на палотнах, а ўсё іншае лічыла другасным. Слухаючы пра назіранні Таццяны, я згадаў мінскую мастачку Яню Зельскую. Яна сапраўды пайшла працаваць у выдавецтва «Юнацтва», дзе напоўніцу рэалізавала ўсе свае фармальныя адкрыцці. Ці можна Яню Зельскую, з яе кніжнымі малюнкамі да казак, залічыць у авангардысты? Думаю, можна. Як на мой розум, кніжная графіка Яні такая ж важная для беларускага выяўленчага мастацтва, як габелены Людмілы Русавай і энкаўстыкі Зоі Літвінавай.

## Хіпі


*Я. Зельская. «Нацюрморт».*

У 70-80-х гадах на мастацкіх выставах у Мінску, як і ў іншых сталіцах змрочнага, нібы танк на пастаменце, СССР, панаваў трупнаколерны трагізм. Вайна, партызаны, камуністы, пралетарыят, калгаснікі, рэвалюцыя, мужнасць і мужчынападобнасць, касманаўты, вайскоўцы, Ленін, камсамол, піянерыя і ахвярнасць — вобразы і тэмы, якія ўхваляліся і шчодра аплочваліся таталітарнай дзяржавай. Усё астатняе лічылася малаважным, другарадным і бабскім. Хіпі, бітніцтва, пацыфізм былі абвешчаны шкоднымі і антыдзяржаўнымі. Калі задумацца над пытаннем, хто ў нашым тагачасным маладым мастакоўскім свабодалюбівым свеце быў самым хіповым мастаком? Цяпер я назваў бы Яню Зельскую, з яе вялікагаловымі макамі, з яе задуменнымі кат*а*мі, з яе золатакапытнымі коньмі, з усмешлівымі вярблюдамі і з крыларукімі танцорамі. Тады творчасць Яні мне не здавалася такой адметнай і такой яскравай, такой знакавай, якой яна бачыцца цяпер, праз адлегласць у трэць стагоддзя.

## Культавасць

Да прыходу ў творчасць кампутараў з інтэрнэтам асноўны пласт інфармацыі захоўваўся на папяровых носьбітах. Газеты, часопісы, кнігі, альбомы былі часткай любога прыстойнага інтэр'ера. Для іх рабілі адмысловыя паліцы, сталы, шафы, стэлажы і этажэркі. Газеты і часопісы перапляталіся ў падшыўкі. Каштоўныя альбомы захоўваліся ў зашклёных шафах, якія аберагалі іх ад пылу. Добрых кніг было не дакупіцца. Іх даводзілася «дставаць», пераплочваючы першую цану ўдвая і ўтрая. Кніга куплялася не толькі для сябе, бібліятэка збіралася для дзяцей і ўнукаў. Таму стваральнікі нават самых звычайных кніжак, шараговыя літаратары і простыя кніжныя графікі залічваліся ў творчую эліту. Можна цяпер уявіць, як цяжка было стаць культавым мастаком сярод элітарных кніжных графікаў.

Яня Зельская стала такой культавай постаццю. Кнігі з яе малюнкамі збіралі не толькі чытачы і букіністы, іх трымалі ў сваіх майстэрнях нават вядомыя і прызнаныя мастакі. Яе ілюстрацыі заахвочвалі прачытаць такіх малавядомых аўтараў, як Маша Галямава і Пятро Васючэнка, і малаактуальных, як Валянцін Лукша. Малюнкі Зельскай настойліва запрашалі і да перачытвання класічных казачных тэкстаў кшталту «Папялушкі» Шарля Перо.

Пра культавасць Зельскай я згадаў у майстэрні выдатнага афарціста Валодзі Вішнеўскага. Успамінаючы былое, ён запытаў у мяне: «Ты памятаеш, як мы ўсе збіралі кнігі з малюнкамі Зельскай?» Вядома, я памятаў. Больш за тое, шмат што з тых квадратнафарматных кніжак і цяпер захоўваецца ў маёй майстэрні. Падобны гонар — называцца культавым кніжным графікам — меў акрамя Яні Зельскай, мусіць, толькі Мікола Селяшчук, але яго ўсё ж больш цанілі як жывапісца, як моднага карціншчыка.

Культавасць Яні Зельскай была непаўторнай у сваёй цэльнасці і чысціні.

## Папярэднікі



*Я. Зельская. «Хлопчык з какосавым арэхам».*

За кожным постмадэрністам, не раўнуючы, як анёлы-ахоўнікі, мусяць стаяць мадэрністы. Яня Зельская рабіла свае найлепшыя графічныя працы ў часы постмадэрністычныя, таму і варта прыгледзецца да яе папярэднікаў, да яе настаўнікаў у мастацтве, да яе анёлаў-ахоўнікаў. Яня скончыла тэатральна-мастацкі інстытут, дзе вучылася ў Генадзя Грака, Паўла Любамудрава і Васіля Шаранговіча. Вучылася выдатна. Яе акадэмічныя малюнкі і каляровыя літаграфіі віселі ў інстытуцкім калідоры як узоры для вывучэння і прыклады для пераймання.

Скажу адразу, творы яе непасрэдных выкладчыкаў мала паўплывалі на фарміраванне адметнай стылістыкі, якую знайшла і ўдасканаліла Яня. Яе графіка выбудавалася на падмурку, зробленым рэвалюцыйнымі канструктывістамі, такімі як Уладзімір Лебедзеў. З беларускіх мастакоў найбліжэйшыя да Яні — Алеся Паслядовіч і Алег Луцэвіч. З кніжнай графікай Алега Луцэвіча творы Яні Зельскай лучыць беражлівае стаўленне да малюнка і выкарыстанне ў якасці фонаў абсалютна чыстай паперы. З творамі Алесі Паслядовіч у Яні знешняга падабенства значна меней, чым з графікай канструктывістаў, але ў сюжэтных і казачных матывах у мастачак шмат агульнага. Свет, створаны рукой Зельскай, як і свет, вымаляваны Алесяй Паслядовіч, найперш свет жаночы, вобраз жанчыны ў якім галоўны.

## Казачнасць

Чаму на Яню Зельскую ўсе забыліся? Для яе не знайшлося месца ў так званай абойме лідараў. У пасляховыя графікі з яе пакалення мастакоў залічылі іншых. Туды трапілі Савіч, Селяшчук і Славук. Астатніх палічылі менш яркімі і менш перспектыўнымі. У тройку лідараў не патрапілі тэмпераментныя малявальшчыкі Сяргей Халамаў і Віктар Александровіч. Не патрапілі і майстравітыя Уладзімір Вішнеўскі ды Віктар Мікіта. Нягледзячы на не меншыя здольнасці, чым у так званых лідараў, большасць застаецца ў другім, трэцім і бог ведае яшчэ якім шэрагу. Для Яні Зельскай, калі ўжо быць паслядоўным, не знайшлося месца ні ў другім і ні ў трэцім шэрагу. Яе любілі толькі ў адным выдавецтве, у «Юнацтве». Калі скончылася яе супрацоўніцтва з «Юнацтвам», пра мастачку ўсе хутка забылі.



*Я. Зельская. «Папялушка з дачкой мачыхі».*

Не думаю, што мае нататкі вернуць да Яні Зельскай былых прыхільнікаў яе таленту, але спадзяюся, што некаторыя з маіх маладых чытачоў даведаюцца пра яшчэ адну мастачку, якая малявала ну проста казачна.

## Эталоннасць



*Я. Зельская. «Сініца».*

Твор мастацтва, калі гэта сапраўдны твор, а не нейкі там кавалак матэрыі, толькі падобны да яго, прымушае задумвацца над важнымі рэчамі. Ты глядзіш на твор і думаеш пра ідэальнае, эталоннае, ураўнаважанае, збалансаванае, урачыстае і важнае. Думаеш пра ўсё станоўчае. Пералічваеш усё тое, што трымае цябе ў недасканалым свеце. Ты глядзіш і бачыш, дзеля чаго варта жыць далей, дзеля чаго варта ўставаць раніцай і брацца за працу. Творы вялікіх мастакоў мінулага менавіта такія, і гэта не навіна. Зусім інакш глядзіцца твор мастацтва твайго сучасніка, які дзейнічае гэтак жа моцна, як творы вялікіх, прызнаных і знакамітых. У малюнках Зельскай я бачу збалансаванасць, урачыстасць і эталоннасць. Упэўнены, не я адзін. Бо Яня Зельская магла ўзяць звычайны ліст паперы і каляровымі алоўкамі ператварыць яго ў твор высокага мастацтва.

## Мянушка

Часам хлопцы і дзяўчаты ў інстытуце Яню Зельскую называлі Сельскай. Але яна гэтага ніколі не чула і пра гэта не ведала, а таму і не крыўдавала на такую антысталічную мянушку. Яшчэ яе спрабавалі называць Яняй Цельскай і Яняй Зёлкінай. Можа, і яшчэ неяк спрабавалі, бо пераважная большасць студэнтаў і выкладчыкаў у тэатральна-мастацкім інстытуце насіла розныя мянушкі, часам брыдкія і зняважлівыя. Да Яні Зельскай мянушкі не прыставалі: яны ўзнікалі, махалі крылцамі, як матылькі-аднадзёнкі, і хутка забываліся. Яня заставалася для нас Яняй або Зельскай, а часцей за ўсё Яняй Зельскай.

## Разгляданне

Малюнкі Яні запрашаюць да спакойнага і доўгага разглядання. Глядзіш на іх, разглядаеш і наразглядацца не можаш. Ты запамінаеш малюнкі да драбніц, каб потым згадваць і ў тых згадках любавацца імі. Падобнае ўздзеянне на мяне рабілі творы Сандра Бацічэлі. Зразумела, што творы маёй сучасніцы Зельскай нельга параўноўваць з творамі вялікага мастака часоў Адраджэння, але малюнкі менавіта гэтых дваіх я запамінаў да драбніц, каб потым любавацца імі ў сваіх успамінах.

## Радзівонаў

У сівабародага мастака Андрэя Радзівонава я неяк запытаўся пра ілюстратарку Зельскую: «Як думаеш, Андрэй, чаму Яня кінула маляванне ілюстрацый? Зельская мела адметны талент, яна рабіла акварэлі і малюнкі, напоўненыя жывым, свежым паветрам, яе кніжныя ілюстрацыі радавалі сотні тысяч чытачоў, а яна сышла з мастацтва». – «Мусіць, нешта здарылася...», – сівагаловага Андрэя не моцна зацікавіла пытанне пра кінутае мастацтва. Тады я паказаў Радзівонаву некалькі кніжак з малюнкамі Зельскай. Сярод іх была і казка Энід Блайтан «Знакамітае качаня Цім». Малюнкі да казкі Блайтан – мусіць, найгоршае, што я бачыў сярод зробленага Яняй. Сюжэты — садысцкія. Абрысы – прыблізныя.

Фарбы – каламутныя. Фактуры – мярзотныя. Андрэй доўга гартаў розныя кнігі, аздобленыя Зельскай, а потым паказаў пальцам на сваё сэрца і з выбачальнай інтанацыяй сказаў: «У Яні нешта зламалася... Вось тут...» Словы Андрэя Радзівонава пра Яню Зельскую прагучалі пераканаўча, бо яе хваравіты злом ён паказаў на ўласным целе. Ёсць беларускі забабон: не паказвай чужыя хваробы на сабе. Андрэй парушыў гэты забабон, а таму і выглядаў у той момант гранічна праўдзівым.



*Адам Глобус. «Студэнтка Яня Зельская».*

## Асіметрычнасць

Неяк сказаў свайму сваяку Анатолю Александровічу, што мне падабаецца твар Яні Зельскай і я хацеў бы зрабіць яе партрэт. Анатоль вучыўся з Яняй на адной кафедры, ён ніколі не захапляўся яе знешнасцю і да яе малюнкаў ставіўся прахалодна. Можа, таму мяне здзівіла яго рэакцыя на мае словы. Анатоль стаў сур'ёзным, нібыта сам сабраўся рабіць партрэт Яніны Зельскай. Ён нават зморшчыў лоб так, што бровы ажно злучыліся над пераноссем. «Асноўнае, на што табе трэба звярнуць увагу, калі пачнеш маляваць партрэт Зельскай, — асіметрыя ў твары. Яе вусны з'ехалі ў левы бок ад цэнтральнай восі, а кончык яе носа — у правы. Выразнасць яе твару — у гэтай асіметрыі. Не забудзься на асіметрыю, калі пачнеш рабіць партрэт...»

Партрэт Зельскай я намаляваў праз шмат гадоў пасля нашай размовы з Анатолем. Пра асіметрыю я ўспомніў толькі тады, калі карціна была скончана. Перамалёўваць я паленаваўся, аднак паабяцаў самому сабе, што абавязкова зраблю яшчэ адзін партрэт Зельскай, у якім улічу назіранне Анатоля Александровіча пра важнасць і выразнасць асіметрыі ў твары мастачкі.

Галіна Багданава



...у гліне прысутнічае
нейкае сакральнае значэнне,
яна была першым матэрыялам Стваральніка...

# Сем грахоў – сем прыступак да ўратавання

### *Штрыхі да творчага партрэта Івана Арцімовіча*

Скульптары, якія ўсё жыццё працуюць з глінай, рэдка параўноўваюць сябе са Стваральнікам. Але ёсць творы, якія вымагаюць філасофскага асэнсавання, яны паказваюць нам самыя глыбіні магчымага падзення і падказваюць шлях да ўратавання. Менавіта такой сталася серыя скульптурных кампазіцый “7” Івана Арцімовіча. У зацемненай, чорнай зале Музея Заіра Азгура, быццам жывыя пульсуючыя прывіды, выступалі пластычна акрэсленыя, калі хочаце, агучаныя, вядомыя кожнаму чалавечыя грахі. Нос, вусны, пальцы. Водар, смак, дотык... Разглядаючы, патанаеш у іх пластыцы. Але ж шукаеш і не знаходзіш цудоўных, гарманічных відарысаў. Бо няма вачэй, каб іх убачыць. І няма цудоўнай узвышанай музыкі. Бо няма вушэй, каб яе пачуць.

Бачым і чуем мы гармонію і прыгажосць душою. Значыць, душа найперш пульсуе ў нашых зроку і слыху? Усё натуральна.



Іван Арцімовіч як бы агаляе фізіялогію грахоў. Дае магчымасць кожнаму не проста разгледзець, адчуць іх смяротную слодыч і водар гэтай слодычы, абуджае душу, якая мкне вырвацца з гэтай цёмнай залы да сонечных краявідаў, да мелодый птушыных спеваў, на волю...

Іван Арцімовіч здольны не толькі тварыць, але і асэнсоўваць сам працэс творчасці.

– Цікавасць з боку музея Азгура да створанай мною серыі для мяне быў нечаканым. Тлумачыцца гэта тым, што працы, прысвечаныя сямі смяротным грахам для мяне самога з'ява неадназначная, яны з самага пачатку былі эксперыментам – над сабой, над формай, над матэрыялам. З 2011 года, калі на мастацкім пленэры ў Калінінградзе былі створаны першыя пробныя варыянты скульптур, серыя змянялася, вобразы напаўняліся нюансамі і падрабязнасцямі, змяняўся іх маштаб і форма. Нязменным заставалася ўтрыманне і абраны ў самым пачатку прынцып – кожны вобраз будуецца праз два асноўныя элементы – вусны і нос, якія належаць форме, якую ўмоўна можна назваць «галавой». Да некаторых пазней былі дададзеныя пальцы рук. Сем гратэскавых скажоных асоб можна было б назваць камічнымі, але для мяне яны ніколі такімі не з'яўляліся, і задача з самага пачатку была больш сур'ёзнай за простае крыўлянне ці пошук арыгінальнай пластыкі. За гэтым стаяла разуменне сур'ёзнасці тэмы, ўсведамленне яе праз сябе, свае ўласныя перажыванні...

Рэлігія вылучае і называе галоўнымі заганы, якія з'яўляюцца крыніцай мноства грахоў, разбуральных для чалавечай асобы. Існуюць розныя трактоўкі, але ў аснове гэта: ганарыстасць, абжорства, пажада, сквапнасць, роспач, гнеў і зайздрасць. Для кожнага паасобку і для мяне ў прыватнасці ўзаемаадносіны з гэтымі чарцямі ў віры душы адна з галоўных праблем – прыняцце іх як неад'емнай часткі «мяне». Парадокс, але ж кожнае пачуццё паасобку – інструмент, дадзены нам з пэўнай мэтай. Праведны гнеў можа быць зброяй супраць зла, несправядлівасці. Жаданне насычэння, цялесная пачуццёвасць – закладзеная прыродай неабходнасць сілкаваць сваё цела, працягваць свой род. Лянота – магчымасць для адпачынку фізічнага і душэўнага, як неабходныя "лекі" пасля працы. Прага большага, зайздрасць, нягледзячы на негатыўную афарбоўку – падахвочванне да дзеяння, магчымасць для развіцця асобы, усведамлення сваёй недасканаласці, імкненне да выгод, якія ты бачыш у іншых – матэрыяльных ці духоўных. Гонар як пазіцыя годнасці, веры ў сябе, у плён сваёй працы – пачуццё, якое дазваляе чалавеку без страху рухацца да мэты.



Любы з гэтых станаў, узведзены ў ступень, якая стала дамінантнай характарыстыкай чалавечай асобы, запаўняе ўсяго чалавека. Не дарма гэтыя заганы называюць запалам... яны руйнуюць усе здаровыя пачынанні, запаўняюць думкі, не даюць чалавеку цвёрда зірнуць на сябе, свае ўчынкі... Уласна, гэтыя разважанні і ляглі ў аснову створанай мной серыі. Хоць будзе



шчырым сказаць, што першую працу зрабілі рукі, а не розум. Тое, што выходзіла з-пад пальцаў, не мела назвы спачатку, але было чыстай эмоцыяй, выяўленнем пачуццяў. Таму, напэўна, серыя "7" так рэзка адрозніваецца ад іншых работ, па якіх, магчыма, глядач знаёмы з маёй творчасцю. Выбар матэрыялу таксама стаўся не выпадковым – у гліне прысутнічае нейкае сакральнае значэнне, яна была першым матэрыялам Стваральніка. Сакральнасць заключаецца і ў тэхналогіі раку, дзеянні, якія суправаджае выраб кожнай скульптуры, якія прайшлі агонь і чорны дым, і яшчэ доўгі час пасля таго пахлі гарам... а для мяне – пахнуць і цяпер.

Шукайма кожны свой відарыс, шукайма кожны сваю мелодыю... І ўздымайцеся, уздымайцеся да сваёй сямiколернай Боскай вясёлкі, да гарманічнай сям'і... Хаця першабытныя нашыя продкі асацыявалі "сем" з колькасцю дзірак у чэрапе...

1. *Inanis gloria* (ганарыстасць)
2. *Ira* (гнеў)
3. *Luxuria* (пажада, блуд)
4. *Invidia* (зайздрасць)
5. *Avaritia* (сквапнасць)
6. *Tristitia* (смутак, роспач)
7. *Gula* (абжорства)



Валянцін Акудовіч



…цэнтры сілы дзе былі,
там і засталіся…

# На рыштаваннях горада Сонца

### *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-106.*

Я лёгка магу ўявіць нацыянальную Беларусь без сябе, а вось без **Ірыны Дубянецкай** не – не магу. Як і інтэлектуальны дыскурс Беларусі без яе. (Што праўда, тут і без мяне ён бачыцца мне не зусім поўным.)

Беларускасць Ірыны абсалютная і глыбінная. Верагодна, яшчэ і таму, што яе бацькам быў Міхаіл Дубянецкі, слынны дырэктар буйнейшага ў краіне выдавецтва "Мастацкая літаратура". У 1988 годзе ён ачоліў арганізаваны апазіцыяй "Мартыралог Беларусі" і быў адным са стваральнікаў Беларускага народнага фронта (БНФ).

Дзеці не заўсёды наследуюць бацькам, – скажа мне хоць хто. Ну так, але гэта не той выпадак. Зусім не той. Ірына і па сёння абагаўляе бацьку як жывога (а яшчэ айца Надсана).

Паводле ўсёй сваёй сутвы яна ідэал беларускага інтэлектуала. Бездакорная мова, поліфанічная еўрапейская культура, багатая адукацыя: БДУ (філолаг), Місіянерскі інстытут у Лондане,

каталіцкі ўніверсітэт у Лёване (Бельгія), дзе атрымала ступень доктаркі філасофіі і доктаркі сакральнай тэалогіі. (Дарэчы, Лёванскі ўніверсітэт, безумоўна, адзін з найлепшых ў Еўропе, з амаль пракаветнымі традыцыямі, што доўжацца ад 1425 года.)

Аднак, паводле словаў Ірыны, чатырнаццаць год замежных штудыяў не замглілі веры, што яна вернецца ў Беларусь.

Гэта і здарылася ў 2005 годзе пасля апошняй навуковай абароны.

***

Мая супольнасць з Ірынай пачалася з водных вандровак. Дакладней, з першага начлегу на рачулцы Нарачанка. Стомленыя веславаннем, нашыя хаўруснікі даўно паснулі, а мы сядзелі пры вогнішчы, пакуль за начнымі хмаркамі не развіднела – і яшчэ не нагаварыліся.

Па сутнасці, раней Ірыну я не ведаў (адно чуў пра яе), бо яна жыла за морам. Ды рэч не ў тым. Тады я быў унураны ў метафізічныя праблемы *няма, нішто*, *адсутнасці*, а яна, як бы насуперак мне, марыла пра стварэнне *школы несмяротных*.

У рэшце рэшт я зняможыўся адмаўляць у хоць якой слушнасці яе аблуды (як на мой розум). Змоўк. Хаця наастачу яшчэ чамусьці прамовілася брутальна мужчынскае. Уяві, – сказаў я, – трыста, пяцьсот, сямсот год трэба будзе займацца абрыдлым яшчэ за першае стагоддзе сексам! Ды гары яна гарам, тая несмяротнасць. (Гэтае апошняе з той гаворкі адно і запомнілася на гады.)

Няма сэнсу лічыць, колькі мы ў вандроўках на байдарках прасядзелі з сябрамі ля вогнішчаў, а потым, звычайна, яшчэ і сам-насам з Ірынай да ранку. Так было і ў ноч на беразе Дрысы.

Цяпельца ля ног, маўклівая поўня над галавой, і ва ўсім свеце нічога, акрамя абсалютнай цішы.

– Словы падманваюць.

Неістотна, хто гэта з нас прамовіў, толькі мы абодва суладна і адразу пагадзіліся.

Наслухаўшыся моўчы, я шэптам нагадаў пра тэорыю геніяльнага лінгвіста Фердзінанда дэ Сасюра, які давёў чалавецтву, што мова і маўленне гранічна адасобленыя адно ад аднаго. Мова – гэта жорсткая структура ад якой татальна залежыць усё нашае маўленне. Інакш кажучы, гэта не мы гаворым мовай, а мова гаворыць намі.

Потым мы яшчэ доўга тэарэтызавалі на гэты конт, спасылаючыся на Клода Леві Строса, Фуко, Дэлёза, Лакана, Барта... І неўпрыкмет выснавалі, што няма нам іншага выйсця, каб пазбавіцца ад фашыстоўскага дыктату мовы, акрамя як шчыльна атуліць сябе моўчай.

Але як гэта зрабіць напраўду, а не ў тэорыі? Тут мы забыліся на цішыню і ўсё гучней ды гучней пераказвалі адно аднаму, як нам лаўчэй маўчаць, якімі знакамі ды гукамі замест словаў абменьвацца ды шмат чаго яшчэ.

– А калі хто вываліцца з байдаркі і пачне тануць? – расхваляваўся я.

Ірына трохі падумала, але потым зжалілася:

– Тады хай крычыць.

Мы яшчэ паспелі дамовіцца, хто з нас за сняданкам абвесціць навіну хаўрусу, як з намёта выпаўз заспаны Ігар Бабкоў і злосна прамовіў:

– Эй вы, маўчуны! Вы б хоць трохі памаўчалі!

Натуральна, мы яму ні слоўка не сказалі ў адказ, а толькі ганарліва прайшлі паўз яго кожны ў свой намёт.

*P.S.* Мы пратрымаліся свайго *зароку* толькі першую палову дня. Затое Ігар Бабкоў у пэўнай сітуацыі можа і цяпер з’едліва абазваць нас *вялікімі маўчальнікамі*.

***

Але вернемся ў горад.

Яшчэ да сваёй выправы ў замежжа (1992) Ірына надзвычай плённа шчыравала на “ніве Араджэння” – і з шалёнай інтэнсіўнасцю. Калі нехта зацікавіцца тагачасным яе наробкам, раю пачытаць у кнізе журналіста Аляксандра Тамковіча “Мазаіка жыцця” яе разгорнутую споведзь. А я найперш запынюся на ўнікальным выданні “Унія”, па сутнасці першым незалежным часопісе ў нашай краіне.

Наколькі я разумею, найбольш ім апекаваліся сама Ірына, яе найлепшая сяброўка аж па сёння Караліна Мацкевіч, *светлы анёл нацыянальнага руху* Сяржук Вітушка і Сяргей Абламейка.

Першы нумар быў надрукаваны 4 жніўня 1990 года з вокладкай Геніка Лойкі.

Калі часопіс патрапіў мне ў рукі, я быў неверагодна ўсхваляваны. Тады ўжо хапала рознай беларускамоўнай прадукцыі, аднак тут усё было інакш: і мова, і мысленне, і стыль, і веда.

На жаль, часопісу не было наканаванае доўгае жыццё ды светлая памяць. Перадусім таму, што былі надрукаваныя адно чатыры нумары. А разгарнуцца ён не паспеў з таго, што Ірына з Каралінай з’ехалі ў Лондан да айца Надсана.

“Калі я вярнулася ў Беларусь, гэта ўжо была зусім іншая краіна”, – згадвае яна.

А то ж, пятнаццаць год на тую ліхаманкавую пару – гэта і доўга, і куды як шмат.

Таму ў пераменах (на горшае таксама) не было асаблівага дзіва. А вось сама Ірына мяне моцна здзівіла, і якраз таму, што яна, лічы, не змянілася. Замежжа як бы закансервавала ў ёй увесь адраджэнскі дыскурс канца 80-х – пачатку 90-х з яго ідэаламі, мэтамі, спадзяваннямі.

Аднойчы праз гэта я яе нават моцна пакрыўдзіў. Ужо ў статусе акадэмічнага дырэктара Беларускага калегіюма яна паспрабавала праз нашу інстытуцыю пачаць рэабілітацыю тарашкевіцы. Мяне гэта моцна ўзрушыла, і я жарсна пачаў ганіць ролю тарашкевіцы ў адраджэнні беларускай мовы. Тады Ірына заплакала, і я не ведаў, што рабіць і за што выбачацца, бо ўжо шмат год змагаўся з тарашкевіцай як з нацыянальнай небяспекай. Таму адно выбачыўся за сваю залішнюю жарсць.

Натуральна, гады неўпрыкмет змінімізавалі тую доўгую адсутнасць Ірыны ў *беларускім часе*, хаця не-не ды і цяпер нагадваюць пра сябе. Але гэта ўжо не лішне вытыркаецца, а хутчэй надае ёй яшчэ трохі адметнасці.

***

Праз нейкі час па вяртанні Ірына пачала выкладаць у Беларускім калегіюме і Віленскім ЕГУ некалькі розных курсаў, што тычыліся Бібліі ды Старажытнага Усходу, які паклаўся на пачатак (інтэлектуальны) еўрапейскай цывілізацыі. А пасля стварыла ўласную Школу Бібліі пры Лятучым Універсітэце.

Далей болей. Як яна сама кажа: ”Ад 2010 года я пачала гуртаваць беларускіх габрэістаў, эліністаў, багасловаў, філолагаў, літаратараў ды культуролагаў дзеля навуковага перакладу Бібліі на беларускую мову...

Хаця поўны пераклад зойме Бог ведае колькі часу”.

Апошняе – святая праўда. Яна працуе з такой марудай (адказнасцю), быццам у яе наперадзе вечнасць (можа, яно так і ёсць?). У прыклад далучу сюды адну невялічкую рэцэнзію, замоўленую мне праз радыё “Свабода”, на кнігу, якую тры гады рыхтавала Ірына. Называлася яна “Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца”.

“Я гатовы вылучаць гэтую кнігу наперад усяго, што пабачыла свет у 2010. Інакш кажучы, я без каліўца сумневу лічу яе Кнігай года. Герой гэтага шыкоўнага, багата ілюстраванага і з густам аформленага фаліянта – грэка-каталіцкі святар, славуты айцец Аляксандр Надсан. Хаця кніга зусім не пра яго, а толькі яму ў гонар прысвечаная ста аўтарамі з чатырнаццаці краінаў свету, матэрыялы якіх і склалі яе разнастайны і надзвычай багаты змест.

Але акрамя айца Надсана ёсць у гэтага выдання яшчэ адзін герой, кангеніяльны загалоўнаму. Гэта доктар філасофіі і сакральнай тэалогіі Ірына Дубянецкая. Менавіта яна прыдумала такім чынам ушанаваць унікальную постаць вялікага беларуса і не пашкадавала тры з паловай гады свайго жыцця, каб на свет з'явілася кніга "Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца".

Гонар вам – сонечныя людзі!

***

Ірына таленавітая ў розных праявах творчай дзейнасці і да таго ж прыязная да самых розных людзей. Таму ў яе з каптуром паплечнікаў ды сімпатыкаў. Толькі ці шмат хто з іх ведае, што яна яшчэ і не абы які паэт. (Адно не трэба блытаць Ірыну з яе сястрой Галінай Дубянецкай, якая ў пару свайго паэтычнага росквіту была знаная як Князёўна беларускай паэзіі.)

А між тым Ірына мае грунтоўныя і адметныя публікацыі паэзіі ў такіх адметных часопісах як "Крыніца" ды "Архэ", дзе абы-што не друкуюць.

Дык чаму так сталася? Найперш таму, што друкавалася яна пад псеўданімам Агаты Кормак і нікому пра гэта не хвалілася. А яшчэ ленавалася скласці вершы ў зборнічак і аднесці ў выдавецтва, каб праз кніжыцу абвесціць пра сваю вядомасць.

Адным з тых вершаў я і завяршаю свой караценькі сюжэт пра нябесную, як арганная музыка, Ірыну Дубянецкую.

### *КЁЛЬНСКІ АРГАН*

сонцам вітражным
паплямлены кліраc
а потым
*тысяча* —
стрэмкамі
ў сэрца —
*прыступак*
*да неба*
вечны АРГАН
што хавае ўсе сьпевы сусьвету
пальцы аберне твае
у буслоў незьлічоных

гукі
(адкуль? —
ні прасторы няма ані часу)
еднасьць быцьця так уладна й
пяшчотна сьцьвярджаюць
збуджаных душаў ЛЮДЗКІХ распрастаныя крылы
мкнуць у — цяпер і давеку — гасьціннае неба

дзесьці быў сьвет мы старанна яго малявалі
музыкі хваля набегла размыла карцінку
тыя абрысы ужо не згадаеш ня вернеш
іншы прасьцяг праясьнёным вачом адтуліўся

слухай стары
што ты чыніш над намі
мяшаеш
нашы адрозныя сьпевы ў харал неймаверны
безьлічы ЛЁСАЎ
глядзі
выпадковую повязь
робіш мацнейшай ад сьмерці
мацнейшай ад сьмерці

***

...Калі я гартаю дэтэктыў ці праглядаю вэстэрн, то *баўлю* час. Калі чытаю Парменіда ці Плутарха, то *пражываю* жыццё. Так і з сучаснікамі. **Міхал Анемпадыстаў** быў з тых, з кім я не бавіў, а менавіта *пражываў* жыццё. І калі апынаўся побач з ім, і калі сам-насам слухаў ягоныя песні, чытаў бліскучыя эсэ ці проста думаў пра Міхала. Між іншым, гэтае жыццядайнае судакрананне заўсёды было нязмушаным і нідзе не вытыркалася. Таму я нават не заўважыў, што з гадамі ў маім пражыванні жыцця Міхала рабілася ўсё болей і болей. Болей, чым каго яшчэ...

А, можа, проста не паспеў заўважыць, бо нечакана раннім ранкам зазваніў тэлефон...

У той жа момант я абрынуўся за Міхалам у прадонне ягонай адсутнасці. І падаў у тое прадонне так доўга, што з глыбіні гэтага падзення нарэшце зразумеў увесь маштаб Міхала як асобы.

Міхал быў вялікім!

***

Спачатку была Краіна. Свая. Ніколі раней такога не было. А тут яна здарылася.

І тады з’явіліся *мы* з Міхалам.

У апошнім сказе вельмі істотны займеннік *мы*. Бо паасобку мы нарадзіліся, калі Краіны яшчэ не было. І каб яна не здарылася, то мы б і засталіся кожны паасобку.

Найперш пра гэта я згадаў, усхапіўшыся дзеля ўспамінаў пра Міхала. Нашыя вочы заўсёды глядзелі ў адзін бок і адразу сустракаліся поглядамі там, дзе была яна – наша Краіна.

Неяк на прэзентацыі сваёй кнігі “Код адсутнасці” мяне запыталі:

– Дык аб чым яна, калі ў некалькіх словах?

– Пра што б я ні пісаў, і не толькі пра літаратуру, культуру, палітыку, а нават пра метафізіку ці фундаментальную анталогію быцця, я заўсёды пішу пра Беларусь.

Цалкам тое ж было з Міхалам. Ён таксама інакш проста не мог, нават калі ўглядаўся ў далёкія эпохі і чужыя прасторы.

Няма сумневу, што менавіта з гэтай утоенай лучвы мне было ўтульна з ім і ў рэале побач, і ў яго песнях, тэкстах, выставах. Да таго ж кожным разам гэта была не проста ўтульнасць, а радасная ўтульнасць, не пазбаўленая сяброўскай пяшчоты.

***

Сярод усяго адметнага, што стварыў Міхал у прозе, асабіста мне найбольш даспадобы ягоныя эсэ, якія ён два сезоны друкаваў на сайце “Будзьма”. Агулам гэты цыкл меў назву “Простыя рэчы”. І там сапраўды вялося пра самыя звычайныя рэчы: жытло, дрэвы, места, зіма, базар, ровар, сала...

Усяго назбіралася болей як дваццаць эсэ, і кожнае паасобку выклікала ў мяне хвалю эўрыстычнай насалоды, бо сам такое і так ніколі не змог бы напісаць.

Калі хто яшчэ не абазнаны ў гэтых шэдэўрах, то раю пацікавіцца. Бо толькі тут уся поўніца Міхала, як вонкавая, так і нутраная з усёй яго эмацыйнай прыгажосцю. Больш за тое, праз гэтыя тэксты вы зразумееце Міхала як адметнага філосафа з вельмі рэдкім тыпам мыслення, скіраванага на праблемы *фундаментальнай анталогіі*. І хай вас не засмучае той факт, што Міхал амаль не карыстаецца мудрагелістым філасофскім слоўнікам як такім. І слушна робіць, паколькі насамрэч быційная асноведзь трымаецца *простымі словамі, простымі рэчамі*. Між іншым, звычаёвая мова ніяк не зашкодзіла яго фундаментальнай эсэістыцы патрапіць у “Анталогію беларускага мыслення”. (“Код прысутнасці. 2000–2015”.)

Далей я хачу пазнаёміць вас з некалькімі эсэ, дадаўшы да іх трохі ўласных рэфлексій ды зацемак. Натуральна, я не маю намеру перадрукоўваць абраныя

эсэ цалкам. Гэта будуць ці мае кароткія канспекты, ці асобныя фрагменты з уласных рэфлексій.

Але пачну з тэкста, схопленага не анталагічнай праблематыкай, а экзістэнцыйнай. Называецца ён "*Гонар і годнасць*".

"Я вагаўся, ці пісаць пра гэта ўвогуле. Па-першае, таму што гэта не надта адпавядае тэме «Простыя рэчы», па-другое, таму што маю вялікі сумнеў адносна таго, ці будзе гэта ўвогуле нехта чытаць. Гонар і годнасць сёння не ў трэндзе...

Мяне зацікавіў адзін фільм, і я націснуў на play. Чорна-белая стужка, прафесар, падобны да Альберта Эйнштэйна, выступае перад нейкай вялікай аўдыторыяй. Ён... пачынае выступ з наступных словаў: абражаны чалавек жыць не можа – ён павінен альбо змыць абразу крывёю, альбо памерці.

З пункту гледжання права думка, агучаная прафесарам, ёсць заклікам да самасуду і забойства, то бок злачынствам. Нават з пункту гледжання звычаёвага права гэта анахранізм і дзікунства. А гучыць годна і прыгожа, нават шляхетна!...

"Годнасць" – універсальны панятак, хаця ягоныя сэнсы ў розных культурах і нават субкультурах розныя. Выраз "абраза годнасці" здаўна фігуруе ў прававых актах, але дэфініцыі годнасці там няма. Уяўленне пра годнасць базуецца на звычаёвым праве, абапіраецца на культурную традыцыю і заўсёды ёсць прадуктам калектыўнага светапогляду. Гонар – наадварот, суб'ектыўнае бачанне ўласнай годнасці.

Тут варта прыгадаць яшчэ адно адрозненне гонару ад годнасці: гонар не даецца проста так, яго трэба абараняць. Сплачваць вызначаную цану. І тады ўзнікае галоўны канфлікт: мадэль, якая была прыкладам годных паводзінаў цягам тысячагоддзяў і вынікае з самой прыроды чалавека, супярэчыць пазнейшай максіме "не забі".

Цень ваяра ўнутры мяне (калі ён там ёсць, то гэта не найгоршая мая частка), пагаджаецца з першым, а цень хрысціяніна яму пярэчыць. Я пагаджаюся з апошнім, а захапляюся першым.

Наша цяперашняя беларуская культура прарасла ў тым ліку з культуры шляхецкай, у якой гонар (менавіта гонар, не годнасць) быў асабліва шанаваны. Шляхціц атрымліваў шляхецкую годнасць ад нараджэння, а гонар, натуральна, таксама шляхецкі, мусіў усё сваё жыццё пацвярджаць і, калі трэба, бараніць. Рабіў ён гэта і з дапамогай шаблі, і абапіраючыся на развітую судовую сістэму...

Прынцып свабоды слова – гэта, безумоўна, вельмі важна, мы гэта ведаем, але не будзем забывацца, што гэта адно прынцып карыстання інструментам, то бок словам. Слова – гэта толькі інструмент. Важна тое, што будзе ім сказана...

...Права на годнасць для мяне адназначна важнейшае за права на свабоду слова".

***

Мой бацька (сялянскага роду) неяк сказаў: "Сорам вочы не выесць". А іншым разам як бы патлумачыў ранейшае: "Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць".

Пазней (значна пазней) праз гэтыя два прыслоўі я зразумеў усю жыццядайнасць філасофіі простага чалавека: каб выжыць самому і выгадаваць дзяцей, трэба забыцца на годнасць, а тым болей на гонар. Хай гэтым выхваляюцца шляхцюкі, а ў нас ёсць больш сур'ёзная справа – праз вечнасць трымаць жыццё чалавечае як такое.

Я і па сёння пэўны ў слушнасці гэтай анталагічнай тэзы. Аднак экзістэнцыйна сітуацыя для мяне была больш складанай, паколькі акрамя бацькі я меў яшчэ маці. І хаця яна таксама нарадзілася ў беларускай вёсцы, але ёсць даволі падставаў лічыць, што яе продкі (Кардашы) паходзілі з вугорскай вайсковай шляхты, якую прыхапіў з сабой Стэфан Батора, калі прыйшоў на Гарадзеншчыну з уласным войскам, – і дзе яна (тая шляхта) тут засталася да веку.

Я зусім не ўпэўнены наконт уласнай шляхетнай спадчыны “паводле кудзелі”, а вось шляхетнасць Міхала для мяне несумнеўная. Я яе адчуваў задоўга да таго, як прачытаў эсэ “Гонар і годнасць”. І ці не *гены* маёй маці спрычыніліся да майго ўмельства захапляцца кожным высакародным учынкам сябра? Згадаю толькі адзін прыклад, які, як мне здаецца, сведчыць пра глыбіню яго пачуцця гонару.

Калісьці даўно, ужо вельмі даўно, адзін з блізкіх нашых знаёмцаў зрабіў ганебны ўчынак, і мы ўсе перасталі з ім знацца. Аднак праміналі гады, і многія з нас пакрысе сталі забывацца на былое і нават пачалі рукацца з тым чалавекам. Але толькі не Міхал. Магчыма, ён нават “змыў бы абразу крывёю”, каб гэта была яго персанальная абраза, а так адно скарыстаўся *правам на годнасць*.

Запытайце мяне: *што* такое Міхал?

І я вам адкажу: Міхал – гэта гонар і годнасць. Прынамсі, найперш.

***

Выпадкова перастракаемся з Міхалам, і ён адразу прапануе:

– Валянцін, прыгадайце ўсе творы беларускай літаратуры пра зіму?

Калі мяне так схапіць знянацку, то я і сваё прозвішча не адразу згадаю.

Прашу час падумаць. Час ідзе, а нічога не прыдумляецца. Ну так, раздзел з “Новай Зямлі”, завея за сценамі маёнтка “Шляхціча Завальні”, некалькі школьных вершыкаў... А далей нічога, хоць крыкам крычы...

– А колькі той зімы! – кажу з адчаем. І абодва рагочам з самай аптымістычнай беларускай прымаўкі.

Эсэ ***“Зіма”*** патрапіла ў гэты падбор таму, што ў ім нязмушанае мысленне Міхала проста такі чаруе сваёй эўрыстыкай. Колькі ў нас кніг і паасобных даследванняў літаратуры ды мастацтва? Як дрэваў у лесе! Толькі ніхто з той безлічы даследчыкаў ні разу не здзівіўся: а чаму гэта ні ў літаратурным тэксце, ні на палотнах мастакоў да найноўшага часу, лічы, ніколі не было беларускай зімы?

А Міхал здзівіўся...

“Мы не надта любім нашу зіму, але ставімся да яе цярпліва, з няпэўным, а таму схаваным за іроніяй аптымізмам – “колькі той зімы”. Між тым у “Геаграфіі” Аркадзя Смоліча (Вільня, 1923) чытаем: “Трох-чатырохмесячная зіма з трывалым і багатым снегавым пакрыццём, лёгкімі маразамі, невялікімі адлігамі характэрная для блізу ўсёй Беларусі і адрознівае нашу зіму ад суворае, з гострымі маразамі зімы Маскоўшчыны ды ад гнілое, бяссннежнае польскае зімы”.

Выходзіць, не такая ўжо кепская ў нас зіма паводле Смоліча. І рады мы сабе ўзімку давалі заўсёды – і вопратка ёсць адпаведная, і дамы цёплыя, і печы, і дровы, і ежа. А вось каб палюбіць гэтую зіму, то не палюбілі. Святы зімовыя – так, зіму – не...

Цяжка сказаць, чаго тут болей: калектыўнага падсвядомага нежадання ўзгадваць тое, што нясе дыскамфорт і пагрозу існаванню, ці застылай трываласці формаў традыцыйнага народнага мастацтва і, шырэй, культуры. Аргументам на карысць апошняга з’яўляецца тое, што зіма выпадае з земляробчага цыкла, зямля і сама прырода адпачываюць, іх часова няма, гэта час, абмежаваны прасторай чалавечага жытла, а сам чалавек ненадоўга робіцца цэнтрам і галоўным героем беларускага космасу – гаспадаром...

“Першы беларускі снег” з’яўляецца бліжэй да сярэдзіны XIX стагоддзя на палотнах французскіх баталістаў, прысвечаных напалеонаўскай зімовай кампаніі 1812 года. У тым самым кантэксце і амаль у той самы час снег з’яўляецца на палотнах мінскага мастака Яна Дамеля. Аднак самастойнае мастацкае гучанне беларускі зімовы краявід набывае толькі на літаграфіях француза Лявэрня. Узімку 1840 года ён вандруе праз Беларусь і робіць серыю падарожных малюнкаў. Камяніцы Мінска, Віцебска, Дуброўны патанаюць у снежнай белі, нашыя гарады і мястэчкі выглядаюць казачна, утульна і ўрачыста....

Тутэйшыя мастакі пачалі ўглядацца ў зіму толькі на пачатку XX стагоддзя. Перадусім Вітольд Бялыніцкі-Біруля, які ў хрэстаматыйным "Зімовым сне" фактычна запачаткаваў матрыцу беларускай зімы: заснежаная зіма патанае ў сутонні, сцішаная ў колерах, без рэзкіх светлаценяў. Падаецца, што Смоліч, апісваючы сваю ідэалізаваную беларускую зіму, натхняўся менавіта гэтым краявідам, такім рэалістычным і ўзнёслым адначасова...

Дык ці палюбілі мы нарэшце сваю зіму?.. На гэтае пытанне ў мяне адказу няма".

***

Я нарадзіўся і асталеў у мястэчку Свіслач, якое ў пару майго дзяцінства не шмат рознілася ад вёскі. Пасля надакучлівай восеньскай нуды малыя першага снегу чакалі як цуду. А потым хаты засыпала амаль да стрэхаў і дарогі таксама засыпала. Ты мог выйсці на падворак, трохі патаптацца на сцежцы ад хаты да хлява і зноў хавацца ў цяпло. Да вясны. Калі прыляцяць шпакі і заселяць шпакоўню, змайстраваную рукамі бацькі.

Мне вельмі любыя прарочыя і дакладныя словы Міхала, што зіма для беларуса – "гэта час, абмежаваны прасторай чалавечага жытла, а сам чалавек ненадоўга робіцца цэнтрам і галоўным героем беларускага космасу..." Можа таму, што я гэта таксама моцна адчуваў...

Яшчэ не было нашай з Міхалам Краіны, калі я напісаў прыпавесць "Сум на тэму вяртання". Апавядаючы пра *Міхалаву* "Зіму", я не мог не згадаць адзін фрагмент з той прыпавесці. А згадаўшы, не магу ўтрымацца, каб яго сюды не пераілюстраваць. Ён трохі завялікі сам па сабе, хаця, здаецца, Міхал не быў бы супраць.

"Каторы дзень таўсматыя хмары наплывалі на мястэчка, каб тут апрастацца ад сцюдзёнага друзу. Гурбы снегу падымаліся на вачах і ў нейкі момант перапынілі ўсялякі рух. Нават трактары кінулі грукатаць, каб не захлынуцца снегам. Свет знерухомеў, і што ні рэч, што ні істота — усё апынулася сам-насам, як быццам ужо выспела вечнасць. Быццё страціла свой пакрыёмы змест, які раней трымаўся на повязях усяго з усім, і прысутнасць кожнага цяпер высвятлялася адно яго ўласным сэнсам. «А калі ўва мне ніякага сэнсу няма, — сам у сябе запытаўся чалавек пасля доўгай дарогі, — а яго напэўна няма, дык што можа акрэсліць мой змест? Хіба толькі вось гэтыя дзверы, гэтая лава, гэтая столь над галавой. Ці не таму чалавек выгароджвае сабе месца ў прасторы плотам, сценамі, фіранкай, што без хоць якой агароджы ён адно рухомая цень на пялёстках быцця?»

Чалавек глядзеў на засыпаную снегам шыбу і слухаў, як запавольваюць хаду ходзікі. Неўзабаве яны зусім спыніліся. У хаце запанавала цішыня. Сэрца таксама ўтаймавалася. Гэтай хвіліны ён чакаў шмат гадоў, на яе прышласць абапіраўся, прымаючы будучыню. І вось яна настала. Свет белы ад снегу, і ён у сваёй хаце лашчыцца плячыма да выпаленай печы".

***

У пэўным сэнсе эсэ ***"Сцяг"*** таксама належыць да экзістэнцыйнага дыскурсу. Прынамсі, так бывае заўсёды, калі чалавек успрымае сцяг эмацыйна. Разам з тым, у выпадку бел-чырвона-белага сцяга гэтае эмацыйнае латэнтна злучанае з анталагічным. І злучанае надзвычай глыбока ды грунтоўна. Аб чым і нагадвае Міхал.

"Суставральнікам нашага сцяга стаўся архітэктар, паэт, грамадскі дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Гэта ён зрабіў накід бел-чырвона-белага, задаў ягоныя прапорцыі, каларыстыку і шырыню стужак, фактычна падсумаваўшы і матэрыялізаваўшы тое, што назапасілі наш геральдычны чын, літургічная традыцыя і народнае мастацтва. Чырвань на белым тчэцца, не абрываецца ад часоў дахрысціянскіх, праз Сярэднявечча, Рэнесанс, барока і рамантызм, чырвонай стужкай перацякае з ручніка на харугву, з харугвы на тарчу, штандар, сцяг".

***

Я ўпершыню пабачыў *жывыя* бел-чырвона-белыя сцягі ў 1988 годзе, калі на "Дзяды" карнікі расцерушылі натоўп ля зачыненай брамы Маскоўскіх могілак і мы пайшлі за Пазняком уздоўж кальцавой дарогі на Курапаты. У нейкі момант Пазняк запыніў шэсце на ўзгорку і прапанаваў усім прысесці, каб было чуваць выступоўцаў. Тады і з'явіліся два невялікія бел-чырвона-белыя сцягі. Пабачыўшы іх, я яшчэ больш напалохаўся (гэта быў мой першы публічны супраціў уладам),– і нават сам сабе абурыўся: навошта лішне правакаваць карнікаў, якія нас ужо атачалі з усіх бакоў?

Відаць, меў рацыю, паколькі адразу, як па сігнале, на нас абрынуліся амапаўцы, міліцыянты, а потым і вайскоўцы. От было страху, хаця і такога напалу бязмернай экзальтацыі я ніколі раней не меў. Як быццам у гэты час адбыўся нейкі тэктанічны зрух і праз глыбокія разломы ночы палілося чыстае святло.

У першы год вулічнай дэмакратыі я наведваў мітынгі, каб пачуць тое, што ў крыклівы голас ніколі раней не казалі – адно паўшэптам. Толькі мітынговыя словы надзіва хутка зашмальцаваліся, і наступныя, лічы, два дзесяцігоддзі я хадзіў на шэсці толькі дзеля таго, каб цешыцца з мора бел-чырвона-белых сцягоў. Была ў іх лунанні нейкая неверагодна прыўкрасная магія. Але з чаго яна бярэцца, я не мог сабе патлумачыць.

***

А цяпер зноў пачытаем Міхала.

"Наш сцяг падаецца мне адным з самых прыгожых у свеце. Я разумею, што не магу быць незаангажаваным, але гэтае спалучэнне колераў аб'ектыўна пасуе для акцэнтацыі аб'екта каларыстыкі, оптыкі, псіхалогіі і фізіялогіі зроку. Узнікае такі аптычны эфект, быццам сцяг сам выпраменьвае святло. Ён урачысты, пазітыўны, вітальны. Чырвоны і белы – колеры Хрыстовы, таму гэта боль і пакута, перамога над смерцю і Любоў. Аднак не толькі і не столькі эстэтычнымі катэгорыямі вымяраецца вартасць сцяга, перадусім яна вымяраецца нашымі перамогамі і годнымі ўчынкамі. Вымяраецца нашымі краявідамі, паданнямі і міфамі, нашым мінулым і той будучыняй, якую мы ствараем цяпер".

Палітычная сітуацыя ў краіне разгортвался такім нечаканым і, калі заўгодна, дзівосным чынам, што досыць хутка бел-чырвона-белы зрабіўся дзяржаўным сцягам. Ён упрыгожыў усе адміністратыўныя будынкі, і ў беларускіх гарадах ды мястэчках паболела святла.

Я не прамінаў вокам ніводнага з тых сцягоў – куды б ні ішоў ці ні ехаў. Таму не мог не зважаць, што бальшыня нашых грамадзянаў якраз там, дзе я падымаў галаву дагары, апускае вочы долу. Яны яго не хацелі бачыць. Гэта было скрушнае назіранне. Бо я вельмі хутка здагадаўся, што *нашае* свята не іх свята. Больш за тое, бел-чырвона-белы сцяг моцна трывожыў бальшыню паспалітых, яны бачылі ў ім знак бяды. Залішне ён быў прамяністы, ганарлівы, бачны і з зямлі, і з нябёсаў. З такім, як прыйдзе бяда, не схаваешся не толькі ў балотах, а нават і ў пушчы.

На іх шчасце ўлада хутка перайначылася, і прамяністыя сцягі паскідалі ў бруд. Толькі далёка не ўсім гэтая перамена была ў радасць. Многіх, вельмі многіх яна абурыла. І тады пачалася вайна за Сцяг, якая працягваецца па сёння. Колькі людзей праз гэтую вайну апынулася за кратамі, колькі ўмылася ўласнай крывёю...

Неяк падумалася, а за чырвона-зялёны (г.зн. цяперашні) ці адзін чалавек хаця б кропельку крыві праліў? Ну хіба якая швачка на фабрыцы, дзе гэтыя сцягі шыюць, палец пад голку сунула.

***

А завершыць гэтыя рэфлексіі я хацеў бы пачаткам эсэ Міхала:

“15 чэрвеня року 1219 дацкія біскупы маліліся на гары Таампеа. Яны прасілі Уладара Усявышняга дапамагчы і ўратаваць дацкае войска, якое з апошняе моцы стрымлівала атакі эстаў. Бог пачуў малітвы, і проста з нябёсаў да ног дацкага караля зляцеў вялікі кавалак чырвонага палатна з белым крыжам пасярэдзіне. Пабачыўшы боскі знак, дацкія рыцары перайшлі ў наступ і разбілі войскі эстаў. Так нарадзіўся «Dannebrog», дацкі сцяг, найстарэйшы дзяржаўны сцяг на свеце з усіх, што існуюць сёння”.

І яшчэ два сказы з тэкста Міхала:

“Караля данаў звалі Вальдэмар Другі Пераможны. Ён быў сынам караля Вальдэмара Першага і Сафіі Менскай, дачкі менскага князя Валадара Глебавіча і Рыксы Баляславаўны”.

***

Далей я апынуўся разгубленым. Паводле задумы наступнае эсэ мусібыць апошнім. Толькі на чым запыніцца, маючы столькі яшчэ нескарыстанага багацця?

Шчыра кажучы, я б заплюшчыў вочы і выхапіў “Сала”. Цудоўнае эсэ з вясёлінкай. Да таго ж зусім не абстрактнае. Міхал увесь час спажываў сала, паколькі меў нейкую загану ў арганізме, якая не дазваляла яму набіраць вагу. А мяне мая лішняя вага засмучала, што зусім не замінала напоўніцу ласавацца тым салам, што Міхал купляў на Камароўцы...

Тут, відаць, можна згадаць і адзін вясёлы сюжэт. Неяк журналістка, канцуючы гаворку, запыталася:

– Ці ёсць у вас мара?

– Ёсць, – адказаў. – Быць такім хударлявым і такім таленавітым, як Міхал Анемпадыстаў.

Я пажартаваў, а яна надрукавала.

Але вернемся да праблемы. Як бы мне ні смакаваў тэкст пра сала, аднак завяршаць ім гэтыя скрушныя ўспаміны было б не да месца. Урэшце рэшт я спыніўся на эсэ ***“Песня”*** – і ўжо без аніякіх сумневаў. Бо забыцца на геніяльныя песенныя тэксты Міхала выглядала б неяк нават дзіўна. Тым болей, што і ўсё гэтае эсэ прыхавана карэлюецца з персанальным лёсам самога паэта.

“Песня, – пачынае Міхал, – гэта вельмі проста: бярэш і прыдумваеш, ці, калі казаць мовай літаратурнай, “пішаш”. Перадусім мяне цікавяць песні, дзе словы граюць такую ж важную ролю, як і музыка, з якіх “слова не выкінеш”. Яшчэ болей мяне цікавіць феномен “суперпесні”, то бок такой песні, якая не толькі слухаецца, але і спяваецца, перакладаецца і засвойваецца іншымі культурамі. Наўрад ці хто зможа ўцямна патлумачыць, чаму здараецца так, што адна песня “заходзіць” у масавую свядомасць і робіцца сімвалам свайго часу, а іншая, з выдатным тэкстам, музыкай і аранжыроўкай, – не. У гэтай адсутнасці адказу ёсць свой сэнс: у нашым рацыянальным свеце яшчэ застаюцца невытлумачаныя таямніцы, магчыма, апошнія”.

У працытаваным фрагменце я б найперш звярнуў увагу на два наступныя моманты. А менавіта на тое, што для Міхала словы ў песні адыгрываюць не менш значную ролю, чым музыка, і на феномен суперпесні. Як на мой розум, дык у рок-музыцы (амаль як і ў бардаўскім творыве) словы ўвогуле значаць болей, чым мелодыя. Хай хто паспрабуе на музыку якой знакамітай “песні Міхала” стварыць іншы тэкст, і мы паглядзім, ці хоць што вартае з таго атрымаецца?

Другі момант патрабуе больш складанай рэфлексіі. Міхал зачароўваў сваёй далікатнасцю і адначасна дзівіў сціпласцю ў тым сэнсе, што зусім не рабіў акцэнту

на сваіх шэдэўрах. Ні публічна, ні ў сяброўскай гамане. Хаця гэта не азначае, што ён не быў амбітным *фацэтам* і не здагадваўся пра свой зорны талент.

Здагадваўся, толькі, відаць, не зусім быў пэўны ў сваіх здагадках. І таму паспрабаваў прааналізаваць тайніцу "суперпесні" з утоеным спадзяваннем, што нешта з ягонага наробку таксама можа патрапіць у гэтую намінацыю?

Міхал даволі грунтоўна апісаў біяграфіі і бунтарныя "суперпесні" Леанарда Коэна, Пітэра Сігера, Боба Дылана... Найбольш мяне ў гэтым даследванні весяліла тое, што ў жыццёвай ці творчай біяграфіі кожнага з іх Міхал заўважаў і акцэнтаваў *беларускі след* – хай часам і ледзьве прыкметны.

Натуральна, Міхал не мог абмінуць увагай і айчынны песенны скарб.

"Канечне, мне вельмі хацелася напісаць і пра нашую "суперпесню", якую таксама перакладаюць на іншыя мовы і спяваюць шмат дзе. Перабіраючы розныя варыянты, я прыгадаў народную "Гарэла сосна", якую мы спяваем разам з украінцамі. Гэта, безумоўна, геніяльны твор і выдатная публіцыстыка часоў казацкіх бунтаў. Яшчэ — паланез "Развітанне з Радзімай", які нядаўна займеў словы, на жаль, на стагоддзе запозна, каб зрабіцца "суперпесняй" на ўсіх землях Рэчы Паспалітае. І нарэшце прыгадаў "Бывайце здаровы" Адама Русака і Ісака Любана. Гэтая апошняя, перакладзеная, ідэалагічна падпраўленая і праспяваная па-руску, зрабілася візітоўкай адной шостай часткі сушы, а не так даўно вярнулася на радзіму ў сваім першапачатковым выглядзе і пачуваецца тут так, як мусіць пачувацца, — то бок як дома.

Мажліва, нашыя "суперпесні" яшчэ будуць напісаныя, мажліва, яны ўжо напісаныя і толькі чакаюць нагоды, каб прагучаць напоўніцу..."

Тут я запыню Міхала.

Некалі я ўжо казаў, што для беларускай нацыі рок-музыка *дзевяностых* была тым самым, што ў сваю пару для нямецкай нацыі оперы Вагнера. Розніца адно ў тым, што Вагнер на ўсю моц гучыць і па сёння, а нашу песню ўлада заглушыла яшчэ ў тых жа дзевяностых.

Відаць менавіта гэта меў наўвеце Міхал у згаданых вышэй словах.

Я цалкам згодны: і напісаныя, і чакаюць. Адна з такіх песен – яго "Простыя словы". Я б нават прапанаваў зрабіць яе гімнам, толькі не гімнам Дзяржавы, а ўсіх паспалітых беларусаў, якія больш за перамогі ды поспехі шануюць утульнасць быцця.

Простыя словы,
Простыя рэчы:
Хлеб на стале,
Полымя ў печы.

Гэта так проста,
Гэта так добра,
Як з галавою
Залезьці пад коўдру.

Прыцемкам сінім
Зімовай парою
У доме бацькоўскім
Усё так знаёма.

Ёсць чым сагрэцца,
Ёсць дзе схавацца
У доме бацькоўскім
У матчынай хаце.

Усё так надзейна,
Усё так грунтоўна,

Што тут дадаць –
Хіба што нічога.

Можна жыць далей,
Дзень прыйдзе новы.
Дабранач, паненкі!
Дабранач, панове!

***

На адной з прэзентацый чарговай кнігі **Алеся Аркуша** (Алеся Козіка) я ў сваім выступе ўганараваў яго мяном: “Князь Правінцыі”.

Не ўпэўнены, што амбітны *a priori* Алесь быў ад яго ў захапленні, але журналісты яго ўпадабалі, і яны маю ініцыятыву трохі растыражавалі ў некалькіх выданнях. Мне мяно таксама спадабалася, толькі тлумачэнне гэтай прыхамаці будзе пазней.

Да самага апошняга часу свет быў уладкаваны гэткім чынам, што кожны здольны і амбітны чалавек, каб рэалізаваць сябе ў маштабе ўсіх сваіх магчымасцяў, мусіў перабірацца ў сталіцу (калі ён там не нарадзіўся). Справа ў тым, што сталіца была адзіным месцам, якое разам схоплівала ўсе рэгіянальныя прасторы, бо паводле азначэння валодала механізмам трансляцыі ідэяў і падзеяў на ўвесь ёй падлеглы абсяг. З гэтага і здзяйсненні таленавітага чалавека толькі праз сталіцу маглі набыць універсальны маштаб.

Можа і не зусім да месца, аднак згадаю: пазамінулыя геапалітычныя трагедыі Беларусі і беларусаў (крэваў, ліцвінаў, русінаў) якраз і ўзніклі з таго, што прастора іх бытавання не была ўцэнтраваная і з гэтага структураваная Вялікай сталіцай. Не ў пару занядужаў Полацак, не акрыяў у сапраўдную моц Наваградак, зашылася ў перыферыйнае памежжа (адносна ўсёй поліэтнічнай прасторы) Вільня. Колькі змаглі, супольна ўзялі на сябе функцыю калектыўнай сталіцы розныя мястэчкі і гарады. Толькі іх магчымасцяў было замала, каб нават усім разам арганізаваць і захаваць гэтую прастору як цэлае.

Найноўшая сітуацыя адкрытай ва ўсе бакі прасторы радыкальным чынам перайначыла праблему. Сёння цэнтр не толькі пэўнага рэгіена, а і ўсяго свету знаходзіцца там, дзе ёсць месца для тэлевізара са спадарожнікавай антэнай і кампутара, злучанага з інтэрнэтам. Вось чаму, калі з ініцыятывы ды арганізацыйнага імпэту найперш Алеся Аркуша паўстала Таварыства вольных літаратараў, аснову якога склалі таленавітыя літаратары з розных перыферыйных абсягаў Беларусі, дык асабіста я быў надзвычай усцешаны гэтай *вандэяй*, вектар інтэлектуальна-эстэтычнага руху якой быў скіраваны супраць Мінску як латэнта рэпрэсіўнай дамінанты ўсяго правінцыйнага дыскурсу.

Што праўда, на фармальным узроўні літарацкі бунт беларускай правінцыі на пачатку быў скіраваны супраць СП (Саюза пісьменнікаў) і дэперсаналізаванай каманднa-адміністратыўнай сістэмы, якую Мінск трансляваў на ўсю падлеглую яму прастору. Але трохі пазней ужо адкрыта было сфармулявана тое асноўнае, што неўпрыкмет прысутнічала заўсёды, хаця на штандарах рэгіянальных *апазіцыянераў* і не пазначалася. У гэтым сэнсе тэкст “Рэгіяналы пакідаюць сталіцу” можна лічыць самым яркім і найбольш канцэптуальным маніфестам Алеся Аркуша: “Рэгіяналы стаміліся глядзець у рот сталічным культурніцкім элітам і чакаць з цэнтру дапамогі й інструктажоў да дзеяння. Ні таго і ні гэтага Мінск ужо даць не здольны. Загнаныя ў кут, абяскроўленыя ў змаганнях за лусту хлеба, сталічныя эліты па завядзёнцы спрабуюць дэманстраваць сваю былую значнасць, але далей рытарычнай траскатні і маралізатарскіх павучанняў справа не йдзе”.

Трохі пазней я паводле гэтай падзеі пісаў: “З майго гледзішча, ідэя «рэгіяналізацыі» – гэта шчаслівая ідэя, бо мае рэальную перспектыву, паколькі супадае з

той структурнай пераарганізацыяй свету, якая адбываецца з пагляду на сітуацыю камунікатыўна адкрытай ва ўсе бакі прасторы, дзе ўжо губляюць хоць які ўцямны сэнс такія элементы топасу, як «цэнтр», «перыферыя», «мяжа», «маргінальнасць»... І таму для гэтай ідэі неістотна, як доўга будзе існаваць Таварыства Вольных Літаратараў і ці хутка ў Алеся Аркуша ў мностве з'явяцца паслядоўнікі, кожны з якіх стане выбудоўваць сталіцу сусвету на тэрыторыі самога сябе... Неістотна – бо гэтак усё роўна будзе. І гісторыя персанальнага бунту Алеся Аркуша – толькі адно, але досыць яскравае сведчанне на карысць рэальнасці гэтай татальнай перамены".

Да сённяшняй крытыкі (уласнай) таго даўняга прагнозу я яшчэ звярнуся напрыканцы гаворкі. А пакуль пра канкрэтныя справы бунтоўнага "Князя Правінцыі".

Алесь нарадзіўся ў Жодзіне, скончыў Інстытут народнай гаспадаркі ў Мінску, пабраўся шлюбам з таленавітай мастачкай і дызайнерам Тацянай (Козік), атабарыўся жыць у Полацку і нават напісаў тэкст для афіцыйнага гімна горада. Больш за тое, ён раз-пораз весела прагаворваў, што Полацку было б варта вярнуць статус сталіцы, які горад меў на першапачатку беларускай дзяржаўнасці. На карысць яго версіі сведчылі прозвішчы Уладзіміра Арлова, Лявона Баршчэўскага, Сержука Сокалава-Воюша, Вінцэся Мудрова ды іншых, што былі выгадаваныя Полацкам і ў сучасным нацыянальным руху адыгрывалі заўважную ролю.

Жарты жартамі, але цалкам магчыма, што вялікая гістарычная спадчына горада нейкім чынам спрыяла мноству самых розных актуальных літаратурных ды і ўвогуле культурніцкіх імпрэзаў (не абмінаючы навуковыя канферэнцыі), што тады ладзіла ТВЛ у Полацку – маўляў, на месца культурніцкай сталіцы наш горад можа прэтэндаваць і зараз.

У гісторыі *новай літаратурнай сітуацыі*, што разгортвалася цягам 90-х гадоў з лішкам, імя Алеся Аркуша асацыявался з шэрагам канцэптуальных падзеяў. Як ужо казалася, перадусім з яго ініцыятывы было створана Таварыства вольных Літаратраў (сябры рады: Юры Гумянюк, Вінцэсь Мудроў, Ігар Сідарук, Юрась Пацюпа), выдавецтва "Полацкае ляда", літаратурны альманах "Ксеракс Беларускі", літаратурны часопіс "Калосьсе" (выдавец і галоўны рэдактар), бібліятэка "Калосьсе", штогадовая літаратурная прэмія "Гліняны Вялес" (ад 1993), якую я таксама калісьці меў гонар атрымаць. Дарэчы, яна і цяпер працягвае вялічыць свой пантэон...

На вялікі жаль, Вялес бадай адзінае, што засталося ад тых *векапомных падзей* таварыства, якое памкнулася таксама *людзьмі звацца*. Мне зусім не падабаецца гэты сказ. Толькі ў ім няма і каліўца кпіны, як і нічога іншага, акрамя вялікай скрухі. Бо з цягам часу не толькі ў Алеся Аркуша так сталася. Незлічоная безліч прыгожых і адважных парыванняў счэзла ў святле ўжо іншых дзён. Вялікія эпохі тым і палохаюць, што на іх месца заступаюць малыя эпохі. (Сёння нават ніякавата робіцца ад словаў некалі знакамітай максімы: "*Напісанае застаецца*".)

Якраз тут час звярнуцца да абяцанай крытыкі ўласных рэфлексій наконт жыццядайнага ўплыву татальнай глабалізацыі на лёс правінцыі. Ну так, камунікатыўна адкрытая на ўсю зямную кулю прастора аднолькава задзіночыла сталіцу з правінцыяй у тым самым інфармацыйным сеціве. І цяпер няма розніцы, дзе ты сядзіш перад маніторам: у закутку глухога хутара ці ў мегаполісе на апошнім паверсе хмарачоса. Пагатоў экран манітора ўвесь свет для кожнага выраўняў у адзін памер.

Але на гэтым усе перамены і скончыліся. Цэнтры сілы дзе былі, там і засталіся. Колькасць энергій і энергетык, задзіночаная ў мегаканструктах, выпраменьвае такой моцы нябачнае святло, што мы, як матылі, ляцім і ляцім у той бок. Можна на нейкі час затуліцца адзінотай у правінцыі, як Андрусь Горват, але хто там паставіць спектакль па тваёй кнізе?

***

Ва ўсе гады я меў сантымент да Алеся і пэўна з гэтага адчуваў крыўду за пасіянарыя. Мне заўсёды здавалася, што яго шматлікія справы застаюцца недаацэненымі ці ацэненыя неадпаведна зробленаму. Можа, гэта помста *сталіцы*? – неяк падумалася з сумнай усмешкай.

Натуральна, рэч зусім не ў *сталіцы*. Тады ў чым? Не ведаю. Але пакуль рэфлексаваў, шукаючы адказу на ўласнае пытанне, нечакана натрапіў сярод сваіх архіваў на эсэ Алеся Аркуша “Кнульп”, надрукаванае ў “Нашай Ніве” даўно – вельмі даўно, бо напісанае яно было з нагоды майго пяцідзесяцігоддзя. Гэта значыць, амаль дваццаць год таму.

Я пачаў чытаць забытае, і мяне ўмомант падхапіла хваля настальгіі. А калі вярнула ў сучаснасць, то я без развагаў передрукаваў эсэ ў кнігу.

“Валянцін Акудовіч не падобны да звычайнага беларускага пісьменьніка.

Доўгі час для мяне гэты арыгінальны творца быў загадкаю. Мне падавалася, што ён іграе ў нейкую штучную філязофскую гульню пад назваю «Мяне няма». Часам ягоныя выказваньні раздражнялі, падаваліся несур’ёзнымі ці нават блюзьнерскімі. І толькі нядаўна я зразумеў, што Акудовіч – клясычны беларускі пострамантык. Заўважце, ён шукае адказы на традыцыйныя пытаньні: пра наканаваньне і прызначэньне чалавека, пра гуманізм, пра лёс нацыянальнай культуры, пра жыцьцё і сьмерць, пра грэх. Новыя адказы, адпаведныя новому часу.

Ягоны пэсымізм – ад пачуцьця адзіноты, якое абвастрылася напрыканцы стагодзьдзя і новым выпрабаваньнем завярэдзіла душу чалавеку. «Кожны побач – прыкрая недарэчнасьць». Пра гэта добра пісаў Герман Гесэ ў аповесьці «Кнульп» яшчэ ў 1915 годзе: «У кожнага чалавека свая душа, ёй немагчыма зьліцца ні зь якой іншай. Двое могуць сустрэць адзін аднаго, гаварыць адзін з адным і быць побач. Але душы іх, як дзьве кветкі, што вырасьлі паасобна, кожная са свайго кораня; яны ня здольныя зблізіцца...» Кнульп – чалавек, які «ўпарта адмаўляецца заняць сваё месца ў разважлівым сьвеце ашчадных гаспадароў» (С. Аверынцаў). Ён складаў цудоўныя вершы, але ніколі іх не занатоўваў, меў сотні сяброў, але не жадаў іх абцяжарваць, меў безьліч шанцаў зрабіць кар’еру і ўладкавацца ў жыцьці, але ўпарта выбіраў дарогу. Вандраваў ад гарадка да гарадка, сьпяваў песьні, жартаваў, разважаў пра жыцьцё і чалавечае прызначэньне. Перад сьмерцю Госпад паведаміў Кнульпу (прынамсі, так таму прытрызьнілася), што «ў імя маё ты вандраваў і абуджаў у аселых людзях трывожную тугу па свабодзе».

Акудовіч ня верыць у Бога (пра што неаднойчы пісьмова прызнаваўся). Але ён усё адно трошкі Кнульп. Ён імкнецца выбавіць чалавека з путаў «агульных месцаў» і «аблуды традыцыі».

Пэсымізм Валянціна Акудовіча роднасны пэсымізму Васіля Быкава.

Чамусьці ніхто не заўважыў, што Акудовіч у сваёй праграмнай рэчы «Хто я? альбо Мяне няма, не было, ня будзе» руйнуе эўрапейскі экзыстэнцыялізм. Ад гэтага нядаўна моднага ў Беларусі філязофскага вучэньня Акудовіч не пакідае каменя на камені. Пастуляты Гайдэгера, Сартра, Камю яму падаюцца бясплоднымі. Бо каму яны адрасаваныя? «...Недарэчна пытацца пра таго, каго няма — хто ён?.. Трэба пакінуць гэтую вярэду назаўсёды і болей ня думаць пра адказ на пытаньне: “хто я?”, а думаць пра іншае пытаньне». І яшчэ — рэфрэн, як прысуд:

«Я-чалавек ня можа сам зь сябе аб’явіцца.

Я-чалавек ня можа існаваць сам у сабе.

Я-чалавек ня можа быць сам сабой.

Я-чалавека няма».

Што гэта за новыя пытаньні, пра якія мы мусілі б сёньня думаць? Акудовіч пакуль пра іх маўчыць.

Кнульп — гэта эўрапейскі гіпі XIX ст. Гэта пратэст (бунт) супраць сьвету. Гэта бясконцая дарога да недасяжнага. Таму так любяць Акудовіча «непрычасаныя» маладыя.

Кнульп — гэта эўрапейскі Сідгарта. Герман Гесэ добра ведаў Азію, вывучаў будызм. Уся творчасьць аўтара «Гульні шкляных пэрлаў» (узгадаем, што гэты раман прысьвечаны «Пілігрымам у краіну Ўсходу») мела на сабе вялікі ўплыў усходняй філязофіі.

Адмаўляючы я-чалавека, ці не прадбачыць Акудовіч набліжэньне Вялікай Эры Ўсходу?

Герман Гесэ з-за сваёй творчасьці меў вялікія праблемы на радзіме, быў вымушаны эміграваць у Швэйцарыю. Акудовічу эміграваць няма куды".

***

Неяк у склеп турысцкага начыння, дзе я тады цыраваў падраныя намёты, завітаў мастак і будучы раманіст **Артур Клінаў**. Мы з ім былі даўно знаёмыя, сімпатызавалі адзін аднаму, але нельга сказаць, што я яго ўжо добра ведаў.

– Хачу стварыць мастацкі часопіс, – сказаў Артур. – Прыйшоў параіцца.

Мяне гэта ані не здзівіла. Паколькі ўлада спаганіла ўсе свае дзяржаўныя выданні, сагнаўшы іх, як паслухмяных авечак, у адзін холдынг, ужо неаднойчы розныя літаратары прыходзіла да мяне абмеркаваць праекты культурнага супрацыву. Дарэчы, быў сярод іх і будучы стваральнік часопіса "Дзеяслоў" Барыс Пятровіч. Натуральна, раіліся не толькі са мной, аднак мяне абмінуць таксама не выпадала, бо я ўжо меў досвед удзелу ў стварэнні літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО", культуралагічнага часопіса "Крыніца", філасофскага часопіса "Фрагменты"...

Зразумела, я падтрымліваў усе падобныя парыванні, хаця кожны раз адмаўляўся ад прапановаў прыняць непасрэдны ўдзел, бо і з тым, што ўжо меў, не хапала вачэй управіцца.

Артур доўга тлумачыў канцэпцыю адмысловага мастацкага выдання, хаця ўсё ім сказанае я напоўніцу зразумеў адно тады, калі часопіс стаўся каляровай рэальнасцю. А вось назвай захапіўся адразу – "pARTisan".

Прамінула колькі там часу, і я трымаў часопіс у руках.

Гэта было таленавіта, шыкоўна, багата!

Еўропа! – абавязкова казаў кожны, хто гартаў яго ўпершыню, і здзіўлена матляў галавой.

Слава ахапіла "pARTisan" вокамгненна і абедзвюма рукамі. Кожны нумар было ў радасць прэзентаваць не толькі ў Мінску, а і ў самых розных гарадах Беларусі. Я досыць часта далучаўся да тых акцый і як аўтар, і як сябра рэдакцыйнай рады.

Бадай, найбольш адметныя нумары пацягнуліся (цугам) тады, калі Артур, параіўшыся з намі (Анціпенка, Акудовіч, Бабкоў, Жбанкоў), вырашыў нагрузіць выданне філасофскім кантэнтам. Гэтаму *спрыя*ў і той сумны факт, што першы беларускі філасофскі часопіс "Фрагменты" пакрысе ўжо згортваў сваю дзейнасць.

Адразу быў вызначаны і фармат падачы матэрыялаў, які б найлепей пасаваў "Партызану", а менавіта – інтэлектуальна-рэфлексіўныя палемікі. Трохі пералічу спакваля праінтэрпрэтаваныя анталагічныя тэмы: "Вёска", "Вайна", "Вера", "Дастаеўскі", "Плошча"...

І ўсё гэта было шыкоўна адрэфлексавана.

Але сапраўдны культурніцкі выбух здарыўся тады, калі Максім Жбанкоў з Дар'яй Сітнікавай прадумалі і рэалізаваны нумар-каляндар, ідэю якога вымудрыла Марыя Мартысевіч. Ён меў нават асобную назву – "Канец словаў" (наўпроставая адсылка да філасофіі постструктуралізму).

Трохі працытую з прадмовы аўтараў-укладальнікаў:

“Вечны” арт-каляндар “Канец словаў” – прэцэдэнт комплекснай прамоцыі беларускай літаратуры праз аранжыроўку актуальных тэкстаў небанальным візуальным шэрагам. (...)

“Канец словаў” можна разумець па рознаму: як вычарпанасьць творчага акту, перспектыву новага тэксту альбо невербальнае выказванне літаратара. Таму тут ёсьць месца і аголеным азадкам, і тэкстам (у літарах і малюнках), і іх агульным кантэкстам – той прасторы, дзе ў галовах з’яўляюцца словы.

Гэты праект – сэнсавыя галюцынацыі з нагоды целаў і тэкстаў, (не)дапісаных і (не)напісаных. Тут манахромныя літары прымяраюць стракатую “глянцавую” вопратку. Тут словы сыходзяць у стыль. Тут стыль знаходзіць мову”.

Хаця рэч зусім не ў прадмове. На яе зважалі хіба адно потым, бо кожны чытач (глядач) адразу кідаўся разглядаць выявы.

Як і на традыцыйным насценным календары тут было 12 базавых старонак з выдатнымі фотаздымкамі Андрэя Шчукіна і Дзяніса Нядзелькі. І на кожным з іх пазіраваў цалкам аголены беларускі літаратар у творча адметным антуражы.

Для ўсё яшчэ цнатлівай беларускай культуры гэты быў шок. Бо хаця да календароў з рызыкоўна аголенымі дзяўчатамі ўжо патроху звыкліся, але каб зусім голыя хлопцы, ды яшчэ літаратары, ды яшчэ не абы-якія... Як тут не перапалохацца!

(Між іншым, я таксама ў той “*Голы Партызан*” патрапіў – толькі адно на вокладку. І маёй галізны амаль не было бачна, паколькі я быў густа заслонены выдрукаваным уласным мемам: *мяне няма, мяне няма, мяне няма...)*

***

Міналі гады, і далёка не ўсе перамены ў часе былі на лепшае для выдання...

Да дзясятых угодкаў часопіса “pARTisan” Таццяна Арцімовіч прапанавала мне паразважаць пра мінулае і будучае часопіса ды абгрунтавала свой выбар наступнай канатацыяй: “Беларускі філосаф Валянцін Акудовіч – адзін з тых, хто падтрымаў “партызанскі выклік”, а ягоная тэорыя *адсутнасці* на доўгія гады сталася адной з асноўных фундаментальных ідэяў філасофіі *партызана”*.

Гаворка з Таццянай задоўжылася на дзве разложыстыя старонкі выдання, таму я згадаю ўсяго адзін фрагмент.

– *Спадар Валянцін, прамінулі гады, з’явіліся новыя культурніцкія ініцыятывы, нават іншыя мастацкія тактыкі – перадусім маю на ўвазе арт-актывізм. Ці можна сказаць, што партызанская стратэгія страчвае сваю актуальнасць?*

– Некалі ў Беларусі быў папулярны анекдот... Праз доўгі час пасля вайны крадзецца партызан да вёскі й, пабачыўшы на выгане бабулю, сцярожка пытаецца: “Бабця, немцы ў вёсцы ёсць?”

Мой любы “pARTisan” можа напаткаць падобны анекдатычны лёс. Таму ён мусіць як хутчэй усвядоміць, што тая вайна, якую ён сам сабе абраў (Сартр), ужо скончылася.

Калі год дзесяць таму часопіс “pARTisan” актуалізаваў мастацкую партызанку ў якасці мадэльнага праекту, дык найперш мелася на ўвазе *партызанка* як выратавальная апазіцыя для нацыянальнага беларускага мастацтва ў сітуацыі ягонага астракізму дзяржаўным дыскурсам. Тады было вельмі істотна стварыць *паляну* дзеля вольнай, незалежнай ад палітычных дамінацыяў і заканaнізаваных эстэтычных тэндэнцый творчасці. Ідэалагема “*партызана*” вельмі добра пасавала такой рознапланавай пазіцыі, гэта быў сыход мастацтва з агульнага, найперш прыўладнага мэйнстрыму ў *актыўныя* хованкі ад яго, у хованкі як супраціў і праз супраціў. Тая пазіцыя была надзвычай плённай і запатрабаванай. На тую пару мы яшчэ не звыкліся з палітычным барбарствыам й жорсткай дэтэрмінацыяй мастацтва стасоўна прыхамацяў улады. Ці, хутчэй, у нас тады яшчэ было

дастаткова энергіі супрацiву і нават веры ў перамогу (хаця кожны ведае, што *партызан a priori* разлучаны з перамогай як канчатковым вынікам).

Цалкам магчыма, што “pARTisan” ужо і выканаў сваю адметную ролю як у творчым лёсе Артура Клінава, так і ў фармаванні актуальнага дыскурсу беларускага мастацтва. Толькі я б не спяшаўся ставіць на ім крыж, бо, як мне ўяўляецца, ён не памёр, а ўсяго толькі схаваўся недзе ў гушчарах пушчы ў чаканні *новай вайны.*

***

Маладыя класікі маладой беларускай літаратуры напачатку 19 стагоддзя не стамляліся ў сваёй аптымістычнай веры паўтараць: “Загляне сонца і ў наша ваконца!” Што і натуральна – з сонцам у нас адвечная праблема, бо туманаў і дажджоў на Беларусі болей, чым у слыннай непагаддзю Брытаніі...

І тут, з нечаканасцю сапраўднага партызана, Артур друкуе кнігу “Мінск. Горад СОНца”. Апазіцыйны народ умомант пералякаўся і схаваўся за настаўленымі каўнярамі, бо здавён лічылася, што мы *як выклятыя Богам.* Дык скуль тады Сонца, ды яшчэ з вялікай літары?!

Дарэчы, я неабачліва прамінуў згадаць раней, што Артур паводле адукацыйнай прафесіі – архітэктар і, кажучы пра сонечны Мінск, ён прамаўляў як прафесіянал.

Потым Артур не аднойчы будзе тлумачыць, што перахопленая ў італьянскага філосафа Тамаза Кампанэлы (героя маёй маладосці) назва кнігі – гэта не метафара, а паэтычнае імя яго глабальнага архітэктурнага праекта.

Вось адно з ягоных тлумачэнняў.

“Мне не вельмі падабаецца вызначэнне “сталінскі ампір”, бо яно адразу адсылае да негатыўных канатацый. Да таго ж, гэты стыль панаваў у тыя часы паўсюль у Савецкім Саюзе, але нідзе ён не рэалізаваў сябе праектам цэльнага гораду, ідэальнага гораду, акрамя як у Мінску. Таму Горад Сонца – самадастатковы, асобны феномен у межах гэтага стылю, і называць яго трэба менавіта так. А межы ягоныя досыць канкрэтныя. З захаду ён пачынаецца ад плошчы Незалежнасці і цягнецца да Парку Чалюскінцаў на ўсходзе. З поўдню ягоная мяжа праходзіць па вуліцах Ульянаўскай, Першамайскай, Берасцянскай. З поўначы – па вуліцах Багдановіча, Куйбышава, Машэрава, Коласа. Гэта насамрэч вялікая тэрыторыя, таму мы і называем яго горадам, а не проста ансамблем ці комплексам. Апроч гэтага, на памежжы Гораду Сонца мы маем так званыя шэрыя, пераходныя зоны, дзе ёсць ягоныя асобныя фрагменты і ансамблі. Самая каштоўная частка, якая напэўна мусіць стаць элементам запаведніка, цягнецца ад плошчы Незалежнасці да плошчы Якуба Коласа”.

А далей Артур распавядае пра мноства новых праектаў, якімі будзе вабіць сонечны горад як беларусаў, так і замежных турыстаў з усяго свету. Зразумела, я не маю намеру іх рэкламаваць у гэтых хроніках. Але адзін праект не магу абмінуць згадкай. Артур дэкларуе: “Да Гораду Сонца вельмі пасаваў бы Музей Камунізму. (...) Горад Сонца – гэта помнік Вялікай Камуністычнай Утопіі. Калі я кажу пра Музей Камунізму, я маю на ўвазе вялікую кампазіцыю, якая распавядала б не столькі пра рэалізацыю камуністычнай ідэі ў Савецкім Саюзе, але і пра саму ідэю, пра яе эвалюцыю ад часоў першых утапістаў – Томаса Мора і Тамаза Кампанэлы. Пра тое, як яна развівалася праз стагоддзі ў Нямеччыне, Францыі, іншых краінах Еўропы. Пра вялікі сацыяльны эксперымент, які адбыўся тут...”

Што і казаць, ідэя Горада Сонца ў тагачаснай Беларусі была не менш утапічнай, чым сама ідэя Камунізму. І хаця яна атрымала не толькі розгалас, але сталася сугучнай глабальным праектам некаторых іншых беларускіх архітэктараў (прыкладам, Уладзіміра Папругі), шанцаў на яе рэалізацыю не было аніякіх. І сам Артур Клінаў выдатна тлумачыць прычыну ў адным з сваіх паэтычных абразкоў.

“Горад Сонца ўнутры нас! Вайна ў нашых мазгох! Барбары – гэта мы! Час абвесціць мір, Тэрыторыю Вайны – тэрыторыяй Міру. Час абжываць гэту зямлю! Злезці з каня, згрузіць з падводаў будзённыя рэчы і збудаваць дом. Свой дом. Але не на месцы таго, што ўжо стаіць, а побач. І пачаць жыць у гэтым доме. І каб побач стаяў іншы дом, за ім наступны, за ім яшчэ, яшчэ й яшчэ. І каб разам яны ўтварылі горад. Наш горад. І калі прыйдуць барбары, ас-сырыйцы, марсіяне-інвестары, каб знесці яго, – бараніць свой дом, бараніць свой горад!

Горад Сонца ўнутры нас! Горад Сонца – гэта мы”.

***

З “Горадам Сонца” ў Артура пакуль нічога не атрымалася, але наўзамен атрымалася рэалізаваць іншы мега-праект, які цяпер усе пазнаюць паводле аднаго слова: **Каптаруны**!

Каптаруны – гэта *фантастычна* дзівосная вёска, што знаходзіцца ў дзевяці кіламетрах ад вядомага мястэчка Лынтупы і ў некалькі сотнях метраў ад мяжы з Літвой. Вёска фармавалася на скрыжаванні чатырох культураў: беларускай, літоўскай, польскай і габрэйскай. У ваколіцах шмат паганскіх Капішчаў. Дзеянне знакамітай навелы Праспера Мерыме “Локіс” (мядзведзь-пераверцень) адбывалася менавіта тут. Дарэчы, у гэтыя дні Артур Клінаў канцуе раман “Локісы”, які неўпрыкмет наследуе задуму Мерыме.

Вёска Каптаруны, што раней належала да *Віленскага краю*, заўважна розніцца ад звычайнай беларускай вёскі. Найперш вялікімі дамамі з высокай столлю і дзвюма печамі. А яшчэ вялізнымі прысядзібнымі надзеламі – памерамі з гектар, а то і болей (у нас, на захадзе Беларусі, тады дазвалялася толькі 18 сотак).

Яшчэ тут дзівіць адсутнасць хваёвых дрэваў. На пагорках і ў балацінах адно магутныя дубы, клёны, ліпы, вербы...

І цішыня. Ні рыку кароваў, ні брэху сабак, ні звону цынкавых вёдраў. Рэч у тым, што як паўстала мяжа з Літвой, вёска апынулася ў глухім цывілізацыйным закутку: без рэйсавых аўтобусаў, без тэлефонаў і нават мабільнай сувязі. Адно раз на тыдзень сюды наведваецца аўталаўка.

Натуральна, неўпрыкмет людзі раз’ехаліся хто куды, распрадаўшы за *смешныя грошы* свае шыкоўныя дамы.

Чаму я так падрабязна апісваю якуюсь забытую беларускую вёсачку? А таму, што як толькі мяне сюды прывезлі ўпершыню, я адразу быў ёю зачараваны, бо пачуў тут нейкую неверагодна глыбокую містычную цішу, хіба нават – моўчу. І з таго часу прыязджаю сюды як у вячысты Храм, дзе вякамі рэй вядуць *паганскія* святары. Прыязджаю, каб паслухаць, як маўчаць тут нашыя забытыя тысячагоддзі. Таму няма нічога дзіўнага, што Артур называе Каптаруны беларускай Шамбалай.

Наколькі я зразумеў з аповедаў новых пасяленцаў, першымі Каптаруны і блізкія да іх вёсачкі (закінутыя) адкрылі мінскія “зялёныя”. Потым цэлы “маёнтак” выкупіла ў народнага мастака Літвы слынная праваабаронца Алена Танкачова. Здаецца, побач з ёй ужо быў знаны архітэктар Андрэй Каравацкі, які вырашыў адрэстаўраваць тут дом з часоў паўстання 1861 года. Неўзабаве паміж Аленай і Артурам набылі сабе дом выдавец Ігар Логінаў з жонкай, таленавітым доктарам філасофіі Тацянай Шчытцовай...

Але ўжо ж напэўна рэвалюцыйную ролю ў лёсе Каптарунаў адыграў менавіта Артур Клінаў. Яшчэ не паспеўшы добра асвойтацца ў вёсцы, ён зрабіў перапіс усіх навакольных дамоў, выстаўленых на продаж. На пытанне, навошта яму гэта патрэбна, з лёгкай ўсмешкай адказваў – тут будзе Рэспубліка Каптаруны. Народ моцна весяліўся з такіх словаў і пачынаў абмяркоўваць канстытуцыю новай рэспублікі ды шмат чаго яшчэ, толькі ніхто і думаць не думаў, быццам Артур мае наўвеце нешта сур’ёзнае.

Я таксама патрапіў пад агітацыйную кампанію першых перасяленцаў (Далу-чай-ся!), але не меў і самых малых грошай. Тады колькі *піянераў* вырашыла "скінуцца" хаўрусам на нейкую хацінку мне за трыста-пяцьсот доляраў. Аднак да Мінска без машыны не набегаешся – лічы, 200 кіламетраў дарогі ў адсутнасці грамадскага транспарту...

Досыць хутка высветлілася, што Артур умее не толькі мроіць сонечныя гарады і маляваць на паперы дзіўны свет. У яго аказаліся залатыя рукі і неверагоднае працалюбства. Ён надбудаваў над сваім домам другі паверх з верандай, а ў асобнай будыніне майстроўню, лазню і карчму. Да таго ж выкапаў азярцо на ўскрайку разложыстага панадворка.

Аднак самае галоўнае – ён перарабіў занядбаную даміну насупраць свайго падворка ў шыкоўны двухпавярховы гасцявы дом з усімі цывілізацыйнымі прыбамбасамі, бібліятэкай і карцінамі.

Дарэчы, гэта яшчэ не ўсё. Сам я пакуль не бачыў, толькі чуў, што Артур для жонкі-рэжысёра будуе невялікі тэатр, дзе будзе нават галёрка (хутка пабачу).

Цяпер я перакананы, што Горад Сонца – не паэтычная мроя. Артур напэўна рэалізаваў бы свой праект, каб жыў у іншым часе і пры іншай уладзе. А яшчэ лепей, каб сам меў гэтую ўладу. Зрэшты, як кажуць рускія, *праехалі*...

Я не ведаю, як гэта сталася, толькі ўжо даўно Артур адмовіўся ад палітычнай канстанты што да лёсу Каптарунаў. (Магчыма, тут выявіўся культуралагічны ўплыў яго таленавітай жонкі Тані Арцімовіч?) Цяпер Каптаруны *арт-вёска*, дзе ўжо не адзін год запар ладзяцца міжнародныя літаратурныя фестывалі, культуралагічныя форумы, выставы, кінатрэнінгі і г.д.

Між іншым, пакуль я пісаў гэтыя радкі, у паштовай скрыні мяне ўжо чакала запрашэнне на сёлетні чацвёрты міжнародны форум у Каптарунах "Міжмор'е літаратур. Востраў, які ёсць".

*P.S.* Часам Артур Клінаў нагадвае мне таямнічага масона з прыгодніцкага рамана. Не гаваркі, абмінае тусоўкі, усе ягоныя праекты скіраваныя не на хцівую карысць, "а дзеля праўдзівай выгады абнаўлення грамадства" (з кодэкса масонаў).

Сапраўдны вольны муляр, у якога пад рукамі заўсёды цыркуль, кельма і малаток з зубілам... Цікава, як гэтымі мазолістымі рукамі ён упраўляецца яшчэ і з далікатнай асадкай, калі піша свае раманы?

*(Працяг будзе)*

Ева Лявонава



…І чым я больш прад Богам млею
і ледзь жыву, бы ява ў сне,
тым больш і больш я разумею,
што – разумее Бог мяне…

# “Душа ўсё яшчэ расце…”

## *Семантыка біблейскіх алюзій у кнігах Леаніда Галубовіча “З гэтага свету” і “Поўня”*

Хранатоп інтэрпрэтацый біблейскіх матываў, рэцэпцый стара- і новазапаветных сюжэтаў і вобразаў насамрэч неабсяжны і ахоплівае агульначалавечую культурную прастору ад старажытных апокрыфаў да сучасных літаратурных твораў. Маючы на ўвазе, у прыватнасці, гісторыю Хрыста, вядомы расійскі вучоны С.С. Аверынцаў пісаў, што гісторыя гэтая і па сёння суправаджае нашае існаванне, нікога не пакідаючы абыякавым. Для адных гэта – «самая рэальная рэальнасць, з якой, пры святле якой жывеш з дня ў дзень. Для другіх – крыху далей: тое, у што належыць верыць людзям веруючым. Для трэціх – яшчэ далей: адзін з кампанентаў культурнай традыцыі, “матыў”, “вобраз”, метафара для апісання рэчаў пабочных. Вельмі ёмістая метафара. Для чацвёртых, нарэшце, – шкодная лухта, якую неабходна ўсімі дазволенымі і недазволенымі прыёмамі сцерці з памяці чалавецтва. Аднак ні першыя, ні другія, ні трэція,

ні нават чацвёртыя не могуць забыць, супакоіцца, жыць, як быццам нічога не было... Старую гісторыю будуць перадумваць зноў і зноў. Чатыры старажытныя апавядальнікі выклалі яе надзвычай сцісла, з лакунамі, што трывожаць нашае ўяўленне, з загадкавымі змоўчаннямі, а галоўнае – не дазваляючы сабе ніякіх матывацый, нават ніякіх ацэначных эпітэтаў... Тое, што яны распавялі, патрабуе тлумачальнікаў, але свайго ўласнага тлумачэння ў сабе не месціць».

Аб выключнай прыцягальнасці выкладзеных у Кнізе кніг перыпетый, нястомным жаданні майстроў слова ажыўляць іх вельмі трапна сказаў у свой час расійскі філосаф В. Розанаў: «Біблія – бясконцасць». Здаўна, насуперак сумненням, расчараванням, адчаю, яна была і застаецца зыходным пунктам у дыялогах розных культур, светабачанняў, розных генерацый, нарэшце. Прычына гэтай прыцягальнасці найперш, безумоўна, – у невычарпальным маральным патэнцыяле Бібліі, закладзеных у ёй адвечных этычных каштоўнасцях, патрэба чалавека ў якіх ніколі не згасала; і мастакі розных эпох і народаў імкнуліся дапамагчы сваім сучаснікам нанава пераасэнсаваць змест Кнігі кніг, супаставіць асабісты духоўны вопыт з агульначалавечым, з правопытам.

Безумоўна, нельга не ўлічваць і бязмежных эстэтычных магчымасцяў, якія адкрываюцца перад мастаком у працэсе асэнсавання ім не толькі біблейскіх вобразаў і матываў, але і запачаткаваных у Першакнізе шматлікіх жанравых форм і стыляў, навуковых і мастацкіх скарбаў. Нездарма Францыск Скарына ў прадмове да Бібліі заўважыў: «Тут научение седми наук вызволеных достаточнае...». Не апошнюю ролю адыгрывае і імкненне творцаў праз біблейскую сімволіку надаць сваім аповедам абагульнена-філасофскі або папераджальна-прагнастычны сэнс. «Кніга, у якой няма месца выпадковаму, формула незлічоных магчымасцяў, бездакорных пераходаў сэнсу, ашаламляльных адкрыццяў, напластаванняў святла. Ці ж можна ўтрымацца ад спакусы зноў і зноў на ўсе лады ператлумачваць яе?..» – пісаў славуты аргенцінец Х.Л. Борхес.

Пры гэтым, якімі б рознымі ні былі формы і спосабы інтэрпрэтацыі біблейскага матэрыялу, абумоўленыя часавай, нацыянальнай, сацыяльнай, канфесійнай прыналежнасцю (або атэістычнай пазіцыяй) пісьменніка, прыродай яго таленту, у сусветнай літаратуры склаліся дзве асноўныя тэндэнцыі:

першая, умоўна кажучы, сакральная, набліжаная да кананічных тэкстаў мастацкая адаптацыя Бібліі – літаратурныя пераказы, «прачытанні», развіцці, дапаўненні да біблейскага матэрыялу, што акцэнтуюць яго актуальнасць для ўсіх часоў, але асабліва – для сучасніка, чалавека «тут і зараз», і маюць, такім чынам, на мэце задачы дыдактычныя, асветніцка-тэалагічныя;

другая – секулярная, свецкая, або, паводле вызначэння протаіерэя Аляксандра Меня, «зямная» (часам нават, можна сказаць, «заземленая»); украінскі літаратуразнаўца А.Я. Нямцу гаварыў пра яе як пра «ачалавечаную персаніфікацыю».

Абедзве тэндэнцыі надзвычай неаднародныя; прычым, як ні парадаксальна, у межах апошняй часам з'яўляюцца творы, нават больш сугучныя з кананічнымі тэкстамі, чым творы экзегетычнага (ад *exegetike* – тлумачу) характару. Досыць пашыраная ў сусветнай літаратуры (асабліва ў другой палове XX ст.) і навукова-фантастычная мадэрнізацыя біблейскіх персанажаў, з Хрыстом уключна.

Другая, «зямная», рэцэпцыя біблейскага матэрыялу на сёння вельмі распаўсюджана ў літаратуры свету, асабліва пачынаючы з другой паловы XIX ст. «Няма сумнення, – пісаў В. Розанаў, – што глыбокі падмурак усяго, што цяпер адбываецца, заключаецца ў тым, што ў еўрапейскім (усім, – і ў тым ліку рускім) чалавецтве стварыліся каласальныя пустоты ад былога хрысціянства; і ў гэтыя пустоты правальваецца ўсё: троны, класы, саслоўі, праца, багацці. Усе ашаломлены. Усе гінуць, усё гіне. Але ўсё гэта правальваецца ў пустату душы, якая страціла старадаўні змест» [20, с. 3].

Відавочна, з уваходжаннем чалавецтва ў XX ст. пачынаецца эпоха звяржэння святыняў, нечуванай секулярызацыі дабра і зла, боскага і д'ябальскага, светлага і цёмнага ў чалавеку і свеце. Заканамерна, аднак, што менавіта ў XX – пачатку XXI стст., у перыяд нечуваных сацыяльна-палітычных, тэхнагенных і экалагічных катаклізмаў, Кніга кніг набыла новае дыханне. Сусветная літаратура пераствараe цэлыя біблейскія сюжэты і асобныя матывы; перастварае, вядома, і вобраз Хрыста, гэты, паводле вызначэння А.К. Горскага (вучня вядомага багаслова Паўла Фларэнскага), «вобраз вобразаў». «...якімі б ні былі нечаканасці, урыхтаваныя нам будучыняй, Ісуса ніхто не пераўзыдзе, – пісаў французскі філосаф і пісьменнік Ж.Э. Рэнан. – Культ яго будзе вечна абнаўляцца; легенда яго будзе вечна выклікаць слёзы; яго пакутамі будуць мучыцца лепшыя сэрцы, і ва ўсе часы ўсе будуць весціць, што сярод сыноў чалавечых ніколі не нараджалася больш вялікага, чым Ісус».

«Ён нам пакінуў дзіўнае кола метафар...» – канстатаваў Хорхе Луіс Борхес, а партугальскі пісьменнік Жазэ Сарамага ў рамане «Евангелле ад Ісуса» заўважыў: «Ёсць у жыцці такія імгненні, якія варта запомніць, зберагчы і ахаваць ад часу... важна, каб той, хто пражыў і перажыў гэтыя імгненні, змог бы назаўсёды перадаць іх сваім нашчадкам, а тыя ўбачылі б іх сваімі вачыма, падобна на тое, як мы, у нашыя дні, прыйшлі ў Ерусалім, каб перад нашымі, уласнымі нашымі вачыма паўстаў гэты хлопчык, Ісус, сын Іосіфа, гэтае дзіця, што хуталася ў куртатую коўдрачку, глядзела на будынкі свяшчэннага горада і ўслаўляла Госпада Бога... Было гэта, не было, так было ці не так. Было, скажам мы, усё так і было». Значна раней гэткія ж пранікнёныя словы пакінуў у сваім «Дзённіку» беларускі паэт Уладзімір Жылка: «Я не ведаю нічога болей харошага, вялікага, як неўміручы (ляпей сказаць) памершы і ўваскросшы Хрыстос».

Цягам стагоддзяў звярталася да біблейскіх міфаў і беларуская літаратура. Велізарнае значэнне мае скарынаўская адаптацыя біблейскіх тэкстаў. Паводле У. Калесніка, гэта «духоўная ахвяра» вялікага гуманіста роднаму краю, праца, што здзяйснялася з тэалагічна-асветніцкімі мэтамі. На думку Ф. Скарыны, у Бібліі «всее приироженое мудрости зачало и конець», і служыць яна павінна «Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Найперш як крыніцу мудрасці, што «ест мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению», разглядаў Ф. Скарына, у прыватнасці, кнігу прытчаў Саламонавых: «Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху»; «Пожиточьни же суть сие книгы чести всякому человеку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболей тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку...».

У рэчышчы асветніцкай традыцыі, з выразным акцэнтам на ўваскрасальна-адраджэнскіх евангельскіх матывах, інтэрпрэтавалі біблейскія сюжэты беларускія мастакі слова пачатку XX ст. («Апокрыф», «Санет (Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...)» Максіма Багдановіча, «Прарок», «Ужо світае», «Яна і я» Янкі Купалы і інш.). Праўда, як падкрэсліваў У. Калеснік з нагоды біблейскіх рэмінісцэнцый у гэтых аўтараў, яны «рэдка бралі іх з першакрыніц і ніколі з багаслоўскіх трактатаў. Часцей за ўсё яны запазычвалі іх з народнай паэтычнай свядомасці: апокрыфаў, казак-легендаў, паданняў, прытчаў, прыказак», спалучаючы з фальклорна-язычніцкімі элементамі.

Пазней да Бібліі апелююць пісьменнікі беларускай эміграцыі (Н. Арсеннева, А. Салавей, М. Сяднёў, Я. Юхнавец і іншыя), у творах якіх біблейскія рэмінісцэнцыі нярэдка суправаджаюцца матывамі ўваскрэсення, абнаўлення, ажывання.

Значна радзей, па вядомых прычынах, да Бібліі звярталіся мастакі слова ў самой Беларусі, тым не менш прысутнасць Кнігі кніг дае аб сабе знаць і ў іх этыка-эстэтычных сістэмах (асабліва выразна – у паэзіі і прозе Уладзіміра Караткевіча, у творах Васіля Быкава). Што да айчыннай літаратуры апошніх трох

дзесяцігоддзяў, то лягчэй, напэўна, назваць тых пісьменнікаў, якія не звярталіся да адвечных праблем Бога і чалавека, веры і бязвер'я, да сімволікі Хрыста, апосталаў, спакушэння, уваскрэсення, крыжовага шляху, Галгофы і г.д. Уражанне такое, што беларускія мастакі на працягу доўгага часу пакутавалі без выратавальнай духоўнай вільгаці і цяпер спяшаліся наталіць ёю сваю смагу. Назавём толькі некаторых творцаў: І. Багдановіч, Р. Барадулін, Д. Бічэль, Г. Булыка, А. Вольскі, І. Жарнасек, А. Мінкін, А. Разанаў, Л. Рублеўская, М. Скобла, А. Сыс... Нельга не прывесці ў гэтым пераліку і імя вядомага беларускага паэта Леаніда Галубовіча.

Пра тое, што Леанід Галубовіч цудоўна абазнаны ў Бібліі, што яна адыгрывае важную ролю ў фарміраванні яго эстэтычнай сістэмы, выразна сведчылі і ранейшыя кнігі паэта – як зборнікі вершаў, так і яго добра вядомыя чытачу зацемкі. «Біблія – адзіная кніга, пра якую ведаюць нават тыя, хто нічога не хоча ведаць», – піша ў сваіх «Зацемках з левай кішэні» Л. Галубовіч. І далей у гэтай кнізе неаднойчы прагучыць роздум пра Бога і яго ўзаемадачыненні з чалавекам і светам: «Кожны сапраўдны мастак стварае свой вобразны свет, але сам СВЕТ, у сваім абсалюце, больш цэльны, гарманічны і непагрэшны, як і быў у задуме геніяльнага яго творцы Госпада, які ствараў яго не ад вялікай сілы, а адзінствам і паразуменнем магчымых сіл...»; «Уся логіка павінна пачынацца з Бога, толькі тады наша мысленне ўступае ў дыялог з Сусветам»; «*Усе* – людзі, а *ўсё* – Бог...».

У святле нашай тэмы надзвычай паказальныя дзве апошнія па часе апублікавання кнігі Л. Галубовіча – «З гэтага свету: Вершы пасля вершаў» (2012) і «Поўня: Выбранае» (2015). Другую з названых кніг склалі творы з пяці ранейшых зборнікаў паэта: «Таемнасць агню» (1984), «Споведзь бяссоннай душы» (1989), «Заложнік цемры» (1994), «апошнія вершы леаніда галубовіча» (2000) і «З гэтага свету» (з якой у адмысловую частку вылучаны вершы, прысвечаныя памяці маці). У зборнік «Поўня» ўвайшлі таксама створаныя ў 2012–2014 гг. «Вершы без кніг і новыя вершы» і фрагменты з кнігі «Зацемкі з левай кішэні» (1998).

Кніга Л. Галубовіча «З гэтага свету», на мой погляд, стала адной з самых значных з'яў у сучаснай беларускай паэзіі. Варта заўважыць, што эстэтычная прастора гэтай кнігі, пачынаючы ўжо яе назвай, інтэгравала ў сабе самыя розныя імёны і біяграфічныя локусы, самыя розныя рэмінісцэнцыі і цытаты з тэкстаў нацыянальных (перадусім паўстае ў памяці назва зборніка вершаў Васіля Зуёнка «Лісты з гэтага свету», выдадзенага ў 1995 г.) і замежных творцаў, нават з розных мастацтваў (не толькі літаратуры, але і жывапісу, музыкі). Аднак менавіта алюзіі на Стары і Новы Запаветы, якімі кніга літаральна спружыніць, з'яўляюцца яе сэрцавінай, дамінантным складнікам яе асацыятыўнага патэнцыялу.

У святле Бібліі бачыцца сама архітэктоніка кнігі. Да слова, яе структурная арганізацыя заслугоўвае асобнай увагі, найперш – сваім выключным канцэптуальным і семантычным адзінствам. Гэткая фенаменальная ўнутраная цэласнасць не так часта бывае ўласцівая нават тым кнігам вершаў, якія свядома ладкуюцца аўтарамі па цалкам канкрэтным і адмыслова прадуманым прынцыпе. Я б сказала, кніга «З гэтага свету» – у пэўным сэнсе адзін-адзіны тэкст, які балансуе на мяжы цыкла і лірыка-філасофскай паэмы; у кожным разе, па сваёй пабудове, па значна больш адчувальнай знітаванасці частак кніга вельмі адрозная ад традыцыйнага паэтычнага зборніка. Сутнасць яе арганізацыі можна, бадай, выкласці радком аднаго з вершаў, што склалі кнігу: «звіваючы адзінства пупавіну». Менавіта так «звіў», саткаў яе «радно» Л. Галубовіч.

Кніга месціць у сабе, апроч верша-пралога, сем частак: «Нада мною», «Пра мяне», «Са мною», «У маіх», «Маё», «Мае», «Мая». Ужо праз самі гэтыя назвы частак увасоблена іх глыбокая сувязь-счэпленасць, іх функцыяванне ў строгай і стройнай мастацкай сістэме, у якой сэнсы і думкі нібы перацякаюць з верша ў верш, з аднаго паэтычнага цыкла ў наступны. Яно і зразумела: якім бы лагічным

ні было размеркаванне твораў суадносна з вядучай тэмай той або іншай часткі кнігі, цалкам размежаванымі гэтыя часткі не будуць па вызначэнні, бо пра каго і пра што б ні ішла гаворка – пра Бога і веру, маці і слова, каханне і смерць, дом і радзіму, – усё прапушчана праз сэрца і свядомасць аўтара і яго лірычнага героя. У выніку перад чытачом паўстае драма душэўна-духоўнага жыцця чалавека ў самых розных яе быційных аспектах.

Падзел на сем частак, цалкам зразумела, невыпадковы: лік «сем» – сакральны, ён нясе ў сабе значэнне паўнаты быцця, дасканаласці, завершанасці. У першую ж чаргу гэта алюзія на старазапаветнае паданне: сем дзён, паводле Бібліі, спатрэбілася Усявышняму, каб стварыць свет, надаць яму часава-прасторавыя каардынаты, уладкаваць згодна з уяўленнямі Госпада аб гармоніі. Прычым сёмы дзень займеў асаблівы сэнс, бо, здзейсніўшы задуманае, Гасподзь мусіў пераканацца ў дасканаласці ўчыненай ім справы: «І закончыў Бог да сёмага дня ўсе дзеі Свае, якія Ён учыняў, і дабраславіў Бог сёмы дзень і асвяціў яго; бо ў той дзень спачыў ад усіх дзеяў Сваіх, якія Бог тварыў і ствараў» [Быц 2: 2–3]. Адсюль вынікае і сімвалічна-алегарычны змест ліку «сем»: кожны чалавек, спасцігаючы старыя, як Богам створаны свет, ісціны, узводзіць свой свет – для сябе і ў сабе, са сваімі набыткамі, дасягненнямі, радасцю існавання, але і стратамі, паразамі, расчараваннямі. У гэтым ракурсе паказальна, што і кнігу «Поўня» склалі менавіта сем раздзелаў (вершы, што вылучаны ў асобную частку «У вянок памяці мамы», узятыя, як ужо адзначалася, з кнігі «З гэтага свету»).

Канцэптуальна важную функцыю выконвае ў кнізе «З гэтага свету» агульны да ўсіх яе частак верш-пралог «Усе мае лепшыя вершы...»:

Усе мае лепшыя вершы
са мною павінны памерці,
калі ж я сканаю першы,
то вы ім паверце
і без маёй прысутнасці,
проста на слова,
бо, калі браць па сутнасці,
я – іх палова.
Не тая, што водзіць пяром
і строфы складае,
а тая, што ў неба пралом
пагляды кідае
і ловіць маланкі клінок
натомленым духам,
зямны завяршыўшы віток
немачнай скрухай.
Калі ж пакарае Гасподзь –
і жыць буду доўга,
чытач, не саромся, прыходзь
за паэтычным доўгам.
Ці хоць бы зірнуць на таго,
хто зоркі вымольваў з неба
не толькі для аднаго
духоўнага хлеба,
хто ў цень ступаў Сатаны,
душы сваёй не прадаўшы,
таго, што Бог затаіў,
так і не разгадаўшы...

Твор гэты не толькі задае пэўны маральны імператыў і атмасферу шчырай спавядальнасці, але і нясе ў сваёй лірычнай сістэме скразныя, лейтматыўныя тэмы і праблемы кнігі, праз якія – нароўні з сакраментальнай колькасцю яе частак, лексічна акцэнтаванай агульнасцю іх назваў і іншымі кампазіцыйнымі і зместавымі склад-

нікамі – дасягаецца ўсё тая ж цэласнасць выдання. Структура кнігі, такім чынам, як бы падпарадкоўваецца двум розным імпульсам адначасова: яна і ўстойлівая, і ў той жа час рухомая, дынамічная, бо ўсе часткі-цыклы адкрыты для працягу, кожная наступная нібы вырастае з папярэдняй. І, што важна ў святле нашай тэмы, усе сем частак кнігі так ці інакш карэлююць з біблейскім матэрыялам, а ўсе экзістэнцыяльныя рэфлексіі лірычнага героя адзначаны гіперпрысутнасцю Бога.

Інтэграванне біблейскіх (як і іншых) алюзій у мастацкую сістэму кнігі адбываецца рознымі шляхамі і ў розных формах: праз вершы-малітвы, звернутыя непасрэдна да Госпада, праз назвы асобных твораў, праз імёны, што адсылаюць да тых ці іншых біблейскіх персанажаў, праз калізійнасць шэрагу вершаў, заснаваную на біблейскай сюжэтыцы, праз эпіграфы, скрытыя цытаты, парафразы, асобныя дэталі, праз пэўныя тэмы, нарэшце, што ўзыходзяць да Бібліі. Пры гэтым біблейскія алюзіі ў кнізе Л. Галубовіча маюць вытокамі сваімі як Стары, так і Новы Запаветы, нібы пацвярджаючы ў каторы раз іх непарыўную сувязь, іх глыбінную пераемнасць, якую падкрэсліваў у сваёй Нагорнай казані сам Хрыстос: «Не думайце, што Я прыйшоў парушыць закон, альбо прарокаў: не парушыць прыйшоў Я, а здзейсніць» [Мац 5: 17].

«Новы Запавет хаваецца ў Старым, Стары – адкрываецца ў Новым», – гаварыў Святы Аўгусцін. Адзінства старазапаветнага і новазапаветнага светаў здаўна дэклаによるвалася чалавечай думкай, успрымалася як знак цеснай і неабвержнай повязі народаў, веравызнанняў, культур. Сусветная літаратурная традыцыя ўвасабляла і ўвасабляе гэтае адзінства праз супакладанне ў мастацкіх творах старазапаветных і новазапаветных алюзій і рэмінісцэнцый, і кніга «З гэтага свету» – не выключэнне. Больш за тое, у адным з вершаў Л. Галубовіч свядома акцэнтуе непадзельнасць Святога Пісання, дапаўняючы яе семантыку – згодна з назвай, зместам і духам сваёй кнігі – новым сімвалічным сэнсам:

А *той* і *гэты* свет
не адгародзіш строга,
як Новы Запавет –
старонкай – ад Старога.

Самыя розныя тэксты Старога Запавету адгукнуліся ў кнігах Л. Галубовіча «З гэтага свету» і «Поўня»: Кніга Быцця з яе аповедамі аб стварэнні свету, грэхападзенні чалавека, аб першым у гісторыі чалавецтва братазабойстве, а таксама прысвечаная пытанням тэадыцэі Кніга Ёва, Кніга Выхаду, Псалтыр, Кніга выслоўяў Саламонавых, Найвышэйшая песня Саламонава, Кнігі прарокаў. Найважнейшую сэнсаспараджальную функцыю выконваюць у кнізе «З гэтага свету» настроі і матывы Эклезіяста – з яго ўсведамленнем хуткаплыннасці часу і абсурднасці свету, скепсісам у дачыненні да чалавечых магчымасцяў і высілкаў, скрушным веданнем непазбежнага канца зямнога існавання.

«Наймарнейшая марнасць, сказаў Эклезіяст, пустая марнасць, – усё марнасць!» [Экл 1: 2] – гэткай роспачнай канстатацыяй пачынаецца адпаведны біблейскі тэкст. Роспачныя думкі старажытнага мудраца пазнаюцца і ў вершах Л. Галубовіча – у радках аб спрадвечнай, адпачаткавай віне перад Усявышнім, аб непазбыўнай адзіноце і бездапаможнасці чалавека «ў бездані Сусвету», аб крохкасці і кволасці жыцця і немінучасці завяршэння «зямнога вітка». Ад усведамлення смяротнасці чалавека блякнуць усе яго незлічоныя магчымасці:

...Вось выгул наш кароткі па жыцці,
тэр'ер,
тым больш, на повадзе кароткім, –
і гэты шлях мы змушаны прайсці
да вызначанай лёсам паваротк...

Да Эклезіяста ўзыходзіць і матыў абмежаванасці чалавека ў яго імкненні да пазнання, якое абарочваецца прымнажэннем тугі і смутку, разуменнем уласнай слабасці і маласці, каб супрацьстаяць свайму вырaку. ««Во многом знании – немалая печаль», – / Так говорил творец Экклезиаста. / Я вовсе не мудрец, но почему так часто / Мне жаль весь мир и человека жаль?» – так увасобіў свае роспачныя перажыванні Мікалай Забалоцкі. Гучыць гэты матыў і ў кнізе Л. Галубовіча, спалучаючыся, як гэта найчасцей бывае ў яго вершах, з іншымі матывамі і тэмамі:

...Хацеў не ісціну знайсці,
а завязь сутнасці жывога,
з якой магчыма ў свет прыйсці
і дасягнуць вянца зямнога.

Ды зразумеў, што чалавек
вышэй сябе паўстаць не можа,
бы глянуць з-пад чужых павек
на ўсё, што нішчыў тут і множыў...

Не здольны выявіць пакуль
мяжу, дзе дух стае над плоццю, –
таму й сыходзіць ён адсюль
як і належыць ягамосцю...

І гэты самы чалавек,
што сам спазнаць сябе не можа,
спазнаць жадае цэлы свет,
які яму стварыў Ты, Божа?!

Апошні раздзел Эклезіяста месціць у сабе, як вядома, словы пра наканаваны чалавеку зыход – неадменны і неаспрэчны: «І вернецца тло ў зямлю, чым і было яно; і вернецца дух да Бога, Які даў яго» [Экл 12: 7]. Словы гэтыя вяртаюць нас да Кнігі Быцця – таго яе месца, калі Усявышні пасля грэхападзення Адама абвяшчае яму сваю волю: «У поце твару твайго будзеш есці хлеб, пакуль не вернешся ў зямлю, з якое ты ўзяты; бо пыл ты і ў пыл вернешся» [Быц 3: 19]. Як і ў мностве твораў сусветнай літаратуры, алюзія на прысуд Госпада чалавеку знаходзіць увасабленне і ў кнігах Л. Галубовіча «З гэтага свету» і «Поўня»:

Сок падкорны – драўляная кроў.
Пілаванне – драўляны прах.
Колькі ж спалена намі дроў,
каб зямны агонь не ачах?!
Але дрэва мкне ў вышыню,
людзі ўвыш глядзяць з-пад павек...
Прагне ўсё жывое агню –
і прырода, і чалавек.
Што ж, пад сонцам усе згарым.
Попел наш забярэ зямля
і душу ў нябёсы, як дым,
лёгка выдыхне апасля...

Гэткім жа прамым наследаваннем Эклезіясту з'яўляецца і яшчэ адзін верш з кнігі беларускага паэта:

Усё канчаецца зямлёю,
хоць пачынаецца з нябёс,
дзе не табою і не мною
людскі рахуецца наш лёс...

І аніякае надзеі,
апроч таго,
што нехта Звыш
нас,
быццам будні да нядзелі,
збярэ
і вынесе свой крыж.

Аднак важна ўлічваць, што палітра настрояў у кнізе «З гэтага свету» не вычэрпваецца адно самотай і роспаччу – зноў жа, у згодзе з Эклезіястам, бо і біблейскі тэкст заклікае «сыноў чалавечых», пры ўсім трагізме іх долі «пад сонцам», жыць «у радасці сэрца», карыстацца зямнымі дабротамі, кахаць, рабіць «па сіле», памятаючы толькі, «што за ўсё гэта Бог пакліча на суд» [Экл 11: 9]. Адзін і той жа лёс гвалтуе, «змолвае» жыццё, «бы ў жорнах», і яго ж, «здзіраючы струпы», узнаўляе – праз пакуты, усё новыя пошукі раўнавагі, праз самападніманне. Гэтаксама і лірычны герой Л. Галубовіча намагаецца адшукаць духоўнае апірышча, прагне бясконцасці, марыць пра Горні Свет і працяг у Вечнасці («Зрэшты, усяго чалавека не прымае нават зямля, а дзеліць яго з небам...», спадзяецца быць пачутым і зразуметым Госпадам:

...Бывае, й вера пакідае
і ў Божы свет, і ў свет людскі, –
ды ў падсвядомасці ўзнікае
свяшчэнны жэст Яго рукі...

Бо хто ж яшчэ з нябёс вячыстых
забраць гатовы ў нас без слоў
той *дух*, што даў калісьці чыстым,
каб нас *зямлёй* пакінуць зноў?..

І чым я больш прад Богам млею
і ледзь жыву, быява ў сне,
тым больш і больш я разумею,

Многія вершы з «Поўні», але найперш – змешчаныя ў цыкле «Са мною» ў кнізе «З гэтага свету», суадносяцца з Найвышэйшай песняй Саламонавай – вядома, праз тэму кахання, галоўную ў гэтым славутым біблейскім тэксце, пра які Ё.В. Гётэ ў свой час і сказаў як пра «Песню Кахання, самую старажытную і найцудоўную песню Усходу» [12, с. 484]. У Бібліі чалавек увасоблены ва ўсёй сваёй складанасці і душэўна-духоўнай паўнаце, ва ўсіх сваіх пачуццях, з якіх каханне – адно з самых глыбокіх і моцных перажыванняў, Богам дадзенае і з любоўю да Бога супакладзенае. Невыпадкова геніяльны нямецкі пісьменнік і мысляр Ё.Г. Гердэр сцвярджаў: «Існуе толькі адна Любоў як адно Дабро, адна Ісціна. Любоў да бацькоў, да сястры, да сябра, да нявесты – адна, і той, хто любіць не можа, – не можа любіць нічога».

Над суаднесенасцю тэмы кахання з даўняй праблемай хрысціянскай этыкі разважаў у свой час і Караль Вайтыла, будучы папа рымскі Іаан Павел ІІ, вызначаючы гэтую праблему як «прыўнясенне ў любоў любові», дзе «ў першым выпадку слова «любоў» азначае тое, што... фарміруецца паміж мужчынам і жанчынай; у другім жа – змест галоўнай запаведзі хрысціянскай веры». Падобная суаднесенасць дае аб сабе знаць і ў творах Л. Галубовіча; напрыклад, у вершы «Каханне – гэта адзінота» са зборніка «Поўня»:

...Каханне – гэта выпадковасць
Быць не шчаслівым, а святым...

Паказальна, што аднаму са сваіх вершаў, змешчаных у кнізе «З гэтага свету», паэт і назву дае адпаведную – «Каханне і любоў». Гэты верш з празрыстым прысвячэннем «В.» – своеасаблівы гімн адданасці і вернасці, узаемапрыналежнасці – да скону і нават пасля яго:

Калі кахаў, то прагнуў я любві,
калі любіў, то мроіў пра каханне.
Што ж, жарсць заўжды заложніца крыві,
адданасць жа – душы выпрабаванне.

Народжаная ты, найперш, – кахаць,
а я – любіць...
Наўслед маланцы й грому,
мы здольныя былі перадаваць
каханне і любоў адзін другому,

якія ўраз спляталіся ў адно,
звіваючы адзінства пупавіну,
і ткалі лёсу нашага радно,
што ляжа палатном на дамавіну.

Адзін з самых шчымліва-кранальных твораў у кнізе «З гэтага свету» – верш, якім увянчаны цыкл «Са мною»:

«Люблю» ні разу не сказала,
не ўспыхнула ад пачуцця...
Халодным каменем ляжала
ў падмурку нашага жыцця.

І стыласць губ тваіх цнатлівых,
нібы світальную расу,
я піў, як вязень сіратлівы
з-за крат саснёную красу...

А ты трывала і трымала
і дому крэн і лёсу схіл,
па-над усім мяне ўздымала,
пакуль тваіх хапала сіл...

Відаць, адно – калі наверсе
пачую кліч анёльскіх труб,
сама ў адчаі ты кранешся
маіх амаль халодных губ...

І з той пары мы будзем зліты
да неразлучнасці, да тла...
І нашы каменныя пліты
зазелянеюць ад цяпла...

Відавочна, мы не знойдзем у гэтым вершы ні фармальнага падабенства з Найвышэйшай песняй Саламонавай, ні незвычайна смелай яе метафорыкі, ні маладой пачуццёвай палкасці, ні падкрэсленага эратызму. Але ёсць нешта іншае, што родніць верш з біблейскім тэкстам, – пранікнёнасць, глыбіннае перапляценне лірычнага і драматычнага пачаткаў, а таксама наяўнасць аднаго з топасаў Песні, няхай і трансфармаванага па волі беларускага паэта: гарачы пацалунак, які мроіцца закаханай ў самым пачатку Найвышэйшай песні Саламонавай («Няхай вусны яго мяне пацалуюць! Бо лепшыя за віно твае ласкі» [1: 2]), абяртаецца пацалункам «амаль халодных губ» дзеля вечнай «неразлучнасці» ў пасмяротным іншабыцці.

Нарэшце, у гэтым вершы Л. Галубовіча (як і ў многіх іншых яго вершах) наўпрост увасоблена антыномія «каханне – смерць», адна з ключавых у Найвышэйшай песні Саламонавай. Ці не самы вядомы выраз з яе: «Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсцёнак: бо каханне, як смерць – моцнае... Вялікія воды не могуць любоў патушыць, і рэкі яе не затопяць» [8: 6–7] – творча інтэрпрэтаваны Л. Галубовічам. Перадусім думка аб непераможнасці, несмяротнасці кахання, з якім па моцы і таемнасці можа параўнацца хіба што смерць, але якога нават яна не ў стане абарваць, і гучыць у апошняй страфе верша беларускага паэта: «І нашы каменныя пліты / зазелянеюць ад цяпла».

Не менш разнастайныя і шматсэнсавыя перазовы ў кнігах Л. Галубовіча з Новым Запаветам, найперш з Евангеллямі з іх асаблівай місіяй – Хрыстовым вучэннем і весткай аб Выратаванні, але таксама з Дзеямі Святых Апосталаў, Адкрыццём Яна Багаслова і іншымі новазапаветнымі тэкстамі. Да прыкладу, новымі канатацыямі ўскладняецца тэма кахання ў адным з самых моцных вершаў кнігі «З гэтага свету» – «Прадчуваю: з нябесных высяў...», скрозь пранізаным алюзіямі на Біблію, гэтым разам – на Новы Запавет; тут тэма кахання і любові пераводзіцца ў метафізічны план:

Прадчуваю: з сусветных высяў,
працінаючы неба сінь,
Сам Гасподзь мне насустрач выйшаў,
каб паўстаць адзін на адзін.

Я з сустрэчы той не вярнуся
ані мёртвым, ані жывым,
а ўсёй сутнасцю застануся
ў вышняй Вечнасці разам з Ім.

Не шукай майго духу месца,
бо не знойдзеш яго нідзе,
толькі ў спратах таемных сэрца,
пад тугім пагоркам грудзей...

Вось адтуль ты мяне і клікай,
і не зводзь бяссонных вачэй
над святой евангельскай Кнігай
сорак дзён і сорак начэй...

Як адчуеш усёй істотай,
што пачну я ў табе расці –
значыць, з пятніцы на суботу
я ўваскрэсну ў тваім жыцці...

Адна з галоўных тэм, што лучыць кнігі Л. Галубовіча з Бібліяй, – гэта тэма слова, Слова. «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. Яно было на пачатку ў Бога: усё праз Яго пачалося...» [Ян 1: 1–3]. Менавіта ў святле гэтых славутых біблейскіх радкоў прачытваюцца многія вершы з кніг Л. Галубовіча «З гэтага свету» і «Поўня».

Лірычны герой разважае пра слова, якое рэальней за рэальнасць, бо яе зберагае; слова накіроўвае чалавека ў яго жыццёвым пошуку, пошуку Духу, які толькі і ёсць адзіным гарантам несмяротнасці, працягу ў Вечнасці, існавання «па той бок» смерці (зноў узгадаем біблейскае: «...і вернецца дух да Бога, Які даў яго» [Экл 12: 7]). Слова, прызванае ўзвышаць, маральна ўдасканальваць чалавека, падтрымліваць яго і рыхтаваць да іншабыцця, ёсць своеасаблівым пасярэднікам паміж зямлёю і нябёсамі. Такім яно замыслена было ад часу стварэння чалавека – як духоўнае дзеянне, праз якое жывое аддзяляецца ад нежывога; такім яно прызначана быць і

сёння, бо на кожным кроку свайго жыцця чалавек мусіць адрозніваць-адасабляць дабро ад зла, святло ад цемры. Слова ж, якое перастае быць духаносьбітам, якое страчвае сваю жыццядайную сілу, сваю функцыю чалавекатворчасці, – такое слова асуджана на бездапаможнасць і смерць:

...Вядома, можна змысліць адмыслова
будову свету і ягоны лад,
але каменным стане тое слова,
што спараджае злобу і разлад...

Праз многія вершы кніг «З гэтага свету» і «Поўня» праходзіць матыў паэтычнага слова як неацэннага Боскага дарунку, магчымасці паразумецца з наступнікамі, дапамагчы ім узняцца і адкрыцца, як знаку глыбіннай сувязі з Радзмай і светам, апраўдання свайго жыцця – творчага і чалавечага:

Я – раб паэзіі. І ўсё ж надзіва
Шчаслівы, што – як вязень ланцугом –
Прыкуты роднай мовай да Радзімы
І разам да Сусвету усяго.

Што ўсё часцей я адчуваю змову
Душы і сэрца з забеллю бяроз...
Што апраўдае?
Апраўдае мова,
Якую маці вышаптала скрозь,
Мой лёс гадаючы...

Дбаючы пра лёс Слова, пра лёс «боскай паднебнае мовы», якой не можа сцерці, зруйнаваць нават смерць, ахвяравалі сабою, гінулі «ў поцемках свету» паэты, пакідаючы жывым

веліч высокага духу,
мройнага шчасця хімеру,
смерцю касуючы скруху,
вершам мацуючы веру.

Гэтая ж, па сутнасці, тэма – несмяротнасці Боскага слова, прызначэння слова паэтычнага – знаходзіць увасабленне і ў вершах, якія месцяць у сабе алюзіі на творчасць тых або іншых пісьменнікаў. У гэтым сэнсе кнігі Л. Галубовіча бачацца своеасаблівай інтэгратыўнай прасторай, месцам сустрэчы самых розных творцаў – айчынных і замежных, тых, хто падае свае галасы «з гэтага свету», і тых, хто ўжо пакінуў, часта зарана і трагічна, «свет ясны». Антычнасць, У. Шэкспір і А. Хаям, А. Твардоўскі і Ф. Цютчаў, М. Багдановіч і Я. Купала, В. Вярба і Я. Янішчыц, А. Асташонак і А. Пісьмянкоў, А. Разанаў і А. Федарэнка ды многія іншыя ўступаюць у палілог з аўтарам кнігі і, адначасна, адзін з адным, не кажучы пра асацыяцыі і паралелі з паэтамі-папярэднікамі і іх творамі, выкліканыя пэўнымі вобразамі і матывамі з вершаў Л. Галубовіча (у прыватнасці, з «П'яным караблём» А. Рэмбо, з «Кнігай гадзін» Р.М. Рыльке).

Абвостранае стаўленне паэта і яго лірычнага героя да мастацкага слова як да прыстанку духу вельмі выразна дае аб сабе знаць у перадапошняй частцы кнігі «З гэтага свету» – «Мае». Кожны з вершаў, што склалі гэтую частку, прысвечаны творчым асобам (пераважна пісьменнікам), якія пакінулі заўважны след і ў душы аўтара, і ў беларускай літаратуры. «З мінулага... у гэты час» вяртаюцца і паўстаюць са старонак кнігі Міхась Стральцоў і Анатоль Сыс, Уладзімір Марук і Аркадзь Куляшоў, Барыс Бур'ян і Мікола Купрэеў, Іван Лагвіновіч і Уладзімір Караткевіч – праз іх імёны, праз вызначальныя біяграфічныя локусы, учынкі і

нават жэсты, прамоўленыя некалі і запомненыя словы, назвы прэцэдэнтных кніг або асобных твораў, прысвячэнні, цытаты, у адных выпадках пададзеныя ў якасці эпіграфаў, у іншых – выкарыстаныя ў саміх тэкстах вершаў, але вылучаныя курсівам дзеля іх сэнсавага акцэнтавання. Так, вершу, прысвечанаму Анатолю Сысу, папярэднічаюць яго радкі: «Мама, такога народзіць не кожная, / мама, / не перажывай!», Уладзіміру Караткевічу – «На Беларусі Бог жыве!».

Што ж да ўласна біблейскай сімволікі, то і яе багата ў вершах, прызначаных стварыць мемуарныя абліччы знаных беларусаў, лёс кожнага з якіх адзначаны трагізмам. Пры гэтым у мастацкай сістэме Л. Галубовіча, зноў жа, сінтэзаваныя старазапаветныя і новазапаветныя матывы. У вершы-прысвячэнні А. Сысу невыпадкова згадваецца Хрыстоў узрост («І зор над грудам – «трыццаць тры»...»), упамінаюцца вобразы-матывы церняў і пекла, у чарговы раз мае месца алюзія на ўжо цытаваныя вышэй радкі з Кнігі Эклезіяста («І вернецца тло ў зямлю, чым і было яно; і вернецца дух да Бога, Які даў яго» [12: 7]):

...і кроў пайшла з яго ракой,
і ў дол Айчыны з сэрца бегла...

Цяпер яна цячэ ў Дняпры,
а дух ягоны – над вадою...

Гэтую ж алюзію знаходзім у вершы «Развітальнае», прысвечаным Уладзіміру Маруку, эпіграфам да якога ўзяты радкі Міколы Купрэева: «Там, у тым далёкім сельсавеце, / ляжыць зямля сырая на паэце»: тло, пыл – зямлі («Апушчаны ў прамерзлую зямлю...»), дух – небу («...я дух яго ўлаўлю на ўсякім свеце...»; тут згаданая алюзію ўскладняецца іншай біблейскай сімволікай (апраметнай і брамы раю, Райскага сада, Эдэму):

На мове нашай павітайся Там
з Апосталам на браме запаветнай.
Скажы, што ўсім ты сёстрам і братам
прынёс паклон ад грэшных з *апраметнай*.

Калі не спатрабуюць пераклад
і ў свой Эдэм прапусцяць памылкова,
ты палюбі, як бацькаў, Райскі сад,
каб там квітнела матчыная мова.

Відавочна і тое, што ў палітру тэм у працытаваным вершы ўплецена тэма слова, роднай мовы, як улучана яна ў сукупнасць цэлага шэрагу біблейскіх алюзій у вершы, прысвечаным Уладзіміру Караткевічу з яго ж славутым радком у якасці эпіграфа: «На Беларусі Бог жыве!»:

Бог не жыве на Беларусі,
але Ён любіць Беларусь.
Наш дух Яму ў нябёсах гусі,
як дар зямны, перадаюць...

Яго паўсюднасць страшыць нас,
таму, здымаючы пакровы
з грахоў сваіх у Судны час,
мы просім мацярынскай мовы...

О, як знайсці Яму тут кут,
каб Ён сышоў з нябёс абруса
і увасобіўся ў радку
таго празорцы-беларуса,

які пісаў, што «*Бог жыве*!»,
і ўдакладняў: «*На Беларусі*»...
Там, дзе «*за Гомлем людзі е*»
і «*пчолы большыя, чым гусі*»...

Прыклады выкарыстання біблейскіх алюзій у цыкле «Мае» можна доўжыць; звернем, аднак, асаблівую ўвагу на падкрэсленае суаднясенне (традыцыйнае, трэба сказаць, для паэзіі) тэмы слова з тэмамі Прарокаў і Апосталаў; невыпадкова гэтыя вобразы (Апостала, Хрыстова вучня, прарока, празорцы) убудаваныя ў вобразныя сістэмы многіх вершаў.

Не можа не звярнуць на сябе ўвагу паэтава бачанне Бога – Ён у вершах Л. Галубовіча розны, і гэта, як ні парадаксальна, суадносіцца ў пэўным сэнсе з Бібліяй: нездарма Бог-Абсалют Старога Запавету паўстае Богачалавекам у Новым Запавеце. У кнігах «З гэтага свету» і «Поўня» Ён, з аднаго боку, – ірацыянальная сіла,ісціна і таямніца, неспасцігальная для недасканалага чалавека. Візіі такога Бога суправаджаюцца адпаведнай топікай. Прырода і чалавек, усе з'явы і лёсы ў свеце «з-пад Яго / апекі вымкнулі і ўлады»; Ён недасягальны ў сваёй «першароднай чысціні»; Яго «дзеі» і «дарогі» непадуладныя разуменню грэшнага чалавека, як бы апошні ні імкнуўся ўведаць Яго – «у твар, да ногця, да драбніцы (амаль што як сябе самога)»; «свяшчэнны жэст Яго рукі» здольны вярнуць чалавека да веры ў выратоўную існасць Госпада, Яго вышэйшага промыслу, усталяваных Ім маральных законаў:

...І чым я больш прад Богам млею
і ледзь жыву, бы ява ў сне,
тым больш і больш я разумею,
што – разумее Бог мяне...

Да Бога лірычны герой у празе спачыну для сваёй натомленай душы прыносіць сумненні і скаргі, звяртаецца з бязлітаснымі ў сваёй невырашальнасці экзістэнцыяльнымі пытаннямі. Чым ёсць жыццё – міласцю Боскай або пакараннем? Дзе праходзіць мяжа паміж сілай і слабасцю і хто дужы, а хто нямоглы ў вачах Госпада? Дзе канчаецца воля Усявышняга і пачынаецца грэх чалавека? Як трымацца Бога ў абязбожаным свеце, «у мёртвы час свой, мерзлы»? Чаму кожны смяротны лічыць менавіта свае пакуты адно вартымі ўвагі Збаўцы?

З іншага боку, Бог і яго атачэнне празаізуюцца, прызямляюцца; яны не пазбягаюць зносінаў з апошнімі «шаленцамі без прытула» (і, зноў жа, гэта не супярэчыць Бібліі, бо не грэшнікі, а грахі ненавісныя Госпаду). І паяўляецца Ён у самых нечаканых месцах і ў самых розных праявах: вось перад намі «Бог малады на лёгкай аблачыне»; вось Гасподзь ходзіць вясковым выганам; вось «золак зраселаму Богу» сцірае бачныя рысы (згадваецца С. Полацкі: «Хрыстос – раса нябесная...»); вось з Яго ўзыходжаннем «на пасад» «душу сваю знаходзяць / і нішкам моляцца Яму» няшчасныя насельнікі хутара Рай «бліз Мінска» – гаротніца Ларыска і яе «муж і сын – згрызот аскепкі», і браму гэтага Раю Бог даверыў сцерагчы сабаку Рэму, які будзе аддані сваёй службе аж да тае пары, «пакуль іх душы з таго краю / не адляцяць за небакрай...»; вось «распнуты Хрыстос... / упарта чапляецца / за павучыну / жыцця» [9, с. 57] на покуці сіраты-хаты ў спусцелай вёсцы; а вось херувім, у абліччы «бабыля вясковага, светлага і ўбогага», наглядае за дваром адзінотніцы Хрысціны...

Л. Галубовічу ўвогуле ўласціва заўважаць найважнае – у звыкла-будзённым, значнае – у нязначным, вялікае – у малым. Усё ва ўсім – вось яго канцэпцыя свету, бо дрэва і рыба, колас і птушка, «аслеплы крот», які капае зямлю, і чалавек, які яе засее, – складнікі аднаго, адзінага, Богам створанага ўніверсуму.

Гэтаксама, па прынцыпе «вялікае – у малым», ставіцца аўтар да Радзімы, любоў да якой лакалізуецца перадусім на роднай вёсцы Вароніна, на бацькоўскай хаце, на ўсім, што «кроўна знітаванае» з ім; «прихотливо узок» – сказаў у свой час У. Набокаў пра вядомага англійскага паэта Руперта Брука, які кіраваўся такім прынцыпам. Ва ўяўленні лірычнага героя Л. Галубовіча родная хата нясе на сабе водсвет біблейскага святла, дае адчуванне паяднанасці з зямлёй, сваёй у ёй укарэненасці, «чалавечага ўваскрашэння». Нездарма, як пісаў светлай памяці незабыўны У.М. Конан, «у народных уяўленнях гняздо, “родны кут”, свая зямля – гэта жывыя сімвалы зямнога Раю». Дзеля наталення душы чакае ён сваёй сустрэчы з роднай вёскай, роднай хатай і – з мамай, згадкі пра якую прасякаюць многія вершы.

Вобраз мамы ў кнігах Л. Галубовіча – адзін з вызначальных, адначасна індывідуалізаваны і абагульнены; пры жыцці на ёй трымалася хата, масніцы ў якой і пасля смерці гаспадыні «мамінай хадою» гавораць; мама гуртавала сям'ю, ахоўвала паразуменне сваіх дзяцей, сваёй радзіны – «адзіную – родную для ўсіх – мову»; яе ахвярнасць, пакорлівая годнасць і мудрасць, бязмежная пяшчотнасць былі і засталіся духоўнай падтрымкай сыну («Калі няма больш аніякага паратунку – успамінаеш маці...»). Паказальна, што ў вершы «Несмяротнасць» паэт вуснамі свайго лірычнага героя звяртаецца – праз адпаведную графіку і інтанацыю – да Мамы як да Бога:

...І вось грэюся ля прысаку сэрца Твайго
і лаўлю апошняе дыханне Тваё...

Неяк самі сабою ўспамінаюцца радкі В. Блажэннага: «Пусть сначала простит меня мама, / А потом уже – люди и Бог». Увогуле ж, паводле ўсёй творчасці Л. Галубовіча, паняцці Бог, Радзіма, Мама для яго – роўнавялікія.

Цалкам відавочна, што няма ў кнігах «З гэтага свету» і «Поўня» ніводнага канцэптуальнага вобраза, ніводнай значнай праблемы, якія так ці інача не транспануюцца ў парадыгму стасункаў чалавека з Богам. Біблейскія алюзіі надаюць творам Леаніда Галубовіча сэнсавую глыбіню і шматмернасць, прыўносяць у іх шкалу духоўных каштоўнасцяў, якія ў наш «выстылы» час, «на памежжы двух вякоў», неабходныя як ніколі.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Леаніда Міхайлавіча ГАЛУБОВІЧА**
з сямідзесяцігоддзем і зычаць яму бадзёрасці,
натхнення на новыя выдатныя творы
і вядома ж – моцнага здароўя!

Марыя Новік



…Як слуп, паўстане дарога –
углыб зямлі і да Бога…
Пакіну не так і многа:
душу, зярнятка жыцця…

# “Нябёсы зямлю не пакінуць…”

## *Пра кнігу Дануты Бічэль “Гускі вяртаюцца”*

***Данута Бічэль-Загнетава. Гускі вяртаюцца. – Гродна: Выдавецтва «ЮрСаПрынт», 2019.***

Вершы з гэтай кнігі прыходзілі да мяне, як тыя гускі, што вяртаюцца чародамі з выраю... Іх дасылала паэтка чародкамі, дзелячыся сваімі паэтычнымі разважаннямі, малітвамі-медытацыямі... І пасля яны, сабраныя ў адзін паэтычны вырай, прыляцелі кніжкаю “Гускі вяртаюцца”... І вокладка – трывожна-зацемненая выява шэра-белых гусак на фоне цёмнага неба – шчымліва ўзрушвала, і затрымлівала, не дазваляла адразу адгарнуць кнігу, перайсці да чытання...

### “Пад Божым крыллем…”

Пэўна, многім знаёмае гэтае такое дарагое для душы шчымліва-ўзнёслае імгненне ў прасторы-часе: вяртаюцца гускі... У прадмове да кнігі Данута Бічэль гаворыць пра тое, як




нараджалася кніга, як з'явілася і сама назва: "Мая кніжачка "Гускі вяртаюцца" стваралася два апошнія гады ў начных бяссоннях паміж ружанцовымі разважаннямі. Зрэшты, кніжачка пачала вырысоўвацца ранняй вясной, калі я выйшла на досвітку са старога дому, у якім дажываю, і пачула трывожна-салодкую таямнічую пераклічку гусак, якія ляцелі з паўднёвага захаду на паўночны ўсход". Уся глыбіня, сімволіка, падтэкст выразу-назвы адкрыецца чытачу пасля знаёмства з творамі, пасля прачытання кнігі, пасля асэнсавання, здавалася б, такой зразумелай, аднак такой таямнічай, насычанай поліфанічнасцю сэнсаў і гучання паэтычнай мовы Дануты Бічэль-Загнетавай. Прызнацца, напачатку знаёмства з прадмовай да кнігі, мне здалося, што яна не надта гарманічная па сваёй вобразнай асацыяцыі з назвай кнігі, аднак жа пасля пераконвалася, што сімволіка, метафарычны змест назвы прадмовы і зместу кнігі паяднаны ўнутрана, прыродна і па-мастацку.

"Мая блакітная кроў"... Так назвала прадмову паэтка і патлумачыла, што гэты выраз – ад "ад колеру рэкаў, азёраў, крыніц, якія наталяюць здароўем, сілай, здымаюць стому, напаўняюць душу спакоем, палётам і глыбінёй". І працягам прадмовы – верш "Балота". Так паядналіся ахетыповыя знакі-коды: рака, балота, вада, гускі... Гэта знакі-сімвалы Беларусі, яе спрадвечнай прыроды, яе таямнічай сілы, неператожнасці. Маляўніча, пачуццёва-лірычна стварае паэтка малюнак роднай зямлі ў гэтым вершы, дзе ў кожным радку – знакі-сімвалы роднага краю: "Чысты балотны пагорак.... пасярод журавін, асокаў! Жабкі спяваюць хорам... Жураўка – высока". Заканчваецца верш публіцыстычна напоўненым выказваннем, у якім суіснуюць і ўжо вядомы вобраз-сімвал Беларусі як "зямлі пад белымі крыламі", "зямлі белых буслоў", так і новы – Беларусь "пад Божым крыллем":

Балотны Край, незалежны,
слаўны магутнасцю Божай,
у святасці неператожны,
пад Божым крыллем – бязмежны.

Новая кніга паэткі – пра Беларусь, пра яе красу, гісторыю, культуру, пра духоўны свет чалавека. Гэта і роздум, і малітва, і запавет. Дзесяць раздзелаў у ёй – гаваркіх, адметных, розных паводле зместу, аб'яднаны адным найвялікшым пачуццём любові да роднай зямлі, да яе прыроды, людзей, гэта ўзнёслая паэтычная малітва за Беларусь, за яе будучыню, гэта шчырая ўдзячнасць міласэрнаму Богу за ўсё спазнанае на сваім жыццёвым шляху. І ў гэтай, як і ў папярэдніх кнігах, гэта падарожжа ў краіну Неманіну, гэта шлях да Каложы, да таго святога і вечнага, што тоіць душа чалавечая, што пасылае чалавеку Бог. Вабіць і зачароўвае, трывожыць намаляваны, выяўлены паэткай і ў ранейшых зборніках душэўны стан – "паміж зямлёю і небам", "паміж бяссоннем сонца і бяссоннем зямлі", "на белых аблоках сноў", калі, заварожаная бязмежнай прасторай высяў, душа, як той лёгкі птах, здольная зазірнуць – з вышыні – у таямніцы таго "патаёмнага", адчуць сілу ўсеператожнай Любові да чалавека ў недасяжнай прасторы Творцы. Вобраз нябёсаў, аблокаў, птахаў – характэрны для паэтыкі Дануты Бічэль-Загнетавай. Адзін са зборнікаў духоўнай паэзіі мае назву "На белых аблоках сноў". Малюнак духоўнай прасторы, вобраз містычнай Беларусі, чалавека пад крыламі Анёлаў, пад крыламі нябесных апекуноў, пад крыламі галубка – Святога Духа – як знак паратоўнага, суцяшальнага Слова ў палёце-жыцці...

## “Шчаслівыя душы на Каложы…”

Першы раздзел – “Нябёсы Каложы” ўспрымаецца як працяг кнігі “Дайсці да Каложы” (2017 г.). Каложа і Нёман – гэта сімвалы Радзімы-Беларусі. Менавіта Каложа, як кажа сама паэтка, “грэла, натхняла, вызначала шлях, пошукі слова, усё маё шчаслівае жыццё”. Каложа – гэта і асацыятыўны вобраз самой паэткі Дануты Бічэль. Менавіта з Каложай звязаны і вершы-прысвячэнні паэтцы ад Уладзіміра Караткевча і Ларысы Геніюш. Вершы, аб’яднаныя назвай “Нябёсы Каложы”, далучаюць нас да вытокаў паэткі, да вытокаў Духу беларусаў, да духоўнага багацця, духоўнай спадчыны беларусаў. У вершы “Краіна Неманіна”, якім пачынаецца першы раздзел, гучыць узнёслае слова-малітва за “благаслаўлёную Краіну”, гучыць урачыста, гімнава. Тут паяднаны неба і зямля, зямное і высокае, яно – неразрыўнае, бо ў хвалях нёманскіх – адбітак нябёсаў, бо “ў нябёсах святых над Каложаю вера, надзея, любоў перамножаная на веру, надзею, любоў хваляю Божаю”. Паэтка складае словы падзякі Богу “за зямное кароткае падарожжа”. Гэта верш-падзяка, верш-падсумаванне, верш-развітанне... І разам з паэткай – ідзеш, далучаешся і як усё адно купаешся ў лёгкіх, высокіх нябёсах і – адначасна – у невымернай веры, надзеі, любові, што адбіваецца ад боскіх вышыняў і расплываецца “па каменьчыках у Неманіне, па блаславёнай краіне”. Паэтка па-свойму, арыгінальна, па-мастацку асэнсоўвае легенды і паданні, звязаныя з Каложай. У прадмове да кнігі “Дайсці да Каложы” Д. Бічэль-Загнетава прызнаецца: “Я веру ў легенду пра тое, што чорныя валуны, умураваныя ў плінфы ў алтарнай частцы, вылечваюць болесці, таму прытуляюся да сцяны Каложы. Шліфаваныя маёлікавыя пліты ў форме крыжыкаў натхняюць ткачых, мастакоў, цесляў, дойлідаў, кавалёў, музыкаў, паэтаў”. Верш “Легенда пра чорны камень” – паэтычнае асэнсаванне спрадвечнай барацьбы Чорнага і Белага, Цёмнага і Светлага, Добрага і Злога, пра ўсепераможную сілу любові, пра апеку, заступніцтва Каложскай Маці Божай. У вершы – і пра гістарычную памяць народа, яна – у гэтым прыгожым тварэнні рук і духу чалавека – Каложы. І Каложская Маці Божая восем стагоддзяў ужо “асвячае людзей на досвітку малітоўным магічным дотыкам...” І наступны верш – “Нёман ля Каложы” – уражвае такім таленавітым перапляценнем рэалістычнага і метафарычнага планаў выказвання паэткі, арыгінальнымі, багатымі на падтэкст малюнкамі:

На Каложы з маёлікавых крыжоў
андарачак зялёны.
Нёман, як прывід, міма пайшоў,
шчаслівы і непрытомны...

Лірычны пейзажны малюнак паўстае з метафарычных пераасэнсаванняў паэткай зразумелых слоў, якія ў паэтычным кантэксце набываюць глыбокае падводнае цячэнне і сэнс, за ім, прыгожым вобразам, – народная традыцыя, старажытная культура. Адкрыццём становіцца Каложа ў “андарачаку зялёным з маёлікавых крыжоў”. Шчаслівы той, хто аднойчы ўбачыў Каложу вачыма паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай, якая ўмее правесці госця сваімі ўлюбёнымі сцежкамі да Каложы, а пасля туды, да Нёмана, дзе над самай кручай, над самай стромай віруе Нёман... Паэтка малюе ў вершы паэтычны, няскораны вобраз Каложы – над стромым берагам, яна, нягледзячы на трагічныя абвалы, страты, – усё ж выстаяла, жывая, стаіць як сімвал няскоранасці Духу чалавечага, Боскага Духу, як сімвал беларускае духоўнае спадчыны, яна – жывая, як жывая душа Беларусі, бо яна – прыгожы зямны і незямны цуд. Пра гэта – паэтычна ў арыгінальных малюнках-вобразах:

Неба, калі сонейка грала,
з Нёманам злучалася ў паводцы!
Маці Божая на воблачку ў лодцы
з віру Нёмана Каложу будавала.

Каложа – як цуд тварэння рук чалавека, як цуд чалавечага таленту, духу, як жывое дыханне гісторыі – набывае новыя рысы і асэнсаванне ў вершы “Не спыняюцца цуды”. Гаваркімі дэталямі ў вершы з’яўляюцца імёны святых Барыса і Глеба. З Каложай паэтка звязвае і асобу Уладзіміра Караткевіча. Такім чынам паядноўвае далёкія стагоддзі, такім чынам дае ім характарыстыку праз гаваркія дэталі:

На Каложы стыкуюцца стагоддзі,
як брат да брата, прыходзяць –
адно неба шэрае, а другое карае:
такія нябёсы стагоддзяў,
як вочы ў Караткевіча Валодзі...

Каложа ў паэткі – аберагальніца душаў людскіх, што адляцелі ў вечнасць. Пра гэта так лірычна ў адметных паэтычных радках:

А чыя гэта душачка святая
з чоўніка на бераг вылятае?
У галечы, у голадзе, у раскошы –
шчаслівыя душы на Каложы.

Вершы з новай кнігі Д. Бічэль-Загнетавай далучаюць чытача да шчымлівых разважанняў пра Жыццё і Смерць, пра сэнс жыцця, пра асэнсаванне свайго асабістага жыццёвага шляху. Верш “Нёман вогненны” інтрыгуе не толькі сваёй аксюмаранннай назвай, але і зместам, спосабам выказвання. Гэта верш-малітва паэткі, малітва-літанне за чалавека, часта безабароннага, улюбёнага ў Нёман, у сваё, спрадвечнае, дарагое. Гэта і малітва за Беларусь, за свой народ, за тыя таленты, ахвярна ўскладзеныя на алтар Беларушчыны. Верш успрымаецца і як асабістая малітва-просьба паэткі, якая прамаўляе і за многіх іншых. У мастацкім кантэксце – новыя значэнні-прырашчэнні маюць добра вядомыя вобразы-сімвалы – Нёман, Каложа, вір, вырай:

Нёман вогненны, не чапай мяне,
не заваблівай шчырым вірам.
Не прыму твайго сэрца з каменя!
Каложа, вазьмі мяне ў вырай.

Слова-зварот да Бога, да Божай суцяшальнай усеабдымнай любові гучыць як зварот кожнага чалавека ў хвіліны адчаю, роспачы, у хвіліны самоты і сумоты, у хвіліны роздуму пра сваё апраўданне перад Усявышнім:

Божа, зайдзі праз абраз на сцяне!
Не пакінь мяне, несуцешнай!
Ад усіх правінаў адмый мяне!
Як малітву, прымі мае вершы!

Нёман і Каложа, як і ў непаўторным прыродным краявідзе Радзімы, так паяднаны і ў паэтычных творах Д. Бічэль-Загнетавай. Новае творчае асэнсаванне набывае вобраз Каложы ў вершы “Птахамі продкі былі”. Паэтычная мова паэткі насычана шматзначным, поліфанічным гучаннем. Падтэкстава багатая кожная фраза. За ёй – цэлыя пласты гісторыі і культуры беларусаў:

Дойлід шліфуе ў агні
лекавыя камяні.
Лучнік цэліць у сэрца варожае лук.
Цвіце над Каложай непакошаны луг.
На Нёмане крыгі...
Святыя Барыс і Глеб.

Каложа паўстае як "вогненны птах", як птушка-фенікс, што адраджаецца, уздымаецца, ажывае, жыве нанова: "на каменнай скале, на касцях, на болесцях, на стагоддзях Каложа, вогненны птах, з валуноў і плінфы, на неба ўзыходзіць". Гэтым вобразам-сімвалам увасабляе паэтка веру ў нязводнасць, адраджэнне свайго народа, які, нягледзячы на пакутны шлях да свайго існага жыцця, здолее пераадолець усе злыбеды лёсу. І рытм выказвання – як упэўнены крок, як узыходжанне, як сіла вялікай грамады:

Гэтак паўстанеш і ты,
наш святы і грэшны народзе,
Богам адкуплены, не на вайне, –
на крыжах Каложы, на валуне...

## "Паміж сонейкам і зямлёю..."

Разважанне пра лёс чалавека, лёс народа свайго, сваёй Радзімы – і ў вершы "Нябёсы зямлю не пакінуць". Выказванне паэткі заснавана на ўнутраным дыялогу, на антынаміі, што надае драматызм, экспрэсію вершу. Праз сутыкненне двух планаў – міфічна-метафарычнага і рэалістычнага – ствараецца вобраз планетарны – таямнічага сусвету, вобраз жывых, разбуджаных нябёсаў:

Шчаслівыя лянівыя людзі
палятуць на канец сусвету.
Зробіцца шэрай зямля-маляванка,
попелам росы...
Але ўскочыць да Грому ў карэту
маладая Маланка,
пракоцяцца з грукатам па нябёсах
і разбудзяць нябёсы.

Вобраз нябёсаў суіснуе ў непарыўнай повязі з вобразамі зямнымі. Родная зямля паўстае ў дарагіх сэрцу паэткі геаграфічных назвах-кодах-знаках: гэта балота на Гаўі, рака Жышма ў вытоках Дзякі, мястэчкі Пятрашкі, Сонтак, Бурносы... У адказ на пранізлівы малюнак трагедыйнага шляху свайго народа і сваёй Радзімы, Зямлі-планеты гучыць жыццясцвярджальная вера ў нязводнасць родных паселішчаў, рэк, чалавека: "Не змоўкне спеў шматгалосы, буслы прылятуць на свае буслянкі, разбудзяць нябёсы". Такога шчымлівага гучання – адначасна і болю і веры – дасягае аўтарка, сутыкаючы антаганічныя вобразы-паралелі. І як знак жыцця – вобраз заўсёды "жывых" нябёсаў, вера, што "нябёсы зямлю не пакінуць". У вершы – знакі-сімвалы былога і сучаснага, часовага і вечнага, з'яднанасць неба і зямлі:

Нават калі не вытрывае
сцяна Каложы,
паедуць нашчадкі яцвягаў
на Данбас, паміраць за Украіну...
Не будзе ні Гаўі, ні Нёмана,
ні паводкавай Неманіны.
Уздыхнуць і заплачуць нябёсы.
Нябёсы зямлю не пакінуць.

Паэтычна, з выкарыстаннем прамога і пераноснага, метафарычнага планаў, выказвае аўтарка сваю веру ў несмяротнасць душы чалавека, у нязводнасць роду, у жыццё на "зямлі пад белымі крыламі" і ў "нябёсах белых буслоў!". Узнёсла, кранальна гучыць заключная страфа верша:

Аднойчы ноччу на зорцы
можам згубіцца ў норцы.
А здарыцца цуд – без ніякіх змоў,
у кашульках народзімся зноў...
Сустрэнемся досвіткам
каля Каложы на горцы!
Усё жыццё залежыць ад Створцы...
У нябёсах белых буслоў!

У нябеснай прасторы – сакральны, таямнічы вобраз Маці Божай, так светла апетай у шматлікіх творах Данутай Бічэль-Загнетавай. Як паэтычны гімн Маці Божай, як малітва, і як падзяка, і літанне, і апяванне гучыць другі раздзел – "Да Маці Божай вясной прыгожай". У кантэксце вершаў пра Маці Божую, якія апублікаваныя ў ранейшых кнігах паэткі, сустракаем тут новыя вобразы, разважанні, маленні. Духоўная паэзія Д. Бічэль-Загнетавай адметная паэтычным асэнсаваннем гісторыі розных абразоў Маці Божай, але заўсёды – гэта своеасаблівыя паэтычныя гісторыі пра духоўную спадчыну народа. Гэта і мастацкае апісанне – праз характэрныя дэталі – адметнасцяў Іх выяваў. Паказальны кантэкст у вершы "Маці Божая на Каложы":

Маці Божая на неба паплыве
ў вастрабрамскім маладзічку...
Ключык шчасця схавае ў царкве
ў патрэсканым галаснічку.

Паэтка малюе словам, выкарыстоўвае вобразныя выразы, перыфразы, стварае па-мастацку новы вобраз: "Маці Божая нашага болю, Валадарка спакою, паміж сонейкам і зямлёю на чоўніку маладзіковым". Надаюць лірызму, эмацыйнасці выказванню памяншальна-ласкальныя формы слоў. Так ствараецца адчуванне, што паэтка атуляе цябе цяплом свайго ласкавага, пяшчотнага, спачувальнага слова, агартае разам з Маці Божай суцяшальным покрывам спагады і любові. Як для малога дзіцяці гучыць пяшчотна-ўзнёслае слова пра Жыровіцкую Маці Божую – заступніцу Беларусі, пра цудадзейны абраз, які з'явіўся пастушкам на грушцы ля крыніцы:

На палянках, дзе спее любоў,
звяркоў ды чмелікаў лашчыш...
Лечыць сардэчны боль
Твой цудоўны вогненны плашчык.

Паэтка далучае чытача – і маленькага, і дарослага – да неацэннай дапамогі Маці Божай, як і сама, узяўшыся за руку, даверыўшы сваю далоньку Маці Божай, вядзе і нас да той неспасцігальнай даверлівасці, дзе душа знаходзіць і спагаду, і сілу, і моц. Іншасказальна гаворыць паэтка пра шлях душы ў зямным жыцці – праз выпрабаванні, трывогі, грэх, страты – да высокага ўзыходжання. Гэтак – і пра шлях роднай Беларусі, апетай паэтамі, да высокага адроджанага жыцця. Возера Свіцязь, Адам Міцкевіч, шлях... Гучыць у вершы "З дзіцячай мрояйісці за табою..." развітальнае журлівае пачуццё, элегічная суцяшальная мелодыя. Сімвалічныя вобразы Свіцязі, сонца, галубка. Уражвае малітоўным зместам, а таксама сваім адметным рытмам верш "Па слядочках Твайго прамення". Гэта малітва-медытацыя за Беларусь, за свой народ, за ягоную годную будучыню. Прыгожы вобраз Беларусі – праз старажытны абрад:

Як на Пятра і Паўла
пастушкай вянкі ўскладала
кароўкам на рожкі,
так ускладзем валошкі
на скроні і на дарожкі,
упрыгожым збажыну і азярыну
шыпшынай ды канюшынай.

У вершы – праз паэтычныя дэталі-сімвалы – пра традыцыйную культуру беларусаў, пра змаганне за волю і незалежнасць. Гэта жаданне перамагчы зло, нягоды дабром, міласэрнасцю, мілажальнасцю: “Залатымі цуглямі дабрыні зацугляем вершніка на кані!” Верш-малітва за родную Беларусь, за людзей гэтага шматпакутнага краю гучыць эмацыйна, экспрэсіўна, бо гэта зварот да Маці Божай – “ад неба Пасланкі”. Падкрэслена выразная і сімволіка назваў са словам “белы”:

Далучы, Апякунка, ад неба Пасланка,
боль людзей да Хрыстовых крыжовых пакут!
Статкі Белых азёр,
Белы брод і буслянку...
Белы дым, Белавежу і Белы Груд...

Як увасабленне пачатку ўласнага вытоку, вытоку свайго роду ўспрымаецца ў паэтычных творах паэткі рака Гаўя. Невыпадковыя былі росшукі паэткі пра гісторыю гэтай ракі, яе неапраўданая віна перад ракою свайго маленства. Верш “Па Гаўі на дзіравым чоўне”, якому характэрна эпічнасць, сюжэт, успрымаецца як твор баладнага жанру. Успамін пра здарэнне з далёкага дзяцінства, якое легла ў аснову твора, вырастае да нечаканага заключэння:

Блакітная ў затоках Гаўі кроў!
О, Маці Божая, маіх сяброў
у той гавейскі чоўнік пазбірай.
Ружанец з намі шчыра адмаўляй!

Пад крыло Маці Божай збірае паэтка душы дарагіх ёй людзей. У вершы “Прытулі і благаславі” чуем пранікнёны голас паэткі, якая пасылае словы малітвы за свой люд, за сваю зямлю, за праўду і Святло. Апошняя страфа ўражвае сваёй экспрэсіўнасцю, выяўленнем волі паэткі, якая, звяртаючыся да Маці Божай з просьбамі за родную зямлю, народ, здольная сабраць усе цярпенні, ахвяраваць сваім сэрцам, жыццём:

Вырві сэрца маё, як варона гарэх,
з усяго размаху на брук, –
калі ўсё людское цярпенне збярэш...
Я прыму яго з тваіх рук.

Працягваецца малітва паэткі да Госпада, працягваецца выява паэтычнай, чулай душы ў размове з яе апекуном – Францішкам Ксаверыем. У вершы гаваркія дэталі-штрыхі, праз іх – выява самапачування чалавека ў вялікім горадзе, дзе заступнікам – Міласэрны Бог. Ён – падтрымка, паратунак у няпростых жыццёвых варунках, лекі для стомленай душы. У творы шмат дэталяў з рэальнага жыцця паэткі, яе зямнога акружэння, дзе і “коцікі мяўкаюць, Светка-варонка цёхкае”. Усявышні вядзе яе зямною сцежкаю, гоіць яе стрывожаную душу, лякуе яе “анямелыя рукі”. Вобраз, аднак набывае і абагульненае напаўненне.

## " У святой сям'і..."

Сярод твораў-малітваў ёсць і тыя, у якіх адкрытыя просьбы-літанні, просьбы-звароты да Бога. Верш "Дай мне Святога Духа" не мае метафарычных ускладненняў, ён можа быць словам-малітвай кожнага, хто ў скрусе, жалобе, у смутку і трывозе, у адчаі. У паэтычным слове Д. Бічэль-Загнетава распавядае чытачу і пра свой шлях да Бога, да святыняў, пра духоўных сваіх настаўнікаў. Як своеасаблівы экскурс у нядаўняе мінулае, у часы адраджэння веры ў нашым грамадстве падчас нацыянальнага адраджэння напрыканцы XX стагоддзя ўспрымаецца верш "Катэхеза айца Ўладзіслава Чарняўскага". Верш эпічнага плану, гэта ўдзячнае слова паэткі ахвярнаму подзвігу святара, які быў адным з пачынальнікам адраджэння багаслужбаў па-беларуску, адзін з пачынальнікаў перакладу богаслужбовых кніг на беларускую мову. Пра духоўны, святарскі подзвіг а. Уладзіслава Чарняўскага, які служыў у Вішневе, гаворыць паэтка ўзвышана, выкарыстоўвае выразныя дэталі. Праца айца Чарняўскага – гэта працяг высакароднай дзейнасці Францішка Скарыны – яны неслі святло малітвы паспалітаму люду ў роднай мове:

Акунаўся ў глыбіні біблійных кніг –
адзін на ўсю Беларусь дзеля ўсіх,
Богам прысланы, такі наіўны, –
маладзічок з гравюркі Скарыны...

Пра Уладзіслава Чарняўскага – яшчэ адзін твор у гэтым зборніку. Ён мае назву, суадносную з формаю назваў твораў баладна-казачнага тыпу – "Як з Гародні суполка Максіма да айца Уладзіслава Чарняўскага ў Вішнева ў пілігрымку хадзіла". Чытаеш – ствараецца ўражанне, што слухаеш апавядальніцу-казачніцу, яна, аднак, распавядае не пра чарадзейную прыдуманую прыгоду, а пра рэальную падзею з жыцця творчай суполкі пры музеі Максіма Багдановіча ў Гародні. Аўтарка стварае адчуванне шчырай даверлівай гаворкі, прыгадваючы імёны і прозвішчы ўдзельнікаў той ужо далёкай пілігрымкі. Гэтаму спрыяюць і дыялогавыя формы выказвання, і штрыхі навакольнага асяроддзя – пейзажныя дэталі-замалёўкі. Разам з тым яны неаднаразова вырастаюць да панарамнага малюнка, нават фантастычнага, нерэальнага, аднак суадноснага з прасторай сваёй зямлі і настроямі ў грамадстве канца XX стагоддзя. Пілігрымка, дарога да беларускага святара набывае сімвалічнае гучанне, успрымаецца як увасабленне таго няпростага, аднак паратоўнага шляху да веры, да міласэрнасці, да роднае мовы ў храме... Вобраз айца Уладзіслава Чарняўскага намаляваны паэткай асобнымі штрыхамі, а то і цэлымі разгорнутымі малюнкамі, у іх – глыбокі падтэкст:

З лісцем у садзе спалілі грахі.
Вячэралі сціпла ў святой сям'і...
Як добра ўрэшце знайсці свой дом
за адным сталом са сваім святаром,
які роднай мовы не зрокся – адзін...
спавядаў, адпяваў, вянчаў і хрысціў.

І гэты паэтычны твор Д. Бічэль-Загнетавай не пазбаўлены болю за тых сяброў-аднадумцаў, тых сяброў-суразмоўцаў, сяброў-пілігрымаў, якія заўчасна пакінулі гэты свет, трагічна пайшлі з жыцця. І зноў, ужо ў канцы твора, называе знаёмыя імёны тых, што "пайшлі ў пілігрымку ў таемны засвет..." Паэтка выбудоўвае сказы так, што гучаць яны як лаканічныя радкі тэлеграмы. І столькі болю за кожным гэтым радком, хоць гучаць яны празаічна-спакойна. Ды вырываецца нечакана зварот: "О, прачыстая Дзева, памаліся за нас!" Даволі аб'ёмны твор выяўляе здольнасць паэткі спалучаць у адзінай плыні эпічную апавядальнасць

і рамантычную ўзвышанасць, асобныя факты рэчаіснасці і абагульненасць, філасофскі змест і падтэкст. З нябёсамі звязаны ў паэзіі Д. Бічэль-Загнетавай кс. Казімір Свёнтак ды і сам Пінск. Твор “Ва ўнебаўзнятым Пінску”, які можна акрэсліць і як ліра-эпічную міні-паэму, – пра таго, хто ўжо на нябёсах, хто зведаў 10 гадоў ГУЛАГУ, хто ствараў пасля на Радзіме прыгожы духоўны асяродак, хто тварыў Беларусь духоўную. Прыгадваючы сваё падарожжа ў Пінск, выказваючы захапленне старажытным храмам – (пра гэта і ў эпіграфе “У Пінску не зруйнавана віленскае барока!!!”) паэтка акрэслівае штрыхі да жывое постаці святара, робіць гэта праз яскравыя дэталі, метафарычны кантэкст:

Ксёндз Казімір Свёнтак у палісадніку
падстрыгае ружы для Маці Божай –
у прыпол сутаны з балота
збірае срэбра і пазалоту
зорак, што ў балоце выкошвае.

Трапныя характарыстыкі ахвярнай дзейнасці, скіраванай на адраджэнне веры ў сэрцах людзей, на адраджэнне беларускага касцёла – у кожнай страфе твора. Строфы не роўныя, аднак яны – як часткі тэксту ўдзячнай малітвы за ягоную ахвярную стваральную дзейнасць:

Няволя духу не зруйнавала.
Стаў біскупам і кардыналам...
Самаднавіць паспеў –
людзей, касцёлы, амбоны,
у Будславе, у Гудагаі і ў Гродна
сваімі рукамі ўскладаў кароны
на цудоўныя скроні Мадонны...

Цікава, што метафарычна-сімвалічнае выказванне мяжуе з рэалістычна-фактычным, а таму ствараецца абагульнены і разам з тым жывы воблік іерарха, які вызваляў “ва ўсёй постсавецкай Айчыне заскарузлыя сэрцы з руінаў”, “як пасланец спрадвечнага Рыму, Святым Духам свянціў Радзіму”. Успамін пра былую вандроўку паэткі ў Пінск ёсць своеасаблівым зачынам твора, і ў заключных радках – пра пілігрымку ў Пінск як пра далучэнне да духоўнага набытку, створанага кс. Свёнтакам, да той высокай малітоўнай цішы, якая ёсць у гарманічнай прасторы, асвечанай шчырым малітоўным словам:

...Калі дубы зазелянеюць пабожна,
калі, як балотныя кані,
з малітвай захочацца піць,
асцярожна памарыць можна:
узняцца на прыпяцкай хвалі
на вежу Анёла з крышталю,
пурпуровага, на п’едэстале...
Душой даляцець яшчэ раз
да Сцяны, якая ахоўвае Вас...

### “У любоў сваю загарнуць…”

У новым зборніку, як і ў ранейшых, паэтка згадвае адметныя постаці нацыянальнай культуры, малюе паэтычным словам дарагія вобліці, разважае пра іхні лёс. Часам апякае тая балючая праўда, якая прамаўляецца ў творах, аднак гэтыя рэаліі, факты набываюць новае асэнсаванне, выяўляюць шчыры боль. Верш пра Васіля Быкава, штуршком для якога быў сон, вярэдзіць душу. Яшчэ і яшчэ раз паэтка падкрэслівае ягоны духоўны подзвіг. “Сон” – як роздум пра жыццё

зямное, відочнае, і жыццё ў іншасвеце, таямнічае, невідочнае. Ёсць у кнізе вершы, прысвечаныя светлай памяці творчых людзей, што працавалі на адкрыццё і зберажэнне нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы і якія пайшлі нядаўна ў іншы свет. Паэтка ставарае мастацкім словам воблікі ахвярных творцаў нацыянальнай культуры, выказвае такім чынам удзячнасць за служэнне Беларусі. У гэтых творах, хоць і розныя яны паводле мастацкага вырашэння, гучыць і захапленне творчым подзвігам гэтых асобаў, і скруха ад страты. Гэта і прачулая малітва за іх. Многія творы Дануты Бічэль-Загнетавай успрымаюцца як сненні-медытацыі, як гаворка з Богам і Божай Маці падчас начных чуванняў, калі да свядомасці ідуць-плывуць разнастайныя вобразы з мінулага, краявіды, людзі, прыгоды, калі розум і душа знаходзяцца ў невытлумачальнай працы, хоць, здавалася б, лепей бы адпусцілі трывожныя ці балючыя ўспаміны, такія жывыя і рэальныя. У такія хвіліны ратуе малітва, зварот-гаворка, прамаўленне да Усявышняга, давяранне яму сваіх болесцяў і турботаў. У беларускай духоўнай паэзіі малітвы Д. Бічэль-Загнетавай займаюць адметнае месца. Ужо дваццаць гадоў XXI стагоддзя творыць паэтка свой малітоўны Ружанец, сваю малітву да Уваскрэслага Хрыста, малітву за беларускі народ і Беларусь. Раздзел “За імгненне да абуджэння” ўключае паэтычныя маленні, у якіх – і пакаянне, і ўпакоранасць, і разважанні-развітанні. Лірычна-ўзнёслае выказванне мяжуе з публіцыстычна-заклікавым. Вершы “Неба”, “Тут мяне не было”, “Ноччу, пасля паўночы”, “Жыццё” ўражваюць пранізлівым пачуццём адвітання, філасофскага асэнсавання сэнсу жыцця:

Як слуп, паўстане дарога –
углыб зямлі і да Бога...
Пакіну не так і многа:
душу, зярнятка жыцця...

Арыгінальным паводле мастакоўскага вырашэння, а таксама незвычайнай экспрэсіяй вылучаецца верш “Думка”. Персаніфікацыя як асноўны прыём ў гэтым творы дазваляе паэтцы стварыць той псіхалагічны стан душы і розуму чалавека падчас бяссоннай ночы, калі думкі балючыя не даюць спакою душы, калі трывае душа мукі, перадумваючы, пераасэнсоўваючы тое, што баліць, трывожыць і не дае заснуць. Вершы-медытацыі адкрываюць нам начныя чуванні паэткі, у час, калі надыходзіць той стан душы, калі яна, “у бяссоннае трыванне, на Ружанцы перабіранне слёзкаў адной таямніцы”, збірае ў крузе тых дарагіх ёй людзей, годных людзей Беларусі, якія ўжо – высока, якія ўжо – у нябёсах. Гэта і паэты Адам і Кастусь, гэта і Максім, і Кастусь Каліноўскі, і мама, і тата, і сяброўкі з Біскупцаў, і Ніна Мацяш, і Кастусь Тарасаў, і Янка Брыль, і Юры Туронак, Алесь Зайка, і Зміцер Кісель, і Васіль Бязмен, і Едрусь Мазько... Тут не мае ўлады час, яны – побач, тут яе “містычная Беларусь”:

Памяць бяссонная склікала вас
з невідочных, з невядомых, засветаў,
а назад, у вядомы мне час,
не маю сілы вярнуць...
Толькі у любоў сваю загарнуць.

Адметныя творчым вырашэннем, хоць і падобныя агульным зместам, вызначаюцца два варыянты-вершы “Усмешкі” і “Калі расплюшчвала вейкі”. Столькі любові, замілавання, веры ў Божую апеку над душачкамі яе роду, над тымі, што глядзяць, усміхаюцца з фотаздымкаў, што вяртаюць да прыгожае прасторы. Яднае вершы вобраз буслікаў, што нясуць, падымаюць душы да раю, “да найвышэйшай Божай любові”.

## “Вяночак сплесці з валынак сініх...”

Гаваркім, прыгожым вобразам-сімвалам у многіх вершах паэткі – валынкі. Так на Гродзеншчыне называюць валошкі, васількі. Шчымліва гучаць радкі верша “Валынкі”. І гэта найперш таму, што гучыць у ім шчырая, непасрэдная просьба да Бога, у ім – і малюнак таго апошняга жадання перад адлётам з гэтай прыгожай і дарагой зямлі. Кранальна, вельмі асабіста, а разам з тым і вельмі абагульнена. Хто не сумуе па жыце з васількамі, хто не мае жадання “прайсці па жыце вузенькай мяжой”... Як поўнае зліццё з красой сваёй зямлі і ласкай Божай выглядае жаданне-мроя, апошняя просьба да Усявышняга дазволіць на мяжы расстання:

На вузенькай мяжы,
як шчасцейка душы,
набраць бярэмца Тваёй пяшчоты,
вяночак сплесці з валынак сініх
і ўскласці на сівую галаву...
З’яснела ўпасці ў росную траву...
Валынкі сінія паслаць у сне
да тых, любімых, хто любіў мяне,
і каго выбраў Ты...

У нябеснай прасторы, высока жывуць душы, каго шануе, тых, з кім звёў лёс паэтку на яе жыццёвай дарозе і падарыў шчасце даверлівай суразмовы, супрацы, роднасці душаў. У прасторы Творцы жывуць душы тых, хто быў і застаецца абаронцам Радзімы-Бацькаўшчыны. Раздзел “Цені ад Божай далонькі” ўключае паэтычныя водгукі паэткі на грамадска-культурныя падзеі апошніх гадоў. Пачынаецца раздзел вершам “Пахаванне Кастуся Каліноўскага”. Выказванні паэткі часам рэзкія, катэгарычныя, эмацыйныя. Яны – у кантэксце інфармацыі, звязанай з асобай Кастуся Каліноўскага ў сувязі з ягоным перапахаваннем, што выйшла на старонкі сродкаў інфармацыйнага друку. Паэтычны водгук паэткі ўражвае бязлітасным, бескампрамісным словам тым, хто не бачыць у ягонай асобе нацыянальнага героя Беларусі, змагара за яе волю. Кожная страфа гэтага твора мае свой рытм, які суадносіцца то з крокам-маршам, то з галашэннем, то з просьбай-заклікам. Беларусь асацыятыўна звязваецца з вобразам Марыські. Так выяўляе паэтка і свой боль, і сваю пазіцыю, дае сваю ацэнку:

Пасівелі бровы тваёй Марысі,
якая не паднялася з калень,
моліцца ў Вострай Браме,
над нашай агульнай магілай,
на дамбе...

Надзвычай эмацыйна, экспрэсіўна гучыць верш “Курапаты – дарога смерці” – водгук на падзеі апошніх гадоў, што звязаны з Курапатамі, а менавіта на адкрыццё рэстарана ля Курапатаў. У творы – праз вобразы-сімвалы – выяўляецца змаганне Дабра і Зла, Памяці і Няпамяці, Чорнага і Светлага, Часовага і Вечнага. Крыж як сімвал пакуты, цярпенняў і абароны вырастае да знаку-сімвалу і пакутаў, і болю, і праўды планетарнага маштабу: “Нібы гэта зямная вось прабіваецца з болем на той ілжы праз жывых і забітых наскрозь!” Балючым роздумам пра лёс Беларусі, Маці-Радзімы, пра яе будучыню прасякнуты верш “Самабічаванне”. Б’юць у сэрца метафарычна-сімвалічныя радкі, якімі пачынаецца верш:

Каб абмануць сваё гора,
сэрца Маці-Радзімы вырвалі,
апрануліся ў скуры ворагаў,
пераліліся ў іх і загінулі...

Публіцыстычнае гучанне змяняецца лірычна-паэтычным. Як аксіёмы гучаць вызначэнні-характарыстыкі: “Беларусь – няволі краіна. Каб жыць тут – трэба загінуць. Беларусь – чужых войнаў дарога... Каб жыць – трэба трапіць да Бога”. Пра трывушчасць, жывучасць, пра сілу жыцця і веру ў будучыню свайго народа ў такіх незвычайна пераасэнсаваных вобразах, арыгінальных сімвалах:

Зязюля крыжыкам вышывае
меткі, у якіх гняздзечках хавае
сваіх нявылупленых птушанят...
Яшчэ нас, жывучых, шмат...

Зямное і нябеснае, рэалістычнае і рамантычнае суіснуе ў “Маналогу ўладаркі склепу”. Новае мастацкае асэнсаванне, эстэтычнае напаўненне набывае вобраз “склепу”, гэтай традыцыйнай для беларусаў забудовы. Забудова на два паверхі: “першы паверх – глыбокая яма, другі – страха ў паднябессі”. Вакол гэтага вобразу развіваюцца-асэнсоўваюцца малюнкі, уяўленні не толькі маленства, але і ўсяго жыцця. Парадаксальна гучаць радкі, у якіх – і прыгожая мара пра вольную Беларусь:

...У склепе найлепей...
калі тушацца ў вёсцы агні,
Рыцар збройны на белым кані
з мечам і тарчай
штовечар ад месяца скача...

## “Музыка гор і нябёс...”

Вобразы неба і зямлі асэнсоўваюцца ў творах паэткі часта вельмі нечакана, па-мастацку арыгінальна і ўяўляюць своеасаблівыя метафарфозы, насычаныя глыбокім філасофскім зместам і падтэкстам. Гусі, гускі – вобраз традыцыйны ў беларускай народнай паэзіі – у лічылках, гульнях, прыказках, казках, песнях. Ёсць цікавы ўспамін паэткі з свайго маленства, калі гулялі на мосціку ля рэчкі “ў казку пра сына Васілька і Бабу Ягу і гусачак..., а гусачкі плавалі на возеры непадалёку...” Гускі вяртаюцца – аптымістычнае сцверджанне, лагічны націск на слове “вяртаюцца”... З птахамі звязаны ў старажытных народных уяўленнях душы продкаў, душы тых, хто адляцеў у вечнасць і якія ўсё ж вяртаюцца на дапамогу жывым у іх зямным жыцці. Ёсць невытлумачальная сіла прыцягнення да родных мясцін гэтых жывых істот, у іх прыроднай здольнасці знаходзіць дарогу ў вышынях з Беларусі, ад сваіх балотаў, рэк і азёраў да Афрыкі ды іншых краін і дарогу назад. Гускі-птахі Д. Бічэль-Загнетавай – сімвал яднання жывых з душамі тых, што адляцелі высока, тых, што ў нябёсах. У вершы “Гускі вяртаюцца” – выразная мелодыка, ёсць і акцэнт на музыку, мелодыю, што ствараецца ў наваколлі гэтымі птахамі. Птахі ж у Д. Бічэль-Загнетавай – гэта душы-творцы:

Музыка гор, нябёс у нагрузку
пераносіць музыку-гуску
у вобраз, у транс,
у жыццё без абраз,
старажытны і будучы блытае час...

Ёсць нешта незвычайна кранальнае, трывожна-шчымлівае ў рытмамелодыцы гэтага твора, часам парушаецца ўзяты тон і настрой выказвання, як і мяняецца парадак тых птахаў у выраі, што перабудоўваюцца, пералятаюць, каб падтрымаць слабейшых, ды зноў раўняюцца, як чаргуецца то працяжнасць, то адрывістасць тых развітальных і прывітальных галасоў птушынага выраю. Той, хто раз у жыцці чуў гэтыя пранізлівыя галасы, ніколі ўжо іх не забудзе, яны ўжо назаўсёды западуць

у сэрца, будуць трывожыць душу. У вершы паэткі – столькі напластаванняў сэнсаў, глыбокага падтэксту, шматзначнай сімволікі. Гускі – як сімвал паяднання кантынентаў, народаў, "невідочнага і відочнага сусвету". Дыялог у гэтым творы – як адзін з характэрных прыёмаў для творчасці паэткі – узмацняе дынаміку выказвання, надае экспрэсію. Малюнак ствараецца адрывістымі, выразнымі штрыхамі, рытм неспакойны, усё адно як трывожныя, рэзкія, то запаволеныя ўдары сэрца. Такія шматлікія паўзы пазначаны неаднаразова шматкроп'ямі. Малюнак рэалістычны змяняецца імпрэсіяністычным, дзе столькі эмоцыі, пачуцця, столькі таямнічага, прыхаванага зместу.

Асэнсаванне вечных філасофскіх праблемаў жыцця і смерці, часовага і вечнага, рэальнага і сакральнага выяўляецца ў творах паэткі праз выразныя вобразы-сімвалы, якія, аднак, набываюць новыя адценні, арыгінальнае эстэтычна-мастацкае напаўненне. Няпростыя гэта творы для чытання, ёсць у іх падводнае цячэнне, ёсць у іх схаваны, зашыфраваны сэнс. Гэта тычыцца і вершаў "Анёлы на дрэвах", "Спярша", "Залатая пчала", "Світанак". На выяўленне думкі працуюць і часам даволі нечаканыя малюнкі-высновы: "Страляе на вогнішчы голле... Забівае з-за вугла не салдат..."; "Ткуцца-ткуцца кляновыя кросенцы, нехта шчыры ў акенца просіцца"; "А хмаркі плывуць нацянькі, нібы мосцікі, удоўж ракі". Горкія развражанні і светлыя чаргуюцца ў творах паэткі, як перамяняецца і напаўняецца кожны дзень такімі ж кантраснымі падзеямі. Ратунак душы, засцярога – светлае сумаўленне з тым, з кім пашчасціла сустрэцца на жыццёвай дарозе, каго паслаў ёй Бог у яе зямное нялёгкае падарожжа, гэта сумоўе з той, дарагой ёй душою, за каго пасылае сваё прачулае маленне, "каб змог з нябёсаў спусціцца ціхім слоўцам сініцы..."

Прыгожы, шматзначны вобраз "залатой пчалы" ў аднайменным вершы суадносіцца з асобай паэткі. Верш незвычайна ўзнёслага лірызму і паэтыкі. Шчымліва-кранальная музыка гэтага верша. Як ласкавая калыханка-замова. Многа Золата, Святла, Сонца ў паэтычнай тканіне гэтага твора, у прасторы працаўніцы-пчалы: залаты садок, залатое сонейка, залатая хмарка, залатыя клубочкі... І паралельна – ткаць, кросенцы, сувой. Асацыятыўна гаворыць паэтка пра жыццё: "Залатая пчала ў залатым садку назбірала залатога мядку. І я свае кросенцы ціха датку". Уражвае і рамантычны вобраз залатой хмаркі, што па Нёмане паплыла, "да самага донца дастала, залатыя клубочкі зматала..."

Духоўнай падтрымкай чытачу будуць новыя паэтычныя малітвы Дануты Бічэль-Загнетавай. У сучасным свеце, поўным драматычных, трагічных падзей, многія творы паэткі будуць паратоўным спавядальным словам, мілажальным словам малітвы. Іх нястомна творыць паэтка – і "Малітву за дзяцей", і "Малітву маці", "Малітву ад злога духа"... Яе лірычнае, спагаднае слова дасць сілу знявераным, дасць моц стомленым, падтрымае ў жалобе, асвеціць прыязнай сонечнай усмешкай і спевам Анёлаў, прывядзе да Маці Божай, абароніць міласэрнай любоўю Усявышняга.

Шчымліва, пранізліва-тужліва ўсё ж гучаць вершы з апошняга раздзела, своеасаблівага эпілога – "Пасля ўсяго". Столькі ў гэтых творах пяшчоты, столькі памяншальна-ласкавых слоў у мастацкай тканіне твораў і адначасна элегічна-тужлівага суму, высока-ўзнёслай мелодыі. Гусачка ў небе і гусачка, што даверліва жыве ў прывычнай зямной прасторы. І не пакідае адчуванне, што і ў нябясах адбіваюцца дарагія вобразы: нябесная сінь рачных хваляў, што "*закалыхваюць гусачку*", а побач – вымываюцца, беляцца льняныя сувоі... І побач – у нябеснай таямнічай высі – тыя гускі-творцы з усіх кантынентаў, краін, гусачкі ў недасяжным выраі, калі "*справы боскія са справамі людскімі... злучаюцца гускамі: аддалузкамі, эльбрускамі ды французкамі, індускамі ды тунгускамі, этрускамі... беларускамі...*" Яны складаюць чароўную мелодыю любові, над якою не мае ўлады час, і ёю атуляецца душа кожнага, хто здольны пачуць шматгалосы спеў гэтага планетарнага птушынага выраю. І як гэта кранальна – чуць голас самой паэткі – Дануты Бічэль-Загнетавай, якая хоча загарнуць цябе, чытача, і свой шматпакутны народ, сваю прыгожую Беларусь у сувой Божай любові, у блакітны плашчык высокіх нябёсаў разам з Маці Божай.

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Багданава (Сачанка) Галіна** — празаік, мастацтвазнаўца. Аўтарка кніг прозы «Папяровыя замкі», «Чалавек без адраса», «Дом іхняе мары», «Сакрамэнта». Нарадзілася ў 1961 годзе ў Крычаве на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Баршчэўскі Лявон** – перакладчык, літаратуразнаўца, крытык, грамадскі дзеяч. Перакладае з больш чым дзесяці моваў. Заснавальнік і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Аўтар шматлікіх артыкулаў па методыцы выкладання літаратуры. Лаўрэат прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтра (1997). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Брава Алена** – празаік, журналіст. Аўтарка кніг прозы «Каменданцкі час для ластавак», «Тапіць дзяўчынак тут дазволена», «Змяя, пакрытая пёрамі птушкі сонца», «Імя ценю – святло», «Дараванне». Лаўрэатка літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2004). Нарадзілася ў 1966 годзе ў Барысаве, дзе і жыве.

**Герасімовіч Ірына** – перакладчыца, эсэістка. Актыўна перакладае на беларускую творы нямецкамоўных аўтараў. Была куратаркай шэрагу выстаў, сярод якіх «ЛітÄга. Візуальныя даследаванні паэзіі», «Exit», «Чэнта. (Дэ)фрагментацыя». Нарадзілася ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гілевіч Мікола** – паэт. Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў за лепшую журналісцкую працу ў Рэспубліканскім творчым конкурсе «Залатое пяро» (2012), конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая літара» (2013). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Здановіч Ніна** – археолаг, гісторык. Вывучае матэрыяльную культуру Беларусі XVI–XVIII стст. паводле матэрыялаў археалагічных даследаванняў і пісьмовых крыніц. Нарадзілася ў 1959 годзе ў Слоніме. Жыве ў Мінску.

**Казакевіч Вячаслаў** – празаік, паэт. Аўтар кніг вершаў «Праздник в провинции», «Кто назовет меня братом?», «Лунат», «Ползи, улитка!», «Сердце-корабль», «Из вихря и луны» і інш., кніг прозы «Прославление заката», «Охота на майских жуков», «За мной придет Единорог». Нарадзіўся ў 1951 годзе ў Бялынічах на Магілёўшчыне. Жыве ў Таяме (Японія).

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Калашнікава Ксенія** – празаік. Лаўрэатка конкурсу «БрамаМар». Выпускніца журналісцкага адукацыйнага воркшопа Акадэміі Салідарнасіці ў Гданьску. Нарадзілася ў 1994 годзе ў Гродне.

**Календа Сяргей** – празаік, паэт. Рэдактар часопіса «Макулатура». Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі: гісторыі (не) пра нас», «Іржавы пакой з белымі шпалерамі», «Трохлітровая проза», «Кантынентальны сняданак». Лаўрэат конкурсу імя Ларысы Геніюш (2010). Фіналіст літаратурнай прэміі «Эксклібрыс» (2012, 2013). Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Капылі. Жыве ў Мінску.

**Кандратаў Мікола** — паэт. Аўтар кніг вершаў «Возера Рудакова», «Вершы і зоркі», «Кроплі дажджу». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Каспяровіч Павел** – паэт, празаік. Клірык гарадзенскага Свята-Пакроўскага сабора. Творы друкаваліся ў газетах «Літаратура і мас-

тацтва», «Літаратурная Беларусь», альманаху «Новы замак», часопісе «Дзеяслоў». Аўтар зборніка паэзіі «На земле, где погиб каждый пятый». Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Сміла (Чаркашчына, Украіна). Жыве ў Гародні.

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў «ЛіМе», «Нашай ніве» і іншых выданнях. Аўтарка кніг «Матылі», «Гняздо-2». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Лойка (Галубовіч) Вера** – празаік. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум. Працавала на «Беларусьфільме», Беларускім радыё. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіку «ЛіМ», часопісах «Наша вера» і «Дзеяслоў». Аўтарка кнігі прозы «Апошні першы снег». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Батурынка на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Лукашук Аляксандар** – празаік, публіцыст, эсэіст. З 1999 года – дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода. Аўтар кніг «Здзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «След матылька. Освальд у Менску», «Зкімбы-зымбы» і інш. Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча (2018). Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Лявонава Ева** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка больш за 500 навуковых публікацый, у тым ліку кніг «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стст.», «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт», «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры», «Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце» і інш. Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Ноўкі на Крычаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Макоўская Анастасія** – літаратуразнаўца. Сёлетняя выпускніца Ліцэя БДУ. Нарадзілася ў 2002 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Міхно Вера** – паэтка. Аўтарка кніг «Крык спуджанай птушкі», «Свет сутны мой». Працуе ўрачом. Нарадзілася ў 1955 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Жыве ў Бараўлянах на Міншчыне.

**Новік Марыя** – мовазнаўца. Кандыдатка філалагічных навук. Аўтарка публікацый пра паэтыку мастацкіх твораў беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1957 годзе ў вёсцы Судзілавічы на Бярозаўшчыне. Жыве ў Берасці.

**Ракуза Ільма** – швейцарская пісьменніца, перакладчыца, крытык. Лаўрэатка шматлікіх літаратурных прэміяў, сярод якіх прэмія Петраркі (1991), прэмія імя Адэльберта фон Шамісо (2003), Швейцарская кніжная прэмія (2009), Берлінская літаратурная прэмія (2017) і інш. Нарадзілася ў 1946 годзе ў Рымаўска-Собота (Славаччына). Жыве ў Цюрыху.

**Саннікава Наталля** – расійская паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Интермеццо» і «Все, кого ты любишь, попадают в беду. Песни среднего возраста». Лаўрэатка прэміі часопіса «Урал» (2015) за серыю інтэрв'ю з паэтамі. Нарадзілася ў 1969 годзе ў Новаўральску. Жыве ў Чалябінску.

**Фёдар Свароўскі** – расійскі паэт. Аўтар кніг «Все хотят быть роботами, «Все сразу», «Путешественники во времени», «Слава героям» і інш. Лаўрэат малой прэміі «Московский счет» за кнігу-дэбют. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Маскве. Жыве ў Чарнагорыі.

**Сіўко Франц** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «З чым прыйдзеш...», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Асіметрыя», «Дзень бубна», «Выспы», «Эдэм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сэн-Сэнькоў Андрэй** – расійскі паэт. Аўтар больш як 20 кніг вершаў, малой прозы і візуальнай паэзіі, больш як 10 кніг вершаваных перакладаў. Лаўрэат прэміі Андрэя Белага (2018), Спецыяльны прыз прэміі «Московский счет» (2019). Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Таджыкістане. Жыве ў Маскве.

**Тумаш Генадзь (Тумас Яўген)** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кнігі вершаў «Лінкос», нарыса «Родны бераг песняра: Да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа», кнігі для дзяцей «Лісіца з Расохі». Перакладае з польскай, ангельскай, украінскай моваў. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Кукшавічы на Койданаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі», «Мой лістапад», «Грэх» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё», «Школа травы» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2020). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Эспіноса Руіс Анхела** – паэтка, даследчыца-славістка. Аўтарка кніг вершаў «Раяль ля мора», «Pomme de ciel», «Колер крылаў». Фіналістка паэтычнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна (2015), лаўрэатка прэміі імя Міхася Стральцова (2019). Нарадзілася ў 1993 годзе ў Малазе (Іспанія).

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Уладзіміра Сіўчыкава, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.